*БЕЛАРУСКАЕ ГІСТАРЫЧНАЕ ТАВАРЫСТВА*

# ГІСТАРЫЧНЫ АЛЬМАНАХ. Том 17. 2011
## Навуковы гістарычны і краязнаўчы часопіс

## У ТОМЕ

## АРТЫКУЛЫ



### Дыскусія



### Рэцэнзія



**Анатацыі**

# Артыкулы

*Кандрычын Сяргей (Менск)*



## Замовы і хрысціянская традыцыя: хрысціянскі кампанент у сувязі з прагматычнай значнасцю замовы (спроба інтэгральнага даследавання)*

Замовы, іх тэксты і рытуалы жывуць і змяняюцца разам з грамадствам, з яго моваю, вераю і спадзяваннямі. Працэс складання і развіцця замоваў адлюстроўвае эвалюцыю духоўнага сусвету чалавека, яго гістарычнай існасці. Замовы славянскіх народаў фармаваліся ў працэсе накладання хрысціянскай культурнай традыцыі на больш ранні пласт архаічнай культуры.

У выніку ўзаемапранікнення розных традыцый (культурных пластоў) у практыцы замаўлення з'явілася вялікая колькасць разнародных сакральных тэкстаў. На думку Тапаркова ўсю "*сукупнасць замоўна-магічных тэкстаў можна сабе ўявіць як нейкі кантынуум. На адным з яго полюсаў знаходзяцца кананічныя і некананічныя малітвы, а на другім – фальклорна-язычніцкія і заклінальныя формулы. Тэксты, якія размешчаны на полюсах гэтага кантынуума, кардынальна адрозніваюцца адзін ад другога па сваёй структуры, лексіцы, рэлігійных і маральных устаноўках і г.д. Тым не менш прастора між полюсамі мае кантынуальны характар і ўяўляе сабою серыю паслядоўных пераходаў паміж кананічнымі малітвамі з аднаго боку, і фальклорна-магічнымі тэкстамі, суаднесенымі з уяўленнямі аб духах прыроды і спосабах узаемадзення з імі – з другога*"[1].

Ключавым з'яўляецца пытанне аб суаднясенні хрысціянскага і дахрысціянскага элементаў у тэксце замовы, а таксама вызначэнне тых функцыянальна значных канструкцыяў, якія былі пабудаваныя ў выніку ўзаемадзеяння розных гістарычных пластоў. На сённяшні дзень застаецца актуальнай дыскусія аб значнасці "архаічнага" і "хрысціянскага" у структуры сучасных замоваў, роўна як і дыскусія аб перыядзе фарміравання асноўнага корпусу заклінальных тэкстаў.

З аднаго боку добра вядомая думка аб тым, што "замовы – гэта абломкі язычніцкіх малітваў", якія ўвабралі ў сябе элементы хрысціянства, мадыфікаваліся пад яго ўплывам, але пры гэтым захавалі свае

* Аўтар удзячны за дапамогу ў працы над тэкстам Васілю Бязмену.

[1] Топорков А.Л. Заговоры в русской рукописной традиции XV-XIX вв. История, символика, поэтика. Москва, 2005. С. 9.

першапачатковыя, найбольш істотныя па свёй прагматычнай значнасці, дахрысціянскія элементы (Афанасьеў, Буслаеў).

Другая, супрацьлеглая пазіцыя, дапускае, што хрысціянства ў яго народным увасабленні, само стала дзейснай сілаю ў стварэнні заклінальных тэкстаў, і большасць сучасных замоваў паўстала ў часы хрысціянізацыі і развіцця дваяверства, або ў перыяд “другой міфалагічнай хвалі” (Весялоўскі, Мансікка).

Выглядае абгрунтаванай і думка пра тое, што ў развіцці заклінальных практыкаў пакінулі свой след абодва працэсы, і ў кожным канкрэтным выпадку мы павінны казаць аб іх суаднясенні. Гістарычны агляд гэтай праблемы прадстаўлены ў шэрагу крыніцаў[2].

Добра вядома, што для розных элементаў у структуры заклінальнага тэксту характэрна адметная ступень устойлівасці: некаторыя з архаічных элементаў застаюцца практычна нязменнымі, іншыя ж даволі хутка эвалюцыянуюць[3]. Таму прыхільнікі першай пазіцыі надзяляюць галоўнымі функцыямі ў замоўных тэкстах менавіта іх “архаічны пачатак”, а хрысціянскім элементам адводзіцца пераважна другарадная, або “арнаментальная” функцыя. Калі ж прыняць да ўвагі, што хрысціянскі кампанент можа значна мадыфікавацца і нават цалкам выпадаць з тэкстаў некаторых замоваў, то складаецца ўражанне, што хрысціянская складовая ў тэксце замовы не мае прагматычнага значэння[4].

Істотнай процівагай гэтай думцы з’яўляецца жыццёвая пазіцыя самых выканаўцаў тэкстаў замоваў. Знахары і шаптухі, у большасці сваёй, веруючыя людзі, якія не ўяўляюць уздзеяння замовы без веры, без звароту да Пана Бога, а самую замову лічаць малітвай – “Я малюся за Вас”![5]. Такім чынам, праблема даследавання хрысціянскага ўплыву ў замаўляльнай практыцы пераўтвараецца ў праблему адрознення светапоглядных паставаў даследчыкаў замоваў і самых выканаўцаў замоваў.

Відавочныя зыходныя абмежаванні магчымасцяў вывучэння замаўляльнай традыцыі толькі па тэкстах, у адрыве ад магіка-рытуальнага

[2] Познанский Н. Ф. Заговоры: Опыт исследования происхождения и развития заговорных формул. Петроград, 1917. С. 2-56; Харитонова В.И. Заговорно-заклинательное искусство восточных славян: проблемы традиционных интерпретаций и возможности современных исследований. (Этнологические исследования по шаманству и иным традиционным верованиям и практикам. Т. 3, в 2-х частях). Часть.2. Москва, 1999. С. 218-245; Топорков А.Л. К столетию выхода в свет книги В. Мансикки «Überrussische Zauberformeln mit Berücksichtigung der Blut- und Verrenkungssegen» // Антропологический форум. 2009. №10. С. 279-296.

[3] Гл.: Шиндин С.Г. О возможном присутствии рефлексов архаического ритуала в русских заговорах // Славяноведение. 1993. № 3. С.60-68; Топорков А.Л. Заговоры в русской… С. 357.

[4] Ильина Т.С. Между молитвой и заговором: в пространстве вербальной магии // Традиционная культура. 2009. № 1. С. 28.

[5] Гл.: Харитонова В.И. Заговорно-заклинательное искусство…С.574; Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1. Народная медыцына беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 1 / Уклад. А.У. Лобач, У.С. Філіпенка. Наваполацк, 2006; Ермакова Е.Е. Номинации лечебных и магических текстов в народной медицине Тюменской области // Живая старина. 2007. № 3. С. 31-34.

дзеяння, без разумення духоўнага сусвету знахара[6]. На сённяшні дзень можна казаць толькі аб спробах інтэгральных даследаванняў замаўляльнай практыкі, прычым тыя спробы часцей уяўляюць адзін са спосабаў узаемадзення сумежных дысцыплінаў, што не дае нейкіх значных метадалагічных перавагаў. Напрыклад, тандэм этна-лінгвістычных і фальклорна-этнаграфічных даследванняў, атрымаў бы большыя магчымасці ў выпадку далучэння да іх соцыя-гістарычнай і медыка-біялагічнай базы. Аднак, не гледзячы на відавочныя перашкоды ў рэалізацыі падобных праектаў, пошук у гэтым накірунку застаецца найбольш перспектыўным.

У дадзеным даследаванні абмяркоўваецца значнасць уплыву хрысціянскай культурнай традыцыі на розныя па сваёй прагматычнай значнасці (функцыянальнаму зместу) групы замоваў. Зыходная пазіцыя даследчыка асноўвалася на меркаванні аб тым, што ў розных па сваёй прагматычнай значнасці групах замоваў ступень уплыву хрысціянскай традыцыі будзе розніцца.

На сённяшні дзень назапашаны вялікі вопыт даследавання беларускіх замоваў, іх лінгвістычнай і семантычнай структуры. Беларускія замовы адрозніваюцца выразным уплывам хрысціянскай традыцыі. Асабліва гэта бачна пры іх параўнанні з замоўнымі тэкстамі балцкіх народаў. Так, частотны аналіз паказаў, што такія словы як Бог, Багародзіца, Дух і іншыя хрысціянскія канцэпты ўжываюцца значна часцей у тэкстах беларускіх замоваў, чым у літоўскіх[7]. Разам з тым, менавіта на прыкладзе тэкстаў беларускіх замоваў можна назіраць гістарычны пераход ад заклінання да малітвы[8].

Эдуард Дубянецкі правёў кантэнт-аналіз замоваў, запісаных на тэрыторыі Менскай вобласці ў канцы 19 ст. (23 замовы), а таксама ў 70 - 80-я г. 20 ст. (28 замоваў)[9]. Адной з мэтаў яго даследавання было высвятленне: у якой меры язычніцкія і хрысціянскія вераванні знаходзілі адлюстраванне ў тэкстах замоваў у розныя гістарычныя часы. Замовы былі падзеленыя на тры групы: “хрысціянскія”, “язычніцкія” і “сінкрэтычныя”, апошнія ўяўлялі сабою своеасаблівы сінтэз язычніцтва і хрысціянства. Размеркаванне па групах праводзілася ў адпаведнасці з тым, “да каго звяртаўся чалавек па дапамогу. У выпадку, калі ён апеляваў да язычніцкіх багоў, прыродных сіл ці разнастайных істотаў прыроднай міфалогіі, замова адносілася ў язычніцкую групу; калі ж да Багародзіцы, Госпада Бога, Ісуса Хрыста, святых анёлаў – у хрысціянскую; а калі

[6] Харитонова В.И. Заговорно-заклинательное искусство… С. 293.

[7] Завьялова М.В. Балто-славянский заговорный текст: лингвистический анализ и модель мира. Москва, 2006. С. 193

[8] Завьялова М.В. Балто-славянский заговорный текст…С. 192.

[9] Дубянецкі Э. Ментальнасць грамадзян Беларусі ў сучасны перыяд // Кантакты і дыялогі: інфармацыйна-аналітычны бюлэтэнь. 1996. № 7-8. С. 6-7.

адначасова да адных і да другіх – то ў сінкрэтычную". У выніку аналізу было выяўлена, што сярод усіх замоваў 19 ст. больш за палову (13 з 23, альбо 56,5%) складалі язычніцкія, адпаведна 6 (26,1%) – сінкрэтычныя, і толькі 4 (17,4 %) – хрысціянскія. Сярод замоваў другой паловы 20 ст. пераважаюць тэксты з выразнай хрысціянскай афарбоўкай (20 з 28, альбо 71,4%), тады як язычніцкіх налічваецца 6 (21,8%), а сінкрэтычных – 2 (7,2%)[10]. Відавочна, што невялікая колькасць прааналізаваных у гэтым выпадку замоваў не дазваляе разважаць аб ступені выяўлення архаічных і хрысціянскіх рысаў у розныя гістарычныя перыяды.

Адразу адзначым, што прапанаваны Дубянецккім спосаб групавання замоваў зразумелы па сваёй "ідэалогіі" і класіфікацыйнай функцыі, але ў ім ігнаруецца істотны момант у эвалюцыі замоваў: уключэнне ў тэкст замовы хрысціянскіх персанажаў ці нават Біблейскіх сюжэтаў не дазваляе аўтаматычна лічыць гэтую замову "хрысціянскай". Хрысціянскія элементы часта ўключаюцца ў язычніцкую канву замовы, пры гэтым захоўваецца яе структурная кампазіцыя і "ідэалагічная" накіраванасць (часам тэкст такой замовы пярэчыць ідэйным і маральным асновам Хрысціянства). Даследчыкам добра вядомая сітуацыя, калі "*у тыя самыя тэксты (замоваў) падстаўляюцца то імёны Бога або хрысціянскіх святых, то лясуна, то хатніка*"[11].

Тут жа варта прыгадаць словы Афанасьева аб тым, што "*у эпоху хрысціянскую … старадаўнія заклікі да стыхійных бажкоў паднаўляюцца падстаноўкаю імёнаў Збавіцеля, Багародзіцы, апосталаў і розных угоднікаў; у народныя замовы пранікае дамешка перакананняў, якія належаць ужо да новага веравучэння, і зліваецца разам з язычніцкімі ўяўленнемі аб магутных сілах прыроды: Хрыстос – «праведнае сонейка» атаясамліваецца з баствам дзённага свету, Прачыстая панна – з чырвонай Заранкай, Ілля-прарок, Мікола-угоднік і Георгій Пераможца заступаюць месца Пяруна*"[12].

На думку Арнаутавай тут гаворка ідзе аб працэсе, які ўяўляе сабою "*комплекс складаных, асімілюючых адна адну, абрадавых формаў са слядамі доўгага пераасэнсавання і трансфармацыі, сінтэзу паганскіх і хрысціянскіх элементаў. Аднак гэтыя, здавалася б такія істотныя, інавацыі закранаюць толькі вонкавыя праявы (замоваў), захоўваючы пры гэтым іх структурную цэласнасць і глыбінную семантыку. Змены "плана выказвання" і замена адных рытуальных прадметаў на іншыя на прынцып дзеяння рытуалу, як вядома, не ўплываюць*"[13]. Тым не менш,

[10] Тамсама. С. 6-7.

[11] Ильина Т.С. Между молитвой и заговором… С.28.

[12] Афанасьев А.Н. Поэтические воззрения славян на природу: В 3 т. Т.1 Москва, 1994. С. 419.

[13] Арнаутова Ю.Е. Колдуны и святые. Антропология болезни в средние века. Санкт-Петербург, 2004. С. 234.

у кантэксце нашага даследвання найбольш істотным застаецца той факт, што само ўвядзенне хрысціянскіх персанажаў у тэкст замовы не дазваляе ім заставацца функцыянальна нейтральнымі, а патрабуе надання ім нейкай канкрэтнай задачы, а гэта, у сваю чаргу, азначае неабходнасць правядзення адпаведнай рэімпрытацыі ўсіх значных пунктаў замаўляльнага тэксту[14].

Паняцце "хрысціянскай" замовы і метадалагічны падзел паміж "хрысціянскай" і "язычніцкай" замовай спрэчныя з фармальна навуковага пункту гледжання. Таму больш карэтным выглядае выкарыстанне такога метадалагічнага падыходу, які не дзяліў бы замовы на "хрысціянскія" і "язычніцкія", а вызначаў наяўнасць хрысціянскага ўплыву ў тэксце замовы, такі падыход больш агульны і больш  фармалізаваны ў навуковым сэнсе (абмяркоўваецца ніжэй).

Сёння існуе магчымасць прадоўжыць даследаванне тэкстаў беларускіх замоваў у значна большым аб'ёме. Мэтаю цяперашняга даследавання з'яўляецца вызначэнне ўплыву хрысціянскай культурнай традыцыі на практыку замаўлення ў функцыянальна розных групах замоваў і ў розныя гістарычныя перыяды.

Структура працы вызначана накірункам пошуку аўтара і ў ёй адлюстраваны паслядоўныя этапы гэтага пошуку. Вызначым тры ступені гэтага пошуку, прычым пераход да наступнай ступені ажыццяўляўся толькі па завяршэнні працы на папярэдняй ступені або не быў прагназаваны.

Першапачаткова аўтар збіраўся правесці аналіз замоваў сабраных толькі ў апошняй працы беларускіх этнографаў. У 2009 г. выйшаў у свет зборнік замоваў (укладальнікі У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей), які змяшчае тэксты 2567 замоваў, сабраных за паўтара дзясятка гадоў у канцы 20 і пачатку 21 ст.[15] У параўнанні з папярэднімі выданнямі беларускіх замоваў (напр., Замовы, 1992)[16] дадзены зборнік уключае значна большую колькасць замоўных тэкстаў, прадстаўляе частковае апісанне рытуальнага дзеяння, а замовы ў ім падзеленыя па асобных групах адпаведна  функцыянальнай ролі. На першым этапе быў праведзены кантэнт-аналіз гэтага корпусу тэкстаў на прадмет прысутнасці хрысціянскага кампанента ў самім тэксце замовы або прадстаўленым суправаджальным рытуале. Аднак атрыманыя вынікі прымусілі працягнуць працу і перайсці да другога этапу.

На другім этапе была праведзена параўнанне характару размеркавання паказчыка хрысціянізацыі зборніка замоваў 2009 г. са зборнікам 1992 г., які з'яўляецца найбольш поўным кампендыумам беларускіх замоваў сабраных у папярэдні гістарычны перыяд і ўключае большасць

[14] Завьялова М.В. Балто-славянский заговорный текст…С. 190.

[15] Замовы / уклад. У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей. Мн., 2009.

[16] Замовы / уклад, сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г.А. Барташэвіч. Мн., 1992.

замоваў, вядомых этнографам у 19 і 20 ст. Адпаведна, працэдура параўнання двух зборнікаў патрабавала правядзення адпаведнага кантэнт-аналізу зборніка замоўных тэкстаў, надрукаваных у 1992 г. (1351 тэкст).

І на трэцім этапе высветлілася неабходнасць гістарычнай дыферэнцыяцыі тэкстаў замоваў, бо зборнік 1992 г уключаў у сябе замовы, занатаваныя ў розныя гістарычныя часы: другой паловы 19 ст. (Раманаў, Шэйн, Дабравольскі, Багдановіч, Федароўскі і інш.), першай паловы 20 ст. (Машынскі, Буры, Шлюбскі і інш.) і другой паловы 20 ст (Барташэвіч, Талстой, Салавей, і інш.). Кампазіцыйныя асаблівасці зборніка замоваў 1992 г. выключалі з аналізу аднатыпныя варыянты замоваў сабраныя з розных крыніцаў. У ім быў прадстаўлены тэкст толькі аднаго з варыянтаў, а аб існаванні іншых дадзены спасылкі. У выніку значная колькасць арыгінальных тэкстаў заставалася недаступнымі для аналізу, таму аўтар быў вымушаны непасрэдна звярнуцца да корпусу тэкстаў 19 ст. [Романов, 1891], [Шейн, 1893] (адпаведна, 855 і 71 тэкстаў замоваў)[17]. У выніку на прадмет прысутнасці хрысціянскага кампаненту у чатырох названых зборніках было прааналізавана 4844 замовы (частка замоваў надрукаваных Раманавым і Шэйнам у 19 ст. таксама ўваходзіла і ў зборнік 1992 г., або былі прааналізаваны двойчы). Такім чынам аўтар атрымаў магчымасць параўнаць ступень “хрысціянізацыі” беларускіх замоваў запісаных этнографамі ў розныя гістарычныя часы і вызначыць агульную тэндэнцыю да зменлівасці гэтага паказчыка з канца 19 да пачатку 21 ст.

### Першы этап даследавання: кантэнт-аналіз корпусу тэкстаў 2567 замоваў і вызначэння ўплыву хрысціянскай традыцыі

Быў праведзены кантэнт-аналіз корпусу тэкстаў 2567 замоваў (укладальнікі У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей)[18] на прадмет прысутнасці хрысціянскага кампанента ў самім тэксце замовы або прадстаўленым у суправаджальным рытуале. Сам хрысціянскі кампанент замовы па сваім змесце не дыферэнцыраваўся, а вызначалася толькі ягоная прысутнасць у тэксце (адзінка аналізу). Згодна з гэтым падыходам, у групу замоваў з хрысціянскім кампанентам увайшлі не толькі тэксты з хрысціянскім сюжэтам, ці з хрысціянскімі персанажамі і элементамі хрысціянскага культу, але і ўсе замовы са словам Бог (Гасподзь, Божы, Божыя...), Багародзіцы, імёнамі святых, замовы са спасылкамі на хрысціянскія святы, на атрыбуты хрысціянскага культу, біблейскія сюжэты і геаграфічныя назвы і нават антыхрысціянскія па свайму зместу тэксты. У выніку склалася вельмі неаднародная група, у якую разам увайшлі некананіч-

[17] Романов Е.Р. Белорусский сборник. Вып. 5. Витебск, 1891; Шейн П. В., Материалы для изучения быта и языка русского населения Сев.- зап. края, т. II, Санкт-Петербург, 1893.

[18] Замовы / уклад. У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей. Мн., 2009.

ныя малітвы з просьбамі да Пана Бога *(...Просім Госпада Ісуса Хрыста, Матку Насвеншую дапамогі...)*[19] і замовы са зваротам да сілаў прыроды са словам Божыя *(...Зорачкі-зарніцы, Божыя памашніцы – вячэрнія, раннія, прыступіце, памажыце...)*[20].

Аўтар не праводзіў аналіз структуры замовы і не вызначаў сэнс яе зместу, а карыстаўся фармальнымі нормамі семантычнага кантэнт-аналізу каб пазбегнуць самавольнага інтэрпрэтавання тэксту і суб’ектыўнай ацэнкі ў складанні розных групаў. Прыгадаем, што адзінкай уліку кантэнт-аналізу можа з’яўляцца фрагмент тэксту, які толькі згадвае катэгорыю ці нейкую характарыстыку яе зместу, у незалежнасці ад паўнаты і дакладнасці гэтай характарыстыкі[21]. Адпаведна, у рамках даследавання, намі вызначаўся сам факт хрысціянскага ўплыву на практыку замаўлення (катэгорыя аналізу) без яго далейшай дыферэнцыяцыі.

Дадзеныя аналізу сведчаць аб высокім узроўні хрысціянскага ўплыву (ці высокім узроўні хрысціянізацыі) беларускіх замоваў (72,8%). (Па сутнасці, паўтараюцца вынікі даследавання Дубянецкага, у якім % “хрысціянскіх” замоваў быў роўны 71,4). Разам з тым, узровень хрысціянізацыі замоваў па асобных тэматычных групах істотна розніцца (Табліца 1). Калі ў ахоўных, засцерагальных замовах (III група) ён складае 79%, то ў I групе (падбор шлюбных пар) ён роўны 51%, а ў групе замоваў для паспяховага вядзення гаспадаркі (VI група) ён роўны 56%.

Адносна нізкі ўзровень хрысціянізацыі замоваў VI, і асабліва I група выглядае заканамерным, бо менавіта яны складаюцца з замоваў (любоўныя замовы, прысушкі), якія ўваходзяць у канфлікт з вучэннем хрысціянства аб свабодзе волі.

У табліцы 2 прадстаўленыя вынікі ранжыравання лячэбных замоваў па ўзроўню хрысціянізацыі (разглядаліся толькі тыя хваробы, ад якіх у зборнік было ўключана больш за 30 замоваў). У гэтай асобнай групе замоваў таксама выяўленыя значныя адрозненні даследуемага паказчыка: ад 89% узроўня хрысціянізацыі ў групах замоваў ад скулы і ад рожы, да 48% у групе ад грыжы і 38% у групе замоваў ад лішая.

Пасля таго як мы атрымалі першапачатковыя вынікі даследавання – вернемся да абмеркавання яго метадалагічнай часткі, або да вызначэння адзінак даследавання. Падрабязнае абмеркаванне сутнасці метаду, як перад аналізам так і пасля атрымання некаторых вынікаў, нельга лічыць парушэннем структуры працы, бо менавіта спосаб вызначэння адзінак даследавання корпусу разнародных тэкстаў з’яўляецца найбольш істотным і самым спрэчным момантам аналізу (стрыжнем працы). Адкрытым застаецца пытанне: у якой ступені выкарыстанне іншага спосабу выбару адзінак уліку магло паўплываць на заключныя вынікі даследавання?

[19] Тамсама. №1692.

[20] Тамсама. №1700.

[21] Добреньков В.И., Кравченко А.И. Методология и методика контент-анализа [в:] Методы социологического исследования. Учебник. Москва, 2008. С.573.

Прыгадаем, што ступень хрысціянізацыі замоваў намі вызначалася па любых праявах уплыву хрысціянскай традыцыі, некаторыя з іх мелі відавочны “арнаментальны” характар і, здавалася, не неслі функцыянальнай нагрузкі ў працэсе замаўлення. Як адзначалася вышэй, гэтыя “арнаментальныя” моманты хрысціянскага паходжання, нярэдка адсутнічалі ў іншых варыянтах гэтых жа замоваў, атрыманых з іншых крыніцаў (хрысціянскія тэрміны могуць быць прапушчаныя або замененыя іншым словам). Вяртаючыся да прыкладу “*зорачкі-зарніцы, Божыя (Гасподні) памашніцы...”* адзначым, што зварот са словам “*Божыя*” часцей замяняецца зваротамі – “*зоркі-зарнічкі, родныя сястрычкі”*[22], або *“зоркі-зарніцы, ранішнія, дзянішнія памашнікі...”*[23].

Адпаведна з вышэй вызначанай методыкай, наяўнасць слова “*Божыя*” у тэксце замовы з’яўляецца крытэрам аднясення замовы да адной групы, а яго адсутнасць - да іншай. Тут ігнаруецца сам кантэкст і змест замовы, таму фармалізаваны падыход у ацэнцы ўплыву хрысціянства можа выглядаць спрэчным. Тым не менш, ён мае выразную рацыю і з’яўляецца найбольш аб’ектыўным спосабам аперацыяналізацыі матэрыялу, бо прысутнасць выразнага хрысціянскага матыву ў тэксце замовы не можа выключаць яе першапачатковага, дахрысціянскага зместу. Іншымі словамі, спробы пранікнуць у сэнс замовы непазбежна нясуць з сабою магчымасць памылкі суб’ектыўнага інтэрпрэтавання.

Аднак адкрытым застаецца пытанне аб значнасці ўплыву “арнаментальных” хрысціянскіх момантаў у розных групах замоваў. Ці зменіцца вышэй вызначаны рангавы парадак па ўзроўню хрысціянізацыі розных групаў, калі мець на ўвазе некаторыя фармальныя моманты ўздзеяння хрысціянскай традыцыі? У якасці прыкладу такога фармальнага ўплыву можа разглядацца з’ява ізаляванага “заамінавання”, або выкарыстання “Амінь” у закрэпцы замовы, пры ўмове, калі ў замаўленні не вызначаныя іншыя хрысціянскія элементы.

Напрыклад,

*Калі развалілася паляніца дроў*

*Гэта вельмі дрэнная прыкмета. Калі гэта здарылася, трэба сказать так:*

*Вуглы вугламі,*
*Калы каламі,*
*Палення дравамі,*
*А дамавы з намі. Амінь*[24].

Або замова:

[22] Замовы / уклад. У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей… №179.

[23] Тамсама. № 2469.

[24] Тамсама. № 344.

*Ад дзяцінай грыжы*
*Грызь-грызянка,*
*Чорная казяўка.*
*Я грызь – гам,*
*Пуп грызці не дам. Амінь*[25]*.*

Трэба ўлічваць той факт, што некаторыя замовы з хрысціянскім кампанентам у сваёй структуры могуць пярэчыць самому духу, ідэі і маральным нормам хрысціянства.

Напрыклад, *Пры абліванні святой вадой*

*Куды вада, туды мая бяда, хваробы ўсе. А хто мне гэта зрабіў, каб сам ён веку не дажыў. Ад каго мне так стала, хай на ім скура трашчала. Зрабіў мне, а забяры сабе. Амінь*[26].

Выпадкі “заамінавання” без выкарыстання іншых хрысціянскіх элементаў прысутныя ў кожнай групе замоваў (у адрозненне, зварот “*зорачкі-зарніцы, Божыя памашніцы...*” сустракаецца радзей).

У табліцы 3 прадстаўлены вынікі размеркавання частотаў хрысціянскага ўплыву ў замовах, пры гэтым замовы, у канцоўцы якіх (закрэпка) было слова “Амінь” і адсутнічаў любы іншы хрысціянскі кампанент (у тэксце ці ў самой працэдуры замаўлення), былі аднесены да групы замоваў без хрысціянскага ўплыву.

Відавочна, у гэтым выпадку агульны ўзровень хрысціянізацыі замоваў будзе ніжэйшы. Некаторыя змяненні адбыліся і ў рангавым парадку групаў замоваў: так І і VI групы занялі самую нізкую пазіцыю. Аднак змяненні рангавых пазіцыяў пераважна тычыліся толькі суседніх па свайму рангаваму нумару групаў, у той жа час адрозненні паміж палярнымі групамі захоўваліся амаль нязменнымі: так, паміж І і ІІІ групамі, у першым выпадку розніца складала 28%, а ў другім 33%.

Тэарэтычна ёсць магчымасць паглыбіць аналіз і зрабіць яго больш дэталёвым, шляхам выкарыстання большай колькасці адзінак даследавання тэкстаў замоваў. Напрыклад, супаставіць выкарыстанне слоў “раб Божы” і “чалавек”, або разглядаць іх як раўназначныя. Аднак падобная дэталізацыя, верагодна, толькі знізіць агульны ўзровень хрысціянізацыі тэкстаў замоваў і істотна не паўплывае на размеркаванне гэтага паказчыка паміж групамі. Таму, каб пазбегнуць працаёмкай працэдуры дэталёвага аналізу, варта сфармуляваць дапушчэнне аб тым, што пры любой методыцы ацэнкі ўзроўню хрысціянізацыі замоваў (уключаючы методыку Дубянецкага) адрозненні паміж вызначанымі палярнымі групамі будуць захоўвацца.

[25] Тамсама. № 2007.

[26] Тамсама. № 385.

## Спробы прагматычнай ацэнкі замоваў.

Вяртаючыся да абмеркавання асноўных вынікаў аналізу (Табліцы 1 і 2), варта падкрэсліць, што самы высокі ўзровень хрысціянізацыі маюць замовы ад рожы (89%) і ад пярэпалахаў (83%), або тых функцыянальных станаў і хваробаў, пры якіх знахарская дапамога лічыцца найбольш эфектыўнай.

Звестак аб эфектыўнасці лячэння ў знахараў "ад скулы" аўтар не мае. Хутчэй за ўсё, тут маецца на ўвазе – чыры, або варыянт піядэрміі, лячэнне якога, часцей, патрабуе належнай гігіены скуры і апрацоўкі раны. Аднак разуменне самых праяваў хваробы знахарам і ўрачом нярэдка розніцца, а для знахара растлумачыць, што ён мае на увазе пад хваробаю "скула", карыстаючыся медычнай тэрміналогіяй, не заўсёды проста[27]. І рожа, і скула – захворванні, выкліканыя інфекцыйным паражэннем скуры. Можа таму, замовы ад рожы і ад скулы блізкія па сваёй прагматычнай накіраванасці, і знахары не заўсёды падзяляюць іх паміж сабою[28]. Складальнікі зборніку адзначаюць, што "*рожа і скула, як сёстры, падобныя, да іх стаўленне, мяркуючы па зваротах, аднольковае*[29]". Частка замоваў так і акрэслена як замовы "ад скулы-рожы", або замовы "ад скулы і ад рожы" (складальнікамі зборніку яны залічаны ў групу замоваў ад скулы):

Напрыклад, *Ад скулы-рожы*
*Госпадзі Божа, Прычыста Маці,*
*Прыступі-памагі скулу-рожу выгавараці.*[30].

Лячэнне пярэпалаху і рожы адносіцца да рытуальных, "профільных" выпадкаў у знахарскай практыцы: "*згодна народнаму перакананню знахарства паспяхова спраўляецца з рожай, складаючы паспяховую альтэрнатыву навукова медыцынскай тэрапіі: «Яе доктар ня вылечыць. Толькі загаворваць*[31]»".

На сённяшні дзень няма магчымасці правесці дакладнае эпідэміялагічнае даследаванне эфекту знахарскай працы. З дапамогаю навуковага метаду (сацыялагічнага апытвання) можна толькі высветліць, як часта звяртаюцца людзі да знахараў з той альбо іншай паталогіяй (у сярэднім у папуляцыі і па асобных узроставых ці прафесійных групах), ці засталіся задаволеныя іх дапамогай, як ацэньваюць эфект. Рэтраспектыўны аналіз не можа быць кантралюемы ў навуковы спосаб, тым больш, што ацэньваць неабходна і асобу знахара і працэдуру замаўлення (як рытуал, так

[27] Гл.: Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1. Наваполацк, 2006.

[28] Іншы варыянт этыялагічна блізкіх замоваў – гэта замовы ад "удару-звіху"

[29] Замовы / уклад. У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей.С. 21.

[30] Тамсама. № 1535.

[31] Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1....С. 56.

і тэкст замовы), так і тую асобу, якая звяртаецца за дапамогай (псіхаэмацыянальны статус, форму і цяжкасць захворвання). Іншымі словамі, сёння ёсць толькі патэнцыйная магчымасць даследаваць ўяўленні і публічную думку аб знахарстве, або спадзяванні, якія маюць людзі, але сам працэс замаўлення хваробаў застаецца закрытай тэмай.

Таму і сцвярджэнне аб эфектыўнасці замоваў можна рабіць толькі на падставе вопыту асобаў, якія звярталіся да знахараў, іх знаёмых, дадзеных этнаграфічных назіранняў і сацыялагічных апытванняў. Істотнай крыніцай ведаў з'яўляецца і асабісты вопыт аўтара, які прыймаў удзел працэдуры лячэння ў знахара ў якасці пацыента і назіральніка.

Дадзеныя сацыялагічных апытванняў пацвярджаюць, што "пярэпалах" (спуд і начніцы) у дзяцей – самая частая прычына звароту да знахараў (шаптухаў)[32]. Аб частаце зваротаў да знахараў па асобных формах захворванняў у друкаваных крыніцах аўтар інфармацыі не знайшоў.

Дзеля высвятлення некаторых прагматычных аспектаў знахарскай працы было праведзена апытванне групы супрацоўнікаў медычнай службы горада Менска (лекары і медсёстры, усяго 79 рэспандэнтаў) аб іх асабістым вопыце звяртання да знахараў. Форма пытанняў і вынікі апытвання прадстаўлены ў табліцы 4.

Акрамя непасрэдных адказаў на пытанні рэгістраваліся і іншыя выказванні або рэплікі рэспандэнтаў-медыкаў адносна праблемы знахарства. Асабліва паглыбленыя былі апавяданні тых рэспандэнтаў, чые сваякі займаліся знахарствам (чатыры выпадкі).

Сярод рэспандэнтаў лекараў, якія самі ніколі не звярталіся за дапамогаю да знахара, некаторыя валодалі інфармацыяй альбо былі сведкамі вылячэння пацыента ад рожы пасля завароту да знахара (6 выпадкаў). Варта адзначыць, што пад час інтэрв'ю рэспандэнтамі-медыкамі (якія самі ніколі не звярталіся да знахараў) сярод хваробаў прыгадвалася толькі рожа. Прыклады выказванняў "*Сам ніколі да знахараў не звяртаўся, але ведаю, што рожу яны лечаць…*" (В.П.), або "…. *асабіста ведаю доктара, якому бабка зашашпала рожу*…" (С.М.), *"… хірургі, часам, самі пасылаюць з рожаю да бабкі"* (А.І.).

Такім чынам, дадзеныя апытвання такой спецыфічнай групы насельніцтва як медыкі пацвярджаюць вызначаную тэзу аб тым, што "пярэпалах" і рожа адносяцца да найбольш "профільных" паталагічных станаў, пры якіх дапамога знахара можа быць дзейснай.

Сярод іншых вынікаў апытвання медыкаў варта вызначыць выразнае гендарнае (тут жаночае) вымярэнне праблемы. Выяўленая тэндэнцыя не выпадковая, яна адпавядае дадзеным шматлікіх назіранняў. (Вынікі праведзенага апытвання медыкаў патрабуюць асобнага разгляду, тут

[32] Юдин В.В. Вера в колдовство – проявление обыденного сознания молодёжи // Социологические исследования. 2007. № 10. С.118-121.

закранаюцца толькі тыя, што адпавядаюць кантэксту дадзенай працы).

Праводзячы суаднясенне прагматычнай значнасці замоваў з вынікамі кантэнт-аналізу, неабходна звярнуць увагу і на групу з найменьшым узроўнем хрысціянізацыі – замовы “ад лішая”. На прыкладзе гэтай групы найбольш выразна праяўляецца праблема не супастаўнасці медычнай і знахарскай тэрміналогіі.

У групе захворванняў скуры вызначаюць некалькі назалагічных формаў са словам “лішай”: лішай вотруб’епадобны (грыбковае захворванне скуры), лішай ружовы (інфекцыйная эрытэма), лішай чырвоны плоскі (этыялогія невядомая) і псарыяз, або лускаваты лішай (шырока распаўсюджаная хвароба невядомай этыялогіі)[33]. Пры гэтым з’яўленне лускаў і лушчэнне скуры, у большай ці меншай ступені, характэрна для кожнага з гэтых захворванняў.

Верагодна, поўнае супастаўленне медычнай наменклатуры з уяўленнямі і тэрмінамі знахараў правесці немагчыма адразу па некалькіх прычынах.  Наўрад ці варта шукаць навуковыя адпаведнікі такім хваробам як “залатнік”, “надрыў”, “цемянное зубішча”. Тут мітапаэтычная традыцыя недзейна абараняецца ад навуковага метаду. Справа яшчэ больш ускладняецца тым, што разуменне таго альбо іншага паталагічнага стану, як і самі назвы хваробы, розняцца сярод знахараў. Хутчэй за ўсё, можна казаць аб нейкіх дамінуючых уяўленнях і тэрмінах, сфармаваных у рэчышчы рэгіянальнай культурнай традыцыі, аднак тэрміналагічнай дысцыпліны ад знахараў патрабаваць нельга. Так, па дадзеных этнаграфічных назіранняў даволі цяжка зразумець якую хваробу знахары называюць “лішай” (або круг)[34]. Асабліва калі знахары вызначаюць розныя формы гэтага захворвання: “водзены лішай, короўячы лішай, лесову лішай, мокры лішай, стрыгушчы лішай”[35]. Можна толькі выказваць меркаванне аб тым, што частка пацыентаў у якіх знахары спрабуюць вылечыць “лішай” – гэта хворыя на псарыяз (шырока распаўсюджанае хранічнае захворванне скуры). Інфармацыяй аб выпадках, калі знахары (бабкі-шаптухі) дапамаглі хворым на псарыяз аўтар не валодае, тым больш, што дэрматолагі часцей адмоўна выказваюцца аб магчымасці такога лячэння. (Сітуацыя з псарыязам альтэрнатыўная да “рожы”, з якою лекары, часам раяць сваім пацыентам звярнуцца да шаптухі: “...да мяне, падыйшла ў калідоры медсястра, якая працуе з хірургам (ужо пасля прыёму) і дала адрас бабкі” (Н.П., пацыентка).

Можна спрабаваць вызначыць некаторыя ўскосныя крытэрыі эфек-

---

33 Справочник практического врача. / Под ред. А.И. Воробьёва В 2 томах. Т. 2. Москва, 1990. С. 159-164.

34 Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1.

35 Мазуркевіч Л.М. Лексіка народнай медыцыны Усходняга Палесся. – Аўтар. дыс. на атрыманне вуч. ступ. канд. філал. навук НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства ім Я. Коласа. Мн., 2003. С. 15.

тыўнасці асобных формаў знахарства ўжо па самых заклінальных тэкстах. Такім ускосным крытэрам эфектыўнасці можа быць частата сустракаемасці замоўных тэкстаў асобнага накірунку; менавіта замовы "ад рожы" сярод беларускіх і літоўскіх замоваў сустракаюцца найбольш часта[36]. Таксама і складальнік зборніку ва ўступнай частцы да даследуемага збору замоваў піша, што колькасць замоўных тэкстаў ад рожы (больш за 150) "*тлумачыцца, відаць, не частатой захворвання на рожу, а стойкасцю прымхаў, якія сцвярджаюць, што рожа не лечыцца сучаснымі медыцынскімі сродкамі, яны нават небяспечныя для чалавека ў такім стане.... Таму рожу ўсё яшчэ замаўляюць, хоць ёсць мажлівасць звярнуцца да кваліфікаваных медыкаў*"[37].

Варта адзначыць, што ў вызначанай групе самая нізкая лічба замоваў "ад грыжы" і "ад лішая", і ў тых жа замовах самы нізкі ўзровень уплыву хрысціянскай традыцыі. Такім чынам, меркаванні аб залежнасці паміж прагматычнай значнасцю замовы і частатой сустракаемасці замоваў пацвярджаецца для групаў на розных палюсах прадстаўленай табліцы.

Атрыманыя на гэтым этапе дадзеныя дазваляюць выказаць думку аб тым, што працэс пранікнення хрысціянскай традыцыі ў заклінальную практыку вызначаўся функцыянальнай залежнасцю ад гаючага эфекту і сацыяльнага зместу канкрэтнага тыпу замоваў. Разам з тым, у рамках навуковага падыходу без адказу застаецца пытанне аб тым, ці групы замоваў з высокім уплывам хрысціянскага кампаненту больш эфектыўныя, бо ў іх такі развіты хрысціянскі кампанент, або хрысціянскі кампанент у гэтых групах такі выразны па прычыне іх першапачатковай эфектыўнасці? Пошук адказу на гэтае пытанне выходзіць па-за магчымасці навукі, тым не менш можна спраўдзіць ці носіць вызначаны характар размеркавання узроўню хрысціянізацыі замоваў універсальны характар. Дзеля гэтага неабходна правесці параўнальны аналіз з іншымі зборамі беларускіх замоваў.

## Другі этап працы: Кантэнт-аналіз корпусу замоваў 1992 г. і яго параўнанне з корпусам замоваў 2009 г.

Непасрэдныя вынікі аналізу корпусу замоваў, выдадзеных у 1992 г.[38] у параўнанні з папярэднімі вынікамі 2009 г. прадстаўленыя ў табліцы 5. Аналіз быў праведзены згодна з вышэй прапанаванай методыкай ацэньвання ступені ўплыву хрысціянскай традыцыі. Аднак, з мэтаю дакладнага параўнання замоваў, сабраных у двух розных зборніках, быў выка-

[36] Завьялова М.В. Балто-славянский заговорный текст…С. 167.

[37] Замовы / уклад. У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей….С. 20.

[38] Замовы / уклад, сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г.А. Барташэвіч. Мн., 1992.

рыстаны іншы спосаб групавання, заснаваны на прагматычнай накіраванасці і колькасці замоваў у групе. Вызначана 20 групаў замоваў з колькасцю замоваў больш за 20, прынамсі у адным са зборнікаў. Адпаведна, замовы, колькасць якіх у групе менш за 20, былі выключаныя з аналізу.

Варта адзначыць, што зборнікі замоваў 1992 і 2009 г. складаліся па розных структурных прынцыпах. Калі ў зборніку 1992 г. прыведзены ятэксты толькі аднаго з варыянтаў замоваў, а аб іншых варыянтах дадзены звесткі, то зборнік 2009 г. уключае ў сабе ўсе сабраныя замовы, у тым ліку і аднатыпныя (самі складальнікі зборніка назвалі такі спосаб “капілярным”).

Нягледзячы на асаблівасці ў кампанаванні зборнікаў, увагу прыцягвае той факт, што ў абодвух зборніках выявіўся амаль аднолькавы ўзровень хрысціянізацыі замоваў: у зборніку 2009 г. ён быў роўны 72,8%, а ў зборніку 1992 г. – 72,6%. (Прыгадаем, што па выніках даследавання Дубянецкага, які выкарыстаў іншую методыку падліку – % “хрысціянскіх” замоваў быў роўны 71,4).

Карэляцыйны аналіз выявіў значную станоўчую залежнасць у размеркаванні ўзроўню хрысціянізацыі замоваў па асобных групах у абодвух даследаваных зборніках ($r = 0.77$; $p < 0.0001$). Атрыманы вынік пацвярджае выказанае вышэй меркаванне аб тым, што працэс хрысціянізацыі замоваў не з’яўляўся выпадковым і ён нейкім чынам быў арыентаваны на прагматычную накіраванасць ці функцыянальную значнасць замоваў. Найбольш паказальным з’яўляецца падабенства рангавага парадку ў групах замоваў, якія размешчаныя на супрацьлеглых полюсах табліцы. У абодвух зборніках найвышэйшы ўзровень хрысціянізацыі вызначаны ў групах замоваў пры родах (цяжарнасці) і замоваў ад скулы, а найменшы ў групах замоваў ад грызі (грыжы) і лішая.

Аднак, ужо па ходзе аналізу зборніка 1992 г., стала зразумелай неабходнасць здзяйснення наступнага кроку даследавання: калі зборнік 2009 г. уключае замовы, сабраныя на працягу двух дзесяцігоддзяў, на мяжы 20 і 21 ст., ці ён адносна аднародны па тэрмінах збору і запісу замоваў, то ў зборніку 1992 прадстаўленыя замовы, сабраныя этнографамі, пачынаючы з другой паловы 19 ст., і фактычна да моманту публікацыі. Гэтая рознасць у часе запісу замоваў непазбежна прымушае правесці больш падрабязны аналіз калектыўна сабранага корпусу замоваў з яго падзелам па асобных гістарычных перыядах, прычым кожны з гэтых перыядаў мае сувязь з асобнымі імёнамі выдатных этнографаў: Раманаў, Шэйн, Дабравольскі, Багдановіч, Федароўскі – другая палова 19 ст.; Буры, Шлюбскі Машынскі – першая палова 20 ст.; Барташэвіч, Талстой, Салавей, і іншыя – другая палова 20 ст. Кампазіцыйныя асаблівасці зборніка замоваў 1992 г., якія выключалі з аналізу аднатыпныя варыянты замоваў, прымусілі непасрэдна звярнуцца да арыгінальнага корпусу тэк-

стаў 19 ст. (Романов, 1891; Шэйн, 1893; Богданович, 1895). У выніку, на прадмет прысутнасці хрысціянскага кампаненту ў названых зборніках былі прааналізаваныя 4844 замовы (з улікам таго, што частка замоваў, надрукаваных ў 19 ст., увайшла ў зборнік 1992 г., г. зн. яны былі прааналізаваныя двойчы). Наступным этапам даследавання будзе параўнанне ступені "хрысціянізацыі" беларускіх замоваў, запісаных этнографамі ў розныя гістарычныя часы, і вызначэнне тэндэнцыі да зменлівасці гэтага паказчыка.

**Трэці этап працы: Кантэнт-аналіз корпусу замоваў 19 ст. і гістарычныя праекцыі паказчыка хрысціянізацыі беларускіх замоваў**

Для аналізу корпусу замоваў 19 ст. быў выкарыстаны вышэй апрабаваны метадалагічны падыход. Сам матэрыял даследавання (абагульнены корпус замоваў другой паловы 19 ст.) быў складзены з працаў Раманава (1891), Шэйна (1893), Багдановіча (1895), Дабравольскага, Федароўскага (за Барташэвіч, 1992)[39].

Узровень хрысціянізацыі ў замовах запісаных у другой палове 19 ст. быў вышэй чым у замовах 20 ст.: 82,9 % (у корпусе з 855 замоваў, сабраных Раманавым) і 81,7 % (у корпусу з 71 замоваў, сабраных Шэйнам). Падсумоўваючы матэрыял з вышэй названых крыніцаў, паказчык хрысціянізацыі беларускіх замоваў у залежнасці ад перыяду іх рэгістрацыі выглядае наступным чынам:

1. другая палова 19 ст. – 81,8 % (група ўключае 944 замовы)
2. першая палова 20 ст. – 56,1 % (група ўключае 41 замову)
3. другая палова 20 ст. – 67,2 % (група ўключае 656 замоваў)
4. канец 20 пачатак 21 ст. – 72, 8 % (група ўключае 2567 замоваў)

Не гледзячы на вышэй вызначанае падабенства узроўню хрысціянізацыі ў зборніках замоваў 1992 і 2009 г., у гістарычным часе гэты паказчык заўважальна вар'іруе: найбольшы паказчык адзначаны ў 19 ст., найменшы – ў першай палове 20 ст. Хіба не будзе выглядаць беспадстаўным сцвярджэнне аб тым, што тыя ўзрушэнні, якія перажыла Беларусь на працягу першай паловы 20 ст. маглі актыўна садзейнічаць паўторнаму выхаду язычніцкага пачатку ў замоўных тэкстах. Змяненні ў грамадскай свядомасці, непазбежна знаходзілі адлюстраванне і ў замаўляльнай практыцы. Аднак канкрэтныя праяўленні гэтага працэсу, у сувязі з шэрагам метадалагічных абмежаванняў, даволі цяжка прасачыць.

[39] Романов Е.Р. Белорусский сборник…1891; Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка...1893; Богданович А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Этнографический очерк. Гродна, 1895. (рэпрынтнае выданне) Мн., 1995; Замовы / уклад, сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г.А. Барташэвіч. Мн., 1992.

Прагназаванымі варта лічыць і змяненні ў наборы і частаце цыркуляцыі асобных замоваў у пачатку 21 ст. ў параўнанні з наборам замоваў 19 ст. Зноў прыгадаем сцвярджэнне аб тым, што колькасць запісаных варыянтаў замоваў, верагодна, сведчыць аб частаце ўжывання замоваў дадзенага накірунку на практыцы. У сувязі з гэтым, варта было б чакаць, што змяненні, якія адбыліся ў структуры захворваемасці і смяротнасці на працягу стагоддзя, знайшлі праяўленне ў частаце ўжывання адпаведных замоваў (напрыклад, зніжэнне рызыкі, абумоўленай інфекцыйнымі ці паразітарнымі захворваннямі зменшыла значнасць і частату ўжывання замоваў гэтага накірунку). Іншымі словамі, можна спадзявацца, што калі тая ці іншая праблема са здароўем губляе сваю актуальнасць, то частата цыркуляцыі замоваў і ступень іх выкарыстання будзе значна меншай. Насамрэч змяненні ў рэпертуары замаўляльных тэкстаў адбываюцца, але іх нельга вытлумачыць навукова. Некаторыя з гэтых змяненняў проста нечаканыя. Тут звернемся да прыкладу замоваў ад рожы, якія найчасцей прыгадваюцца знахарамі ў канцы 20 - пачатку 21 ст., аднак сто год таму гэтыя замовы былі адносна рэдкімі (напрыклад, у параўнанні з замовамі ад скулы). У збоніку Раманава былі знойдзеныя толькі 4 замовы ад рожы, а ў зборніку 2009 г. іх было 166. Тое ж самае тычыцца і прываротных замоваў (прысушкі, замовы на каханне і іншыя); якіх у зборніку 19 ст. было толькі 9, а ў зборніку 21 ст. ўжо 81.

Вызначаныя змяненні непасрэдна паўплывалі на працэдуру параўнання замоваў 19 і 20 ст. Менш за 10 замоваў былі ў наступных групах корпуса замоваў 19 ст: ад злога чаравання скаціны, пры першым выгане на пашу, прысушкі, ад рожы, ад удару, ад лішая, каб не хварэць (ад усіх хваробаў)[40]. Адпаведна, групы з невялікай колькасцю замоваў (менш за 10) былі выключаныя з параўнальнага аналізу. Вынікі параўнання ўзроўню хрысціянізацыі ў астатніх 13 групах прадстаўлены ў табліцы 6.

У гэтым выпадку карэляцыйны аналіз не выявіў сувязі ў размеркаванні ўзроўню хрысціянізацыі паміж замовамі, сабранымі ў канцы 19 ст. і замовамі, запісанымі ў канцы 20 - пачатку 21 ст. Атрыманыя вынікі могуць сведчыць пра тое, што на працягу вызначанага гістарычнага перыяду адбыліся заўважальныя змены ў знахарскай практыцы, і яны абумовілі змяненне частаты і характару выкарыстання замоваў з хрысціянскім кампанентам. Аднак структурныя асаблівасці тэкстаў замоваў 19 і 20 ст. самі маглі быць вынікам дзеяння спецыфічнага культурнага асяроддзя (якое фармавалася цягам гісторыі), што і дэманструе параўнанне замоваў, сабраных у розныя гістарычныя часы. Перш за ўсё, тут маецца на ўвазе гістарычны чыннік, які ўплывае на верагоднасць той інфармацыі аб замовах (сакральных ведах), што паведамляюць знахары этнографам. А тое, што абмежаванні ў перадачы ведаў знахараў для навуковага апрацавання існуць – сведчаць шмат даследчыкаў (у гэтым рэчышчы

[40] Толькі для вышэй вызначаных групаў

прыгадаем назіранні Раманава і Шэйна). Нельга выключаць магчымасць таго, што з цягам часу пашыраецца кола тых замоваў, якія можна перадаваць у карыстанне іншым людзям, бо некаторыя выходзяць з ужытку, а замест іх з'яўляюцца новыя, некаторыя пераказваюцца "без ключа", ці магічнага кода і г.д., або механізм перадачы замоваў для запісу – асобная тэма, якая не можа кантралявацца навукова. Не існуе метаду каб дыферэнцыраваць, у якой ступені змяненні ўзроўню хрысціянізацыі выкліканыя асаблівасцямі заклінальнай практыкі ў розныя гістарычныя часы, а ў якой асабістымі паставамі знахараў і іх "унутранай цэнзурай" у пераказванні ведаў.

Такім чынам, вынікі параўнання ўплыву хрысціянскай традыцыі ў замовах 19 і 20 ст. у прынцыпе не здольныя абвяргаць думку аб сувязі паміж хрысціянскай складовай і прагматычнай значнасцю замовы. Хутчэй тут мы павінны казаць пра тое, што дадзеныя аналізу непасрэдна не пацвярджаюць папярэдняе меркаванне, аднак шэраг абмежаванняў не дазваляе вартасцёва інтэрпрэтаваць атрыманыя вынікі.

Тым не менш, вынікі аналізу замоваў 19 ст. з'яўляюцца істотным аргументам, пацвярджаючым значнасць уплыву хрысціянства на замаўляльную практыку, і дэманструюць спецыфічныя гістарычныя формы гэтага працэсу.

### Пра шляхі пранікнення хрысціянскай традыцыі ў замоўныя тэксты.

Працэс узаемадзення замаўляльнай традыцыі, або шырэй, архаічнага светапогляду, з хрысціянскай культурай з'яўляецца тэмай шэрагу грунтоўных аглядаў[41].

Звяртацца да гэтай тэмы мэтазгодна базуючыся на канцэпцыі "народнага хрысціянства", бо менавіта ў глыбіні народнага духоўнага руху пераадольваўся антаганізм паміж афіцыйнай пазіцыяй Царквы і рэальнымі запатрабаваннямі да духоўных практыкаў простых людзей. Канфлікт выразна меў аднабаковы характар, бо многія знахары і вернікі яго часцей і не бачылі, а проста знаходзілі спосаб, як прыстасаваць пастулаты хрысціянскай веры да патрэбаў штодзённага жыцця, у тым ліку і ў сферы заклінальнай дзейнасці. Апісваючы працэс узаемадзеяння народнай замаўляльнай традыцыі з патрабаваннямі Царквы ў часы Сярэднявечча, Арнаутава адзначае, што "…*звыклыя вернікі па-свойму разумелі гэтую «праблему». Падладжваючы свае паводзіны да ўзору «правільнага» (хрысціянскага, рэлігійнага), яны ўключалі тлумачэнні эфекту здзейсненых імі рытуалаў і суправаджальныя вербальныя тэксты ў хрысціян-*

[41] Гл.: Познанский Н. Ф. Заговоры: Опыт исследования… С. 2-56; Богатырёв П.Г. Вопросы теории народного искусства. Москва, 1971; Харитонова В.И. Заговорно-заклинательное искусство… С. 218-245; Арнаутова Ю.Е. Колдуны и святые….С.275-234.

*скую рэлігійную сістэму. У “хрысціянскіх” рэдакцыях старых магічных формулаў і ў народных благаслаўленнях сіла гаючага абраду апраўдвалася аўтарытэтам Святога Пісання, а асноўную гаючую формулу прамаўляе хтосьці з хрысціянскіх персанажаў. Шараговыя вернікі ды і большая частка кліру не разумелі і не заўважалі розніцы паміж афіцыйна дазволенымі благаславеннемі і малітвамі і ўсімі астатнімі (“забабонамі”), так што кожныя вербальныя формулы, дзе прыгадваецца імя Бога, у іх вачах былі сапраўды хрысціянскімі*”[42].

Згодна з гэтым поглядам, высокі адсотак замоваў з хрысціянскім кампанентам, сярод замоваў з пэўным прагматычным эфектам, можа тлумачыцца тым, што знахары, якія былі адданымі вернікамі, як мага хутчэй, намагаліся аднесці эфект ці дзейнасць такой замовы да Божай моцы, надзяляць яе самым вышэйшым аўтарытэтам. Прыгадаем, што для беларускіх замоваў, у адрозненне ад літоўскіх, больш тыповым з’яўляецца спасылка на Божую сілу, ці на заступніцтва Святых, тады як у літоўскіх замовах знахар часцей спадзяецца на сваю ўласную сілу[43]. (Падобная пераадрасоўка паўнамоцтваў можа разглядацца ў якасці праяваў дзеяння аўтарытарнай ментальнасці ў міфічнай і магічнай сферах).

Належыць прыняць да ўвагі і думку пра тое, што ў часы Сярэднявечча актыўнае ўвядзенне хрысціянскіх матываў у тэкст замовы надавала ёй больш прыймальны сацыяльны выгляд. Адаптаваныя да запатрабаванняў часу, архаічныя рытуалы часам дапамагалі захаваць знахару жыццё і лягчэй успрымаліся іх пацыентамі: бо ў новым, удасканаленым выглядзе яны не выклікалі значнага дыскамфорту, а лячэнне з дапамогаю некананічных ці народных малітваў ў адрозненне ад язычніцкіх рытуалаў ужо не выклікала такога канфлікту з дамінуючай ідэалагічнай дактрынай. Працэс гэтага дастасавання быў працяглы, знахары і “*магі на працягу доўгіх стагоддзяў народнага двухвер’я прыстасоўвалі свае старадаўнія язычніцкія формулы заклінанняў і свае старадаўнія сімвалічныя аперацыі да хрысціянскіх паняццяў і абрадаў. З гэтага змешвання атрымаліся тыя шматлікія «ілжывыя малітвы» і замовы, якія ў безлічы спіскаў распаўсюджваліся ў Сярэднявечча ў грэка-раманскім свеце і разам з хрысціянствам пераходзілі да новахрысціянізаваных народаў, германскіх і славянскіх*”[44]. У выніку, некаторыя замовы зрабіліся “адаптаванымі” да такой ступені, “*што ўвайшлі ў склад трэбнікаў (сэрбскіх і рускіх) 15 – 17 ст. ужо пад назваю малітваў*[45]”.

На падставе аналізу дадзеных замаўляльных практыкаў еўрапейкіх

[42] Арнаутова Ю.Е. Колдуны и святые….С.299.

[43] Завьялова М.В. Балто-славянский заговорный текст…С.195.

[44] Миллер Вс. Ассирийские заклинания и русские народные заговоры // Русская мысль. Москва, 1896. Кн. 7. С.89. (цыт. за Барташэвіч Г.А. Замовы…С. 7).

[45] Афанасьев А.Н. Поэтические воззрения славян…С. 419.

народаў Арнаутава адзначае, што “*працэс замены язычніцкіх заклінанняў і замоваў хрысціянскімі адначасова сілкаваўся з розных бакоў. Часткова ён з’яўляўся спантаннай народнай творчасцю, але часткова быў адмысловым адказам Царквы на сталую патрэбу сваіх вернікаў звяртацца да магічнай сілы слова, і святары выконвалі не апошнюю ролю ў хрысціянізацыі старых паганскіх формулаў і ў стварэнні новых*”[46]. Думка пра тое, што духавенства прымала актыўны ўдзел у хрысціянізацыі старадаўніх язычніцкіх формулаў добра вядомая сярод даследчыкаў[47].

У выніку духоўнай працы шматлікіх пакаленняў хрысціянства ў яго народным разуменні, пераўтварылася ў дзейную сілу, якая знаходзіла сваё выяўленне, у тым ліку, ў выглядзе замаўляльна-заклінальнай традыцыі. І было б памылкай зводзіць разнастайныя формы выкарыстання хрысціянскага кампанента ў рытуальнай практыцы толькі да другаснай, “бутафоскай” ролі. Падобнае спрашчэнне ў ацэнцы значнасці хрысціянізацыі замоваў хутчэй за ўсё недапушчальнае.

Па-першае, яно пярэчыць поглядам самых знахараў, якія ў большасці не мысляць сябе па-за Хрысціянствам і па-за Царквой. (Прыгадайма, што ў Савецкія часы ў некаторых вёсках бабулькі-шаптухі часам былі адзінымі асобамі, якія рэгулярна наведвалі царкву). У выкананні хрысціянскіх запаветаў яны бачаць сваё прызначэнне і ў гэтай рэлігіі чэрпаюць сваю сілу. Многія са знахараў цьвёрда вызначаюць патрабаванне “каб чалавек быў акрэшчаны ў царкве. Калі не, то шаптаць не бяруцца[48]”. Іншыя ж да веравызнання пацыентаў ставяцца больш талерантна і адзначаюць, што для іх самых і для здароўя іх пацыентаў важная ёсць сама вера ў Бога, а не канкрэтная канфесійная прыналежнасць[49].

Па-другое, звяртаючыся да ацэнкі эфектыўнасці самой працэдуры замовы, ёсць падставы меркаваць, што сумеснае дзеянне малітвы і заклінання на свядомасць і падсвядомасць (як заклінальніка так і пацыента) адрозніваюцца па сваіх “метрычных” і “семантычных” механізмах[50]. Магчыма іх супольны эфект надае большую сілу замове. Аднак не варта канцэнтраваць увагу толькі на магчымым уплыве замовы на свядомасць ці падсвядомасць, або прыраўняць яе да своеасаблівага метаду псіхатэ-

[46] Арнаутова Ю.Е. Колдуны и святые…С. 283.

[47] Гл.: Познанский Н. Ф. Заговоры…С. 49.

[48] Вяргеенка С. А. “На моры-акіяне, на востраве Буяне…” (лекавыя замовы Гомельшчыны): фальклорна-этнаграфічны зборнік / Вяргеенка С. А.; пад рэд. В. С. Новак. Гомель, 2009. С. 54.

[49] Siegień-Matyjewicz A.J. Podlaskie szeptuchy – ludzie „pogranicza światów” [w.:] Pod wielkim dachem Nieba. Granice, migracje i przestrzeń we współczesnym społeczeństwie / Red. W. Muszyński, E. Sikora. Toruń, 2009. s. 347-357; Харитонова В.И. Заговорно-заклинательное искусство…С. 533.

[50] Харитонова В.И. Заговорно-заклинательное искусство…С. 50.

рапеўтычнага лячэння. Гэтыя тлумачэнні будуць амаль не прыдатныя для аналізу гаючага эфекту замоваў у немаўлятаў ці малых дзяцей (гл. вышэй), а тым больш у выпадку лячэння жывёлаў.

Па-трэцяе, калі б хрысціянская складовая ў замовах не мела істотнай прагматычнай функцыі, яна б хутка адпала цяперашнім часам. Тут прыгадаем і вынікі даследавання Дубянецкага[51], які прадэманстраваў, што яшчэ у 19 ст. у асобных рэгіёнах Беларусі ўплыў хрысціянства на практыку замаўлення быў адносна невялікі ў параўнанні з пазнейшай "матэрыялістычнай" эпохай. Сёння мы з'яўляемся сведкамі тэндэнцыі, калі знахары, у большай сваёй частцы, хрысціянскі рытуал і малітву прадстаўляюць галоўным момантам сваёй працы[52]. І такая іх пазіцыя непахісная, і яна не залежыць ад ацэнкі афіцыйнай царквы (прэтэнзіі якой, на манаполію ў сферы хрысціянскай духоўнасці, часам беспадстаўныя). Магчыма галоўная функцыя знахарства, якая рэалізуецца часткова свядома, а часткова падсвядома, выходзіць па-за межы рытуалу замаўлення, і накіраваная не толькі супраць нейкай фізічнай ці духоўнай немачы, але гарманізуе духоўны свет асобы, падказвае ёй у жыцці хрысціянскія арыентыры (паездка да знахаркі - гэта ўжо сакральны рытуал).

Разам з тым неабходна сабе ўсведамляць, што ўся падобная аргументацыя здольная выконваць толькі "дапаможную" функцыю ў асобных ідэалагічных ці тэарэтычных канструкцыях, бо сам прадмет даследавання застаецца па-за абшарам навукі. "*Хрысціянская сімволіка магчыма можа сведчыць хутчэй аб змяненні дзейнасці гаючых абрадаў іх выканаўцамі, г.з. аб іх тлумачэнні з пазіцыі хрысціянскіх уяўленняў аб усёмагутнасці Бога-Стваральніка і г.д. Але давесці гэтую здагадку ў такі спосаб, як гэта зрабілі б этнографы – шляхам сінхроннага аналізу тлумачэнняў абрадаў носьбітамі культуры, немагчыма: "бязмоўная большасць" насельніцтва Еўропы не пакінула ніякіх выказванняў на гэты конт*...."[53].

Пры канцы варта прыгадаць меркаванне аб тым, "што пры вывучэнні рэлігій і звязаных з імі з'яваў немагчыма аб'ектыўна вызначыць, што ёсць галоўнае, а што падлеглае...."[54]. Таму любая аргументацыя здольная выконваць толькі дапаможную функцыю ў працэдуры ўтварэння ідэалагічных ці тэарэтычных канструктаў, пры гэтым сам прадмет застаецца недаступны ацэнцы навуковым метадам.

Багатыроў, разважаючы над тлумачэннямі заклінальных абрадаў пачатку 20 ст. на Заходняй Украіне, вызначаў, што "*колькасць тлумачэнняў*

[51] Дубянецкі Э. Ментальнасць грамадзян Беларусі …С. 6-7.

[52] Гл.: Харитонова В.И. Заговорно-заклинательное искусство….С. 533; Полацкі этнаграфічны зборнік.

[53] Арнаутова Ю.Е. Колдуны и святые…С. 234.

[54] Богатырёв П.Г. Вопросы теории народного искусства…С. 178.

*– факт сацыяльны. Асобны чалавек вольны ў выбары тлумачэнняў у тых межах, у якіх яны дзейнічаюць у грамадстве. Так, чалавек, які жыве ў хрысціянскім грамадстве, дзе ў той жа час большасць абрадаў з'яўляюцца магічнымі, можа зменьваць свае тлумачэнне ў залежнасці ад таго, якой дэталі ён надае большую значнасць*"[55]. Аднак у сваім выбары чалавек не можа быць цалкам свабодны. Як толькі ён уступае ў сферу сакральнага, то ў той жа момант стае пад прэсам калектыўных уяўленняў і пільным наглядам супольнасці[56]. Індывідуальныя паставы і дзеянні ў гэтай сферы заўсёды неабходна разглядаць як элемент развіцця калектыўнай свядомасці.

У заканчэнні працы варта адзначыць, што замаўляльная традыцыя – гэта не страчаная спадчына, яна далей захоўвае сваю значнасць у наборы духоўных практык і развіваецца разам з іншымі сацыяльнымі інстытутамі. Сёння існуе дастатковая колькасць дадзеных, каб прагназаваць, тое што ў навуковай працы, роўна як і ў штодзённай дзейнасці, нам усё часцей прыйдзецца браць пад увагу значнасць уплыву чынніка веры – чынніка які здольны пераўтвараць рэчаіснасць.

*Табліца 1. Вынікі аналізу корпусу 2567 замоваў* (укладальнікі У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей) на прадмет прысутнасці ў тэксце замовы хрысціянскага кампаненту*

(групы замоваў вызначаны згодна з класіфікацыяй аўтараў)

| групы замоваў | замовы, ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | замовы, ў якіх не вызначаны хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | агульная лічба замоваў у групе (100%) | рангавае месца (змяншэнне % замоваў з хрысціянскім кампанентам у групе) |
|---|---|---|---|---|
| 1. падбор шлюбных пар, адносіны ў сям'і (замовы на каханне, прывароты і інш.) | 51,9% (42) | 48,1% (39) | 81 | VIII |
| 2. цяжарнасць, роды, гадаванне дзіцяці (на лёгкія роды, на добры сон дзіцяці і інш.) | 70,8% (136) | 29,2% (56) | 192 | V |
| 3. ахоўныя, засцерагальныя (ад маланкі, ад п'янства, ад змей, ад ваўкоў, ад ліхіх людзей і інш.) | 79,2% (338) | 20,8% (89) | 427 | III |
| 4. ахоўна-папераджальныя, супраціўныя і загойваючыя замовы (ад сурокаў, ліхіх вачэй, і інш., без замоваў ад перапалахаў і спуду ) | 72,5% (200) | 27,5% (76) | 276 | IV |
| замовы ад перапалахаў і спуду | 83,2% (238) | 16,8% (48) | 286 | II |
| 5. гаючыя, лячэбныя замовы і дзеянні (без замоваў ад рожы) | 68,2% (610) | 31,8% (285) | 895 | VI |
| замовы ад рожы | 89,2% (148) | 10,8% (18) | 166 | I |

55 Богатырёв П.Г. Вопросы теории народного искусства…С. 180.

56 Durkheim E. The elementary forms of religious life. New York, 1995.

*працяг табл. 1*

| групы замоваў | замовы, ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | замовы, ў якіх не вызначаны хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | агульная лічба замоваў у групе (100%) | рангавае месца (змяншэнне % замоваў з хрысціянскім кампанентам у групе) |
|---|---|---|---|---|
| 6. ахоўная замовы і прадуктыўная магія дзеля поспеху ў гаспадарцы (каб расліны былі ўрадлівыя, каб куры гадаваліся) | 56,2% (41) | 43,8% (32) | 73 | VII |
| 7. ахоўная на прадуктыўную карову (пры першым выгане каровы на пашу, на добрую прадуктыўнасць каровы і інш.) | 68,3% (123) | 31,7% (57) | 180 | VI |
| 8. усяго замоваў | 72,8% (1875) | 27,2% (701) | 2576 | - |

* Замова № 59 фактычна складаецца з трох асобных замоваў, таму агульная лічбы замоваў аналізуемага корпусу на дзве больш, чым у арыгінальным зборніку замоваў

*Табліца 2. Вынікі аналізу корпусу гаючых замоваў* (укладальнікі У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей) на прадмет прысутнасці ў тэксце замовы хрысціянскага кампаненту*

(групы замоваў вызначаныя згодна з класіфікацыяй аўтараў)

| гаючыя замовы (уключаны групы, ў якіх больш за 30 замоваў) | замовы, ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | замовы, ў якіх не вызначаны хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | агульная лічба замоваў у групе (100%) | рангавае месца (змяншэнне % замоваў з хрысціянскім кампанентам у групе) |
|---|---|---|---|---|
| 1. ад скулы | 89,4% (42) | 10,6% (5) | 47 | I |
| 2. ад рожы | 88,6% (147) | 11,4% (19) | 166 | I |
| 3. ад хваробаў жывата | 79,1% (102) | 20,9% (27) | 129 | II |
| 4. ад крывацёку | 75,8% (91) | 24,2% (29) | 120 | III |
| 5. ад звіху | 73,7% (59) | 26,3% (21) | 80 | IV |

*працяг табл. 2*

| гаючыя замовы (уключаны групы, ў якіх больш за 30 замоваў) | замовы, ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | замовы, ў якіх не вызначаны хрысціянскі кампанент % (лічба замоваў) | агульная лічба замоваў у групе (100%) | рангавае месца (змяншэнне % замоваў з хрысціянскім кампанентам у групе) |
|---|---|---|---|---|
| 6. ад удару | 69,2% (36) | 30,8% (16) | 52 | V |
| 7. каб не хварэць (ад усіх хваробаў) | 65,6% (40) | 34,4% (21) | 61 | VI |
| 8. ад зубнога болю | 51,9% (55) | 48,1% (51) | 106 | VII |
| 9. ад грыжы (кілы) | 48,7% (19) | 51,3% (20) | 39 | VIII |
| 10. ад лішая | 37,8% (14) | 62,2% (23) | 37 | IX |

* уключаны групы хваробаў, якія маюць больш за 30 замоваў

*Табліца 3. Вынікі аналізу корпусу 2567 замоваў (укладальнікі У. А. Васілевіч, Л.М. Салавей) на прадмет прысутнасці ў тэксце замовы хрысціянскага кампанента з выдзяленнем замоваў з ізаляваным “Амінь” .*

| Групы замоваў | замовы, ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент (без замоваў з ізаляваным “Амінь”) % (лічба замоваў) | замовы, ў якіх не вызначаны хрысціянскі кампанент (разам з замовамі з ізаляваным “Амінь”) % (лічба замоваў) | агульная лічба замоваў у групе (100%) | Рангавае месца (змяншэнне % замоваў з хрысціянскім кампанентам у групе) |
|---|---|---|---|---|
| 1. падбор шлюбных пар, адносіны ў сям’і (замовы на каханне, прывароты і інш.) | 39,5% (32) | 60,5% (49) | 81 | VII |

*працяг табл. 3*

| Групы замоваў | замовы, ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент (без замоваў з ізаляваным “Амінь”) % (лічба замоваў) | замовы, ў якіх не вызначаны хрысціянскі кампанент (разам з замовамі з ізаляваным “Амінь”) % (лічба замоваў) | агульная лічба замоваў у групе (100%) | Рангавае месца (змяншэнне % замоваў з хрысціянскім кампанентам у групе) |
|---|---|---|---|---|
| 2. цяжарнасць, роды, гадаванне дзіцяці (на лёгкія роды, на добры сон дзіцяці і інш.) | 62,0% (119) | 38,0% (73) | 192 | VI |
| 3. ахоўныя, засцярагальныя (ад маланкі, ад п'янства, ад змей, ад ваўкоў, ад ліхіх людзей і інш.) | 74,2% (317) | 25,8% (110) | 427 | III |
| 4. ахоўна-папераджальныя, супраціўныя і загойваючыя замовы (ад сурокаў, ліхіх вачэй, і інш, без замоваў ад перапалахаў і спуду ) | 70,3% (194) | 29,7% (82) | 276 | IV |
| замовы ад перапалахаў і спуду | 80,8% (231) | 19,2% (55) | 286 | II |
| 5. гаючыя, лячэбныя замовы і дзеянні (без замоваў ад рожы) | 64,5% (577) | 35,5% (318) | 895 | V |
| замовы ад рожы | 87,3% (145) | 12,7% (21) | 166 | I |
| 6. ахоўная замовы і прадуцыруючая магія дзеля поспеху ў гаспадарцы (каб расліны былі ўрадлівыя, каб куры гадаваліся) | 41,1% (30) | 58,9% (43) | 73 | VII |
| 7. ахоўная на прадуктыўную карову (пры першым выгане каровы на пашу, на добрую прадуктыўнасць каровы і інш.) | 65,0% (117) | 35,0% (63) | 180 | V |
| Усяго замоваў | 68,4% (1762) | 31,6% (814) | 2576 | - |

*Табліца 4. Вынікі апытання групы 79 медыкаў г. Менску (лекары і сярэдні медперсанал) аб вопыце звяртання за дапамогай да знахараў (бабкак-шаптух)*

| | |
|---|---|
| група апытаных | усяго 79<br>з іх:<br>лекары 45<br>сярэдні медперсанал 34 |
| пол<br><br>узроставы дыяпазон 38-60 год | муж. 21 (27%)<br>жан. 58 (73%)<br><br>сярэдні узрост 52 года |
| Ці звярталіся Вы калі-небудзь па дапамогу да знахараў (шаптухаў) з прычыны хваробы ў сябе ці ў сваіх блізкіх? | ніколі не звярталіся* 55 (70%)<br><br>самостойна звяртаўся хоця бы раз у жыцці:<br>усяго 24 (30%)<br>з іх:<br>жан. 23<br>муж. 1<br>урачы 11<br>медсёстры 13 |
| Ці быў адзначаны эфект пасля лячэння ў знахара? (сярод 24 звяртаўшыхся) | так – 18 выпадкаў (78%)<br>не – 6 выпадкаў (22%) |
| прычыны звароту**:<br>- пярэпалах (спалох) у дзіцяці<br>- рожа<br>- іншыя прычыны | 12 (50%)<br>2 (8%)<br>10 (42%) |
| Дапускаюць магчымасць звароту па дапамогу да знахараў (шаптухаў), у тых выпадках, калі не можа дапамагчы афіцыйная медыцына (з улікам канкрэтнай паталогіі) | так – 40 (51%)<br><br>не- 39 (49%) |

* у чатырох выпадках рэспандэнты лячыліся ў знахара (шаптухі) у дзіцячым узросце, іх прыводзілі бацькі (не ўносіліся у табліцу)

** шэсць рэспандэнтаў звярталіся да знахараў больш за адзін раз (у якасці прычыны вызначана прычына першага звароту), чатыры рэспандэнта з 79 апытаных паведамілі, што ў іх у родзе займаліся знахарствам

*Табліца 5. % замоваў з хрысціянскім кампанентам па тэматычных групах* у зборніках 1992 і 2009 г.*

| групы замоваў. | замовы ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент з корпусу тэкстаў замоваў 1992 г % ( усяго замоваў у групе) | замовы ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент з корпусу тэкстаў замоваў 2009 г. % ( усяго замоваў у групе) | рангавае месца па колькасці замоваў, у якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент (1992 г. у параўнанні з 2009 г.) |
|---|---|---|---|
| 1 цяжарнасць, роды | 96,8 % (31) | 93,1% (29) | I - I |
| 2. ад злога чаравання | 82,1 % (21) | 81,4 % (43) | VI - V |
| 3. ад змей (засцярагальныя і гаючыя) | 73,4 % (139) | 76,4 % (110) | XII - VI |
| 4. ад крыксаў, начніц | 61, 4 % (57) | 75,9 % (58) | XVII - VII |
| 5. ад ляку, пужання, спуду | 80,3 % (76) | 85,5 % (311) | VII - IV |
| 6. ад сурокаў | 83,6 % (122) | 75,1 % (276) | IV - IX |
| 7. ад злога чаравання ската | 73,7 % (38) | 68,4 % (35) | XI - XIV |
| 8. пры выгане скаціны | 68,0 % (25) | 60,0 % (40) | XV – XVI |
| 9. ад хваробаў у жывёл | 63,8 % (120) | 68,9 % (29) | XVI - XIII |
| 10. падбор шлюбных пар, адносіны ў сям'і (замовы на каханне, прывароты і інш.) | 73,8 % (42) | 51,9 % (81) | X – XVIII |
| 11. ад скулы | 87,5 % (48) | 89,4 % (47) | II – II |
| 12. ад рожы | 76,1 % (25) | 88,6 % (166) | IX – III |
| 13. ад хваробаў жывата | 83,0 % (53) | 73,3 % (129) | VI – XI |
| 14. ад крывацёку | 68,4 % (57) | 75,8 % (120) | XIV - VIII |
| 15. ад звіху | 71,4 % (70) | 75,0 % (80) | XII – X |
| 16. ад удара | 85,7 % (35) | 72,2 % (52) | III – XII |
| 17. каб не хварэць (ад усіх хваробаў) | 77,8 % (18) | 65,6 % (61) | VIII - XV |
| 18. ад зубнога болю | 57,6 % (66) | 52% (106) | XVIII - XVII |
| 19. ад грыжы (грызі) | 47, 8 % (23) | 48% (39) | XX – XIX |
| 20. ад лішая | 50,0 % (6) | 38% (37) | XIX - XX |

* Крытэрам вызначэння тэматычнай групы з'яўлялася колькасць замоваў у групе (больш за 20)

Табліца 6. Замовы з хрысціянскім кампанентам (%) па тэматычных групах у зборах замоваў 19 і 21 ст.

| групы замоваў. | замовы ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент з корпусу тэкстаў замоваў другой паловы 19 ст. % (усяго замоваў у групе) | замовы ў якіх прысутнічае хрысціянскі кампанент з корпусу тэкстаў замоваў канца 20 – пачатку 21 ст. % (усяго замоваў у групе) |
|---|---|---|
| 1 цяжарнасць, роды | 96,2 % (26) | 93,1% (29) |
| 2. ад злога чаравання | 96,6 % (29) | 81,4 % (43) |
| 3. ад змей (засцярагальныя і гаючыя) | 87,0 % (131) | 76,4 % (110) |
| 4. ад крыксаў, начніц | 66,7 % (18) | 75,9 % (58) |
| 5. ад ляку, пужання, спуду | 69,7 % (33) | 85,5 % (311) |
| 6. ад сурокаў | 93,3 % (104) | 75,1 % (276) |
| 7. ад злога чаравання ската | ( < 10 ) | 68,4 % (35) |
| 8. пры выгане скаціны | ( < 10 ) | 60,0 % (40) |
| 9. ад хваробаў у жывёл | 62,9 % (105) | 68,9 % (29) |
| 10. падбор шлюбных пар, адносіны ў сям'і (замовы на каханне, прывароты і інш.) | ( < 10 ) | 51,9 % (81) |
| 11. ад скулы | 85,0 % (40) | 89,4 % (47) |
| 12. ад рожы | ( < 10 ) | 88,6 % (166) |
| 13. ад залатніка (хваробаў жывата) | 78,6 % (42) | 73,3 % (129) |
| 14. ад крывацёку | 77,4 % (53) | 75,8 % (120) |
| 15. ад звіху | 89,9 % (69) | 75,0 % (80) |
| 16. ад удара | ( < 10 ) | 72,2 % (52) |
| 17. каб не хварэць (ад усіх хваробаў) | ( < 10 ) | 65,6 % (61) |
| 18. ад зубнога болю | 73,3 % (60) | 52% (106) |
| 19. ад грыжы (кілы) | 87,5 % (16) | 48,7 (39) |
| 20. ад лішая | ( < 10 ) | 38% (37) |



*Фелікс Акерман (Берлін)*

# ДЭМАГРАФІЧНАЕ РАЗБУРЭННЕ ГАРОДНІ Ў 1939 – 1949 г.г.*

Калі ўявіць гарадскую прастору ў якасці пергаменту з пэўным культурным тэкстам, то новае культурнае кадзіраванне будзе магчымым толькі пасля таго, як адбудзецца працэс частковага альбо поўнага заціранні старога тэксту. Гародня як матэрыяльная прастора была разбураная падчас Другой сусветнай вайны толькі часткова, але вынішчэнне насельніцтва і разбурэнне сацыяльнай структуры з яе інстытутамі і культурнымі знакамі, якое адбылося паміж 1939 і 1949 гг., усё жператварыла яе ў свайго роду палімпсест.

Паколькі першая і другая савецкія акупацыі Гародні прыпадаюць на час Другой сусветнай вайны, а іх пачатак і канец уяўляюць сабой канцавую і пачатковую кропкі адпаведна польска-габрэйскага і савецкага беларускага горада, іх нельга разглядаць асобна. Нямецкая і савецкая акупацыі азнаменаваліся ў нечым раўназначнымі падзеямі: забойствам гарадзенскіх габрэяў і перасяленнем значнай часткі каталіцкага насельніцтва ў пасляваенную Польшчу. Каб прывязаць дзве гэтыя гістарычныя падзеі да мясцовага кантэксту, спачатку прадставім перыяды савецкага і нямецкага панавання ў храналагічнай паслядоўнасці, а потым прааналізуем іх спусташальны ўплыў на сацыяльную тапаграфію Гародні.

Другая сусветная вайна для Гародні не была поўнай нечаканасцю. Звесткі пра палітычнае напружанне паміж еўрапейскімі дзяржавамі, пра пакт Молатава-Рыбентропа, таксама як інфармацыя пра мабілізацыю ў Нямеччыне перадаваліся і каментаваліся газетамі, радыё і… чуткамі. Ужо напрыканцы жніўня польская армія пачала канфіскоўваць у цывільнага насельніцтва веласіпеды, у школах распаўсюджваліся інструкцыі на выпадак вайны[1].

Бамбёжка на золку 1 верасня вырвала жыхароў Гародні са сну[2]. Калі ў эфіры абвясцілі пра нямецкі напад на захад і поўнач Польшчы, самалёты ваеннай авіяцыі Нямеччыны, якія ўзняліся ў паветра ва Усходняй Прусіі, ужо скідвалі бомбы на фару Вітаўта і на кашары па вул. Нарутовіча (сёння частка вул. Дзяржынскага).

* Пераклад з нямецкай В.Сабалеўскай. Рэдагаванне А.Смаленчука.

[1] Zandman Felix. Nie die letzte Reise. München, 1999. S. 47.

[2] Інтэрв'ю з Аляксандрам Сяргеевічам Рымарчуком, праведзена 4 красавіка 2006 г. у Гародні.

Паведамленне пра пераход савецкімі войскамі мяжы 17 верасня 1939 г. выклікала паніку сярод шырокіх колаў польскага насельніцтва. Адна з гарадзенскіх настаўніц ужо пасля вайны з пэўным нацыянальным пафасам распавядала: “*Я выйшла на вуліцу. Абурэнне большае, чым 1 верасня. Людзі выбягаюць з дамоў не толькі, каб пра нешта даведацца альбо ўпэўніцца, што прыйшла новая бяда, якая пагражае краіне, але таксама, каб словамі, жэстамі, крыкамі і слязьмі выказаць уласнае абурэнне тым, што адбываецца*”[3].

Аднак замест выканання патрыятычнага абавязку запанаваў хаос. Часткі польскай арміі былі накіраваныя на захад, каб спыніць нямецкі наступ. Пачаліся рабункі, парушылася забеспячэнне прадуктамі харчавання. Цывільнае насельніцтва станавілася ахвярай крымінальных элементаў[4].

Абарона Гародні не прадугледжвалася кіраўніцтвам польскай арміі[5]. На пачатку верасня ў Гародні стаялі толькі два слаба ўзброеныя батальёны. Але і гэтыя часткі планавалася накіраваць на поўдзень. 20 верасня 1939 г., калі паказаліся першыя савецкія танкі, на беразе Нёмана знаходзілася толькі некалькі соцень навабранцаў і рэзервістаў. Многія салдаты польскай арміі, адчуваючы недахоп узбраення і абмундзіравання, яшчэ раней пачалі пакідаць фронт і рухацца ў бок Францыі. Выгляд дэмаралізаваных войскаў схіляў папаўненне хутчэй да дэзерцірства, чым да гераічнай барацьбы за Айчыну[6].

Тым не менш жыхары Гародні, асабліва польскае насельніцтва рыхтавалі адпор агрэсару. Для іх Гародня была неад’емнай часткай польскай дзяржавы. Падрыхтоўкай да абароны займаліся намеснік бургамістра Савіцкі і маёр Серафін. Яны мабілізавалі жанчын і дзяцей ў санітарную і медыцынскую службу, інструктавалі харцэраў і рэзервістаў, дзялілі мізэрныя запасы боепрыпасаў і харчавання. Паколькі савецкі бок не чакаў сур’ёзнага супраціўлення, а польскі – нічога не ведаў пра колькасць савецкіх войскаў, то абаронцы горада ў першы дзень баёў яшчэ лічылі, што маюць шанц спыніць Чырвоную армію бутэлькамі з запальнай сумессю. Аднак паступова абарона слабела, колькасць ахвяраў з польскага боку павялічвалася прапарцыянальна колькасці падбітых савецкіх танкаў. 22 верасня Гародня была пераможаная[7].

[3] Majko Bronisława. Relacja ówczesnej nauczycielki grodzieńskiej o obronie miasta we wrześniu w 1939 // Liszewski Karol. Wojna polsko-sowiecka w 1939 roku. Londyn, 1988. S. 196.

[4] Інтэрв’ю з Маргарытай Духовіч, праведзена 29 сакавіка 2006 г. у Гародні.

[5] Gwozdek Zdzisław. Białostocki okręg ZWZ-AK. Białystok, 1993. S. 7-8.

[6] Grzelak Czesław. Wilno, Grodno, Kodziowce w roku 1939. Warszawa, 2002. S. 105-107.

[7] Ян Грос цытуе Штымана, які напісаў пра 800 польскіх ахвяр (Gross Jan. Und wehe, du hoffst... die Sowjetisierung Ostpolens nach dem Hitler-Stalin-Pakt. 1939 – 1941. Freiburg im Breisgau, 1988. C. 20). На савецкім баку таксама былі ахвяры. Паводле афіцыйных звестак, 47 салдат былі забітыя, 156 параненыя, 12 танкаў былі выведзены з дзеяння, 4 з іх разбураны поўнасьцю (Самуэль С.П. Назаўсёды разам. Да 60-годдзя ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР. Мінск, 1999. С. 88).

Жыхарка Гародні Марыя Шаўчэнка пазней згадвала:

*Калі першы раз прыйшлі Саветы, мы баяліся. Мы былі гатовыя на ўсё. Мая маці, якая валодала хутарам у Верцялішках, пасылала нам хлеб і сала, каб мы рыхтаваліся бегчы на ўсход. Але яны пакінулі нас у спакоі. Майго мужа правяралі, ці займаўся ён [...] палітыкай да рэвалюцыі. Перашукалі ўсю нашу хату, але нічога не змаглі знайсці. Мы не мелі нічога акрамя халасцяцкай шафы ды старой канапы. Гэта нас выратавала, бо сям'я польскага афіцэра, які меў шыкоўную мэблю, згінула [...] Тады ўсё перарвалася. Добрае жыццё для мяне спынілася. У новым жыцці не было для нас месца. Мы да яго не дапасаваліся, сталі іншаземцамі ва ўласнай хаце. Усё вакол нас падавалася нам заняпалым – звычаі, парадак"*[8].

Пасля захопу Гародні адбылася замена гарадской адміністрацыі савецкімі служачымі. Разам з ёй пачалася першая хваля рэпрэсій, якія разгортваліся спачатку супраць удзельнікаў абарончых баёў. Пазнейшыя рэпрэсіі былі абумоўленыя сацыяльнымі крытэрыямі. На працягу першых дзён акупацыі прынялі смерць малыя групкі абаронцаў, якія былі расстраляныя на "Сабачай горцы", а таксама ў маленькім ляску, які жыхары называлі "Сакрэтам"[9]. Асаблівую ўвагу НКУС звяртаў на афіцэраў польскай арміі. Іх утрымлівалі спачатку ў гарадзенскай турме, а потым перавозілі ў месцы масавых забойстваў, у тым ліку ў Катынь[10].

У наступныя дні святароў, выкладчыкаў, служачых і вайскоўцаў апытвалі пра іх даваенную дзейнасць. Дырэктары гімназій імя Генрыка Сянкевіча і Эміліі Плятэр былі затрыманыя, адвакаты Жабакліцкі (Żaboklicki) і Тэрлікоўскі зніклі, як і многія іншыя вядомыя гарадзенцы. Жонка вядомага адваката Уладзіслава Гарбачэўская была арыштаваная службоўцамі НКУС. На лімузіне яе вазілі па гораду, і яна павінна была паказваць, дзе жывуць прадстаўнікі сацыяльнай і эканамічнай гарадской эліты. Яна здолела вярнуцца дахаты, але іншыя зніклі назаўсёды[11].

На працягу наступных месяцаў агенты тайнай паліцыі высочвалі канспіратыўныя групы ворагаў дзяржавы, а таксама падазроныя элементы, якіх трымалі ў той жа гарадской турме, дзе ў 30-я гг. палітычных зняволеных трымала польская дзяржава[12]. Да іх належаў таксама поль-

---

8 Размова з Марыяй Шаўчэнка, праведзена 4 красавіка 2006 г. у Гародні.

9 Liszewski Karol. Wojna polsko-sowiecka w 1939 roku. S. 74-75. Ён спасылаецца на дакументах, якія прыводзіў Ян Томаш Грос, а таксама матэрыялы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Польшчы, Лонданскай Collection des Hoover і артыкул Анджэя Гурына "Zbrodnie sowieckie wobec ludności cywilnej w Grodnie // Gazeta (Toronto), 23-25.10.1992.

10 НАРБ. Ф.4, воп. 21, ад.з. 1715, арк. 127. Гл. таксама: Sanford George. Katyn and the Soviet Massacre of 1940: Truth, Justice and Memory. London, 2005, S. 110-111; Władysław Anders. Zbrodnia Katyńska w świetle dokumentów. Londyn, 1950, S. 217

11 Багдан Гарбачэўскі. Рукапісныя ўспаміны (1997, Торунь, с. 4).

12 Głowacki Albin. Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939 – 1941. Łódź, 1998. C. 272.

скі пісьменнік Густаў Хэрлінг-Грудзіньскі, успаміны якога пра пакутлівы шлях ад Гародні праз турму ў Віцебску да лагеру пад Архангельскам з’яўляюцца важкім і пераканаўчым дакументам сталінскіх злачынстваў[13].

У навакольных вёсках праводзілася пераразмеркаванне зямлі ў адпаведнасці з прынцыпам, які быў ужо апрабаваны ў СССР. У Заходняй Беларусі пачалося г.зв. “раскулачванне”. Апошняе азначала экспрапрыяцыю вялікіх і сярэдніх маёнткаў і дэпартацыю гаспадароў разам з іх сем’ямі ў Сібір альбо Казахстан. Такі лёс напаткаў у першую чаргу сялян з надзеламі ад 5 да 10 гектараў. У Гародні ў кастрычніку 1939 г. была праведзена нацыяналізацыя сярэдніх і буйных маёнткаў[14]. Распачаліся рэпрэсіі ў дачыненні да іх уласнікаў. Ужо ў першы месяц у далучаных да БССР абласцях былі затрыманыя 4315 прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, пасля чаго на некалькі месяцаў усталяваўся падманлівы спакой[15]. Савецкае кіраўніцтва спрабавала ўмацаваць давер да новай улады і часова праводзіла палітыку “мяккай акупацыі”.

Нататкі адной ананімнай бібліятэкаркі сведчаць пра перамены 1939 г. Перш чым гарадская бібліятэка напоўнілася савецкай літаратурай, яе фонд неаднаразова “чысціўся”. Для ангельскай, французскай і іншай еўрапейскай літаратуры, якая зараз чыталася менш, ужо не знаходзілася месца[16]. Неафіцыйная статыстыка сведчыць, што яшчэ на пачатку 1940 г. заставалася частка старой бібліятэкі. Увесь фонд складаўся з амаль 35 тыс. кніг з даваенных фондаў і 14 тыс. савецкіх кніг. (Да 1939 г. у фондах гарадской бібліятэкі знаходзілася больш за 100 тыс. тамоў). Ступень разбурэння бібліятэчнага фонду дасягнула 50%, але яшчэ заставаліся кнігі на польскай мове, а таксама ідыш. Канчатковае знішчэнне культурнай спадчыны перадваеннага гораду адбылося ў перыяд нямецкай акупацыі, ахвярамі якой сталі не толькі рэшткі захаваных польскіх і габрэйскіх кніг, але таксама і савецкі кніжны фонд пераважна на рускай і беларускай мовах.

Жыццё гараджан, асабліва габрэяў моцна ўскладніў паток бежанцаў з акупаванай нямецкімі войскамі Польшчы. Іх колькасць узрасла напрыканцы лістапада да 2 тыс. чал. Гэтыя людзі маглі разлічваць выключна на дабрачыннасць прыватных асобаў і арганізацый габрэйскай супольнасці[17]. Апошняя спрабавала выкарыстаць частку харальнай сінагогі ў

[13] Gustaw Herling. Inny swiat. Zapiski. Londyn, 1953.

[14] Самуэль С.П. Назаўсёды разам… С. 110.

[15] Вабішэвіч А. ды інш. Гісторыя Беларусі ў 6 тамах. Том V, 1917 – 1945 гг. Мінск, 2006. С. 465.

[16] Ананімныя нататкі з прыватнага збору Багдана Гарбачэўскага. С. 2-3.

[17] НАРБ. Ф.4, воп. 21, ад.з. 1511. Арк. 24-26.

якасці зборнага пункту, каб размясціць бежанцаў, якія не мелі сваякоў у Гародні. Сіроты, як, напрыклад, Салі Перэл (пазнейшы славуты *Саламон Гітлерюнге*[18] накіроўваліся ў савецкія ўстановы. У канцы 1939 г. было прынятае рашэнне перасяліць больш за 1 тыс. бежанцаў на ўсход, але ў Магілёўскую вобл. прыбыло толькі 440 чал. Магчыма, што большасць уцекачоў не пажадала ехаць ва ўнутраныя вобласці Савецкага Саюза. У Гародні былі цяжкія ўмовы жыцця, але тут прынамсі існавала габрэйская ўзаемадапамога[19].

Знішчэнне даваенных грамадскіх інстытутаў набыло новы размах, калі ў лютым 1940 г. пачаліся першыя дэпартацыі ў Сібір і Казахстан. Спачатку яны закранулі польскіх ваенных асаднікаў, а таксама г.зв. “кулакоў”. Асаднікі, як і раней землеўласнікі былі абвешчаныя па-за законам[20].

У сярэдзіне красавіка 1940 г. адбылася дэпартацыя былых служачых, польскіх вайскоўцаў, былых паліцэйскіх і камерсантаў, а таксама бежанцаў з занятых немцамі польскіх тэрыторый. Усе яны былі абвешчаныя “варожымі элементамі” і асуджаныя “тройкамі” НКУС. У чэрвені 1941 г. таксама фармаваліся “транспарты” з “варожымі элементамі” з ліку жыхароў старога горада[21].

Усяго з паўночна-усходніх раёнаў Польшчы, якія зараз належалі да СССР, было дэпартавана прыкладна 150 тыс. чал.[22] Сярод ахвяр былі каталікі, праваслаўныя і габрэі. Прысуд залежаў ад сацыяльнага становішча арыштаванага. Прычынай высылкі таксама былі даносы суседзяў.

Такім чынам, рэпрэсіі закранулі перш за ўсё сем’і служачых муніцыпалітэту, святароў, адвакатаў, лекараў, якія згодна савецкаму пункту гледжання, былі “ненадзейнымі элементамі”. Носьбіты нацыянальнай свядомасці, не зважаючы на іх прафесійныя веды, маглі быць дзеячамі патэнцыяльнага руху супраціўлення. Да іх належалі таксама сем’і афіцэраў польскай арміі. Нацыяналізацыя гаспадаркі і ўведзеныя абмежаванні для раней дамінуючых сацыяльных груп рабілі з палякаў галоўны

[18] Салі Перэл пасля ўцечкі з Нямеччыны з 1939 па 1941 г. жыў у доме для сіротаў па вул. К.Маркса (былая Брыгіцкая). На пачатку нямецкай акупацыі запісаўся як фольксдойч. Пасля знаходжання на фронце быў накіраваны на вучобу ў элітны інтэрнат Гітлерюгенд. Ён здолеў выжыць (Perel Sally. Ich war Hitlerjunge Salomon. Berlin, 1992. S. 9-22).

[19] Adamuszko Władimir i inne. Zachodnia Białoruś. 17. IX. 1939 – 22.VI. 1941 Wydarzenia i losy ludzkie. Rok 1939. Źródła do historii Polski XX wieku ze zbiorów Narodowego Archiwum Republiki Białoruś. Warszawa, 1998. S. 275.

[20] Ciesielski Stanisław, Hryciuk Grzegorz, Srebrakowski Aleksander. Masowe deportacje radzieckie w okresie II Wojny Światowej. Wrocław, 1994. S. 37-43.

[21] Парсаданова В.С. Депортация населения из Западной Украины и Западной Беларуси в 1939 – 1941 гг. // Новая и новейшая история. Москва, 1989, № 2. С. 28.

[22] Хацкевіч А. Арышты і дэпартацыі ў заходніх абласцях Беларусі (1939 – 1941 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1994, № 1. С. 89.

аб’ект пераследу і дэпартацый. У практыцы рэпрэсій мела месца і самавольства. Крытэрыі пераследу былі часта незразумелымі для ахвяр.

Мэтаю савецкай акупацыі была інтэграцыя рэгіёну ў дзяржаўны арганізм СССР. Занятыя тэрыторыі далучаліся да ўжо існуючых савецкіх рэспублік. Прапагандысты і агітатары з БССР распаўсюджвалі думку, што Чырвоная Армія прыйшла на дапамогу рабочым і сялянам, каб вызваліць беларускі народ ад польскіх капіталістаў. Дзеля легімітызацыі новай улады быў арганізаваны па адмысловаму сцэнару “Народны сход Заходняй Беларусі”, які выбіраўся згодна з усімі правіламі сталінізму, “дэмакратычным шляхам” і, такім чынам, выказваў “свабодную волю народу”. Як вынікала з прамовы старшыні Цэнтральнага Камітэта КП(б) Беларусі ад 12 кастрычніка 1939 г., інсцэніроўка выбараў мясцовых дэпутатаў рыхтавалася яшчэ да савецкай акупацыі і павінна была выглядаць як дэманстрацыя волі народу[23].

Патэнцыйныя дэлегаты часта прызначаліся і прывозіліся ў Заходнюю Беларусь з усходу. Гаворка ідзе перш за ўсё пра партыйных работнікаў з БССР. “Прадстаўнікі працоўнага класу і прагрэсіўнай інтэлігенцыі”, згодна мінскім планам, складаліся з “чэкістаў, супрацоўнікаў Народнага камісарыяту ўнутраных спраў і двух мясцовых прадстаўнікоў”. Так выглядаў склад органаў кіравання да афіцыйнага далучэння Гародні і іншых гарадоў рэгіёну да СССР[24]. З ліку вылучаных кандыдатаў выдаляліся прадстаўнікі габрэйскіх і польскіх сацыялістычных партый[25]. Для выбару кандыдатаў была вызначаная квота ў 70% беларусаў, што ў выпадку Гародні азначала 33 беларуса, 3 паляка, 6 габрэяў, 1 рускі і 1 літоўскі дэпутаты[26]. Высокая выбарчая актыўнасць (больш за 90%) была дасягнутая агітацыяй, прымусам і фальсіфікацыяй[27].

Ужо ў кастрычніку 1939 г. Гародня далучылася да паштовай і тэлеграфнай сістэмы Савецкага Саюза[28]. 15 студзеня 1940 г. была ўтвораная Беластоцкая вобл. Гародня захавала статус цэнтру раёну, а Беластоку належала функцыя кіравання рэгіянальнай адміністрацыйнай адзінкай.

Рашэнні Народнага сходу прыспешылі ўвядзенне савецкага тыпу арганізацыі вытворчасці. Новыя ўлады дапасоўвалі шматлікія існуючыя

[23] Міранович Яўген. Найноўшая гісторыя Беларусі. Петербург, 2003. С. 110-111.

[24] НАРБ. Фонд 4, воп. 21, ад.з. 1584. Арк. 32.

[25] Вабішчэвіч Аляксандр. Гісторыя Беларусі ў 6 тамах. Том V, 1917 – 1945 гг. Мінск, 2006. С. 456.

[26] Gnatowski Michał. Zgromadzenie ludowe Zachodniej Białorusi. Fakty, oceny, dokumenty. Białystok, 2001. S. 255 – 259.

[27] Gross Jan. Und wehe, du hoffst... die Sowjetisierung Ostpolens nach dem Hitler-Stalin-Pakt. 1939 – 1941. Freiburg im Breisgau, 1988. S. 74-14.

[28] Głowacki Albin. Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939 – 1941. Łódź, 1998. S. 153; Adamuszko Władimir i inne. Zachodnia Białoruś... S. 395.

структуры да савецкіх мадэляў камбінатаў, кааператываў і аб'яднанняў рамеснікаў, г.зв. "арцеляў". Мерапрыемствы новай улады па змене эканамічнага ландшафту праходзілі пад дэвізам "вызвалення беларускіх народных мас і барацьбы рабочых за сацыялістычнае грамадства". Так, тыповыя для рэгіёну маленькія гарбарні былі аб'яднаныя ў кааператывы. Той, хто раней працаваў як прыватны кравец, павінен быў далучыцца да "Атэлье мод", якім кіравала ўпраўленне тэкстыльнай прамысловасці[29].

Хуткі гаспадарчы рост 1940 г. часта тлумачацца адкрыццём новых фабрык ды заснаваннем савецкіх прафсаюзаў. На самой справе ён грунтаваўся перш за ўсё на выкарыстанні рэсурсаў мінулага[30]. У слаба індустрыялізаваных гарадах, да якіх належала і Гародня, гэта закранула перш за ўсё дробныя майстэрні. Габрэйскія слесары, краўцы, токары, кавалі, шаўцы, цесляры ды інш. былі фармальна сабраныя ў арцелі, але насамрэч працавалі звычайным спосабам. Шэраг новых прадпрыемстваў узнік у выніку адзяржаўлення некалькіх фірмаў: хлебапякарня, абутковая фабрыка, некалькі цагляных заводаў, фабрыка напояў, кравецкае прадпрыемства "Атэлье мод" ды інш.[31]

Рознічны гандаль быў нацыяналізаваны поўнасцю, што закранула перш за ўсё габрэйскае насельніцтва[32]. У выніку рэпрэсій у дачыненні да былых уласнікаў прыватных гаспадарчых структур забеспячэнне прадуктамі першай неабходнасці на пачатку восені 1939 г. поўнасцю правалілася[33]. Тым не менш, Гародні ўсё яшчэ належала роля галоўнага рынку рэгіёну. Праўда, зараз ён стаў "чорным". Нелегальныя кірмашы на вул. Скідзельскай и Грандзіцкай адыгрывалі такую ж важную ролю ў забеспячэнні горада прадуктамі харчавання, як ранейшыя легальныя базары[34].

Прадпрыемствы бытавога абслугоўвання і транспарт таксама былі нацыяналізаваны, і многія ўласнікі маленькіх фірмаў сталі беспрацоўнымі. Таксама працу згубілі сотні хатніх слуг, якія паходзілі з прылеглых вёсак. Наём на працу ў прыватных асобаў стаў незаконным. Як яны, так і тыя рамеснікі, якія не жадалі працаваць у калектыўных структурах, знаходзілі месцы на нацыяналізаваных фабрыках, дзе з 1940 г. улады імкнуліся замяніць старыя кадры новымі.

Апошняя вялікая хваля савецкай дэпартацыі мясцовага насельніцтва

[29] Adamuszko Władimir i inne. Zachodnia Białoruś... S. 95.

[30] Игнатенко И.М. История Белорусской ССР. Том IV. Минск, 1975, С. 98-101.

[31] Adamuszko Władimir i inne. Zachodnia Białoruś… S. 395

[32] Fatal-Knaani Tikva. The Jewish Community in Grodno and its Vicinity During the Second World War and the Holocaust 1939 – 1943. Jerusalem, 1995, S. 9-10.

[33] НАРБ. Ф. 4, воп. 21, ад.з. 1683. Арк. 103, 452.

[34] О борьбе против спекуляции. 25.11.1939 (Дзяржаўны архіў грамадскіх арганізацый Гарадзенскай вобл. Фонд 6119, воп. 1, ад. з. 366. Арк. 45).

адбылася ў чэрвені 1941. Успаміны тады яшчэ 17-гадовага Багдана Гарбачэўскага, які разам са сваім бацькам быў арыштаваны 19 чэрвеня, адлюстравалі пераход ад савецкай да нямецкай акупацыі гораду:

*“У нашым вялікім вагоне для перавозкі быдла размясцілася каля 50 чалавек. Акрамя нашай сям’і з чатырох чалавек там была сям’я інжынера Альбрэхта – бацька, маці і дзве дачкі. Таксама там апынулася габрэйская сям’я і селянін са сваёй сям’ёй. Змяшанае таварыства. Транспарт выйшаў з Гародні ў суботу перад поўначчу. Раніцай мы былі ў Ваўкавыску. Дзверы нашага вагона расчыніліся, і нам дазволілі прынесці вады. З маленькім вядром у пошуку вады я сустрэў дзяўчыну ў форме чыгуначніка і з павязкай Чырвонага Крыжа. Яна кажа: “Вайна з немцамі, Чэрэмха, памежная станцыя, ужо занятая немцамі”. З гэтымі звесткамі я вяртаюся ў вагон. Вельмі хутка пасля таго прыляцелі нямецкія самалёты і пачалі бамбіць чыгуначную станцыю, на якой мы стаялі. Ні адна бомба не трапіла ў наш вагон, але паблізу бомба ўпала на грузавы цягнік з тэкстылем. Ад выбуху дэфармаваліся рэйкі нашых дзвярэй, і вагон не мог больш зачыняцца. Частку даху таксама сарвала, таму мы мелі свежае паветра і адчыненыя дзверы.*

*Калі мы прыбылі ў Слонім, абвясцілі паветраную трывогу. Частка цягніка спынілася на мосце. Пад аховаю нашых вартаўнікоў […] мы пабеглі на сенажаць. Больш самалёты не вярталіся. Увечары мы былі ў Баранавічах. Горад ужо бамбілі. Уначы мы назіралі абарону гораду артылерыяй і пражэктарамі. Некаторыя будынкі каля вакзалу загарэліся. На досвітку самалёты адляцелі. Наш транспарт праехаў праз Баранавічы. Большасць маіх спадарожнікаў заснула. Я павінен быў сачыць, калі мы прыбудзем у Стоўпцы, дзе праходзіла старая польская мяжа. Там я павінен быў усіх пабудзіць, каб яны маглі развітацца з роднай зямлёй.*

*Перад вакзалам у Гарадзеі, прыкладна ў 9 км ад Баранавічаў нямецкія бамбардзіроўшчыкі дагналі наш цягнік. Ужо першая бомба трапіла ў цягнік і першы вагон, дзе ехалі ахоўнікі НКУС разам з нашымі дакументамі. Лакаматыў адчапіўся і пайшоў далей на ўсход. Цягнік зышоў з рэек, і вагоны трэсліся, перакульваючыся дагары коламі. Самалёты вярталіся і кідалі на цягнік запальныя бомбы. На жаль, вызваліцца змаглі пасажыры не ўсіх вагонаў. Дзверы замыкаліся так, каб нельга было іх адчыніць голымі рукамі. Здаецца, два вагоны згарэлі разам з дэпартаванымі. Між тым, вартаўнікі прымушалі нас чакаць. Яны сцвярджалі, што цягнік зноў паставяць на колы, і ён будзе рухацца далей. Цягнік спыніўся ў вельмі глыбокім катлаване, вакол якога была жывая агароджа, а за ім поле шырынёй 200 метраў. Калі я разам з дочкамі інжынера Альбрэхта пабег у поле, самалёты прыляцелі зноў і пачалі страляць па нас з кулямётаў. Адной з дачок куля прабіла руку, але не закранула*

*костку. Калі людзі з НКУС зразумелі, што гэта сапраўдная вайна, яны пакідалі свае фуражкі ў лесе і кінуліся ўцякаць ва ўсходнім напрамку. Мужчыны пайшлі ў бліжэйшую вёску і нанялі машыну, каб пагрузіць туды нашы ўратаваныя рэчы і размясціцца ў свіране”*[35].

Пешы пераход праз вёскі назад у Гародню працягваўся некалькі тыдняў. Багдан Гарбачэўскі, які пакінуў савецкую Гародню праз месяц вярнуўся ў горад, акупаваны нямецкімі войскамі.

Адысея Гарбачэўскага – гэта толькі адно апавяданне пра прымусовае высяленне жыхароў далучаных усходніх абласцей Рэчы Паспалітай, якое праводзілася 19 і 20 чэрвеня[36]. Яно сведчыць пра тое, што дэмаграфічныя страты горада былі абумоўленыя як савецкай, так і нямецкай акупацыямі. Адбываліся бамбардзіроўкі чыгуначных вузлоў і ваенных аб’ектаў. Дэпартаваныя, якія не згарэлі ў вагонах і не былі вывезеныя ў Казахстан, былі выратаваныя ад бедаў глыбокага савецкага тылу і змаглі вярнуцца на радзіму. Але для большасці дэпартаваных габрэяў быў адрэзаны апошні шлях выратавання.

Таксама варта заўважыць, што масавая мабілізацыя транспартных рэсурсаў для савецкіх “чыстак” сведчыць пра тое, што кіраўніцтва БССР, як і адміністрацыя Беластоцкай вобл. не былі падрыхтаваныя да вайны.

### *Нямецкая акупацыя*

З’яўленне нямецкіх самалётаў і танкаў 22 чэрвеня 1941 г. выклікала хаос[37]. І цывільнае насельніцтва, і вайскоўцы былі ахопленыя панікай. Частка габрэяў паспрабавала збегчы па дарозе, па якой з адступалі часткі Чырвонай арміі, памежнікі і гарадское кіраўніцтва. Жаданне збегчы ўзмацнялі звесткі пра тое, што адбывалася на захад ад нямецка-савецкай дэмаркацыйнай лініі і ўспаміны пра міграцыі 1915 г. Аднак у пешых бежанцаў шансаў на выратаванне амаль не было. Наступленне вермахту і авалоданне паветранай прасторай адбываліся так хутка, што гарады, якія знаходзіліся на адлегласці некалькіх дзённых пераходаў, ужо былі захопленыя немцамі[38].

Гарадзенцы ўжо летам адчулі новы характар нямецкай ваеннай кампаніі як вайны супраць цывільнага насельніцтва. За вермахтам ішлі аператыўныя атрады групы Б, паліцэйскія батальёны і асобая каманда СС. На гандлёвых плошчах буйных гарадоў і мястэчак ужо ў першыя дні

[35] Успаміны Багдана Гарбачэўскага (1997, Торунь. С. 5); Popiński Krzysztof, Kokurin Aleksandr, Gurjanow Aleksandr. Drogi śmierci. Ewakuacja więzniów sowieckich z Kresów Wschodnich II Rzeczypospolitej w czerwcu i lipcu 1941 r. Warszawa, 1995. S. 419.

[36] Yad Vashem Archive (YVA). M 10. 805 bzw. ZIH Ring. I Nr. 805. K. 1. Kowalska Ewa. Przeżyć aby wrócić! Polscy zesłańcy lat 1940 – 1941 w ZSRR i ich losy do roku 1946. Warszawa, 1998. S. 81.

[37] Blumstein Alexandre. A little house on mount carmel. London, 2002. S. 41-42.

[38] Turonek Jerzy. Białoruś pod okupacją niemiecką. Warszawa, 1993. S. 53-54.

вайны тысячы габрэяў станавіліся ахвярамі гвалту[39]. Хася Беліцкая разам з Броняй Вініцкай і Лізай Чапнік, будучымі сваімі сяброўкамі па падполлю ў гета, а пазней і партызанскай барацьбе на зваротнай дарозе з няўдалага бежанства былі папярэджаныя пра захоп вермахтам г. Слоніма[40]. 17 ліпеня 1941 г. салдаты 8 аператыўнай групы і 316 паліцэйскага батальёну расстралялі ў Слоніме 1 200 прадстаўнікоў габрэйскай інтэлігенцыі[41].

У першыя дні нямецкага панавання ў Гародні адбыліся расстрэлы габрэяў. Яны праводзіліся 9 спецыяльным атрадам (Einsatzkommando) аператыўнай групы Б (Einsatzgruppe B)[42]. Задачай групы была "ліквідацыя габрэйскіх і савецкіх функцыянераў". Перакананыя ў тым, што іудаізм і бальшавізм з'яўляюцца галоўнымі ворагамі немцаў, забойцы трактавалі габрэяў як патэнцыяльных бальшавіцкіх агентаў. Гэта адзначалася ў паведамленні шэфу службы бяспекі Райнхарду Гейдрыху 13 ліпеня 1941 г.: "У Гародні і Лідзе ў першыя дні вайны былі пакараны толькі 96 габрэяў. Я выдаў загад, што трэба значна [...] пашырыць пакаранні. Дзейнасць усіх каманд развіваецца здавальняюча. Перш за ўсё пашырыліся ліквідацыі, якія зараз адбываюцца даволі інтэнсіўна Правядзенне неабходных ліквідацый павінна быць забяспечана пры кожных абставінах"[43].

30 ліпеня Гімлер і Герынг асабіста інспектавалі Гародню і крытыкавалі недастатковую актыўнасць аператыўнай групы Б. Пасля гэтага ў горадзе адбыліся чарговыя забойствы габрэяў. На мове забойцаў Гародня, як і іншыя гарады рэгіёну, была "пад аховай паліцыі бяспекі"[44]. Паколькі нібыта ў Гародні "ліквідаваліся партыйныя работнікі, агенты НКУС, габрэі, крымінальнікі, рабаўнікі і сабатажнікі"[45], прыйшло таксама распараджэнне "ліквідаваць" мясцовых камуністаў, прадстаўнікоў габрэйскай інтэлігенцыі, а таксама пацыентаў габрэйскага шпіталю, дзіцячага прытулку і дому састарэлых[46].

---

[39] Headland Ronald. Messages of Murder: A Study of the Reports of the Einsatzgruppen of the Einsatzgruppen of the Security Police and the Security Service, 1941 – 1943. London, 1992. S. 197.

[40] Strobele Ingrid. Jüdische Frauen im Widerstand 1939 – 1945. Frankfurt am Main, 1998. S. 232.

[41] Klein Peter. Die Einsatzgruppen in der besetzten Sowjetunion 1941-1942. Die Tätigkeits- und Lageberichte des Chefs der Sicherheitspolizei und des SD. Berlin 1997. S. 379; Gerlach Christian. Kalkulierte Morde. Die Wirtschafts- und Vernichtstungspolitik in Weißrussland 1941 – 1944. Hamburg, 2000. S. 548.

[42] Ibidem. S. 538.

[43] Klein Peter. Die Einsatzgruppen… S. 41.

[44] Ibidem. S. 115.

[45] Ibidem. S. 137.

[46] Klarsfeld Serge. Documents concerning the murder of 29.000 Jews of Grodno by the Germans,

Сярод тых, каго падазравалі ў забойствах цывільнага насельніцтва, былі салдаты і афіцэры 9 спецыяльнай групы і 131 рэзервовага батальёна паліцыі (Reserve-Polizeitbataillon)[47]. Акрамя таго, у Гародні маглі адбывацца расстрэлы габрэяў войскамі вермахту, што пакуль не пацверджана[48]. Аднак няма сумневу, што "ліквідацыі" адбываліся з ведама і пад аховай вермахту[49].

Паколькі забойствы некаторых катэгорый габрэяў праводзіліся непасрэдна ў турме на Рынкавай плошчы і ў абарончых збудаваннях ("Фарты") на гарадской ваколіцы, падлічыць колькасць ахвяр, таксама як і ў выпадку з савецкімі ваеннапалоннымі, дакладна немагчыма. Вядома, што некалькі тысяч жыхароў Гародні знайшлі смерць увосень 1941 г. у 324 канцэнтрацыйным лагеры (Stalag), што месціўся ў казармах на гарадской ваколіцы, і 125 перасыльным лагеры (Dulag) паблізу в. Ласосна[50]. Апроч невялікіх лагераў у будынках былой крэпасці Фалюш і в. Кульбакі буйны канцэнтрацыйны лагер знаходзіўся паблізу в. Каўбасіна. Тэрыторыя былой ваеннай базы з ліпеня па лістапад 1941 г. была ператворана ў 353 канцлагер[51]. Вязні павінны былі хавацца ад непагоды і ветру ў ямах. Харчовае забеспячэнне не адпавядала самым мінімальным патрабаванням III Жэнеўскай канвенцыі. Жанчын, якія жылі па суседству і спрабавалі накарміць людзей, ахова праганяла. Умовы былі такімі жорсткімі, што позняй зімой тут паміралі ад голаду, дызентэрыі і тыфу да 100 ваеннапалонных у дзень.

Паколькі міжнароднае права парушалася вермахтам, і ніякая рэгістрацыя вязняў не праводзілася, немагчыма высвятліць іх колькасць[52]. Савецкая камісія па выяўленню злачынстваў нямецкіх акупантаў (1945 г.) шляхам апытання сведкаў і раскопвання масавых магіл назвала прыб-

1941 – 1943. Ghetto and Deportations to Death Camps Cologne and Bielefeld Trials, Paris, 1987, Том I. S. 79.

[47] На самой справе служба бяспекі Варшавы пад кіраўніцтвам оберштумбанфюрэра Адольфа Баніфера не магла прымаць удзелу ў гэтым забойстве, бо ён у гэты дзень знаходзіўся ў іншым месцы. Гл.: Klein Peter. Die Einsatzgruppen… S. 379; Curilla Wolfgang. Die deutsche Ordnungspolizei und der Holocaust im Baltikum und in Weissrussland 1941-1944. Paderborn, 2005. S. 862; Gerlach Christian. Kalkulierte Morde... S. 545.

[48] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 538.

[49] Dmitrów E. Oddziały operacyjne niemieckiej Policji Bezpieczeństwa i Słyżby Bezpieczeństwa a początek zagłady Żydów w Łomżyńskiem i na Białostoczyźnie latem 1941 roku // Machcewicz P. I Persaka K. Wokół Jedwabnego. T. 1. C. 350ff.

[50] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна; Рэд.кал.Г.П.Пашкоў, Я.М. Жэбрун, І.П.Крэнь і інш. Мінск: БелЭн, 1999. С. 376.

[51] Тамсама. С. 378.

[52] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 829

лізную лічбу – 14 тыс. чал.[53] Але яе трэба прызнаць прыблізнай, бо на тэрыторыі вайсковых могілак яшчэ Першай сусветнай вайны закопвалі таксама целы забітых гарадзенцаў. Вялізарны маштаб нямецкіх рэпрэсій і іх бязлітаснасць былі відавочнымі для насельніцтва[54]. Узімку, калі штодзённа памірала да 100 салдат, іх закопвалі таксама ў вялікіх ямах паблізу лагера[55]. Па ходу падрыхтоўкі "Акцыі Райнхарда" па пераўтварэнню канцлагера ў Каўбасіне ў перасылачны лагер для габрэяў, настойліва рэкамендавалася не пакідаць у жывых нікога з вязняў[56].

Указам Адольфа Гітлера ад 1 жніўня 1941 г. Беластоцкая акруга была далучаная да Германіі і апынулася ў адміністратыўных межах Усходняй Прусіі. Шэфам цывільнага кіравання стаў гаўляйтэр Эрык Кох. З Кёнігсберга прыспешвалі ствараць дзяржаўныя структуры ў Беластоку, каб ажыццявіць поўнае далучэнне акругі. І ўсё ж яна заставалася асобнай адзінкай з уласнымі ўладнымі структурамі, якія падпарадкоўваліся Усходняй Прусіі толькі ў галіне пошты, ляснога і мытнага ведамстваў[57].

Непасрэднае далучэнне да Усходняй Прусіі адбывалася праз персанальнае заняцце пасадаў цывільнага кіравання, а таксама пасадаў у СС і нацыянал-сацыялістычнай партыі службоўцамі з Кёнігсберга, Аленштайна, Тыльзіту, Гумбінена, Бартэнштайна, Проскена і Мемеля[58]. У Гародню і Беласток ужо 10 жніўня былі прызначаныя службоўцы аховы і паліцыі бяспекі, якія прадстаўлялі філію дзяржаўнай паліцыі ў Аленштайне. Паколькі Беласток знаходзіўся на адлегласці 300 км ад гэтага горада і кіраваць працай было немагчыма, то пазнейшы кіраўнік гестапа Беластока (Kommandeur des Sicherheitsdienstes KdS) др Вільгельм Альтэнлох пасяліўся разам са сваімі супрацоўнікамі ў Мемеле[59]. Ён быў падначалены Галоўнай імперскай канцылярыі бяспекі ў Берліне і меў права аддаваць распараджэнні інспектару службы бяспекі ў Кёнігсбергу, а таксама шэфу цывільнага кіраўніцтва. У Гародні знаходзілася філія службы бяспекі (KdS), якой кіраваў спачатку Хайнц Эрэліс, а потым Шот.

Пазней сваю дзейнасць у гарадах, створанай акругі, пачала паліцыя аховы парадку (Schutzpolizei). На вёсцы дзейнічала жандармерыя, якой

[53] Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобл. (ДАГВ). Фонд 6126, воп. 6, ад. з. 25. Арк. 1-14.

[54] Blumstein Alexandre. A little house on mount carmel. S. 128-129.

[55] YVA JM / 10645. Арк. 30-49.

[56] У СССР пасля Другой сусветнай вайны ваеннапалонныя, якія яе перажылі, былі рэпрэсаваныя. У аповедах пра вайну пра іх не згадвалі. Адпаведна захавалася зусім мала сведчанняў.

[57] Bender Sara. The „Reinhardt Action" in the „Białystok District" // in: Anders Freia. Bialystok in Bielefeld Nationalsozialistische Verbrechen vor dem Landgericht Bielefeld 1958 bis 1967. Bielefeld, 2003. S. 186-208.

[58] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том II. 19-239. Band 4. S. 537-538.

[59] Ibidem. S. 539.

камандаваў начальнік паліцыі аховы парадку. Цывільная ўлада таксама перадавалася дасведчаным службоўцам з Усходняй Прусіі. Так было з намеснікам Эрыка Коха ў Беластоку др Брыксам з Тыльзіту, а таксама з іншымі камісарамі ўсходнепрускіх ландратаў[60].

Тым не менш партыя нацыстаў дарэмна клапацілася пра стварэнне ў Беластоцкай акрузе разгалінаванай сеткі нямецкіх чыноўнікаў[61]. Іх можна было рэкрутаваць толькі з чыноў паліцэйскага апарата, цывільнага кіраўніцтва, а таксама з нешматлікіх немцаў, якія займаліся бізнесам пад наглядам адміністрацыі акругі[62]. Адміністрацыйныя межы паветаў і валасцей істотна змяніліся. Гародня стала цэнтрам кіравання 12 адміністрацыйных адзінак, якія ўзначальваліся нямецкім камісарам[63]. А ось структура сельскіх валасцей засталася нязменнай[64]. Агульная колькасць кіраўніцтва на тэрыторыях, якія раней належалі БССР, была адносна нязначнай. Яна была найбольшай у раёне Беластоку, бо там на ўсходзе і поўначы праходзілі мытныя межы Рэйху[65]. Праведзеныя да ліпеня 1941 г. змены ў валоданні зямлёй і іншай маёмасцю былі прызнаныя законнымі, г.зн., што савецкія экспрапрыяцыі захавалі моц[66].

Стварэнне гета ў цэнтры Гародні і яшчэ аднаго на гарадской ваколіцы (“Слабодка”) азначала рэальны крок да разбурэння гарадскога мікракосмасу. На падставе сегрэгацыі, якая была важным элементам нямецкай акупацыйнай палітыкі, мясцовых жыхароў трэба было спачатку падзяліць, а потым вызначыць межы іх узаемадзеяння.

Асобнай старонкай палітыкі акупантаў быў нагляд цывільнага кіраўніцтва, органаў паліцыі і нават зацікаўленых асобаў за станам габрэйскай супольнасці. З самага пачатку нямецкі апарат адрозніваў габрэйскае і не габрэйскае насельніцтва. Першае вызначалася, згодна Нюрнбергскім пастановам, “расава-біялагічна”. Пасля вызначэння расавых крытэрыяў і заснавання ў лістападзе 1941 г. двух гарадзенскіх гета сегрэгацыя ўзмацнілася. Свайго апагею яна дасягне ў наступным годзе.

Дыскрымінацыйная палітыка трымала габрэяў Гародні ў страху[67]. Ужо напрыканцы чэрвеня ў Гародні было загадана ўсім габрэям насіць жоў-

---

[60] Ibidem. Том IV. S. 529.

[61] ДАГВ. Фонд 1, воп. 1, ад.з. 72. Арк. 5.

[62] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том IV, S. 532-533, Том IV. S. 426-438.

[63] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 33. Арк. 36.

[64] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 363.

[65] Ibidem. S. 175-176.

[66] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 15. Арк. 4, 12; Ад.з. 72, арк. 35-40.

[67] Інтэрв’ю з Броняй Клябанскай, праведзенае 14.12.2004 г. у Ерусаліме; Zandman Felix. Nie die letzte Reise. S. 66-68; Blumstein Alexandre. A little house on mount carmel. S. 101-123.

тую нашыўку ў форме зоркі Давіда[68]. У ліпені ім было забаронена крочыць па тратуарах. Дамы і кватэры габрэяў павінны былі быць пазначаныя. Усё гэта сведчыла пра вялізарны размах прыніжэння. Ягоны эфект быў відавочным, бо тычыўся адносінаў да габрэяў не толькі акупантаў, але і мясцовых жыхароў.

Большасць гарадзенскіх габрэяў яшчэ жыла ў сваіх кватэрах і магла адносна свабодна рухацца па гораду[69]. Але ў іх і надалей працягвалі адбіраць абмежаваную свабоду. Прымусова ўтвораны юдэнрат абавязалі пастаўляць мэблю, хатнія рэчы і бялізну для ўстаноў дзяржаўнай паліцыі і ўладкавання яе супрацоўнікаў[70]. 14 красавіка 1942 г. усё габрэйскае насельніцтва павінна было здаць свае веласіпеды цывільнаму кіраўніцтву Гародні[71].

Юдэнраты былі абавязаныя пры рэгістрацыі габрэяў дзяліць іх на катэгорыі “працаздольных” і “непрацаздольных”. Гэта было важна для практыкі будучых забойстваў. Сувязь паміж “расавымі” і эканамічнымі крытэрыямі прасочвалася ў дакладзе служачага палявой камендатуры вермахта капітана Нікескі, складзеным амаль адразу пасля захопу гораду: *“Габрэі паўсюдна – дзёрзкія і самаўпэўненыя. Бядуюць з-за голаду і маюць хованкі, напханыя прадуктамі, якімі дзеляцца паміж сабой [...] Заснаванне гета абсалютна неабходна, бо спекулюючы і хаваючы прадукты, яны пазбаўляюць ад іх працавітае насельніцтва. На жаль, гета не заснаваны”*[72].

Недахоп працы і мінімальнае ўзнагароджанне абярнуліся голадам яшчэ да ўтварэння двух гета. Абурэнне спекуляцыяй харчовымі прыпасамі сведчыць пра тое, што некаторая частка габрэяў нават ва ўмовах нямецкай акупацыі захавала сувязь з жыхарамі навакольных вёсак. Паводле дамоўленасці з біржай працы, юдэнрат адказваў за дастаўку працоўных сіл і іх забеспячэнне прадуктамі харчавання. Служачыя адміністрацыі маглі патрабаваць рабочыя рукі не толькі для сваіх устаноў, але і для асабістых мэтаў. Напрыклад, кіраўнік мытні мог атрымаць некалькіх габрэяў для асабістага выкарыстання[73].

1 лістапада 1941 г. у Гародні былі заснаваныя гета, што дазваляла больш эфектыўна эксплуатаваць працу габрэйскага насельніцтва. Як сцвярджаў у сваім даследаванні нямецкай эканамічнай палітыкі і палітыкі знішчэння на беларускіх землях Хрысціян Герлах, габрэі былі ў поўным

[68] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том I. S. 22.

[69] Ibidem. Том II. S. 136

[70] Ibidem. Том II. S. 194.

[71] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 15. Арк. 183.

[72] Bundesarchiv Abteilung Militärarchiv Freiburg. F 43059. Арк. 190; Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 527.

[73] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том II, S. 263-264.

распараджэнні немцаў яшчэ да стварэння гета. Фармальнае рашэнне было прынятае ў штабе Аленштайна і павінна было служыць далейшай сегрэгацыі. Запозненае стварэнне гета ў Гародні (у параўнанні з Ваўкавыскам альбо Слонімам) абумоўленае тым, што Гародня не была так моцна разбурана як іншыя павятовыя гарады. Недахоп жылля тут стаўся праблемай толькі падчас перасялення служачых нямецкіх установў[74].

Таксама трэба ўлічваць пэўныя прагматычныя і ідэалагічныя падставы. Як у нацыянал-сацыялістычнай рыторыцы тлумачылася неабходнасць цкавання габрэяў, можна зразумець пры дапамозе аднаго з паведамленняў у Берлін з нагоды перадачы акупаваных тэрыторый ў цывільнае кіраванне: “*Зараз яны [габрэі – рэд.] атрымліваюць заслужаную расплату за ўсё ранейшае выхвалянне і прыціск насельніцтва. У гэтай краіне яны былі і застаюцца асноўнымі носьбітамі разлажэння і бруду ў кожным сэнсе. Ізаляцыя габрэяў ад іншага насельніцтва падаецца неабходнай. Яны павінны працаваць па прычыне ўласцівай іх прыродзе баязлівасці. [...] Кіраванне гэтай старажытнай народнай барацьбой пры адначасовым выкараненні іудаізму з’яўляецца сродкам татальнай палітычнай і гаспадарчай пацыфікацыі гэтых тэрыторый*[75].

1 лістапада гарадзенскі бургамістр выдаў загад пра перасяленне ў гета. Яшчэ раней юдэнрат павінен быў размеркаваць жыллё. Перасяленне, якое пачалося на наступны дзень, было першай праявай “расава-этнічнага” прынцыпу ў дэмаграфічным ператварэнні Гародні. 2 лістапада хрысціянскае насельніцтва назірала з вакон, як з усіх бакоў на Рынкавую плошчу збіраліся людзі са сваёй маёмасцю. Там заканчвалася доўгая чарга ў гета № 1, уваход у якое знаходзіўся паміж Гарнізонным касцёлам і Цесным завулкам[76].

З лістапада 1941 г. прыкладна 15 тыс. чал. жылі на краю старога горада паміж вуліцамі Замкавай, Гараднічанскай і Віленскай. Гаворка ідзе пра гістарычны габрэйскі квартал, дзе і да 1939 г. жыло шмат габрэяў. Тут знаходзілася харальная сінагога, некалькі габрэйскіх школ і ўстаноў. На схіле р. Гараднічанкі былі старыя габрэйскія могілкі. Заснаванне гета № 1 каля Рыбнага рынку азначала далейшае сціскане гэтага квартала, які яшчэ раней быў моцна забудаваны і шчыльна заселены да самага схілу.

Пасля прымусовага перасялення тысяч гарадзенцаў умовы жыцця яшчэ больш пагоршыліся. Не хапала жылых памяшканняў, ежы і вады. У сярэднім больш за 2 тыс. чал. жылі на плошчы 100 кв. метраў пераважна ў трохпавярховых драўляных будынках. Напрыклад, у старым двухква-

[74] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 527.

[75] BA-MA 57 076, арк. 169f. Цытата па Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 529

[76] Blumstein Alexandre. A little house on mount carmel. S. 109.

тэрным доме жылі 100 чалавек[77]. Паколькі ў гета № 1 былі сабраны ў асноўным тыя з гарадзенскіх габрэяў, хто меў прафесію і класіфікаваўся як “карысны”, штодзённа большая частка людзей пакідала гета і шэрагамі накіроўвалася на прымусовую працу. На адваротным шляху спачатку, нягледзячы на моцную рызыку, яшчэ існавала магчымасць нелегальна праносіць прадукты[78].

Паколькі больш людзей гэтая тэрыторыя ужо ніяк не магла прыняць, было заснаванае гета № 2 за чыгуначнымі рэйкамі квартала “Слабодка”. Першапачаткова вуліцы скідальскага напрамку мелі лепшыя ўмовы для жыцця, бо тут жыло каля 10 тыс. чал. на амаль такой самай плошчы. Пераважалі драўляныя дамы, акружаныя садамі. Яны таксама былі перапоўнены, але ўсё ж такі вясной 1942 г. яшчэ існавала магчымасць пасадзіць хоць трохі гароднiны. У гета № 2 таксама было створана аддзяленне юдэнрату, якое імкнулася зменшыць жыццёвыя нагоды, адказвала за грамадскі парадак і арганізацыю працы. Але ўнутры панавала самавольства паліцыі.

Юдэнрат пад кіраўніцтвам паважанага адваката доктара Бравера імкнуўся выконваць распараджэнні цывільнага кіраўніцтва горада і гестапа такім чынам, каб максімальная колькасць жыхароў гета была забяспечана працай і хаця б мінімальнай колькасцю прадуктаў. Юдэнрат і яго філія ў гета № 2 вялі таксама кнігі народжаных і памерлых.

Адначасова юдэнрат пад прымусам нямецкай адміністрацыі быў вымушаны прымяняць сілу ў дачыненні да саміх габрэяў дзеля збору матэрыяльных сродкаў і падрыхтоўкі жыхароў гета да дэпартацыі. Габрэйская паліцыя бяспекі прызначалася юдэнратам і дзейнічала ў межах гета, каб забяспечыць рэалізацыю атрыманых распараджэнняў. Сябры юдэнрату адказвалі ўласным жыццём за іх выкананне. Пры гэтым габрэйская паліцыя дзейнічала ў “шэрай зоне” паміж дапамогай і калабарацыянізмам і па меры радыкалізацыі нямецкай палітыкі ўсё менш кантралявалася юдэнратам[79].

Жыццё ў гета, калі параўноўваць яго з існаваннем габрэяў на тэрыторыі Генеральнага губернатарства, нягледзячы на хваробы, жах і голад, было значна лепшым і характарызавалася адносным спакоем. Перш за ўсё юдэнрат здолеў забяспечыць людзей пэўным мінімумам харчавання. Не было эпідэмій. Адпаведна ўзровень смяротнасці быў спачатку значна ніжэйшым чым, напрыклад, сярод жыхароў Варшавы ці Лодзі. Паўсядзённасць была запоўнена барацьбой за выжыванне і спробамі знайсці працу па найму для некалькіх тысяч чалавек. Тайныя школы і падобныя культурныя інстытуцыі ў цалкам сегрэгаваным горадзе спа-

[77] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том II, S. 128.

[78] YVA, 03-8663 арк. 3.

[79] Fatal-Knaani Tikva. Grodno is not the Same. The Jewish Community in Grodno and its Vicinity During the Second World War and the Holocaust 1939-1943. Jerusalem, 2001. S. 14.

чатку былі надзвычай рэдкімі. Многія жыхары гета ўжо згубілі надзею, але апатыя ахапіла не ўсіх. Доўгі час актыўнасць праяўлялі некалькі даваенных моладзевых саюзаў.

Пазней сітуацыя пачала змяняцца: “Неўзабаве пасля таго, як мы мусілі пайсці ў гета, на сходзе было прынятае рашэнне, па-першае, сабраць дзяцей і працаваць над іх выхаваннем. Мы бачылі, як дзеці бадзяліся па гета і дэмаралізоўваліся. На пачатку мы зноў арганізавалі групы, вучылі іх, чыталі разам кнігі. Першымі навучэнцамі былі дзеці з Габрэйскай сіяністкай арганізацыі моладзі (“Хашамер Хацаір”). Потым ім дазволілі прыводзіць сваіх сяброў і каго пажадаюць”[80].

У гета збіралася і хавалася зброя для магчымага супраціўлення, наладжваліся кантакты з гета ў Вільні і Беластоку. Супраціў доўгі час не ўваходзіў у планы. Хася Беліцкая ўспаміна: “Я не магу сцвярджаць, што існавала тэндэнцыя заставацца і змагацца. Маладыя людзі збіраліся збегчы [...] Але людзей дзесяткамі расстрэльвалі за спробы пабегаў”[81].

Стратэгія юдэнрату, які спадзяваўся ратаваць людзей у абмен на супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі, супярэчыла настроям моладзі. Апошняя ведала пра дэпартацыі, лагеры смерці, ліквідацыю іншых гета, была перакананая, што ўсе яны стаяць у смяротнай чарзе і рыхтавалася ўзяцца за зброю. Умовы для ваеннага змагання ў лясістых раёнах былі горшымі не з-за недахопу зброі, а па прычыне варожага стаўлення польскага руху супраціву. Такім чынам, у Гародні з’явіліся актывісты супраціву. Па меры ліквідацыі гета яны перанеслі дзейнасць у гета Беластоку[82].

Паколькі праца габрэяў, асабліва рамеснікаў, выкарыстоўвалася і надалей, мясцовыя прадпрымальнікі былі заклапочаныя размеркаваннем рабочых з гета. Кіраўнік службы бяспекі Беластоку быў схільны выкарыстоўваць як найбольш габрэяў на прымусовай працы на ваенных прадпрыемствах. Пры тым, што, напрыклад, фабрыкі ў Беластоку мелі большае значэнне, чым прадпрыемствы Гародні[83]. Яны апрацоўвалі скуру для абутку і вопраткі, шылі мундзіры, апрацоўвалі дрэва і выраблялі цыгарэты для патрэб фронту[84]. Пасрэднікам была біржа працы, падначаленая цывільнаму кіраўніцтву. Яна давала 50% прыбытку ў гарадскі бюджэт[85].

[80] Strobele Ingrid. Jüdische Frauen im Widerstand 1939 – 1945. Frankfurt am Main, 1998. S. 251-252.

[81] Ibidem. S. 290.

[82] Patterson David, Grossman Vasili. The Complete Black Book of Russian Jewry. London, 2002, S. 201-202.

[83] ДАГВ. Фонд 15, воп. 1, ад.з. 32. Арк. 1-54.

[84] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 659.

[85] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 43. Арк. 16.

Напрыканцы 1941 г. доля габрэйскіх рамеснікаў і рабочых у горадзе яшчэ складала 41% працоўных[86]. Аднак на ўсё большай колькасці прадпрыемстваў улады імкнуліся замяніць габрэяў хрысціянамі, прыгнанымі на прымусовыя працы. Прыватныя гаспадары былі пазбаўленыя права прымаць габрэяў на працу.

Габрэйскае насельніцтва выжывала дзякуючы кантрабандзе прадуктамі харчавання, якая грунтавалася на абмежаваным таварным абмене з наваколлем, што было значна лягчэй арганізаваць, чым у Варшаве альбо Лодзі[87]. У межах гета існавалі нефармальныя камерцыйныя структуры. Там гандлявалі, рамантавалі і выраблялі тавары. Вядома, што ў тагачасных умовах існаваў вельмі абмежаваны рынак паслуг. Але і горад выкарыстоўваў гаротны стан вязняў. Служачыя нямецкай акупацыйнай улады яшчэ да восені 1942 г. заходзілі ў гета, каб наведаць стаматолага. У гета дазвалялася чыніць вопратку і хатнія рэчы, набываць не канфіскаваныя каштоўнасці[88].

2 лістапада 1942 г. кіраўніцтва справамі гета было перададзена шэфу гестапа[89]. Гародня канчаткова ператваралася ў прастору гвалту, у якой габрэйскае жыццё нічога не было варта[90]. Рабочыя ўжо не маглі пакідаць гета № 2. Паліцыя аховы была ўзмоцненая. Выхад з тэрыторыі гета караўся смерцю.

Камендант гета № 1 Курт Візэ, як і яго калега з СС камендант гета № 2 Стрэбелаў належалі да абмежаванага кола служачых, блізкіх да Хайнца Эрэліса. Аднойчы яны падышлі да рабочых, што чакалі каля варот гета, і пачалі страляць з пісталетаў-кулямётаў. 12 чалавек былі забітыя[91]. Праз два тыдні, калі хрысціяне-гарадзенцы перадавалі праз вароты “Слабодкі” прылады працы сваім габрэйскім калегам, Візэ зноў страляў у габрэяў[92]. Пісталет-кулямёт быў яго пастаянным спадарожнікам.

Перамены сведчылі пра набліжэнне поўнага знішчэння габрэйскай супольнасці рэгіёну. У першыя дні лістапада былі зліквідаваныя ўсе блізкія да Гродна гета, а іх жыхары апынуліся ў былым лагеры знішчэння ў Калбасіне. Там было каля 23,4 тыс. габрэяў, у т.л. 2330 са Скідалю, 1969 з Астрына, 1549 з Лунны, 1370 з Азёраў, 805 з Друскенікаў, 539 з Сабакінцаў, 417 з Каменкі, 234 з Парэчча, 109 з Хацінкі, а таксама, верагодна, 14,1 тыс. жыхароў гета Сакулкі і Індуры[93]. Акупанты ўжо не рызы-

[86] Ольга Соболевская. Типы межэтнических взаимодействий народов Западной Беларуси в годы Великой Отечественной войны (рукапіс). С. 16.

[87] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 673.

[88] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 72. Арк. 2; Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том I. S. 235, 286.

[89] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том IV. S. 552.

[90] Ibidem. Том I. S. 100.

[91] Ibidem. Том I. S. 57-58, Том IV. S. 597-598.

[92] Ibudem. Том I. S. 23-24.

[93] ДАГВ. Ф.1, воп. 1. ад.з. 54. Арк. 38.

кавалі забіваць габрэяў у Беларусі. У Калбасіне людзі чакалі цягнікі для перавозкі ў лагеры знішчэння на тэрыторыю Генеральнага губернатарства. Умовы жыцця перасылачнага лагеру былі жахлівымі[94]. Выкарыстоўваліся ямы, дзе раней “жылі” савецкія ваеннапалонныя. Па сведчанням выжыўшых, штодня выдавалі 250 грамаў хлеба і 1 літр супу[95]. Вязні змагаліся з холадам і голадам. Пры гэтым адбываліся самавольныя расстрэлы і штодзённае прыніжэнне вязняў камендантам лагера Рынцлерам[96].

Жыццё вязняў гета № 2 цалкам залежала ад выдадзеных юдэнратам дакументаў пра працоўную кваліфікацыю і тым самым пра “карыснасць” чалавека. Паколькі рамеснікі, рабочыя і іх сем’і канцэнтраваліся ў старой частцы гораду, то жыхары гета № 2 прыкладалі вялікія намаганні, каб перайсці туды[97]. Але толькі каля 1 тыс. (з 8 тыс.) вязняў былі кваліфікаваныя як “працаздольныя” і пераведзеныя ў гета № 1. У марозны дзень яны рухаліся па гораду і Рынкавай плошчы, каб знайсці начлег ва ўжо перапоўненым гета.

Каля 4 тыс. чал. былі накіраваныя ў канцлагер у Калбасіна[98]. Астатнія вязні гета № 2 17 і 22 лістапада былі вывезеныя ў Аўшвіц. Яны прыбылі ў лагер смерці 18 і 25 лістапада. 663 чал. трапілі ў канцлагер, іншыя былі адразу атручаныя газам[99]. Пазней і астатнія габрэі былі дэпартаваныя з Гародні. 9 снежня 1942 г. гета № 2 было “ачышчана”[100]. У Калбасіна таксама было пераведзена каля 100 “непрацадзольных” з гета № 1. Па дарозе ў лагер калісьці паважаных грамадзян прымушалі граць на скрыпцы і спяваць песню “Ідл мітн Фрідл”[101].

Захаванне сярод дакументаў ведамства дзяржаўнай чыгункі звестак пра рух цягнікоў, якія Эйхманаўскае аддзяленне галоўнага штабу паліцыі бяспекі перадавала дырэкцыі чыгуначнага руху ў Кёнігсбергу, дазваляе зрабіць рэканструкцыю прынамсі некалькіх перавозак. Можна сцвярджаць, што з перасылачнага лагера ў Калбасіне паміж 9 лістапада і 20 снежня 1942 г. у лагер смерці Трэблінка былі адпраўленыя чатыры цягнікі. Лагер быў прызначаны для забойства ўсіх дэпартаваных у самы кароткі тэрмін. Выключэннем былі толькі тыя, каго абралі для прымусовай працы. Але і яны не мелі шансаў выжыць у Трэблінцы. Спроба дэпарта-

[94] Anders Freia. Białystok in Bielefeld… S. 197-199.

[95] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том IV. S. 355.

[96] Ibidem. Том I. S. 449.

[97] Blumstein Alexandre. A little house on mount carmel. S. 161, Zandman Felix. Nie die letzte Reise. S. 87.

[98] Anders Freia. Białystok in Bielefeld... S. 200.

[99] Czech Danuta. Hefte von Auschwitz. Oświęcim, 1960. S. 101-103.

[100] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том VI. S. 241.

[101] YVA. 03 / 8666, арк. 6.

ваных з Гародні зімой 1942 г. абараняцца ручнымі гранатамі скончылася іх забойствам[102].

Цягнікі прыбывалі ў Аўшвіц з Калбасіна 9 і 14 лістапада, 2 і 8 снежня. 15 снежня на некалькі тыдняў перапынілася адпраўка транспарту “Акцыі Рэйнхарда”, паколькі пагоршылася сітуацыя нямецкай арміі пад Сталінградам і актывізаваўся рух нямецкіх салдат, якія накіроўваліся ў адпачынак на Ражство[103]. Лагер у Калбасіне не быў падрыхтаваны для ўтрымання вязняў узімку, таму прыкладна 1 тыс. чал. былі пераведзеныя ў гарадзенскае гета[104].

Насуперак погляду, які шырока распаўсюджвалі служачыя СС і гестапа, што Аўшвіц з’яўляецца вялікім папраўча-працоўным лагерам, няма сумнення ў забойчай сутнасці дэпартацый. На Беластоцкім працэсе супраць Эрэліса, Візэ, Альтэнлоха і іншых служачых мясцовага аддзялення службы бяспекі, які адбываўся з 1966 па 1968 г. у Білефэльдзе, было даказана, што толькі некаторыя вязні, што прыбылі першым транспартам у Трэблінку не ведалі дакладна, што іх вязуць на смерць[105].

Паводле паказанняў сведкаў і злачынцаў, забойствы пачыналіся ўжо ў горадзе.

У памяці выжыўшых засталася асаблівая скрупулёзнасць і выразная прага да забойстваў Візэ. Калі узімку 1943 г. ён уваходзіў у гета, вязні імкнуліся схавацца[106]. Казалі, што Візэ забівае нават на вуліцы. Пры гэтым нават у 1966 г. ён спасылаўся на загад Эрэліса караць смерцю за самыя нязначныя парушэнні нямецкіх прадпісанняў. Каля ўваходу ў гета пасля вобыскаў расстрэльваліся вязні, якія спрабавалі пранесці прадукты. Пры гэтым Візэ прымушаў іх ісці спераду, каб стрэліць са спіны. Уцёкі з гета таксама караліся смерцю, і для запалохвання часта выконваліся ў гета. “Візэ быў вядомы ў Гародні як уладар жыцця і смерці,” – гэта словы яго калегі з пратакола допыту[107]. Ён не спыняўся нават перад забойствам дзяцей і жанчын.

Падчас судовага працэсу высветліліся абставіны публічнага смяротнага пакарання маладой гарадзенкі Лены Прэнскай, якую павесілі разам з двума мужчынамі (Спіндлер і Друкер) на бэльцы балкона дома на Рыбным рынку. Візэ не абвяргаў факт забойства, але і тут спасылаўся на загад Эрэліса.

Нягледзячы на тое, што на падставе тагачаснага крымінальнага права

---

[102] YVA. 03 / 1558, арк. 7

[103] Anders Freia. Białystok in Bielefeld...; Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том IV. S. 555.

[104] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том II. S. 98.

[105] Ibidem. Том IV. S. 572-575.

[106] YVA, 03-8663 арк. 4.

[107] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том II. S. 151.

Федэратыўнай Рэспубліці Германіі суд апраўдаў Візэ, ягоны ўдзел у забойствах быў даказаны шматлікімі сведкамі, якія не прыехалі ў Білефэльд. Яны, дарэчы, сцвярджалі, што Візэ не быў адзінкавым фанатычным злачынцам, што ў гестапаўскім тэроры вінаваты таксама Эрэліс, яго пераемнік Шот, таксама як Стрэблаў і камендант лагеру ў Калбасіне Рынцлер[108]. Прычынай таго, што менавіта гэтыя імёны засталіся ва ўспамінах і трапілі ў гістарычныя працы, было тое, што менавіта іх габрэйскае насельніцтва лічыла асабліва небяспечнымі і адразу пазнавала ў выпадку з'яўлення[109].

З увядзеннем гестапаўскага рэжыму умовы жыцця выразна пагоршыліся. Гвалт дасягнуў апагею, калі ў 1943 г. пачалася канчатковая ліквідацыя гета. З Беластоку прыбылі выканаўцы шматлікіх акцый знішчэння. Яны збіралі вязняў вакол харальнай сінагогі. Але людзі пачалі хавацца. Габрэйская паліцыя звярнулася да гестапа і паліцыі з просьбай дапамагчы Тых, каго не маглі знайсці, замянялі выпадкова схопленымі людзьмі. Калі раней гвалт чыніўся каля ўваходу ў гета і на Рыбным рынку, то зараз ужо сінагога стала сведкам жахлівых сцэн. Перад высылкай тысячы чалавек ўтрымліваліся гадзінамі ў гэтым будынку. Яны чакалі адпраўкі на грузавую платформу таварнай станцыі Ласосна. У сінагозе таксама адбываліся расстрэлы. Менавіта там быў расстраляны старшыня юдэнрата др. Бравер і многія яго супрацоўнікі. Сведкі таксама прыгадвалі выстралы ў натоўп, сабраны ў сінагозе. Адзін з тых нешматлікіх габрэяў, які выжыў і быў адпраўлены ў Трэблінку, успамінаў:

"*Пасля таго, як у студзені 1943 г. на працягу пяці дзён былі дэпартаваныя больш за 10 500 чалавек, у гета засталося каля 2 500 габрэяў легальна і прыкладна столькі ж схавалася. 12 лютага 1943 г. усім непрацуючым мужчынам і жанчынам загадалі з'явіцца ў суботу ў 7 раніцы на Рынкавую плошчу. У гэты час пастаянна занятыя рабочыя ўжо пакінулі гета, і было спешна абвешчана пра яго закрыццё. З'явіліся Стрэблаў і Візэ, і пачалася адна з самых жудасных акцый. На вуліцы выганялі ўсіх габрэяў, якія яшчэ заставаліся ў гета. Пры гэтым старых і хворых забівалі адразу. Да такіх учынкаў усе ўжо паспелі прызвычаіцца. Але чутка пра тое, што гэта апошняя дэпартацыя, кідала ўсіх у паніку. Аднак прыйшлі рабочыя, якія скончылі працу, а таксама чальцы юдэнрата прывялі тых, хто хаваўся ў розных памяшканнях. Сінагога стала зборным пунктам. Нікога з 1 500 чалавек, прызначаных на дэпартацыю, раніцай на вуліцы не было: усе хаваліся. Гета ліквідавалі з дапамогай габрэйскіх паліцэйскіх, якія выкрывалі ўсе вядомыя ім сховішчы*"[110].

Гэта паказанне пацвярджаецца іншымі крыніцамі. У студзені 1943 г.

[108] Ibidem. Том IV. S. 601-603.

[109] Ibidem. Том I. S. 20, 37, 90,96, 107, 125, 133-134, 315-316.

[110] YVA. 11 M / 19, арк. 1.

каля 10 тыс. вязняў былі дэпартаваныя ў Аўшвіц[111]. У гэтым лагеры з 30 тыс. былых жыхароў Беластоцкай акругі адабралі толькі тысячу з невялікім для розных працаў. Астатнія былі знішчаныя. У сярэдзіне лютага транспарт з больш чым 4 тыс. чал. быў накіраваны ў Трэблінку[112]. Толькі падчас лютаўскай дэпартацыі было забіты больш за 100 чал.[113]

Апошні транспарт (1 148 чал.), сярод якіх былі высокакваліфікаваныя рабочыя і паліцыя, выехаў ў сакавіку 1943 г. у беластоцкае гета[114]. Дэпартаваныя з Гародні падзялілі лёс іншых вязняў. Прымусовая "зачыстка" ў жніўні спецыяльна дасланай камандай СС разам з шэфам паліцыі Люблінскай акругі Аділам Глабоцнікам, які потым удзельнічаў у знішчэнні габрэйскага насельніцтва Генеральнага губернатарства і падаўленні паўстання ў Варшаўскім гета, сведчыць, што знішчэнне габрэйскай супольнасці Беластоцкай акругі было апошнім эпізодам "Акцыі Рэйнхарда"[115].

Паводле падлікаў камісара Гарадзенскага павета фон Плётца, у сакавіку 1943 г. колькасць дэпартаваных гарадзенскіх габрэяў складала 20 577 чал.[116] Гэта адпавядала колькасці габрэяў, што засталіся ў Гародні ў 1941 г. Дакументы зафіксавалі таксама групу з 14 тыс. дэпартаваных, якія былі вывезеныя з Гародні і Каўбасіна на тэрыторыі Генеральнага губернатарства. Верагодна, гэта былі людзі схопленыя ў ваколіцах гораду і дастаўленыя ў гета.

Паводле нямецкай статыстыкі, былі расстраляныя 238 чал. з акругі, 700 чал. памерлі, 300 чал. здолелі збегчы. Гэтыя лічбы немагчыма праверыць, але, відавочна, што колькасць застрэленых і памерлых ад хваробаў была значна большай. Пра гэта сведчыць справаздача за сакавік 1943 г., у якой паведамляецца, што Гародня "вольная ад габрэяў". Праўда, і пасля гэтага каля 200 высокакваліфікаваных рабочых засталіся ў Гародні[117]. Тых, хто застаўся забілі ў бліжэйшыя месяцы. Апошнія гарадзенскія габрэі былі расстраляныя ў чэрвені 1944 г.[118] Ахвярамі генацыду стала пераважная большасць вязняў гарадзенскага гета (больш за 20 тыс.). Каля 200 гарадзенскіх габрэяў перажылі Халакост, але толькі адзінкі засталіся у родным горадзе.

---

[111] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том IV. S. 500-504, Том 1. S. 78.

[112] Fatal-Knaani Tikva. The Jewish Community in Grodno… S. 204-207.

[113] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том I. S. 444.

[114] Bender Sara. The „Reinhardt Action“ in the „Białystok District“ // in: Anders Freia. Bialystok in Bielefeld... S. 201.

[115] YVA.03-8663, Арк. 6; Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том II. S. 281, Том I. S. 288-291; Bender Sara. The „Reinhardt Action“ in the „Białystok District“ // in: Anders Freia. Bialystok in Bielefeld... S. 205-206.

[116] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 54. Арк. 38.

[117] YVA 033c / 3 565, арк. 6.

[118] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том I. S. 164, Том 6. S. 201, 213-216.

Калі габрэйская супольнасць з пачаткам нямецкай акупацыі апынулася паміж гвалтам і дыскрымінацыяй, то хрысціянскае насельніцтва жыло ў іншым свеце. Яго становішча было адносна нармальным, аднак, і тут дазвалялася функцыянаванне толькі некаторых інстытуцый пад пільным нямецкім наглядам. Да іх належалі цывільнае кіраванне, якое, за выключэннем кіруючых пасадаў, было забяспечана мясцовымі кадрамі, некаторыя камітэты, да якіх былі прымацаваныя нацыянальныя этыкеткі, дабрачынныя арганізацыі і хрысціянскія цэрквы.

Штодзённасць г.зв. "арыйскага боку" гораду пасля ўвядзення цывільнага кіравання характарызавалася цяжкай працай, недахопам харчавання і… часовым спакоем. Большасць гарадзенцаў былі выселеныя з уласных дамоў і кватэраў. Яны намагаліся забяспечыць самыя надзённыя патрэбы сям'і. Школы доўгі час былі зачыненыя, і дзеці таксама хутка далучаліся да працы. Гандаль быў абмежаваны і накіраваны на задавальненне некаторых вайсковых патрэбаў. У такіх абставінах толькі хрысціянскія цэрквы працягвалі адыгрываць важную грамадскую ролю. Яны імкнуліся мець прастору для манеўра і звязаную з гэтым мажлівасць абароны людзей, а таксама праводзілі "нацыянальную" мабілізацыю насельніцтва, заклікаючы прынамсі да пасіўнай барацьбы супраць акупацыйнай улады.

Далучаныя да Рэйха землі дапасоўваліся да ўладных структур Усходняй Прусіі. Пасля поўнай замены сацыяльнай тапаграфіі і адкрыцця нямецкіх і мясцовых калабарацыяніісцкіх інстытуцый адбылася ліквідацыя ўсіх рэшткаў даваенных грамадскіх структур. Зрэшты, яны і без таго былі разбураныя ў выніку саветызацыі 1939-1941 гг. Нівеліраваннем культурнага ландшафту гораду займалася цывільнае кіраванне, якое канцэнтравалася на вырашэнні матэрыяльных пытанняў і стварала паліцэйскі апарат.

Для большасці гарадзенцаў прастора гарадской камунікацыі абмяжоўвалася структурамі чорнага рынку, чуткамі і сямейным колам. У гэтых межах нараджалася рэакцыя на пагаршэнне сітуацыі і выпрацоўвалася стратэгія выжывання. Горад істотна адрозніваўся ад вёскі. У апошняй існавала магчымасць ратунку ў лясах і балотах, а вось у горадзе з-за цеснаты жылых памяшканняў і канцэнтраванай прысутнасці армейскіх адзінак прастора кантралявалася ў значна большай ступені[119].

І ў вёсцы, і ў горадзе сям'я была ядром сацыяльнай падтрымкі. Індывідуальныя стратэгіі выжывання абапіраліся таксама на нефармальныя кантакты міжваеннага часу. Да іх належалі сувязі з кліентамі, былымі дзелавымі партнёрамі і калегамі, сябрамі былых саюзаў і партый, арганізацый польскага эміграцкага ўраду, а таксама Камуністычнай партыі Беларусі. У гарадзенскім гета па дамоўленасці з адпаведнымі

[119] Chiary Bernhard. Alltag hinter der Front. Besatzung, Kollaboration und Widerstand in Weißrussland, 1941-1944. Düsseldorf, 1998. S. 153 – 159.

структурамі ў Вільні і Беластоку дзейнічалі некалькі нелегальных арганізацый, у т.л. школы і скаўты[120]. Былыя польскія вайскоўцы таксама праяўлялі актыўнасць у Гародні. Толькі па афіцыйным савецкім дадзеным, у былым Беластоцкім ваяводстве ў структурах Арміі Краёвай было больш за 5 тыс. чал.[121]

Ужо ў 1941 г. яшчэ не разбураны гаспадарчы патэнцыял Гародні стаў дапасоўвацца да патрэбаў нямецкай ваеннай машыны ў якасці маленькага, але цалкам прыдатнага кола[122]. Калі вясковае насельніцтва далучалася да сістэмы забеспячэння нямецкіх структур шляхам прымусовых паставак і рэквізіцыяў, то ў гарадах вытворчасць перабудоўвалася для патрэбаў ваеннай гаспадаркі. У Гародні гэта закранула тытунёвую фабрыку, якая ўносіла “значную долю ў гадавую вытворчасць Нямеччыны”[123], скураныя заводы, кравецкія майстэрні, цагельні і тартакі. Пры гэтым нямецкая сістэма эксплуатацыі выкарыстоўвала ўсе створаныя Савецкім Саюзам структуры, як гэта было ў выпадку з шкляным заводам на левым беразе Нёмана, які быў “добраахвотна перададзены грамадзянскім асобам нямецкага паходжання”[124]. Ведамства сацыяльнай апекі, спецыяльна створанае ў Беластоку, выкарыстоўвалася для гаспадарчай эксплуатацыі і каардынавала рабаўніцтва габрэйскай уласнасці і культурных каштоўнасцей. Служба пастаўкі вермахту вызначала квоты здачы прадуктаў, неабходных для пакрыцця патрэбаў вайскоўцаў да наступнага рабаўнічага нападу, і кантралявала іх выкананне[125].

Дзеля ваенных мэтаў да прымусовых працаў сталі далучаць таксама частку хрысціянскага насельніцтва раёна. Цывільнае кіраванне спрабавала такім чынам зменшыць беспрацоўе, што панавала ў рэгіёне. У ліпені 1941 г. налічвалася ад 5 да 7 тыс. беспрацоўных з ліку хрысціян[126].

Спачатку большая частка прыгнаных на прымусовыя працы, выкарыстоўвалася ў горадзе. На працягу 1942 г. усё больш накіроўвалі для працы на тэрыторыі “старога Рэйха”. Колькасць чалавек, вывезеных на працу на тэрыторыі заходняй часткі былой Беластоцкай вобласці, якая пасля 1945 г. стала належаць да Польшчы, складала больш за 40 тыс. Паводле савецкіх дадзеных, усе яны (у т.л. 1,5 тыс. гарадзенцаў) былі накіраваныя ва ўнутраныя раёны Рэйха[127].

120 Cholawsky Shalom. The Jews of Bielorussia During World War II. Amsterdam, 1998. S. 295.

121 ДАГВ ГА. Фонд 6195, воп. 1, ад.з. 189. Арк. 92-94.

122 Anders Freia. Bialystok in Bielefeld... S. 173; ДАГВ ГА. Ф.6195, воп. 1, ад.з. 189. Арк. 92-94.

123 Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 386.

124 ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 54. Арк. 19.

125 Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 393.

126 Ibidem. S. 453-457.

127 Anders Freia. Bialystok in Bielefeld... S. 169; ДАГВ ГА. Ф.2, воп 1, ад.з.5. Арк. 1-2.

Дзеля набору рабочых рук выкарыстоўваліся метады гвалту, у т.л. аблавы ў шматлюдных месцах, вываз людзей пэўнага году нараджэння, а таксама “прарэжванне” працаўнікоў прадпрыемстваў. Напрыклад, у красавіку 1943 г. на прымусовыя працы было выклікана ўсё мужчынскае насельніцтва ва ўзросце ад 19 да 20 гадоў і жаночае ад 17 да 18 гадоў. Праўда, усе яны прызначаліся для “мясцовага выкарыстання”.

Большая частка рэкрутаваных набіралася ў вёсках, што спыняла працэс перасялення з гарадоў, які распачаўся разам з вайной. “Остарбайтэры” з Гародні звычайна накіроўваліся ў сельскую гаспадарку Усходняй Прусіі, на абарончыя прадпрыемствы Кёнігсберга, а таксама ў іншыя галіны эканомікі і рэгіёны. У 1942 г. з 779 вывезеных гарадзенцаў 480 былі ў Кёнігсбергу, 254 – у Луцку, 20 – у Мемелі, 23 – у Тыльзіце, па аднаму ў Растэнбургу і Інстэрбургу. З 460 “остарбайтэраў”, якія былі зарэгістраваныя на біржы працы ў 1943 г., большасць ізноў такі была накіравана ва Усходнюю Прусію. 32 чал. адправіліся ў Штутгарт, двое – у Магдэбург. У першыя месяцы 1944 г. быў дэпартаваны 201 чалавек, большасць з якіх была адпраўлена ў Кёнігсберг. 4/5 з іх складалі выхадцы з Польшчы і 1/5 – з Беларусі[128].

У лістападзе 1942 г. пачаліся высяленні сялян з вёсак Белавежскай пушчы. Гэта пазбаўляла партызанаў падтрымкі з боку мясцовых жыхароў і адначасна забяспечвала прадпрыемствы рабочай сілай[129]. Падчас адступлення вермахту праводзіліся акцыі высялення, якія закранулі таксама Гародню і Беласток.

Паля ліквідацыі гета востра паўстала праблема кваліфікаваных рамеснікаў, пра што сведчыць ліст дырэктара гарадзенскага дрэваапрацоўчага завода. Яшчэ ў сакавіку 1943 г. у Гародню з ваколіц Віцебску ў якасці рабочай сілы была прывезена частка насельніцтва, якое кваліфікавалася як “беларускае“. Яны між іншым займаліся ўпарадкаваннем тэрыторыі былога гета № 1[130]. Больш 2 тыс. з іх былі пераведзеныя ва ўнутраную частку Рэйху ў якасці “остарбайтэраў”[131]. У студзені 1944 г. адбылася ўзгодненая з Гімлерам і Кохам і арганізаваная цывільным кіраўніцтвам ”эвакуацыя“ прыкладна 30 тыс. фольксдойч з Валыні. Некалькі тысяч з іх пасялілі ў Гарадзенскай павеце. Пры гэтым не абыходзілася без гвалту, бо былых жыхароў бязлітасна выкідалі з іх кватэраў[132].

Нямецкі акупацыйны рэжым з самага пачатку прадугледжваў эксплу-

---

128 YVA JM / 10 645; Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 460-480.

129 Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 936.

130 Горад Святога Губерта. Краязнаўчы альманах. Пад рэд. А.Ф. Смаленчука, Вып.1. Sejny, 2002. Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 498.

131 YVA JM / 10 645.

132 Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 119

атацыю мясцовага насельніцтва. Прычым прыярытэты былі наступнымі: нацыянальны крытэрый, які вызначаўся паводле прынцыпу этнічнасці (катэгорыя "габрэй" заўсёды тлумачылася з расавага пункту гледжання), потым ішлі "савецкія ваеннапалонныя" як агульная катэгорыя, а напрыканцы звярталася ўвага на прыналежнасць да канкрэтнай дзяржавы і арміі. Хрысціян Герлах устанавіў, што на прадпрыемствах і пабудовах Гародні ўлетку 1941 г. існавала наступная паслядоўнасць выкарыстання працоўных рук: 1. фольксдойч, 2. паляк, 3. беларус, 4. габрэй, 5. ваеннапалонны. Аднак на працягу вельмі кароткага часу катэгорыя "габрэй" апусцілася на апошнюю пазіцыю. Перад набліжэннем зімы перспектыва смерці ад голаду і эпідэмій была сумнай рэальнасцю як для ваеннапалонных, так і для габрэяў[133].

У той час як габрэйскае насельніцтва *de facto* апынулася па-за правам, становішча іншых гарадзенцаў змянялася пад уплывам радыкалізацыі нацыянал-сацыялістычнай палітыкі. Яшчэ да вясны 1942 г. выплачвалася аднолькавае ўзнагароджанне як для габрэяў, так і для іх работнікаў хрысціянскага веравызнання, прыгнаных на прымусовыя працы з-за межаў гета. Потым габрэям ужо выплачвалі толькі палову таго, што зараблялі іншыя.

Прынцып аплаты і эксплуатацыі выкарыстоўваўся таксама па-за межамі гета. Да канца 1942 г. рамеснікі з гета і рабочыя разам працавалі на нямецкае ваеннае ведамства. 28 сакавіка 1942 г. быў створаны "працоўна-папраўчы" лагер, у якім утрымліваліся габрэі, а таксама хрысціяне, якія траплялі туды за "недастаткова свядомае стаўленне да працы"[134].

Паколькі на працягу 1942 г. стала зразумела, што нягледзячы на станоўчыя гаспадарчыя вынікі дзейнасці некаторых гета, палітыка "канчатковага вырашэння габрэйскага пытання" ўсё роўна накіраваная на іх ліквідацыю, то вызначэнне суадносінаў прадукцыйнасці працы габрэйскага і не габрэйскага кантынгенту набыло яшчэ большую вагу. Паводле афіцыйнай статыстыкі, у Гародні ў распараджэнні нямецкай ваеннай гаспадаркі ў першай палове 1942 г. было 3 597 кваліфікаваных і 2 553 некваліфікаваных рабочых з гета. Яны падпалі пад дзеянне крытэрыю эканамічнай "карысці" і былі выключаныя са спісаў на дэпартацыю[135].

Ужо летам 1942 г. цывільнае кіраванне Беластоцкай акругі арганізавала курсы навучання рабочым спецыяльнасцям для хрысціянаў. Мэтаю была паступовая замена кваліфікаваных рабочых з гета. Паводле звестак бургамістра Гародні фон Плётца, пасля стварэння канцэнтрацыйнага лагера ў Калбасіна ў горадзе было каля 4 тыс. рабочых, і існавала пат-

[133] Ibidem. S. 578.

[134] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 3. Арк. 205-209; Особый архив Москвы. Ф.1323, воп. 2, ад.з. 243. Арк. 55.

[135] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 241-243, S. 667- 668

рэба толькі ў 1,5 тыс. кваліфікаваных рабочых з гета[136]. Менавіта таму ён мог з радасцю сцвярджаць, што "габрэйская акцыя аказала нечакана малы ўплыў на ваенную вытворчасць"[137].

Падчас ліквідацыі гета ў Беластоцкай акрузе намеснік Коха Брыкс, таксама як і шэф службы бяспекі ў кастрычніку 1942 г. звярнуліся ў Берлін дзеля адтэрміноўкі ліквідацыі беластоцкага гета[138]. Яго знішчэнне пагражала крызісам мясцовай тэкстыльнай прамысловасці. Хаця цывільнае кіраўніцтва акругі магло на пэўны час затрымаць дэпартацыю габрэяў, патрэбных для рэалізацыі іх мэтаў, гэта не спыняла ні высылкі "некваліфікаваных", ні забойстваў[139]. Больш таго, кіраўніцтва асабіста ўдзельнічала ў іх знішчэнні[140]. Неабходныя рабочыя рукі набіраліся часткова з перакваліфікаванага хрысціянскага насельніцтва, часткова з ліку перасяленых і вывезеных.

Палітыка акупацыі і паводзіны хрысціянскага насельніцтва былі цесна спалучаныя. Праявы супраціву караліся нямецкай уладай паводле прынцыпу калектыўнасці. Звязаныя з гэтым рэпрэсіі актывізавалі падполле. На працягу 1942 г. супраціў па-за межамі гета таксама ўзмацніўся. У лютым быў зафіксаваны "акт сабатажу" ў гарадзенскім бровары. Паліцыя ахарактарызавала гэты акт разам з крадзяжом прадуктаў харчавання і тытуню як "узмацненне дзейнасці" польскага руху супраціву і партызанаў". У траўні 1942 г. быў спалены пункт збору курыных яек[141].

Рух супраціву ў рэгіёне распачаўся яшчэ ў часы савецкай акупацыі. Горад быў тэрыторыяй шпіянажу ўсіх бакоў. На пачатку нямецкай акупацыі арганізацыям камуністычнага падполля савецкае кіраўніцтва пераважна даручала назіраць за сітуацыяй. Акцыі сабатажу, напады на нямецкія канвоі і рэквізіцыя харчовых прыпасаў і рэчаў, неабходных партызанам, пачалі пашырацца толькі ўлетку 1942 г. у больш аддаленых мясцовасцях[142]. Увосень 1942 г. польская выведка паведамляла ўраду ў Лондане, што лясы рэгіёну заселены больш шчыльна, чым вёскі[143].

У выніку актывізацыі руху супраціву з канца лета 1942 г. становішча хрысціянскага насельніцтва рэгіёну значна пагоршылася. Наогул, гэта быў час узмацнення тэрору супраць цывільнага насельніцтва. У Гародні пасля замаху на прадстаўніка нямецкай акупацыйнай адміністрацыі былі

[136] Ibidem. S. 664

[137] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том VI. S. 244-246.

[138] Anders Freia. Bialystok in Bielefeld... S. 193.

[139] Gerlach Christian. Kalkulierte Morde… S. 689.

[140] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том VI. S. 505-510.

[141] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 3. Арк. 194.

[142] Тамсама. Ф.12, воп. 1, ад.з. 5. Арк. 1-18.

[143] Hoover Institute, III / 50 / 33, IV. S. 227. Raport sytuacyjny departamentu spraw wewnętrznych delegatury RP za okres 15. VI. 1941 – 15. VI. 1942.

арыштаваны 100 закладнікаў. 20 кастрычніка 1942 г. 25 чалавек былі расстраляныя. Усе яны былі вядомымі гарадзенцамі каталіцкага веравызнання, якія здолелі перажыць савецкі тэрор. Сярод іх быў Мечыслаў Альбрэхт, які разам з Багданам Гарбачэўскім і яго бацькам перажыў нямецкую бамбёжку цягніка пад Баранавічамі. Ахвярамі сталі таксама выкладчыкі гімназіі імя Адама Міцкевіча Ян Каханоўскі, Францішак Данько і Юзаф Ванатоўскі, колішні дырэктар тытунёвай фабрыкі Ян Шыманьскі, былы старшыня тытунёвай і спіртавой дзяржаўных манаполій Баляслаў Журакоўскі, суддзя Вінцэнт Гедройц, былыя афіцэры і юрысты[144]. Месцам забойстваў сталі былыя расійскія абарончыя ўмацаванні, г.зв. “фарты”.

По меры ўзмацнення арганізаванага супраціву на працягу 1943 г. немцы правялі шэраг акцый у межах кампаніі “барацьбы з бандытамі”, за што адказваў асабісты рэферэнт філіяла службы бяспекі. Сітуацыя ў горадзе таксама абвастрылася ў сувязі з ростам актыўнасці партызанскіх атрадаў на паўднёвым усходзе ад Гародні.

15 ліпеня адбыўся чарговы расстрэл прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі горада. Сярод новых ахвяраў былі выкладчыкі, суддзі, былы бургамістр горада, кіраўнік Біржы працы, святар, былыя чыноўнікі, а таксама жанчыны і дзеці[145]. Так дзейнічаў прынцып “калектыўнай адказнасці”. Апроч таго людзей расстрэльвалі за асабістыя правіннасці. Іх прозвішчы невядомыя, а колькасць дасягала некалькіх соцень[146].

Дэмаграфічнае разбурэнне горада, якое пачалося з савецкіх высылак, у часы нямецкай акупацыі перайшло ў новую стадыю. Разам з тым пачалася нівеліроўка гарадской прасторы. Дакументальныя кінакадры ад 16 ліпеня 1941 г. паказваюць пажар гораду, калі былі зруйнаваныя ўсе будынкі ад Нёмана да былога езуіцкага касцёла[147]. Разбурэнне прынёманскай часткі пачалося ўжо падчас паветранага налёту 1 верасня 1939 г. Тады былі разбураныя вуліцы паміж вайсковымі казармамі, Мяшчанкай і Маставой[148]. Адсюль полымя перакінулася на Сенны рынак, драўляныя пабудовы якога згарэлі цалкам. Быў знішчаны старажытны габрэйскі квартал разам з жылымі і вытворчымі памяшканнямі. Затое іншыя часткі гораду заставаліся амаль некранутымі[149].

Разбурэнне горада па-за межамі гета праяўлялася таксама ў ліквідацыі сістэмы адукацыі і культурнага жыцця. 9 школ горада з 20-ці былі

---

[144] Спісы ахвяр складзены Багланам Гарбачэўскім на падставе дакументаў яго бацькі; параўн. Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том II. S. 323.

[145] Спісы закладнікаў складаліся тымі з іх, хто перажыў. Пасля вайны яны ўдакладняліся паводле іншых крыніцаў. Прыватны архіў Багдана Гарбачэўскага. Торунь; YVA JM / 10645.

[146] Klarsfeld Serge. Documents concerning… Том I. S. 461, 481-483, Том II. S. 317-349.

[147] Deutsche Wochenschau Nr. 565 / 28 / 04.07.1941, BArch FA DW 565 / 1941.

[148] Machcewicz Pawe ł, Persaka Krzysztof. Wokół Jedwabnego. T. II. Warszawa, 2002, S. 137.

[149] Fatal-Knaani Tikva. The Jewish Community in Grodno… S. 13.

разбураныя, аніводная не дзейнічала да канца вайны[150]. Усе музеі, бібліятэкі, тэатры і кінатэатры былі зачынены альбо абслугоўвалі толькі немцаў і выкарыстоўваліся дзеля прапаганды нацыянал-сацыялізму[151].

Разам з жыхарамі гінула іх маёмасць, разам з установамі – культурная спадчына. Былі спаленыя савецкія і польскія фонды бібліятэк, а найбольш каштоўныя выданні з кніжнага фонду музею вывезеныя. Бернардзінскі касцёл згарэў, а кляштар быў моцна пашкоджаны. Тое ж адбылося з дахам “Гарнізоннага касцёла” (г.зв. “Фара Вітаўта”) падчас бамбардзіроўкі. Калі хрысціянскія храмы былі пашкоджаны ў выніку ваенных дзеянняў, то драўляная сінагога Фарштата (XVIII ст.) стала ахвярай ідэалагічна матываванага злачынства адразу пасля прыходу немцаў. Тым самым быў знішчаны адзін з найбольш каштоўных помнікаў культуры літвакоў у Гародні[152].

Яшчэ ў траўні 1944 г. спецыяльная каманда вязняў беластоцкага гета, якія засталіся ў жывых, была прывезена ў Гародню, каб схаваць сляды трох гадоў нямецкай акупацыі. У двары турмы з магіл былі выкапаныя целы ахвяраў масавых рэпрэсій. Яны спальваліся. Потым на гэтым месцы высаджваліся кветкі і кусты.

Адзін з ацалелых сведкаў 15 ліпеня 1945 г. у Беластоку распавядаў пра знішчэнне слядоў лагера ў Калбасіне:

“Праца працягвалася тры тыдні. Мы капалі ў двух месцах […] ямы глыбінёй пераважна 3 метра […] Мы выкапалі прыкладна 10 000 целаў на абодвух месцах. Яны былі яшчэ свежымі, рысы твараў пазнавальныя. Частка была зусім голымі, шмат жанчын з дзецьмі. У некаторых трупаў вочы і рукі былі завязаны. У яме было некалькі соцень габрэйскіх трупаў. Мы пазналі іх па лапіках на вопратцы. Некаторыя з выкапаных ям былі пустыя, напэўна, насельніцтва само перахавала целы. У другіх ямах былі знойдзены савецкія патроны. У асобнай яме былі знойдзены два польскіх салдата, якія адносна добра захаваліся і былі ў поўным абмундзіраванні”[153].

Наступны этап разбурэння горада пачаўся ў ліпені 1944 г., калі Чырвоная армія фарсіравала Нёман і спрабавала прарвацца ва Усходнюю Прусію.

“У гэтыя вялікія гістарычныя дні, калі Чырвоная армія знішчае ўсе перашкоды на сваім шляху дзякуючы кіраўніцтву Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ўзброеных сіл таварыша Сталіна, выганяе нямецкага ворага з межаў нашай Радзімы і нясе на сваіх слаўных сцягах поўнае

[150] Протокол Nr. 4, 17.8.1944 (12) К ситуации гродненских школ до учебного года 1944/45.

[151] ДАГВ. Ф.1, воп. 1, ад.з. 54. Арк. 259; Kakareko Wiktor. http://bno.khoz.ru/polish/zbiory/article-2.html (1.2.2006); інтэрв’ю з Б.Гарбачэўскім (19.6.2006 г. у Торуні).

[152] Verbin Moshe. Wooden Synagogues of Poland в the 17 and 18 Century. Herzliya, 1990. S. 3.

[153] YVA M-49 / 547 арк. 3.

вызваленне беларускага народа. 16 ліпеня 1944 г. Чырвоная армія вызваліла наш родны горад ад нямецка-фашысцкіх акупантаў”[154].

Гэтым паведамленнем пачыналася першая пастанова гарадзенскага гарадскога Савета рабочых дэпутатаў і гарадскога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ад 17 ліпеня 1944 г. Пазней у дакументах дата была выпраўлена ад рукі. Першапачаткова вызваленне гораду было абвешчана ўжо 13 ліпеня ў той час, калі яшчэ ішлі баі за левы бераг Нёмана. Хаця 3 гвардзейскі кавалерыйскі корпус 31 арміі 3 Беларускага фронту, а таксама 50 армія 2 Беларускага фронту хутка занялі цэнтр гораду, нямецкія часткі замацаваліся на другім беразе Нёмана. Паколькі Нёман з’яўляўся адной з нешматлікіх натуральных межаў рэгіёна, фронт затрымаўся тут на некалькі дзён[155].

Баі ў горадзе і яго наваколлі працягваліся да 22 ліпеня. Толькі пасля фарсіравання Нёмана і заняцця савецкімі войскамі паўночнай яго часткі, баі перамясціліся на захад.

На тэрыторыі Фарштата яшчэ стралялі, калі пачалося вяртанне камуністычнай улады. З Беластоку прыехала дэлегацыя партыйных функцыянераў. Рашэнне пра перадачу Польшчы Беластока разам з прылеглымі раёнамі пэўны час заставалася таямніцай. Стварэнне абласных партыйных структур адбылося ў Гародні толькі 20 верасня 1944 г. Менавіта тады мясцовая ўладная наменклатура атрымала мажлівасць непасрэдна звяртацца ў Савет міністраў ды іншыя цэнтральныя структуры ў Менску. Раней рашэнні прымаліся камітэтам партыі ў Беластоку.

Другая савецкая акупацыя Гародні адбывалася імкліва. Гэтаму спрыяла тое, што ў ар’ергардзе фронту знаходзілася шмат савецкіх кадраў. Таксама ў траўні 1945 г. у Гародню прыехала шмат былых вайскоўцаў, бо ў адносна непашкоджаным горадзе захавалася шмат жылых памяшканняў. Менавіта ў гэтыя дні для савецкага камандавання і партыйных работнікаў пачаўся добра зразумелы працэс. У рэшце рэшт, у 1939 г. Гародню ўжо далучалі да БССР… Адноўленай афіцыйнай мэтай ізноў было “вызваленне і аб’яднанне беларускага народу”.

Улады паступова апанавалі хаос, які пакінула ваенная навала. Непасрэдна за франтавымі часткамі ішлі супрацоўнікі СМЕРШу і армейскай контрвыведкі, якія шукалі здраднікаў і шпіёнаў, за імі рухаліся людзі з тайнай паліцыі НКУС. Цывільнае кіраўніцтва стваралася партыйнымі і савецкімі работнікамі з глыбокага савецкага тылу і ўмацоўвалася афіцэрамі, якія вярталіся з фронту, а таксама былымі партызанамі, большасць з якіх таксама былі нетутэйшымі. Пра парадак і спакой разам з тайнымі структурамі клапацілася міліцыя. Заўважальнай была прысутнасць Чырвонай арміі. Войскаў было шмат, бо гораду адводзілася роля савец-

[154] ДАГВ ГА. Ф.2, воп. 1, ад.з. 2. Арк. 1-20.

[155] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна... С. 414-417.

кага фарпосту. Адпаведна яго памежнаму статусу, у горадзе размясціліся падраздзяленні памежнікаў, якія падпарадкоўваліся загадам НКУС, а пазней КДБ.

Паколькі ў горадзе было некалькі легітымных прадстаўнікоў савецкай улады, паміж імі неаднаразова адбываліся канфлікты. Дакументы партыйнага архіва, а таксама публікацыі раённай партыйнай газеты “Гродзенская праўда” ўтрымліваюць шматлікія скаргі на самавольства салдат, нягледзячы на намаганні мясцовых органаў кіравання, гарадскіх Саветаў, і прысутнасць міліцыі. Так, 9 траўня 1945 г., паводле дакладной афіцэра НКУС, п’яны афіцэр у гарадскім парку пачаў беспарадкавую стральбу, а яго непасрэдны камандзір не дазволіў міліцыі ўмешвацца. Вайскоўцы мелі значна больш правоў, чым міліцыя або партыйнае кіраўніцтва. Апошнія маглі толькі прасіць пра ўмяшальніцтва вайсковых чыноў[156].

Для большасці гарадзенцаў вяртанне савецкай улады азначала канчатковае разбурэнне гарадской сацыяльнай тапаграфіі і несла непасрэдную пагрозу іх жыццю. У Гародні працягвалася саветызацыя, якая суправаджалася рэпрэсіямі і гвалтам. Працягвалася ўзброеная барацьба з часткамі былой Арміі Краёвай, якія яшчэ дзейнічалі на Гарадзеншчыне і трактаваліся як “бандыты”. У дачыненні да іх прымянялася смяротнае пакаранне на месцы, турэмнае зняволенне і высылка ў аддаленыя ўсходнія тэрыторыі СССР[157].

Без асаблівых змен у штодзённым жыцці Гародня ператварылася з нямецкай у савецкую перасылачную станцыю для ваеннай тэхнікі, забеспячэння войскаў, пошуку дэзерціраў і праверкі вывезеных на прымусовую працу ў Нямеччыну[158]. Яшчэ ў жніўні ў Гародні ўзніклі тры “фільтрацыйныя лагеры”, якія выкарыстоўваліся НКУС для праверкі тых, хто вяртаўся ў Савецкі Саюз[159]. Хаця яны былі разлічаны на 3 тыс. чал. у лагерах № 308, 309 і 311 на 17 верасня 1945 г. знаходзілася 15397 чал. Гэтыя людзі вярталіся на Радзіму і траплялі пад рэпрэсіі.

Па прычыне важнасці гарадзенскай рэлейнай станцыі, якая аказалася на самай паўночнай кропцы мяжы паміж будучым польскім сатэлітам і СССР, а таксама чыгункі, што звязвала Ленінград і Варшаву (праз Вільню) быў пашыраны адзіны гарадскі мост праз Нёман. Акрамя таго да вясны 1945 г. горад знаходзіўся на непасрэднай лініі забеспячэння войска, якое заняло спачатку Усходнюю Прусію і Данцыг, а потым Памеранію і Шчэцін. Дэмабілізаваныя салдаты і былыя вязні нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў прыбывалі ў Гародню, адкуль накіроўваліся ў свае род-

[156] ДАГВ ГА. Ф.2, воп. 1, ад.з. 21. Арк. 54.

[157] Gryciuk Franciszek, Matusak Piotr. Represje NKWD wobec żołnierzy Podziemnego Państwa Polskiego w latach 1944 – 1945. T. II. Siedlce, 1995. S. 24-25.

[158] ДАГВ. Ф.1221, воп. 1, ад.з. 11.Арк. 1.

[159] Тамсама. Ф.1171с, воп. 1а, ад.з. 21. Арк. 3.

ныя мясціны. Таксама вярталіся вывезеныя на прымусовую працу. Але не ўсе. Многія жыхары колішніх паўночна-заходніх рэгіёнаў II Рэчы Паспалітай не пажадалі жыць у СССР[160]. Пасля 1945 г. толькі 454 чалавек вярнуліся ў Гародню і толькі 5105 – у Гарадзенскі раён[161].

Адначасова адбывалася добраахвотнае перасяленне каталіцкага насельніцтва рэгіёну ў Польшчу. Людзі падавалі заяву, што з'яўляюцца палякамі па нацыянальнасці, а перад вайной мелі грамадзянства Польшчы, і атрымлівалі магчымасць выезду. Гэта была рэалізацыя дамовы ад 9 верасня 1944 г. паміж урадам БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення, а таксама некалькіх дадатковых пратаколаў[162]. Там агаворвалася, што "эвакуацыя польскіх грамадзян з БССР, а таксама беларускага насельніцтва з польскай тэрыторыі" павінна быць добраахвотнай. Перасяленне павінна было праводзіцца разам з рухомай маёмасцю і асабістымі рэчамі. У прыватнасці, гарантавалася, што могуць быць вывезеныя ўсе неабходныя прылады працы, а ў выпадку сялянства таксама і быдла[163]. На самой справе рэчаіснасць істотна разыходзілася з дамовамі палітыкаў.

Надзея на вяртанне ў склад Польшчы знікла разам з рашэннямі канферэнцыі ў Патсдаме. Для каталіцкага насельніцтва гораду другое ўключэнне ў савецкую дзяржаву з яе пастаяннымі "чысткамі", запалохваннем, падазрэннямі і рэпрэсіямі была дастатковай прычынай для прыняцця рашэння пра выезд з БССР. Але ўзнікалі праблемы практычнага кшталту. Многія палажэнні дамовы можна было трактаваць неадназначна. Шмат каталіцкіх сем'яў марудзілі альбо забіралі назад заявы пра выезд, бо не маглі выканаць усе патрабаванні на працягу вызначаных тэрмінаў. Таксама асабліва ў вёсцы на людзей аказвалі ціск савецкія функцыянеры, каб яны не падавалі заявы[164].

Сітуацыя Гародні і прылеглых сельскіх раёнах характарызавалася канфліктам паміж савецкімі інтарэсамі і спецыфікай сацыяльнай і этнічнай структуры жыхароў. Амаль усе каталікі горада, якія выказвалі жаданне перасяліцца, ідэнтыфікаваліся як палякі, бо развіццё нацыянальнай свядомасці да вайны тут была значна вышэйшым, чым у вёсцы. Вясковаму жыхару было больш складана давесці сваё "польскае паходжанне". Улады "выяўлялі" сярод іх беларусаў, якім забаранялі выезд. Акрамя страху страціць сям'ю людзей таксама стрымлівала нежаданне развітацца з Радзімай і пакідаць уласную зямлю, якая, звычайна, набывалася з вялікай цяжкасцю. Адначасова кіраўніцтва БССР было вельмі

[160] Тамсама. Ф.1221, воп. 1, ад.з.13. Арк. 1-13.

[161] Тамсама. Ф.1171с, воп. 1а, ад.з. 23. Арк. 57.

[162] AAN 522 / II. K. 2-55.

[163] ДАГВ. Ф. 1171с, воп. 1а, ад.з. 3. Арк. 42.

[164] ДАГВ ГА. Ф.2, воп. 1, ад.з. 21. Арк. 9, 54.

зацікаўленае затрымаць у Савецкім Саюзе сялян-каталікоў. У пасляваеннай вёсцы вельмі не хапала працоўных рук. Да таго ж сяляне былі патрэбныя для запланаванай калектывізацыі.

Каталіцкае насельніцтва горада, у большасці працоўнае, але таксама былыя служачыя, рамеснікі і адносна нешматлікія людзі вольных прафесій, што перажылі вайну, лягчэй прымалі рашэнне пры выезд. Яны ў большай ступені былі незалежнымі ад савецкай сістэмы. Хоць, вядома, што карэнных жыхароў Гародні, Берасьця, Пінска ды іншых гарадоў таксама выкарыстоўвалі для аднаўлення гаспадаркі, бо працоўных не хапала і ў горадзе[165].

Адначасна зацікаўленасць савецкага кіраўніцтва ў перасяленні каталіцкага насельніцтва была звязана з “польскім пытаннем” і ліквідацыяй патэнцыяльных ачагоў супраціву[166]. Партыйнае кіраўніцтва ў Менску лічыла, што для гэтага патрэбна выдаліць гарадскую эліту – носьбіта нацыянальнай свядомасці. Гэты аргумент падмацоўваўся савецкім поглядам на беларускіх каталікоў, згодна з якім большасць сельскага насельніцтва належала да беларускага этнасу[167].

У межах таго ж пагаднення з Гародні выехала большасць габрэяў, якія вярнуліся сюды пасля Халакосту. Сярод застаўшыхся дамінавалі перакана용ыя камуністы, якія вырашылі застацца, каб пазней пашукаць шчасця ў цэнтрах СССР[168]. Сярод тых, хто праяўляў гатоўнасць да выезду, былі сіяністы, для якіх Польшча была толькі прамежкавым пунктам. Іншыя спадзяваліся на магчымасць распачаць новае жыццё ў польскім грамадстве[169]. З выязнога пагаднення былі выкраслены татары і караімы, якія ў даваеннай Гародні жылі вельмі адасоблена.

Да ліпеня 1946 г. 226 315 польскіх перасяленцаў былі накіраваныя на ўсходнія землі Германскага Рэйху[170]. Сярод іх было 4 837 выжыўшых габрэяў. Разам з імі і каталіцкім насельніцтвам горад згубіў працоўных, рамеснікаў, а таксама нешматлікі слой лекараў, выкладчыкаў, інжынераў, тэхнікаў, чыгуначнікаў і святароў[171].

Новымі гараджанамі станавіліся сяляне з вёсак, акаляючых Беласток, якія шукалі для сябе ў СССР лепшага жыцця. Да канца 1946 г. Польшчу пакінулі 36 388 праваслаўных сялян, якія рашыліся на перасяленне пад

[165] Тамсама. Ад.з. 26. Арк. 43-46.

[166] Вялікі Анатоль. На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944-1946). Мінск, 2005. С. 70

[167] НАРБ. Ф. 5, воп. 20. ад.з. 217. Арк. 439-504.

[168] Інтэрв’ю з Лізай Чапнік і Ганнай Руд у Бэр Шэбе 30.11.2004 г.

[169] Інтэрв’ю з Хасяй Беліцкай праведзена 29.11.2004 г. у Лехавот Хабашан.

[170] Mironowicz E. Przesiedlenia ludności z Białorusi do Polski w latach 1944-1946 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Nr 19. Białystok, 2003. S. 182-185.

[171] AAN 522 / II / 2. K. 85-87.

моцным ціскам савецкіх агітатараў і суседзяў-каталікоў[172]. З іх 3 028 чал. пасяліліся ў Гарадзенскім раёне, а ў самім горадзе апынуліся толькі 287 сем'яў[173]. Яны так і не сталі істотнай крыніцай для папаўнення гарадскога насельніцтва. Гародня была для мігрантаў у большай ступені перавалачным пунктам.

Паколькі гаворка ў большасці выпадкаў датычыла сялян і іх права атрымаць раўназначны надзел зямлі і жылы дом замест пакінутых, іншым разам адбылася літаральная замена адных жыхароў іншымі. Больш 200-т праваслаўных сем'яў занялі пакінутыя каталікамі хаты. Гаворка ішла ў асноўным пра драўляныя дамы, акружаныя садовымі дзялянкамі ўздоўж магістраляў Гародні[174]. Усяго 648 пакінутых дамоў перадаваліся перасяленцам. Яшчэ 127 былі выкупленыя і ператварыліся ў гарадскія ўстановы, 206 – перададзеныя ўдзельнікам вайны ды іх сем'ям, а 105 – нацыяналізаваныя[175]. Размяшчэнне перасяленцаў у ваколіцах Гародні было абумоўлена тым, што яшчэ ў 1940 г. Саветы правялі нацыяналізацыю дамоў і кватэраў, плошча якіх перавышала 113 кв. м. Не нацыяналізаваныя будынкі былі маленькімі і знаходзіліся на гарадской перыферыі. Розніца паміж вялізарнай колькасцю выехаўшых і адноснай нешматлікасцю пакінутых дамоў сведчыць, што большасць перасяленцаў страцілі ўласнае жытло і жылі ў арэндаваных памяшканнях.

Гародня стала цэнтрам збору і размеркавання перасяленцаў. Так, у 1947 г. на вакзале з афіцыйным натхненнем віталі больш за тузін беларускіх рээмігрантаў, сярод якіх было некалькі сем'яў з Францыі. "Гарадзенская праўда" 12 верасня змясціла фотаздымак групы на вакзале каля скульптуры "Ленін і Сталін у Горках"[176]. Гарадское кіраванне без чаргі забяспечвала іх кватэрамі і рабочымі месцамі[177]. У 1950-я гг. у Гародні знаходзіўся таксама зборны пункт для сірот, сярод якіх было шмат габрэйскіх дзяцей, якія перажылі вайну ў хрысціянскіх сем'ях і савецкіх дзіцячых дамах. Сярод іх быў будучы польскі міністр замежных спраў Адам Ротфельд, які ў 1951 г. выехаў у Польшчу[178].

Наступная легальная магчымасць выезду з Савецкага Саюза для жыхароў Гародні і Гарадзеншчыны, што вярнуліся з ссылкі або ў меншай ступені былі закрануты рэпрэсіямі, з'явілася толькі ў 1955-1959 гг. Сярод

[172] Ibidem. K. 187-189.

[173] ДАГВ ГА. Ф. 2, воп. 1, ад.з. 168. Арк. 3.

[174] ДАГ В. Ф. 372, воп. 1, ад.з. 28. Арк. 8-10, 11a, 11b, 19, 20, 30, 34, 35, 36, 43, 45-47, 48, 49-50a, 50b, 64, 105, 128, 138, 146, 165-166, 176, 177, 201, 213.

[175] ДАГ В. Ф. 372, воп. 1, ад.з. 28. Арк. 12-15.

[176] Гродзенская праўда ад 12. 09. 1947. С. 3.

[177] ДАГ В. Ф. 372, воп. 1, ад.з. 54. Арк. 36-37.

[178] Adam Daniel Rotfeld. Langsame Heimkehr. Szenen einer Kindheit im Polen des Zweiten Weltkriegs' // Neue Züricher Zeitung, 26.2.2005.

іх была сям'я Гарбачэўскіх, якія чакалі вяртання дэпартаванага ў 1944 г. у Сібір бацькі, каб у 1956 г. выехаць у Польшчу разам з ім[179].

Ваенныя знішчэнні і разбежнасці ў дадзеных польскай і савецкай статыстыкі не дазваляюць прадставіць поўную карціну дэмаграфічнага разбурэння горада. Аднак, прыведзеныя ў артыкуле лічбы можна прыняць у якасці асновы для вызначэння колькасці страчанага насельніцтва.

Паводле савецкай статыстыкі 1944 – 1947 гг. ствараецца наступная карціна. У 1940 г. у горадзе пражывала каля 50 тыс. чал.[180] З пэўнай дакладнасцю можна сцвярджаць, што былі забітыя 20,5 тыс. габрэяў[181] З улікам значнай міграцыі савецкіх адміністратараў у 1939 – 1941 гг., у 1944 г., а таксама бежанства, вывазу на прымусовую працу ў Нямеччыну і мабілізацыі ў армію, у 1944 г. у Гародні пражывала каля 32 тыс. чал.[182] Гэтая лічба пацвярджаецца нямецкай статыстыкай, паводле якой у горадзе ў 1943 г. знаходзілася 33 657 жыхароў[183]. Прынамсі 14 426 чал. выехалі ў Польшчу[184]. Каля 4 тыс. асобаў прыехалі ў горад з усходніх раёнаў БССР. Такім чынам застаецца каля 13,5 тыс. жыхароў даваеннай Гародні. З гэтай колькасці 6 126 палякаў і 14 габрэяў былі зарэгістраваныя на выезд, але засталіся[185].

Можна канстатаваць, што 2/3 насельніцтва даваеннай Гародні былі забітыя або выселеныя. Амаль не засталося габрэяў, да 1/3 зменшылася колькасць палякаў-каталікоў (1946). У пасляваенным горадзе значна ўзрасла доля праваслаўнага насельніцтва. Пры гэтым маштабы дэмаграфічнага разбурэння Гародні значна перавысілі памеры матэрыяльных стратаў, якія, паводле пасляваенных савецкіх дадзеных, склалі 43% жылога фонду[186].

---

179 Інтэрв'ю з Багданам Гарбачэўскім, праведзена 19. 06. 2006 г. у Торуні.

180 Районирование западных областей Беларусской СССР. Минск.1940. С. 226-227. Цытата па: Gnatowki Michał. Niepokorna Białostoczyzna. Opór społeczny i polskie podziemie niepodległościowe w regione białostockim w latach 1939-1941 w radzieckich źródłach. Białystok, 2001. S. 22.

181 Дакладныя лічбы ўстанавіць немагчыма. Напрыклад, у двары гарадзенскай турмы ў 1945 г. было эксгумавана некалькі соцен трупаў. Невядома, ці гэта былі забітыя габрэі ці хрысціяне, ці яны былі ахвярамі савецкіх ці нямецкіх рэпрэсій (YVA JM / 10645).

182 ДГАВ ГА. Ф. 2, воп. 1, ад.з. 5. Арк. 3.

183 Statistisches Reichsamt Fläche und Bevölkerung des Verwaltungsbezirks Bialystok nach dem Gebietsstand vom 1.1.1943, BA MA 15024.

184 НАРБ. Ф.788, воп. 1. ад.з. 23. Арк. 61. Цытата па: Вялікі Анатоль. На раздарожжы... С. 286-287.

185 Тамсама. Арк. 35. Цытата па: Вялікі Анатоль. На раздарожжы… С. 288-289.

186 ДАГВ. Ф. 6112, воп. 6, ад.з. 25. Арк. 4.

*Зміцер Крывашэеў (Менск)*



## НЯСВІЖСКІ “ХВАЛЕБНЫ КОРПУС КАДЭТАЎ І БАМБАРДЗІРАЎ” КАРАЛЯ СТАНІСЛАВА РАДЗІВІЛА Ў КАНТЭКСЦЕ ВАЙСКОВА-ПАЛІТЫЧНЫХ ПАДЗЕЙ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ 60 — 80-х ГАДОЎ 18 ст.

Вайсковыя навучальныя ўстановы Нясвіжа 18 ст. увогуле і артылерыйская акадэмія Караля Станіслава Радзівіла ў прыватнасці цалкам незаслужана застаюцца незаўважанымі беларускай гістарыяграфіяй. Ня гледзячы на наяўнасць і ня кепскую захаванасць архіўнага матэрыялу, асноўная маса якога захоўваецца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве, айчынная гістарычная навука не можа пахваліцца ніводным даследаваннем на гэтую тэму. Усе наяўныя веды па пытанні мы сёння маем дзякуючы польскім даследчыкам і ў першую чаргу Станіславу Касцялкоўскаму, аўтару адзінага даследавання на гэтую тэму, напісанага ў 1912 г. Натуральна, што амаль за стагоддзе, што мінула з таго часу, многія агучаныя С. Касцялкоўскім пазіцыі альбо састарэлі, альбо патрабуюць істотнага дапаўнення ці ўдакладнення. Некаторыя пытанні, такія напрыклад як дзейнасць нясвіжскай артылерыйскай акадэміі ў другой палове 70-х—80-я гады 18 ст. ці сувязь акадэміі з папярэднімі вайсковымі навучальнымі ўстановамі Нясвіжа, гэты польскі гісторык не закранаў наогул.

У дадзеным артыкуле мы ставілі перад сабой наступныя задачы. Па-першае, праз прызму асаблівасцяў жыццёвага шляху і вайскова-палітычнай дзейнасці К.С. Радзівіла акрэсліць верагодныя прычыны стварэння нясвіжскай артылерыйскай акадэміі. Па-другое, вызначыць характэрныя асаблівасці ў арганізацыі навучальнага працэсу і кадэцкай службе ў артылерыйскай акадэміі К.С. Радзівіла. Па-трэцяе, акрэсліць перыяд функцыянавання нясвіжскай кадэцкай школы. І, нарэшце, па магчымасці прасачыць лёс яе выпускнікоў, а таксама той унёсак, які яны зрабілі ў развіццё айчыннай і замежнай вайсковай навукі і адукацыі.

Гістарыяграфія пытання не вельмі багатая. Першыя згадкі пра рыцарскія школы Нясвіжа мы сустракаем у артыкуле “Papiery Pana Ambrożego”, апублікаваным у 1845 г. у часопісе “Athenaeum”[1]. Па сваім характары гэты артыкул з’яўляецца ўспамінамі пана Амброзія, які апісвае існаваўшыя норавы пры нясвіжскім двары ў 60-80 г. 18 ст., дае дакладнае апісанне атрадаў радзівілаўскай міліцыі, трэба меркаваць сярэдзіны 80-х гадоў 18 ст., і, сярод іншага, згадвае пра існаванне ў гэты ж час школы кадэтаў артылерыі. Пан Амброзій паведамляе не толькі пра навучальныя дысцыпліны што вывучаліся кадэтамі ў школе, але таксама згадвае імёны некаторых выкладчыкаў і найбольш выбітных выпускнікоў. Па сутнасці, “Papiery Pana Ambrożego”

[1] Papiery Pana Ambrożego // Athenaeum T. VI. 1845. S. 171-225.

карысныя для нас тым, што гэта адзіная крыніца, якая пры адсутнасці захаваных архіўных дакументаў, пралівае святло на існаванне апошняга нясвіжскага кадэцкага корпуса, што дзейнічаў у канцы 70-х - 80-я гады 18 ст.

У пачатку 20 ст. цікавасць да кадэцкіх школ Нясвіжа выявіў польскі даследчык С. Касцялкоўскі. Аўтар адзінага даследавання, цалкам прысвечанага нясвіжскай артылерыйскай акадэміі Караля Станіслава Радзівіла, ён ўпершыню паставіў пытанне пра неабходнасць даследавання дадзенай тэмы. У сваёй працы “Kilka szczegółów o Korpusie Kadetów w Nieświeżu” 1912 г., ён не толькі апублікаваў загад К. Радзівіла ад 20 кастрычніка 1767 г. аб заснаванні ў Нясвіжы артылерыйскай акадэміі, але ўпершыню ўвёў у навуковы зварот матэрыялы ліставання дырэктара акадэміі Францішка Фройліха з К. Радзівілам і іншыя не менш каштоўныя крыніцы. С. Касцялкоўскі разглядаў пытанні функцыянавання акадэміі, пастаянна параўноўваючы яе з аналагічнай варшаўскай школай, паспрабаваў прасачыць далейшы лёс яе выпускнікоў. Апроч таго, гэты даследчык зрабіў спробу знайсці адказ на такія важныя для разумення сутнасці нясвіжскай артылерыйскай акадэміі пытанні, як матывы яе заснавання, прычыны заняпаду і многае іншае[2].

*Перадумовы і прычыны стварэння нясвіжскай артылерыйскай акадэміі*

Пасля смерці Мікалая Казіміра Радзівіла ў 1762 г. усе яго зямельныя ўладанні Нясвіжская і Алыцкая ардынацыі, Слуцк, Капыль, Белая і многія маёнткі ў Беларусі, Летуве, Украіне і Польшчы перайшлі ў валоданне яго сына К. Радзівіла па мянушцы “Пане Каханку”[3].

К. Радзівіл, як і яго бацька быў прыхільнікам саксонскай дынастыі. Таму не дзіўна, што пасля раптоўнай смерці Аўгуста III у 1763 г. ён усімі сіламі, разам з каронным гетманам Я. Браніцкім, пры падтрымцы Патоцкіх, Ржэвускіх, Сангушак і інш., паспрабаваў стварыць узброеную апазіцыю абранню на трон прарасейскага прэтэндэнта Станіслава Аўгуста Панятоўскага[4]. Пасля няўдалай спробы зброяй застрашыць элекцыйны варшаўскі сойм, К. Радзівіла пазбавілі звання віленскага ваяводы і наклалі секвестр на яго маёнткі па ўсёй Рэчы Паспалітай. У дадатак да ўсяго, пад Слонімам войскі К. Радзівіла натыкнуліся на расейскі корпус і затакавалі яго. Слонімская параза прывяла не толькі да капітуляцыі нясвіжскага гарнізону і вымушанай здачы радзівілаўскіх гарадоў і замкаў, але і да амаль

[2] Kościałkowski S. Kilka szczegółów o Korpusie Kadetów w Nieświeżu. Wilno, 1912. S. 1-17.

[3] Грыцкевіч А. Радзівіл Кароль Станіслаў // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.2. / Рэдкал. : Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. Мн.: БелЭн, 2006. С. 489-490.

[4] Анішчанка Я.К. Палітычная гіст. у часы падзелу Рэчы Паспалітай: Доктарская дысертацыя. Мн.: Выд. Хурсік, 2006. С. 62-63.

поўнага знішчэння войска К. Радзівіла. Адступаючы ў бок турэцкай мяжы, разам з ім дайшло толькі каля 500 чалавек конніцы, а большасць пяхотных частак расцягнулася па дарозе і была раззброены непрыяцелем[5]. Вымушаная эміграцыя прывяла да часовай ізаляцыі К. Радзівіла ад палітычнага жыцця ў Рэчы Паспалітай.

Тым часам на радзіме новаабраны кароль С. А. Панятоўскі распачаў паступовае рэфармаванне арміі, павялічыўшы яе колькасць і заснаваўшы ў 1765 г. у Варшаве рыцарскую школу. У тым жа годзе ў межах вайсковай рэформы было створана галоўнае вайсковае міністэрства пад назвай Кароннай вайсковай камісіі, праз год была закладзена і Вайсковая камісія ВКЛ. Клопатамі караля і навастворанах камісій было палепшана вайсковае фінансаванне, павялічыліся выдаткі на артылерыю, быў створаны новы рэгімент Астрожскай ардынацыі і многае іншае[6].

Закладзеная ў Варшаве “Акадэмія шляхецкага корпусу кадэтаў яго каралеўскай міласці і Рэчы Паспалітай”, стала часткай глабальных вайсковыхператварэнняў задуманых С.А. Панятоўскім, мэтай якіх было стварэнне новай арміі Рэчы Паспалітай. Задача школы заключалася ў падрыхтоўцы для арміі дасведчаных у вайсковых навуках афіцэраў, а таксама адукаваных людзей для цывільнай службы ва ўрадах. Шэфам новай вайсковай школы стаў сам кароль, а камендантам генерал падольскіх земляў Адам Казімір Чартарыйскі, адзін з найбольш адукаваных і дасведчаных у вайсковай навуцы людзей свайго часу.

Разлічаны на 200 вучняў, корпус даваў як грунтоўныя агульнаадукацыйныя веды, так і вайсковыя. Першапачаткова, да 1768 г., вайсковы пачатак школы пераважаў. У яе сценах, коштам караля і скарбу, цягам трох гадоў навучалася незаможная шляхецкая моладзь ва ўзросце 16-18 гадоў[7].

Рэформа 1768 г. прынесла ў навучальны працэс істотныя змены. У школу пачалі прымаць моладзь ва ўзросце 8-12 гадоў. З’явілася некалькі ўзроўняў адукацыі: першы - агульнаадукацыйны, які трываў 5 гадоў; пасля яго сканчэння гадаванец корпусу мог выбіраць паміж цывільным курсам і курсам вайсковым. Агульнаадукацыйны ўзровень павінен быў падрыхтаваць навучэнцаў корпусу да далейшага профільнага разгалінавання і ўключаў у сваю праграму такія навучальныя дысцыпліны як лацінская, французская і нямецкая мовы, чытанне і пісанне па-польску, арыфметыку, геаграфію, гісторыю, лацінскую, французскую і польскую літаратуру, логіку, этыку, красамоўства, геаметрыю, матэматыку, эксперыментальную фізіку і маляванне. Далейшы цывільны курс грунтаваўся на вывучэнні натуральнага, публічнага, кананічнага і польскага права, англійскай і італьянскай моваў. Курс вайсковай інжынерыі, наадварот, больш увагі надзяляў тэхнічным навукам, такім як трыганаметрыя, цывільная і вайсковая архітэктура,

[5] Tauroginski B. Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937. S. 111.

[6] Kukiel M. Zarys historji wojskowości w Polsce. Kraków, 1929. S. 162.

[7] Knot A. Dzieje szkolnictwa wojskowego w Polsce. Lwów, 1938. S. 38.; Mościcki, H. Szkoła rycerska w Warszawie // Polskie Korpusy Kadetów. Warszawa, 1923. S. 8-10.

матэматыка, права, метралогія і фартыфікацыя. Выкладчыкі запрашаліся з Англіі, Нямеччыны і Францыі, а мясцовыя былі памагатымі ў замежных мэтраў, пераймалі вопыт. Усе навучэнцы вайсковага адгалінавання кадэцкага корпуса ўтваралі асобную інжынерную дывізію[8].

Рэформы С.А. Панятоўска былі скіраваныя не толькі на ўзмацненне дзяржавы і войска, але непазбежна цягнулі за сабой і падвышэння значэнне караля, рост яго аўтарытэту і ўлады. Гэта вельмі непакоіла не толькі магнатаў і шляхту, але і Расею. Апошняя не прамінула скарыстацца ўнутранымі супярэчнасцямі ў Рэчы Паспалітай для яе аслаблення. Кацярына II разыграла дысідэнцкую карту ў сваіх інтарэсах і 28 лютага 1767 г. з яе падачы была склікана прарасейская слуцкая канфедэрацыя.

Сярод праціўнікаў караля па-ранейшаму знаходзіўся і К. Радзівіл, асобу якога прапанавалі на лідэра названай канфедэрацыі. Для яго гэта была цудоўная магчымасць вярнуцца ў ВКЛ і паквітацца са сваімі палітычнымі ворагамі. Адразу па вяртанні ён без суда вяртае захопленыя ў яго Агінскімі і Масальскімі маёнткі. 23 чэрвеня 1767 г. К. Радзівіл быў абраны ў Радаме маршалкам Генеральнай канфедэрацыі Кароны і ВКЛ, назваўшы ўсе каралеўскія рэформы “вымушанымі зброяй”[9].

Асаблівасці асобы і жыццёвага досведу К. Радзівіла маюць для нас вялікае значэнне ў разуменні матываў адраджэння ім ў Нясвіжы вайсковай адукацыйнай установы. Асоба К. Радзівіла па рознаму ацэньвалася сучаснікамі. Некаторыя яго лічылі адзіным абаронцам айчыны і ледзь не абагаўлялі. Астатнія рабілі акцэнт на яго празмернай распусце, свавольным характары і не высокім для свайго статусу ўзроўні адукацыі[10]. Аднак дакументы і многія факты з яго біяграфіі паказваюць нам К. Радзівіла як чалавека разважлівага і дальнабачнага.

К. Радзівіл, як і яго бацька М. К. Радзівіл, быў чалавекам цесна звязаным з вайсковай справай. Яшчэ будучы кадэтам першага нясвіжскага кадэцкага корпуса[11] ён атрымаў пад сваю каманду кавалерыйскую харугву войскаў ВКЛ. У 1754 г. стаў генерал-маёрам, а з 1759 г. генерал-лейтэнантам войскаў ВКЛ[12]. Атрымаўшы каманду ў 1762 г. над шматлікімі атрадамі міліцыі у Нясвіжы, Слуцку, Белай і інш. гарадах, ён пачаў іх колькасна павялічваць. У гэты час налічвалася 5 штабс-афіцэраў, 59 обер-афіцэраў, музыкаў і падафіцэраў 190 чалавек, а таксама 1317 шэраговых салдат. Апроч таго, корпус артылерыі складаўся з 41 чалавека, 72 чалавекі служылі ў корпусе піянераў і 138 янычараў. Конніца складалася з драгунскай харугвы ў 82 чалавекі, 71 чалавек быў у харугве ганаровай варты, 73 стральцы, 2 гусарскія эскадроны па 120 і 93 чалавек, 2 казацкія харугвы: слуцкая 57 чалавек

[8] Knot A. Dzieje szkolnictwa… S. 38-41.

[9] Анішчанка Я.К. Палітычная гіст. у часы падзелу Рэчы Паспалітай… С. 75-77.

[10] Papiery Pana Ambrożego... S. 176-177.

[11] Летувіскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей - ЛДГА). Ф.1280. В.1. Спр.269. Арк. 7-7адв.

[12] Грыцкевіч А. Радзівіл Кароль Станіслаў… С. 489-490.

і бельская - 7. У 1764 г. агульная колькасць міліцыі К. Радзівіла складала ўжо 1998 салдат і афіцэраў[13].

Адразу па вяртанні на радзіму ў 1767 г. К. Радзівіл распачаў адбудову свайго часткова страчанага ў 1764 г. войска. Важным этапам у гэтай справе стала закладанне ў Нясвіжы ў 1767 г. артылерыйскай школы[14], што ў дакументах згадваецца то як "Слаўны корпус кадэтаў і бамбардзіраў"[15], то "Акадэмія кадэтаў"[16] ці проста "Рыцарская школа"[17].

У 40 - 50-х гадах 19 ст., у часы М.К. Радзівіла, у Нясвіжы ўжо функцыянавалі кадэцкія школы[18], але з сярэдзіны 50-х гадоў дзейнасць апошняй з іх прыпынілася. Выпускніком гэтых школаў быў і К. Радзівіл, таму ён як ніхто разумеў усю патрэбу, важнасць і неабходнасць вайсковай адукацыі для падрыхтоўкі паўнавартасных вайсковых спецыялістаў.

Адной з галоўных прычынаў закладання артылерыйскай школы стала неабходнасць стварэння базы падрыхтоўкі афіцэраў для ўласнай міліцыі. Атрыманая пад Слонімам параза і няўдалая абарона нясвіжскага замку 1764 г. паказала недахоп кваліфікаваных афіцэраў і найперш артылерыстаў. У міліцыю К. Радзівіла ў 60-я гады ўжо былі запрошаныя замежныя спецыялісты, але, як паказала практыка, іх не хапала. Пасылаць моладзь у замежныя вайсковыя школы было ня зручна і вельмі дарага, куды зручней выглядала навучанне ва ўласных землях на ўжо існуючай базе. Таму адзіным варыянтам стала заснаванне ўласнай артылерыйскай акадэміі, тым больш што ў Нясвіжы для гэтага ўжо меўся патрэбны грунт - тут не толькі месціўся езуіцкі калегіум, у якім хапала добрых выкладчыкаў і былі багатыя бібліятэчныя зборы, але гуртаваліся таксама афіцэры міліцыі, а ў горадзе знаходзіўся палац першага нясвіжскага кадэцкага корпуса, пабудаваны яшчэ ў пачатку 40-х гадоў 18 ст.[19]

Цягам усяго 18 ст. колькасць артылерыстаў у радзівілаўскай міліцыі толькі павялічвалася. Калі ў 1739 г. у атрадах М.К. Радзівіла налічвалася ўсяго 10 кананіраў[20], то яго сын К. Радзівіл ўжо ў 1764 г. меў артылерыйскі корпус у колькасці 41 чалавека[21], які разросся ў 1789 г. да 266 чалавек[22].

[13] Lech M.J. Milicje Radziwiłłów jako oręż feodałów w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie // Rocznik Białostocki T. III. Białystok, 1962. S. 42.

[14] Kościałkowski S. Kilka szczegółów … 1912. S. 4.

[15] Archiwum główne akt dawnych (далей - AGAD). Archiwum Warszawski Radziwiłłów (далей - AR). Dz.7. № 555. Арк. 2.

[16] AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 48, 56.

[17] AGAD. AR. Dz. 7. № 268. Арк. 24.

[18] Lech M.J. Milicje Radziwiłłów… S. 33-59.

[19] Дыярыюш князя Міхала Казіміра Радзівіла Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага ВКЛ // Спадчына, 1995. № 5 (113). С. 146.

[20] Lech M.J. Milicje Radziwiłłów … S. 39-40.

[21] Lech M.J. Milicje Radziwiłłów … S. 42.

[22] Lech M.J. Milicje Radziwiłłów … S. 42-44.

Усе прыведзеныя вышэй лічбы пераканаўча ілюструюць тэндэнцыю на павелічэння колькасці артылерыйскага складніка войска Радзівілаў, што можа служыць важкім аргументам на карысць практычных мэтаў, што ставіліся перад новай артылерыйскай акадэміяй. Гэта не была дэкарацыя ці чарговая магнацкая забава. Кадэцкі корпус К. Радзівіла прызначаўся для падрыхтоўкі з маладых людзей артылерыстаў-вайскоўцаў самага высокага прафесійнага ўзроўню для службы ва ўзброеных сілах Рэчы Паспалітай і, безумоўна, ва ўласна радзівілаўскай міліцыі.

С. Касцялкоўскі выказаў меркаванне, што ідэя закладання К. Радзівілам артылерыйскай школы прыйшла да яго пад уплывам убачанага ў Варшаве кадэцкага корпуса С.А. Панятоўскага[23]. Гэтае меркаванне цалкам верагодна, тым больш што К. Радзівіл і сам вельмі дасканала разумеў усю складанасць вайсковага становішча Рэчы Паспалітай у Еўропе, за прычыну якога ўважаў занядбаны стан вайсковай справы і адукацыі ў краіне. Перад пачаткам першай лекцыі дырэктар Франц Фройліх, па паходжанні саксонец, так тлумачыў кадэтам прычыны стварэння К. Радзівілам артылерыйскай школы: “*не іншыя* [думкі - *З.К.*], *а толькі праслаўленне і дапамога сваёй Айчыне, калі занядбаныя і цалкам прыйшлі ў заняпад у краіне ўменні ў вайсковых мастацтвах,* [К. Радзівіл – *З.К.*] *прагне зноў узняць і бачыць квітнеючымі, без гэтых уменняў не зможа быць утрымана ні слава Айчыны, ні абароненае яе адзінства, ні удасканалена прыроджаная польская адвага. Ведаю якое высокае разуменне мае шляхетны польскі народ пра ваяўнічасць сваёй рукі, пра стойкасць сваёй шаблі, пра адвагу сваіх продкаў, і прызнаю яму справядліва ў гэтых якасцях; але калі тыя ваяўнічасць, стойкасць і адвага будуць удасканаленыя паводле правілаў рыцарскай навукі, то нашмат хутчэй праслаўяць і прывядуць да вяртання ранейшай павагі суседнія народы*.”[24]

*Асаблівасці навучальнага працэсу і кадэцкай службы ў нясвіжскай артылерыйскай акадэміі*

Як выпускнік першага нясвіжскага кадэцкага корпуса, К. Радзівіл добра ведаў асаблівасці навучальнага працэсу ў падобнага кшталту навучальных установах і разумеў патрэбы кадэтаў. У параўнанні з папярэднім нясвіжскім кадэцкім корпусам, дзе вучні неслі на сабе значную частку ўсіх вучэбных выдаткаў, што часам станавілася прычынай адлічэння некаторых кадэтаў, у артылерыйскай школе К. Радзівіла ім нават выплочваліся стыпендыі па 24 злотых штомесяц[25]. Стыпендыі брыгадзіраў, якіх налічвалася тры чалавекі, складалі 36 злотых, а “старэйшых” кадэ-

[23] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 4.

[24] AGAD. AR. Dz. 7. № 268. Арк. 24.

[25] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 4.

таў - ад 26 да 32 злотых 15 грошаў у месяц[26]. Апроч таго, па хадайніцтве Ф. Фройліха, кадэтам быў прызначаны заробак за нясенне варты пры палацы і некаторых гарадскіх брамах у памеры 3 злотых на тыдзень, з-за чаго кадэты "могуць быць ахвотнейшымі да больш дасканалага навучання ў жаўнерскай службе і вярнейшымі ў выкананні загадаў"[27]. Падобнага кшталту выдаткі скарбу дакладна прапісваліся на кожнага асобнага вучня[28]. Гэтыя меры адкрылі дзверы нясвіжскай артылерыйскай акадэміі не толькі для дзяцей з заможных сем'яў, але зрабілі магчымым навучанне ў ёй дзяцей са збяднелых фамілій[29].

Набор кадэтаў у новастваораны корпус адбываўся ў студзені-лютым 1768 г. За гэты час быў прыняты 21 кадэт ва ўзросце ад 13 да 23 гадоў з Нясвіжа, Слуцка, Міра, Берасця, Карэліч і нават адзін кадэт прыехаў з Валыні, 1 лютага 1769 г. у корпус быў запісаны таксама сын маёра міліцыі Папіні. Сярод іх 10 чалавек было з бедных шляхетных сем'яў, а астатнія з заможных. З 21 кадэта ў 1768 г., 15 ўжо мелі пачатковыя веды ў рыторыцы, граматыцы і іншых навуках, мелі вопыт навучання ў пачатковых школах і г.д.[30]

Кадэты ў корпус набіраліся, у адпаведнасці з загадам ад 20 красавіка 1767 г., з гарадоў Радзівіла, то бок акадэмія была разлічана для месцічаў. Гэтую акалічнасць С. Касцялкоўскі адзначае як адну з асноўных асаблівасцяў корпуса[31].

Як мінімум з 1 сакавіка 1768 г. усе кадэты былі падзелены па чатыры артылерыйскіх брыгады па 6 чалавек у кожнай. Брыгада складалася з 5 кадэтаў і 1 брыгадзіра з ліку кадэтаў. Старэйшым над брыгадамі быў прызначаны сяржант Франк. У такім парадку яны неслі варту на гарадскіх брамах і нясвіжскім палацы, а таксама праходзілі практычны курс навучання артылерыйскай справе[32]. Усе кадэты пад час свайго знаходжання ў корпусе павінны былі насіць адмысловую форму[33], такую ж як у артылерыстаў - мундзір жоўтага колеру, чорныя вылогі на манжэтах, ніз жоўты, капелюшы-трохвуголкі,[34] скураныя ці палатняныя нагавіцы і боты ці чаравікі (у залежнасці ад пары года)[35].

Кадэтаў рыхтавалі стаць сапраўднай элітай сваёй краіны. Перад імі не-

[26] AGAD. AR. Dz. 7. № 390. Арк. 1.

[27] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 11-12.

[28] НГАБ. Ф. 694. В. 2. Спр. 5178. Арк. 1адв.

[29] AGAD. AR. Dz. 7. № 554. Арк. 3.

[30] AGAD. AR. Dz.7. № 554. Арк. 3; AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 21.

[31] Kościałkowski S. Kilka szczegółów... S. 9.

[32] AGAD. AR. Dz. 7. № 555. Арк. 2.; AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 11.

[33] Kościałkowski S. Kilka szczegółów... S. 5.

[34] Papiery Pana Ambrożego… S. 188.

[35] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 31.

аднаразова падкрэслівалі выбраны характар такой кадэцкай службы: “... *гэтая справа … для дабра публічнага найпатрэбнейшая* [маецца на ўвазе арганізацыя кадэцкага корпуса – *З. К.*], *для вас саміх, выбранай моладзі* [падкрэслена ў тэксце – *З. К.*]… ”[36].

Выкладчыцкі корпус складаўся як з афіцэраў і унтэрафіцэраў міліцыі К. Радзівіла, так і з цывільных. Корпус вайсковых выкладчыкаў налічваў 16 чалавек. Дырэктар акадэміі палкоўнік артылерыі Ф. Фройліх быў дасведчаным і адукаваным спецыялістам, цудоўным арганізатарам, адданым сваёй справе. Па паходжанні саксонец, ён з’явіўся ў Нясвіжы каля 1763 г.[37] і прабыў на службе К. Радзівіла як мінімум да 1772 - 1774 г., калі быў запрошаны А. Тызенгаўзам ўзначаліць гарадзенскі кадэцкі корпус[38]. Менавіта на гэтым чалавеку ляжала арганізацыя навучальнага працэсу ў корпусе, пошук патрэбных выкладчыкаў, стварэнне матэрыяльнай базы корпуса і многае іншае. У гэтай справе яму дапамагалі капітаны Боксберг, Шэйдэн, Тушэр, Кронэнман і Датуры, харунжыя Ау, Тэллер, Катэмбрунг і Брашэ, а таксама фельдшар Рагоўскі, сяржант Франк, обэрфаерферкеры Штамбэрг, Дружылоўскі і Ратцэн, фельдфебель Шпегальскі і інш. Усё гэта былі дасведчаныя ў вайсковых навуках людзі, добра валодалі польскай, французскай і нямецкай мовамі[39]. Пошук выкладчыкаў і майстроў для корпуса вёўся ва ўсіх магчымых месцах. Калі капітаны Шэйдэн, Кронэнман і фаерверкер Франц былі запрошаныя з-за мяжы, то слесара Фелікса, як добрага спецыяліста ў механіцы і мадэляванні, Ф. Фройліху прыйшлося вызваляць з нясвіжскай вязніцы[40].

Часам і з афіцэрамі кадэцкага корпуса здараліся кур’ёзныя выпадкі. Ф. Фройліх у справаздачы ад 16 снежня 1768 г. паведамляе, што капітаны Тусэр і Датуры пабіліся адзін з адным на шаблях. Усё пачыналася бяскрыўдна пад жарты, таварыскія размовы і выпіўку, але нечакана размова перайшла на абразы. Такім чынам корпус разам пазбавіўся двух вядучых афіцэраў - першы патрапіў у вязніцу, а другі ў шпіталь[41].

Да 1769 г. геаметрыю выкладаў запрошаны француз капітан Гервайс дэ Трібуйе, а пасля яго раптоўнай смерці нейкі час гэты прадмет чытаў кадэтам сам дырэктар[42]. Лекцыі французскай мовы чытаў ксёндз, выкладчык езуіцкага калегіума, а перыядычна замяняў яго сяржант Франк[43],

[36] AGAD. AR. Dz. 7. № 268. Арк. 24.

[37] Kościałkowski S. Kilka szczegółów... S. 6.

[38] Касмылёў В. Гарадзенскі кадэцкі корпус // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі У 6 т. Т. 3. Мн.: БелЭн, 1996. С. 134 - 135.

[39] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 13; AGAD. AR. Dz. 7. № 390. Арк. 3.

[40] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 13-14.

[41] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 16.

[42] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 20.

[43] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 21.

французскую і нямецкую мову таксама выкладаў капітан Боксберг[44]. Капітан Кронэнман чытаў лекцыі па артылерыі. На зробленых слесараммеханікам Феліксам мадэлях гаўбіц ён дэманстраваў кадэтам, штыхюнкерам і ўнтэрафіцэрам прынцыпы функцыянавання гармат. Матэматыку кадэтам выкладаў оберфаерверкер Ратцэн. Лекцыі некаторых выкладчыкаў кадэтам перакладалі для лепшага разумення з нямецкай на польскую мову самі афіцэры і унтэрафіцэры міліцыі[45]. Ад позняй вясны да ранняй восені частка заняткаў праходзіла ў палявых умовах. Дырэктар Ф. Фройліх на мясцовасці вучыў кадэтаў як правільна разлічваць памер поля, радыус, маштабы і калібр[46]. Некаторыя прадметы даручалі выкладаць самім кадэтам. Так маляванню кадэтаў вучыў кадэт Лютніцкі, а танцам брыгадзір Жукоўскі і кадэт Парафіяновіч[47]. З 1771 г. па даручэнні дырэктара ў выкладанні цывільнай архітэктуры практыкаваўся таксама і кадэт Хіршберг[48]. Апроч названых дысцыплін кадэтам выкладалі механіку і вайсковую архітэктуру[49], каліграфію, чытанне і пісанне па-польску[50]. За вывучэнне некаторых дысцыплін кадэтам прыходзілася плаціць грошы. Да ліку такіх прадметаў адносілася юрыспрудэнцыя[51].

Ардынат дбаў аб бесперапыннасці навучальнага працэсу па кожным з прадметаў. Характэрным ў гэтым сэнсе стаў выпадак, што адбыўся ў студзені-лютым 1769 г., калі прыйшлося шукаць новага выкладчыка французскай мовы: “старайся - пісаў 1 лютага 1769 г. К. Радзівіл дырэктару Ф. Фройліху - каб лекцыі французскай мовы праз нейкі час хто іншы даваў, бо перапыненне навукі пусціла бы ў забыццё набытыя пачаткі.”[52]

### *Заняпад артылерыйскай школы*

На дзейнасць і лёс кадэцкага корпуса вялікі ўплыў аказвалі вонкавыя фактары звязаныя з палітычнай дзейнасцю К. Радзівіла у 60-я гады. У 1768 г. ён, нечакана для многіх, пераходзіць на бок варожай Расеі барскай канфедэрацыі. Усе спробы дыпламатычнага ціску расейскага пасла ў Рэчы Паспалітай Рапніна схіліць К. Радзівіла на свой бок пацярпелі няўдачу і ў кастрычніку 1768 г. да Нясвіжа пачалі падцягвацца расейскія войскі.

[44] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 25.

[45] AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 25-29.

[46] AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 36.

[47] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 29, 48.

[48] AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 52.

[49] AGAD. AR. Dz.7. № 268. Арк. 24.

[50] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 8-9.

[51] AGAD. AR. Dz. 7. № 268. Арк. 51.

[52] AGAD.AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 21.

Ізмайлаў ішоў маршам на Ліду, Гендрэ на Ашмяны, з боку Пінска заходзіў князь Мешчэрскі, Галіцын і Банэр наступалі з боку Берасця, Слоніма і Ваўкавыска. Гатовае да абароны чатырохтысячнае войска К. Радзівіла размясцілася на подступах да Нясвіжа. Непрацяглыя сутычкі з пераменным поспехам прывялі да капітуляцыі горада. Пасля гэтай паразы К. Радзівіл быў вымушаны пакінуць межы краіны[53].

Эміграцыя нясвіжскага ардыната і стваральніка вайсковай акадэміі вельмі моцна ўдарыла па фінансаванні і матэрыяльнай базе школы. На акадэмію адразу пачалі сыпацца самыя розныя праблемы, пачынаючы ад адсутнасці дроваў для ацяплення памяшканняў корпуса, канчаючы несвоечасовай выплатай стыпендый кадэтам і заробкаў афіцэрам.

Першы трывожны званок прагучаў у сакавіцкай справаздачы Ф. Фройліха 1769 г. У ёй паведамлялася, што “…маюцца вялікія цяжкасці з дровамі для ацяплення акадэміі і кадэцкіх пакояў, дзе часта па дзесяць ці восем дзён у цяжкія маразы не былі сагрэтыя ні акадэмія ні пакоі кадэтаў…”[54] У справаздачы за 19 мая таго ж года паведамляецца пра затрымку ў выплаце грошай кадэтам, з-за чаго многія з іх пачалі галадаць[55]. А ў ліпені 1769 г. Ф. Фройліх паведамляе ардынату пра новую праблему - кадэцкія формы знасіліся і патрабавалі тэрміновай замены. Усе кадэцкія мундзіры на той момант з-за недагляду і адсутнасці сродкаў на іх замену знаходзіліся “…ў розных колерах і станах…”[56]. Многія просьбы дырэктар быў вымушаны паўтараць К. Радзівілу неаднаразова. Прычына гэтага заключалася ў аддаленасці князя ад Нясвіжа і адсутнасці з ім прамой сувязі. Усе паведамленні Ф. Фройліх перадаваў тайна праз давераных людзей у Дрэздэн, адкуль ужо іншыя людзі шукалі месца знаходжання князя. К. Радзівіл цягам некалькіх гадоў зусім не адказваў на паведамленні дырэктара акадэміі, што яшчэ больш пагаршала сітуацыю і множыла апасенні за лёс кадэцкага корпуса сярод афіцэраў і унтэрафіцэраў.

У лістападзе 1769 г., з-за чатырохтыднёвых маразоў, кадэты былі вымушаны пераехаць з палаца на прыватныя кватэры. На ўвесь гэты час лекцыі ў акадэміі не чыталіся[57]. Да наяўных гаспадарча-эканамічных праблемаў дадаліся цяжкасці звязаныя з прыбываннем у Нясвіжы расейскага гарнізона. Нягледзячы на такія неспрыяльныя ўмовы ў корпусе па-ранейшаму працягваліся заняткі - чытанне лекцый і палявыя трэніроўкі праходзілі па графіку[58].

---

[53] Konopczyński W. Konfederacja barska. Warszawa, 1991. T. I.. S. 95 - 98.

[54] AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 24.

[55] AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 27.

[56] AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 31.

[57] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 39.

[58] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 27-36, 48.

У снежні 1770 г. па загаду генерал-маёра расейскіх войскаў Каро палова кадэцкай месячнай стыпендыі перадавалася яму і яго салдатам. Як піша Ф. Фройліх, за 12 злотых цягам цэлага месяца ў кадэтаў пражыць не атрымаецца. На гэта накладаліся і старыя ня вырашаныя праблемы з кадэцкімі мундзірамі. Ад крайняй безвыходнасці дырэктар прапанаваў К. Радзівілу за ўласныя сродкі падтрымаць кадэтаў, з умовай пазнейшага вяртання яму затрачаных на гэтыя патрэбы грошаў, але ў чарговы раз адказу ад ардыната так і не атрымаў[59].

Многія кадэты не вытрымлівалі ўмоваў жыцця і з'язджалі з Нясвіжа. У канцы 1770-пачатку 1771 г. з першапачатковых чатырох артылерыйскіх брыгад засталося толькі тры, паменела і афіцэраў[60]. 1 лютага 1771 г. кадэт Фельтман і фельдфебель Шпегальскі падалі прашэнні аб звальненні з корпусу, бо "… *не маюць здольнасцяў да навукаў і ахвоты вучыцца* …".[61] Сярод афіцэраў панікі не назіралася, хаця асобныя выпадкі ўцёкаў і здараліся. У красавіку 1771 г. оберфаерверкер Ратцэн без дазволу і звальнення пакінуў месца размяшчэнне корпуса і паехаў у Вільню, дзе ў рангу паручніка паступіў на службу да графа Плятэра. Амаль адначасова школа пазбавілася слесара Фелікса (ён жа механік) і цесляра Грузба. Палкоўнік расейскіх войскаў Чарнішоў гвалтам іх вывез з сабой у Вільню[62]. Па загаду таго ж Чарнішова Нясвіж пакінулі капітан Датрэ і штыхюнкер Тэллер[63].

Перашкоды, што чынілі расейскія войскі функцыянаванню корпуса, не абмяжоўваліся дробным шкодніцтвам накшталт уразання кадэцкіх стыпендый. У справаздачы ад 21 красавіка Ф. Фройліх піша, што "… *вельмі стараўся аддаць рапарт вяльможнаму князю яго міласці пану і дабрадзею майму, што з цэлага арсеналу і рыскамеры першы раз пры пане генерал-маёры дэ Каро, другі раз пры палкоўніку Чарнішове было забрана і транспартавана да Смаленска шмат скарбу вяльможнага князя. Толькі той скарб не быў пад маёй зверхнасцю і рэестру гэтых рэчаў не маю, таму дасканалага рапарту аб тых падзеях зрабіць не магу. Толькі цэлых гармат са Слуцка і Нясвіжа пазабіралі ў Смаленск. Іншых жа шмат патапілі, якія мелі вагу дванаццаць тысяч камянёў, і рознай зброі з рыскамеры пабралі і, акрамя таго, шмат рэчаў са скарбу пра якія нічога ведаць не магу. Пра вагу патопленых гармат дакладна таксама ведаць не магу*…".[64]

Да ўсіх названых праблемаў дадаваліся таксама і асабістыя цяжкасці

[59] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 47.

[60] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 49.

[61] AGAD. AR Dz. 5. № 3898. Арк. 52.

[62] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 55.

[63] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 15.

[64] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 55.

дырэктара акадэміі. У канцы 1760-х гадоў ён страціў, як пісаў сам, адзінага блізкага чалавека, сваю жонку. Яна памерла ў Вільні і цяпер ва ўсёй Рэчы Паспалітай у яго не засталося сваякоў. Ён часта пра гэта піша К. Радзівілу ў справаздачах і лістах[65]. Яму, здавалася, патрабаваўся тэрміновы адпачынак, якога дазволіць ён сабе не мог. Усё гэта непазбежна рыхтавала грунт будучага зыходу дырэктара, чалавека, на якім у адсутнасці К. Радзівіла працягвала трымацца артылерыйская акадэмія.

Дакладны час спынення функцыянавання кадэцкага корпусу не вядомы. Апошняя месячная справаздача Ф. Фройліха датуецца 25 красавіка 1772 г. У ёй дырэктар паведамляе, што ў корпусе нічога новага за апошні месяц не адбылося і што 1 мая плануецца распачаць з кадэтамі палявыя вымярэнні і чытанне лекцый[66]. Але ўжо ў 1774 г. Ф. Фройліха мы бачым на пасадзе каменданта гарадзенскага гарнізону і дырэктара гарадзенскага кадэцкага корпусу[67]. С. Касцялкоўскі таксама заўважае, што ўжо ў лютым 1776 г. кадэцкі корпус у Нясвіжы не існаваў, але многія кадэты па-ранейшаму знаходзіліся ў горадзе. К. Радзівіл загадаў палкоўніку міліцыі Міхалу Радзішэўскаму іх сабраць і даць ім працу, а некаторых аддаць у распараджэнне рэвізора пана Кончыца, каб вывучалі рахункі[68].

### *Адраджэнне артылерыйскай акадэміі ў другой палове 70-х гадоў 18 ст.*

Адразу па сваім вяртанні ў Нясвіж К. Радзівіл пачаў адбудову міліцыі. У 1784 г. ён давёў яе колькасць да 1890 чалавек. У наступныя гады колькасць міліцыі не была стабільнай і вагалася. Так у 1786 г. былі расфармаваныя два эскадроны драгунаў, але ўжо ў наступным годзе створаны стралецкі корпус у 213 чалавек. Найбольшага свайго памеру радзівілаўскае войска дасягнула ў 1789 г. і склала 2130 чалавек: 266 артылерыстаў, 901 пехацінцаў, харугвы слуцкай шляхты - 231 чалавек і харугвы койданаўскай шляхты - 216 чалавек і інш.[69]

Сучаснікі былі схільныя перабольшваць памер войска К. Радзівіла, называючы лічбы ад 8 да 10 тысяч[70]. Дакументамі гэтыя дадзеныя не пацвярджаюцца. Аднак успаміны, да ліку якіх можна аднесці надрукаваныя ў часопісе Атэнэум “Паперы пана Амброзія”, хаця і дапускаюць

[65] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 49-55.

[66] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 66 - 67.

[67] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 15; Касмылёў В. Гарадзенскі кадэцкі корпус… С. 134-135.

[68] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 15.

[69] Lech M.J. Milicje Radziwiłłów … S. 42-44.

[70] Papiery Pana Ambrożego… S. 188.

пэўныя памылкі ў датах і лічбах, тым не менш даюць нам цэлы шэраг істотных удакладненняў, дапаўняючы адсутныя архіўныя крыніцы. Пан Амброзій, апісваючы войска К. Радзівіла канца 80-х гадоў, падае дакладныя апісанні не толькі мундзіраў кожнага з атрадаў міліцыі, будзь то жаўнераў, нясвіжскага, слуцкага ці бельскага гарнізонаў, стралецкага корпусу, конніцы залатой харугвы (ганаровая варта), альбо артылерыстаў, але паведамляе цікавыя звесткі пра афіцэрскі склад міліцыі і аднаўлены пасля 1776 г. кадэцкі корпус[71].

Пад камандай каменданта нясвіжскага замку, саксонца па паходжанні, маёра Дэвіла сярод іншых знаходзіліся афіцэры Сакалоўскі і Дружылоўскі. На пасадзе ачольніка атрадаў слуцкай міліцыі мы сустракаем ужо вядомага нам маёра Папіні, венгра па паходжанні, сын якога навучаўся ў кадэцкім корпусе з 1769 г. У распараджэнні маёра Папіні знаходзіліся афіцэры Плензнэр, Мараўскі, Тычына, Цыбульскі і інш.[72]

Пра час аднаўлення кадэцкага корпуса нешта канкрэтнае сказаць цяжка, бо архівы для нас падобнай інфармацыі не захавалі. Усё той жа пан Амброзій паведамляе, не пазначаючы даты, што ў гэты час у Нясвіжы існаваў "корпус кадэтаў артылерыі" для шляхецкай моладзі. Навучэнцы корпуса, якіх налічвалася 30 чалавек, бралі заняткі па агульнаадукацыйных прадметах у розных школах Нясвіжа, вывучалі таксама артылерыю, замежныя мовы, маляванне, вайсковую і цывільную архітэктуру. Выкладчыкамі ў корпусе былі афіцэры міліцыі К. Радзівіла маёр Дуфон, Маранці і Бельмонт[73].

Ведаючы недакладнасць некаторых звестак пана Амброзія, у прыватнасці ён істотна памыляўся ў колькасці войска К. Радзівіла, недакладна пазначыў час расфарміравання драгунскіх эскадронаў і інш., можна было б падумаць, што ён распавядае пра корпус 1767 - 1772 г., а з імёнамі выкладчыкаў памыліўся. Тым не менш, сярод выбітных выпускнікоў кадэцкага корпуса ён называе імёны Цыбульскага і Сакалоўскага, што даслужыліся ў расейскім войску да генеральскіх пагонаў[74]. Гэта, трэба меркаваць, генерал-маёры Ян Цыбульскі, удзельнік вайны 1812 г.[75], і Язэп Сакалоўскі, удзельнік бітвы пад Аўстэрліцэм і вайны 1812 г.[76] Ведаючы імёны ўсіх кадэтаў папярэдніх школ, мы можам з упэўненасцю сцвярджаць, што гэтыя людзі не навучаліся ні ўводным з іх. Гэта можа азначаць толькі тое, што і Цыбульскі, і Сакалоўскі скончылі кадэцкі корпус пазней, хутчэй за ўсё да сярэдзіны 80-х гадоў, бо першы паступіў на

[71] Papiery Pana Ambrożego… S. 188-190.

[72] Papiery Pana Ambrożego… S. 188-190.

[73] Papiery Pana Ambrożego… S. 190.

[74] Papiery Pana Ambrożego… S. 190.

[75] Словарь русских генералов, участников боевых действий против армии Наполеона Бонапарта в 1812 - 1815 гг. Санкт-Петербург, Москва, 1996. Т. VII. С. 602 - 603.

[76] Словарь русских генералов… С. 557 - 558.

расейскую вайсковую службу ў 1789 г., а другі ў 1786 г.[77] Перад тым як падацца ў замежжа, яны, відаць па ўсім, атрымалі вопыт вайсковай службы ў міліцыі К. Радзівіла, бо пан Амброзій згадвае ў ліку іншых афіцэраў нясвіжскага гарнізона Сакалоўскага і сярод афіцэраў слуцкай міліцыі Цыбульскага[78], трэба меркаваць тых самых выпускнікоў адроджанага ў канцы 70-х гадоў нясвіжскага корпусу кадэтаў артылерыі, будучых генералаў расейскай арміі.

Беручы да ўвагі артылерыйскую профільную скіраванасць названага кадэцкага корпуса, можна з поўным правам сцвярджаць не пра стварэнне новай навучальнай установы на базе папярэдняй, а пра адраджэнне старой акадэміі, і гэта ня гледзячы нават на змену афіцэрскага кіраўніцтва корпуса.

Адраджэнне К. Радзівілам вайсковай адукацыі ў Нясвіжы ў 1767 г. адбылося праз скрыжаванне некалькіх асноўных фактараў, у аснове якіх палягала глыбокае разуменне заняпаду вайсковай справы ў Рэчы Паспалітай, асноўная прычына якога К. Радзівілу бачылася ў занядбанні рыцарскіх школ у дзяржаве. Да такіх высноў ён мог прыйсці праз уласны вопыт вайскоўца-афіцэра, а таксама дзякуючы свайму вопыту навучання ў 40 - 50-х гадах 18 ст. ў першым нясвіжскім кадэцкім корпусе свайго бацькі М.К. Радзівіла. Разам з тым, да закладання вайсковай акадэміі К. Радзівіла штурхала вострая патрэба ўласных войскаў у кваліфікаваных афіцэрах. Не апошняе значэнне ў справе адраджэння традыцыі вайсковай адукацыі ў Нясвіжы адыграў прыклад стварэння ў 1765 г. С.А. Панятоўскім варшаўскага кадэцкага корпуса.

Нясвіжскі кадэцкі корпус меў цэлы шэраг істотных асаблівасцяў, што адрознівалі яго ад аналагічных навучальных устаноў Варшавы і Пецярбурга. Тут кадэты былі не проста вучнямі, а паралельна з’яўляліся дзеючымі жаўнерамі міліцыі, што давала ім магчымасць бліжэй, на практыцы, знаёміцца з вайсковай справай увогуле і службовымі абавязкамі вайскоўца-артылерыста ў прыватнасці. Па ўсіх сваіх астатніх прыкметах кадэцкі корпус К. Радзівіла адпавядаў тагачасным еўрапейскім прыкладам вайсковых навучальных устаноў.

Непрацяглы перыяд росквіту кадэцкай школы ў 1768 - пачатку 1769 г. быў перарваны эканамічнымі цяжкасцямі, звязанымі з вымушанай эміграцыяй яго стваральніка К. Радзівіла і акупацыяй Нясвіжа расейскімі войскамі. Гаспадарчыя складанасці разам з палітычнай нестабільнасцю і пастаянным вонкавым ўмешваннем у справы вайсковай акадэміі з боку расейскага камандавання, прывялі ў рэшце да прыпынення яго дзейнасці. Адроджаны ў канцы 70-х гадоў 18 ст. корпус захаваў сваю артылерыйскую профільную скіраванасць, але меў ужо зусім іншы настаўніцка-кадэцкі склад.

[77] Словарь русских генералов… С. 557 -558, 602-603.

[78] Papiery Pana Ambrożego… S. 190.

Значэнне вайсковых школ Нясвіжа ў камплектаванні афіцэрскімі кадрамі міліцыі Радзівілаў і фарміраванні афіцэрскага корпуса ВКЛ

За два дзесяціголддзі існавання з перапынкамі, нясвіжская артылерыйская акадэмія выпусціла дзесяткі афіцэраў артылерыі і інжынераў. На аснове нясвіжскага езуіцкага калегіума і пабудаванага ў Нясвіжы ў 1742 г. палаца для кадэцкага корпуса, пры дапамозе мясцовых і запрошаных з-за мяжы афіцэраў-спецыялістаў, была створана грунтоўная вайскова-адукацыйная база агульнадзяржаўнага значэння, роўнай якой у той час у ВКЛ проста не існавала.

Нездарма А. Тызенгаўз рэалізуючы ў 1774 г. праект па стварэнні гарадзенскага кадэцкага корпуса звярнуўся перадусім да афіцэраў кадэцкага корпуса К.Радзівіла, запрасіўшы на пасаду дырэктара будучай акадэміі Ф. Фройліха[79]. Апошні перацягнуў з сабой з Нясвіжа ў Гародню найбольш здольных кадэтаў, зрабіўшы іх выкладчыкамі новастворанага корпуса. Былы кадэт Леон Лютніцкі, ураджэнец Нясвіжа, падобна таму як практыкаваў з дазволу Ф. Фройліха выкладанне малявання будучы кадэтам, стаў настаўнікам малявання для будучых афіцэраў у Гародні. Былы нясвіжскі кадэт Караль Хіршберг, які падобна Лютніцкаму чытаў лекцыі сваім калегам па матэматыцы і цывільнай архітэктуры, стаў паручнікам гарадзенскага гарнізону і прафесарам гродзенскай кадэцкай школы, а пазней як інжынер удзельнічаў у складанні планаў правядзення Мухавецкага канала[80].

Сярод выпускнікоў нясвіжскіх кадэцкіх школ не бракавала і выбітных вайсковых дзеячаў. Многія навучэнцы артылерыйскай школы падтрымалі ідэі барскай канфедэрацыі і смела далучаліся да яе шэрагаў. Штыхюнкер Ау, які дэманстраваў значныя поспехі ў артылерыйскай навуцы[81], стварыў свой атрад, але патрапіў у расейскі палон[82]. Напярэдадні бітвы канфедэратаў з расейскай арміяй пад Сталовічамі з корпуса бясследна зніклі штыхюнкер Брашэ і кадэт Фельтман, пра месца іх знаходжання не ведалі нават сваякі[83].

Многія з нясвіжскіх гадаванцаў папаўнялі шэрагі афіцэраў міліцыі К. Радзівіла. Сярод іх былі Ян Цыбульскі і Язэп Сакалоўскі. Першы да 1789 г. служыў у нясвіжскім гарнізоне, а другі да 1786 г. ў слуцкім[84]. Гэтыя ж маладыя афіцэры сталі аднымі з першых гадаванцаў айчыннай вайсковай навукі, якія ўмела прымянялі атрыманыя за гады вучобы веды ў замежных арміях[85].

[79] Касмылёў В. Гарадзенскі кадэцкі корпус... С. 134 - 135.

[80] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 16; AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 48, 52; AGAD. AR. Dz.5. № 3898. Арк. 66-67; AGAD. AR. Dz.7. № 554. Арк. 3.

[81] AGAD. AR. Dz. 5. № 3898. Арк. 28.

[82] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 12.

[83] Kościałkowski S. Kilka szczegółów… S. 11-12.

[84] Papiery Pana Ambrożego… S. 188-189.

[85] Словарь русских генералов… С. 557-558, 602-603.

Вайсковая кар’ера Я. Сакалоўскага ў расейскай арміі прасоўвалася паспяхова. У 1787 - 1788 г. ён служыў у складзе расейскіх вайсковых частак у Рэчы Паспалітай, у 1789 - 1791 г. ваяваў з туркамі. У 1792 г., за удзел у другім падзеле Рэчы Паспалітай, атрымаў званне капітана. Пасля чаго ў 1799 г. у складзе расейскай арміі знаходзіўся ў Швейцарыі. 1 мая 1804 г. быў прызначаны камандзірам Яраслаўскага мушкецёрскага палка. Удзельнік Аўстэрліцкай бітвы, пасля якой, 23 красавіка 1806 г. быў падвышаны да палкоўніка. З 1807 па 1811 г. ваяваў з французамі і туркамі. 9 чэрвеня 1811 г. быў прызначаны шэфам Яраслаўскага пяхотнага палка. За ўдзел у баях супраць напалеонаўскай арміі ў Еўропе атрымаў званне генерал-маёра. З 1821 г. па 1831 г. выконваў абавязкі камендanta Казані[86].

Я. Цыбульскі паступіў у 1789 г. у гвардыю, але праз тры гады быў пераведзены ў флот. У 1796 г. яго прынялі капітанам у Паўлаўскі грэнадзёрскі полк, пасля быў пераведзены ў Сямёнаўскі полк. У 1798 г. Я. Цыбульскага пажалавалі ў палкоўнікі, а праз 2 гады ў генерал-маёры. Удзельнічаў у паходзе на аўстрыйскую Галіцыю. Пад час вайны 1812 г. прымаў удзел у баях пад Смаленскам, Барадзіно і Малаяраслаўлем[87].

Прасачыць лёс кожнага з выпускнікоў кадэцкіх корпусаў дастаткова праблематычна. Пакуль з упэўненасцю можна абазначыць толькі ключавыя пазіцыі - адны сталі вайсковымі выкладчыкамі, іншыя чыноўнікамі, трэція паклалі галовы пад сцягамі барскай канфедэрацыі, чацвёртыя працягвалі служыць у міліцыі К. Радзівіла ці сталі наймітамі ў замежных арміях. Пан Амброзій піша таксама, што многія нясвіжскія выпускнікі з годнасцю служылі ў артылерыі і пешых палках войска ВКЛ[88].

Кадэцкія карпусы Нясвіжа заклалі падмурак для стварэння айчыннай вайсковай навукі, узнялі вайсковую адукацыю ў краіне на якасна новы ўзровень, што дазволіла ВКЛ атрымаць цэлую плеяду выбітных дзеячаў адукацыі, навукі і вайсковай справы.

---

[86] Словарь русских генералов… С. 557-558.

[87] Словарь русских генералов… С. 602-603.

[88] Papiery Pana Ambrożego… S. 190.

*Андрэй Вашкевіч (Гародня)*



## З ГІСТОРЫІ ПЕРАКЛАДУ НОВАГА ЗАПАВЕТУ КСЯНДЗОМ ВІНЦЭНТАМ ГАДЛЕЎСКІМ (1928-1932 г.)

У 1931 г. у далёкім Гельсінкфорсе (Хельсінкі) пабачыў свет першы ў найноўшай гісторыі Беларусі пераклад Новага Запавету на беларускую мову, зроблены вядомым беларускім дзеячам Лукашам Дзекуць-Малеем. Гэты пераклад, выдадзены досыць вялікім накладам у 25 тысяч асобнікаў, быў зроблены па ініцыятыве хрысціян-баптыстаў і не мог ужывацца ў каталіцкім богаслужэнні, паколькі ня меў адпаведнай апрабаты касцёльных ерархаў. Каталіцкі ж касцёл на той момант не меў ніводнага перакладу Святога Пісання на беларускую мову.

Тагачасны спіс беларускамоўнай каталіцкай духоўнай літаратуры ўвогуле быў не надта вялікі і абмяжоўваўся галоўным чынам выданнямі рэдакцыі газеты “Беларус”, якая выходзіла ў Вільні ў 1913–1915 гг., і кнігамі, выдадзенымі прыхільнікамі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ўжо ў міжваенныя гады. Асноўная маса гэтых кніг адносілася да ліку максімальна спрошчаных для разумення беларускімі сялянамі жыццяпісаў святых і павучальных жыццёвых гісторый у хрысціянскім духу. Сапраўды прыдатнай для літаратуры для выкарыстання ў касцельным богаслужэнні было зусім няшмат. Хіба найлепшымі былі “Нядзеляшнія эвангеліі і навукі” ксяндза Ільдэфонса Бобіча і “Кароткі катэхізм для беларусаў-каталікоў” ксяндза Язэпа Рэшаця[1]. Апошняя кніга, дарэчы, была адзіным беларускім каталіцкім выданнем, надрукаваным пры фінансавай падтрымцы курыі віленскага біскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага.

Актывізацыі дзейнасці па выданню беларускамоўнай каталіцкай літаратуры перашкаджалі не толькі фінансавыя праблемы. Беларускія каталіцкія святары былі дастаткова добра падрыхтаваныя, каб пісаць сур’ёзныя творы на рэлігійную тэматыку на беларускай мове, але цягам усіх 1920-х гг. бадай што не мелі на гэта дастаткова часу, бо былі заняты адчайнай барацьбой з польскай дзяржаўнай адміністрацыяй і мясцовым кіраўніцтвам касцёла, якія высылалі святароў-беларусаў з іх парафій

[1] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 308, 312.

і чынілі іх грамадскай і культурнай рабоце шмат іншых перашкод. Час для сур'ёзнай навуковай работы з'яўляўся або пасля высылкі за межы Беларусі, або, як гэта аказалася з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім, пасля зняволення ў турме.

Вінцэнт Гадлеўскі трапіў за краты ўвесну 1927 г. і правеў у Макатоўскай турме ў Варшаве больш за шаснаццаць месяцаў. У турэмнай камеры ён дапрацоўваў напісаную яшчэ на свабодзе "Сьвятую гісторыю Старога Закону" – першы беларускамоўны дапаможнік для вывучэння Бібліі дзецьмі[2]. Тут жа ўзяўся ён і за грандыёзную справу, якая не мела ў тагачаснай айчыннай навуцы аналагаў – пераклад Новага Запавету на беларускую мову. Праца працягвалася пасля вызвалення ксяндза з турмы летам 1928 г. і завяршылася ў 1932 г., калі была пастаўлена кропка пад перакладам Чатырох Евангелляў і Апостальскіх Дзеяў. У аснову пераклада быў пакладзены лацінскамоўны, традыцыйны для рыма-каталіцкага касцёла, тэкст Святога Пісання. Аднак Вінцэнт Гадлеўскі карыстаўся таксама двума перакладамі Новага Запавету на польскую мову, перакладамі Божага Слова на нямецкую і французскую мовы. У тлумачэннях да перакладу можна таксама сустрэць параўнанні з рускамоўным кананічным тэкстам Новага Запавету і грэчаскім арыгіналам Святога Пісання. Такім чынам, перакладаючы Евангеллі на беларускую мову В. Гадлеўскі меў пад рукою адразу сем тэкстаў Новага Запавету на лацінскай, грэчаскай, польскай, нямецкай, французскай і рускай мовах.

Сродкі на выданне кнігі беларускія хрысціянскія дэмакраты знайшлі ў папскага нунцыя ў Польшчы Ф.Мармагі. Кантакты беларускіх каталіцкіх святароў з нунцыем умацаваліся ў красавіку 1930 г. пасля візіта да яго ксяндза Язэпа Рэшаця. Апошні выдатна гаварыў па-італьянску і заваяваў давер высокага каталіцкага іерарха. У сваім лісце да ксяндза А. Станкевіча, апісваючы вынікі сустрэчы з Ф.Мармагі, Я.Рэшаць адзначыў: "Разгаварыліся шчыра і ясна аб нашай сітуацыі. Згаджаецца зусім, што тут [у міжваеннай Польшчы – *А.В.*] касьцёл польскі, а не каталіцкі. Але з Урадам трэба рахавацца, бо гэта сіла, проці каторай адкрыта не выступіш"[3]. Прызнаўшы, што з боку афіцыйнага Ватыкану і польскага епіскапата мае звязаныя рукі і не можа адкрыта ў грамадскіх справах дапамагаць беларусам-каталікам, Ф.Мармагі паабяцаў грашовую дапамогу ў выданні рэлігійных кніг па-беларуску. Падчас аўдыенцыі А.Станкевіча ў нунцыя вясной 1932 г. апошні абяцаў падтрымаць друкаванне Эвангэліяў у перакладзе В.Гадлеўскага. 25 жніўня 1932 г. беларускія ксяндзы падалі Ф.Мармагі афіцыйную просьбу аб друкаванні па-беларуску св. Пісання[4].

Сёння мы не можам дакладна сказаць, чаму фінансава падтрыманае

---

[2] Biełaruskaja Krynica. 1928. № 9. S. 4.

[3] Аддзел рукапісаў ЦНБ імя Якуба Коласа. Фонд. 4, воп. 1, адз.з. 138. Арк. 14.

[4] Станкевіч Адам. З Богам да Беларусі. Вільня, 2008. С. 556.

нунцыем выданне Евангелляў зацягнулася яшчэ больш чым на пяць гадоў, але толькі ў студзені 1938 г. віленскі арцыбіскуп Р.Ялбжыкоўскі даў апрабату перакладу. У лістападзе 1938 г. кніга была ў друку, аднак пакінула друкарню Віленскай архідыяцэзіі літаральна за некалькі тыдняў да пачатку Другой сусветнай вайны. Магчыма, гэта была наогул апошняя беларуская кніга, якая пабачыла святло ў міжваеннай польскай дзяржаве.

Далейшыя гістарычныя катаклізмы не далі магчымасці нават належным чынам асэнсаваць такую важную ў рэлігійным жыцці беларускай каталіцкай супольнасці падзею, як выданне большай часткі Новага Запавету па-беларуску. Зроблены жывой беларускай мовай, добра суаднесены з традыцыямі і менталітэтам беларусаў пераклад быў на доўгія гады забыты. Толькі ў 1997 г. Евангеллі ў перакладзе В.Гадлеўскага былі перавыдадзены гродзенскай біскупскай курыяй, але і гэтае выданне даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Сёння выдавецтвам часопіса “Arche” рыхтуецца да друку збор твораў ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Сярод іншых тэкстаў будзе надрукаваны і пераклад чатырох Евангелляў і Апостальскіх дзеяў. Тут жа хочам прапанаваць чытачам па-свойму ўнікальны дакумент – ліст ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага да сяброў камісіі, якая ацэньвала ягоны пераклад Евангелляў. Ліст дае выдатную магчымасць пранікнуць у “творчую кухню” ксяндза, ацаніць методыку ягонай работы, пабачыць той велізарны аб’ём працы, які давялося зрабіць аднаму чалавеку, каб Божае Слова загучала на нашай роднай мове.

**Ліст камісіі, якая займалася вывучэннем перакладу частак Новага Запавету, зробленага В.Гадлеўскім. 5 чэрвеня 1933 г.** [5]

Адказы перакладчыка на заўвагі камісіі

Адказы даю пераважна на тыя заўвагі, з якімі не згаджаюся. Пры адказе падаю кароткае або даўжэйшае абгрунтаванне. Заўвагі, на якія не даю ніякага адказу, прымаю або цалкам, або з пэўнымі засцярогамі. За некаторыя вартасныя заўвагі, і асабліва ўпушчэнні, сардэчна дзякую.

Рд. 2. «Зорка» на ўсім абшары Беларусі ўжываецца ў значэнні «stella», «gwiazda» (зоры на небе, зоркі мігцяць, дрыжаць). Ужываюцца таксама словы «гвязда» і «зьвязда», але ў пэўных толькі мясцовасцях і знаўцамі рускай мовы лічацца русіцызмамі.

[5] Даумент захоўваецца ў Бібліятэцы імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. Ф. 21, воп. 178. Арк. 236-238адв. Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову з польскамоўнага арыгінала. Аўтар выказвае шчырую падзяку Яну Лялевічу і Ганне Паўлоўскай за дапамозе ў прачытанні рукапісу і тлумачэнні іншамоўных выразаў, а так сама Алесю Смаленчуку за прадастаўленне копіі дакумента.

Рд. 3. «Hic est enim» паправіў на «бо гэта той і г.д.», «parate» пакінуў «праўце», бо гэта выдатны беларускі выраз, які так часта ўжываецца нашым народам («ідзём правіць дарогу»). «Rectas» паправіў на «простымі», хоць маю пэўную засьцярогу: герольды ужывалі не «праставаць» дарогі, але рабіць іх гладкімі, «гладзіць», гэта значыць засыпваць ямы і выбаіны, каб каралеўскі экіпаж мог выгодна праехаць. Паправіў на «простымі» толькі для таго, што гэтае слова мае таксама пераноснае значэнне адносна людскіх душ.

4. Pinnaculum паправіў на «крылы».

6. «et baptizabantur ab eo» можна было б перадаць па бел. «і былі хрышчаны ім», аднак такая канструкцыя з пасівам надзвычай цяжкая і народам не ўжываецца: уважаю, што лепей было б пакінуць «і хрысціліся ў яго», тым больш, што сэнс той самы. У вершы 13 тая канструкцыя фразы яшчэ цяжейшая «ut baptizaretur ab eo» - «каб быць ахрышчаным ім».

8. «Regnum» перакладаю паўсюль як «валадарства». Там, дзе было «царства» або «дзяржава» паправіў на «валадарства». Гэтае слова мае сваё этымалагчнае і таксама грамадска-палітычнае абгрунтаваньне. Этымалагічна бяручы, гэтае слова выводзіцца ад слова «ўлада» (польскае «władarz»). У старажытнай славяншчыне перад тым як было запазычана і славянізавана дацкае слова «kuning» (kneź, kniaź, książe, ksiądz) ужывалася слова «władyka» (гл. A.Brückner. Dzieje kultury polskiej. T. 1. стр. 82. Kraków, 1930), такім чынам слова, якое выводзіцца ад гэтага ж корня «влад». З пункту палітычна-грамадскага «валадарства» азначае ўсе аб'яднанні людзей у дзяржаўных мэтах і можа быць прыменена да кожнай дзяржавы і кожнага ладу: каралеўства, княства, імперыі, рэспублікі і г.д. Чаму ж не ўжыць такога свойскага і прыгожага выразу, які ахоплівае ўсе формы дзяржаўнага ладу. Сьвятое Пісаньне перакладаецца на ўсю будучыню, а адкуль мы ведаем, якая будзе форма ўлады і дзяржаўны лад, дапусцім, праз сто год: каралеўства, імперыя ці рэспубліка? А ў кожнай форме яны застануцца «валадарствамі» або «дзяржавамі». Менавіта таму гэтыя выразы лічу найлепшымі для вызначэньня паняцьця «regnum». Слова «валадарства» ўжываецца ў пацеры (гл. Кс. Др. Я.Рэшэць. Кароткі Катэхізм. г. 1927. цэнзар Лео Пуцято) і мае сваё права ў беларускім грамадстве. Зрэшты слова «rex» азначае кіраўніка («regere») і ніколі караля, бо слова «кароль» паходзіць ад уласнага імя Карла, нямецкага імператара (karl, karal, król, karol). Відавочна асоба Карла зрабіла такое моцнае ўражаньне на славян, што ўласнае імя стала агульнапрынятым і ўжываецца для пазначэння кожнага, хто мае ўладу (гл. A.Brückner. Słownik etymołogiczny języka polskiego пад словам «król». стр. 269. Kraków, 1927).

9. «Piscatores» - у значэньні «рыбаловы людзей» ужыць нельга, бо

contradictio in obiecto[6], паколькі само слова «рыбаловы» ўжо азначае «лавіць рыбы» а тут уключаецца яшчэ паняцьце «людзі». Пракульскі ў сваім тлумачэньні ўжывае «рыбакамі» і «рыбаловамі», хаця ў Вульгаце як у адным, так і ў другім месцы ёсьць «piscatores». Я пакінуў «лаўцы».

14. «Reus erit iudicio» - складаны абарот, аб якім я думаў не адну гадзіну. Я адлюстраваў яго двума абаротамі «на таго будзе суд» і «пойдзе пад суд». Разумею, што ані адзін, ані другі дакладна не тлумачаць выраз «reus erit iudicio» і г.д. Я звярнуўся яшчэ да грэцкага і там знайшоў выраз ἔγοχος (ад ἐγέχω) што значыць: які падлягае (кары або абвінавачанню). Адсюль у расійскім перакладзе маем «подлежитъ». Я затрымаўся на слове «падлеглы».

16. «Ad concupiscendum eam» - складаны для перакладу зварот. Шчэпаньскі тлумачыць падобна як і я, не робячы розніцы паміж мэтай і спосабам: «kto pożądliwie patszy na niewiastę» («хто глядзіць на жанчыну пажадаючы яе»). Пракульскі перакладае «aby jej pożądał», вызначаючы такім чынам далёкую мэту, але тут справа не столькі ў мэце, колькі ў самым факце, бо як бачна з кантэксту «już ją zcudzołożył w sercu swoim». Таму лічу слушным пакінуць «пажадаючы яе».

17. «Non periurabis» азначае не столькі будучы час, колькі загад, а загад можна перакласьці ў imperatiwis «не прысягай».

21. Тое самае.

22. «Oriri facit» Шчэпаньскі тлумачыць «każe wschodzić». Пабеларуску можна было бы перакласці як зварот: каторы робіць, што яго сонца ўзыходзіць і г.д., але тут болей словаў, меней яснасці і таму лічу, што гэты апошні зварот быў бы горшы за першы.

23. «Quid amplius facitis» паправіў: «што ж асаблівае робіце».

24. Facies eleemosynam - «дарыш убогага» - абарот чыста народны, даслоўна было б «робіш дарэньне», але такі абарот сярод народа невядомы. Я рашыўся ўжыць абарот «дарыш убогага», каб больш ясна прадставіць народу гэтае паняцьце. Лічу, што заўсёды і ў кожнай дэталі трымацца даслоўнага перакладу было б шкодным, бо кожная мова мае свае арыгінальныя абароты, якія можна ўжываць у перакладзе, калі яны дакладна адлюстроўваюць думку.

25. «Debita» можна было бы паправіць на «правіны» (ад часта ўжыванага слова «правініўся»), толькі што «грахі» таксама ўжываецца ў пацеры (гл. Кароткі Катэхізм – Кс. Я. Рэшэця). Слова «правіны» падыходзіла бы тым болей, што далейшае слова «debitoribus» было перакладзена як «вінаватым». Была б тая самая этымалогія як у лац. так і бел. Аднак лічу, што найлепш было б пакінуць даўнейшае «грахі», хоць бы таму, што кожная «правіна», наколькі там сапраўды была віна з боку чалавека, ёсць перад Богам грахом. І гэта для ўсіх зразумела і не скажае думкі.

26. Слова «аблічча» у народзе не ўжываецца, распаўсюджанае слова

[6] У перакладзе з лацінскай мовы “ўнутраная супярэчнасць”.

«твар». У літаратуры ўжываецца слова «воблік», але найчасцей для абазначэння «постаці» ці выраза твара.

32. Cogitans пакідаю «клапяцячыся» абапіраючыся на кантэксце і на грэчаскім выразе μεριμνάω - «troszczę się», рас. забочусь, бел. клапачуся. У рас. тлумачэнні «заботясь», француз. «en se tourmentant», нямец. «mit seinen Sorgen».

35. Quanto magis папраўляю на «куды болей». Выраз, які часта ўжываецца.

40. Для абазначэньня слова sacerdos дасюль у беларускай мове няма адпаведнага выразу. Найчасьцей ужываецца слова «духоўны», хаця мае больш шырокае значэньне чым sacerdos – каплан (польскае kapłan ізноў жа мае занадта вузкае значэнне), паколькі паходзіць ад capella, capellaneus, той, хто кіруе капліцай (гл. Brückner. Słow. etym. języka pol. пад словам «kaplica». стр. 217). Ластоўскі ў сваім руска-беларускім слоўніку ўводзіць новы выраз «святар»; ці прымецца ён – невядома. Я ўжываю яго ў сваіх падручніках па сьв. гісторыі Старога і Новага запав. а таксама ў каментары. Уводзіць яго ў сьв. Пісьмо апасаюся, каб гэтае слова не звяртала на сябе ўвагу сваёй навізною. Тымчасам пакідаю «духоўны», а пошук больш адпаведнага выразу пакідаю сваім паслядоўнікам.

46. Nolite possidere паправіў на «ня мейце». «Pecunia» ў гэтым месцы абазначае медную манету (гл. Шчэпаньскі тэкст і каментар), што відаць хоць бы з градацыі: золата, срэбра і г.д. Аднак, трымаючыся парадку, паправіў на «грашэй» (з пэўнай засцярогай).

61. «Doctus in regno caelorum» – Такі аўтарытэт як Філіён перакладае такім чынам: «instruit de ce qui regarde le royaume des cieux», Арндт таксама падобна: «der ueber das Himmelreich unterrichtet ist», Шчэпаньскі: «obznajomiony z królestwem niebieskim», я «навучаны аб валадарстве нябесным».

64. «Habete fiduciam» Шчэпаньскі перакладае проста «odwagi». Я, ідучы за ім і за тэкстам лац., пераклаў «мейце адвагу». Аднак будучы прыхільнікам хутчэй літаральнага, чым вольнага, перакладу (хаця і ад гэтага прынцыпа не раз прыходзіцца адступацца), гатовы быў бы замяніць на «мейце давер», калі б не грэчаскі выраз θαρσεῖτε «будзьце адважнымі, смелымі» (адсюль рас. «дерзайте»), які паказвае, што трэба перакласці «будзьце адважны». Сьв. Геронім і пазнейшыя правільшчыкі Вульгаты не адшукалі ў лацінскай мове адпаведнага тэрміна для θαρσεῖτε, а ўжылі апісальнае habete fiduciam. У сьв. Марка (VI, 50) тое самае слова θαρσεῖτε ўжо было перакладзена «confidite». Адпала «habete». Лічу, што ў дадзеным выпадку слова fiducia не цалкам перадае грэчаскі тэрмін. Папа Леў XIII у энцыкліцы «Providentissimus» (18.IX.1893 №14) выразна адзначае, што можна выкарыстоўваць тэкст грэчаскі або на іўрыце, а нават рэкамендуе, калі Вульгата тлумачыць не ясна, каб з аргінальных

тэкстаў чэрпаць патрэбнае сьвятло (цытата па Szczepański. Cztery Ewangelie. I (Wstęp) Kraków, 1916. Стр. 96). Таксама і Шчэпаньскі зайшоў у сваім перакладзе так далёка, што трымаўся хутчэй арыгінальных тэкстаў, чым Вульгаты, і імкнуўся ў большай ступені перадаць думку Вульгаты, чым яе apicem i iotam[7]. І ня гледзячы на ўсё гэта яго пераклад быў рэкамендаваны Апостальскай Сталіцай!

72. «Debiles» - Пракульскі тлумачыць як ułomnych, Шчэпаньскі – jednorękich, Філіён – des estropiés (без рукі, без нагі, калека), Арндт – Krüppel (калека, недалэнга), адсюль бачым, што debiles мае агульнае значэнне, я пакідаю таксама агульнае – калекіх.

79. «Eunuchi» выдатна можа быць адлюстравана праз бел. «скапцы» («купіў на кірмашы гаранчыка-скопчыка»), але ці не будзе занадта вульгарна? Каб пазьбегнуць вульгарызацыі я ўжыў «бязжэнныя» Асабіста я прытрымліваюся той думкі, што варта пакінуць «бязжэнныя».

89. Proselytus я пераклаў як «новага ізраеліта», а гэта роўназначна з «празелітам».

90. Debet – можа быць патлумачана па-белар. «павінен» (debet aliquid facere – павінен нешта зрабіць) і ў сэнсе віноўнага – вінаваты. Каб дадаць характар дзеяслова, да «вінаваты» дадаю слова «ёсць». «Ёсць вінаваты» будзе адпаведнікам «debet» у другім значэньні.

93. Слова «маланка» і сярод люду і ў літаратуры ўжываецца ў сэнсе «бліскавіцы». Пару гадоў таму выдаваўся нават гумарыстычны часопіс «Маланка».

94. Пакінены ўжываецца ў сэнсе пакіданьня (кінуў жонку і пайшоў, пакінуў поле незаараным і г.д.).

96. Два адмаўлення зацямняюць сэнс. Пракульскі ўжывае адно: «[неразборліва]».

97. Inutilis – паправіў на «некарысны», бо безкарысны можна яшчэ разумець як безкарысьлівы.

98. Лічу, што abiit – пайшоў ужытае згодна з кантэкстам і правільна передае думку.

100. Пры скарочанай форме займенніка «наш, наша» няма розніцы паміж жаночым і ніякім родам (наша хата – наша поле). Каб пазьбегнуць усялякіх сумніваў у гэтым важным тэксьце, выкарыстаю пэўную форму: «бо гэтае ёсць цела маё», «бо гэтая ёсць кроў мая». Ці пагодзіцца на гэта Камісія?

106. a filiis Israel – я пераклаў як «якога ацанілі сыны Ізраіля» і гэтага перакладу і далей трымаюся, абапіраючыся: на Шчэпаньскага - «którego oszacowali synowie Izraela», на Арндце: «welchen sie geschätzt hatten von seiten der Söhne Israels», на Філіёне: «qu’on a évalué de la part des enfants

[7] У перакладзе з лацінскай мовы “ётам і рысам” (apex – знак даўжыні над галоснымі літарамі). В.Гадлеўскі меў на ўвазе, што галоўнае добра перадаць сэнс Святога Пісання, а не зрабіць максімальна даслоўны пераклад.

d'Israël». Пракульскі тлумачыць «którego oszacowali z synów izraeskich»; я спачатку хацеў ісці яго слядамі і перакласьці: «якога ацанілі з сыноў Ізраіля», аднак пасля абдуманьня прыйшоў да пераканьня, што такое тлумачэньне можа быць двузначнае, а менавіта, што гэта Хрыстус паходзіць з сыноў Ізраіля і яго ацанілі а такое разуменьне было б вялікай памылкай. Таму пакідаю «якога ацанілі сыны Ізраіля», гэта ясна, зразумела і не адыходзіць ад арыгіналу. Рускі, які абапіраецца пераважна на грэчаскім, мае: «Котораго оценили сыны Израиля».

107. Blasphemabant паправіў на «блюзьнілі».

Некаторыя дробныя адказы я парабіў таксама на самым тэксце заўваг Камісіі.

Вільня. 5.VI.1933 г. кс. В.Гадлеўскі

*Алег Дзярновіч (Менск)*



# САЛОДКАЯ МАННАЯ КАША: НАРЫС ГІСТОРЫІ ХАРЧАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ У XX СТАГОДЗІ

Харчаванне беларусаў за Савецкім часам вельмі добра ілюструе ўплыў соцыя-культурных фактараў на такую адначасова індывідуальную і грамадскую з’яву, як ежа.

У пачатку 20 ст. традыцыйны лад жыцця беларускай вёскі знаходзіўся ўжо ў стадыі распаду, але парадак прыёму ежы і найважнейшыя стравы заставаліся яшчэ даўнейшымі. Як і раней, узімку сям’я харчавалася тры разы на дзень, часам яшчэ палуднавалі. Але ў летнюю пару полудзень быў абавязковым – гэта дыктавалася інтэнсіўнасцю працы галоўнага аграрнага сезону. Звычайна ежа ў нядзелю была больш разнастайнаю. Амаль усе прадукты харчавання (мука, мяса, крупы, агародніна і г. д.) былі хатняй вытворчасці. Куплялася соль, а зрэдку, што вызначалася матэрыяльным становішчам сям’і, і цукар. Параўнаўчы аналіз рацыёну як бедных, так і больш заможных сем’яў сведчыць, што галоўным прадуктам заставалася бульба, другое месца займаў хлеб, трэцяе – агародніна, пераважна капуста і буракі[1]. У канцы лета – пачатку восені наступаў час садавіны. Рэгулярным у летні сезон было спажыванне малака. Даволі рэдка ўжываліся тварог, масла, алей. Рыба падавалася да стала толькі ў мясцовасцях, дзе меліся адпаведныя водныя аб’екты (рэкі, азёры, сажалкі). Найбольш бедным з пункту гледжання рацыёну была вясна, калі заканчваліся ранейшыя запасы харчавання, а новага ўраджаю прыходзілася чакаць.

У буйных жа гарадах Беларусі гарадская цывілізацыя паўставала з усімі прыкметамі кансьюмерызму, гламуру і разнастайнасці выбару. Традыцыйныя кірмашы і рынкі па-ранейшаму прапаноўвалі якасныя мясцовыя выбары, але адзнакаю рэспектабельнасці ўжо тады лічылася рэстарацыі замежнай кухні. Калі кавярня ці кандытэрыя, дык абавязкова французская, венская ці канстанцінопальская. Хоць мясцовыя піва

[1] Беларусы. Т. 5. Сям’я. Мн., 2001. С. 71.

і сыры карысталіся тады значна большай вядомасцю і павагай, чым сучасная беларуская прадукцыя.

Сацыяльныя катаклізмы, звязаныя з наступствам Першай Сусветнай вайны і рэвалюцыямі ў Расеі, прывялі да дэградацыі ўсёй гаспадаркі, у тым ліку і гандлю, што ў сваю чаргу паўплывала на кансервацыю традыцыйнай сістэмы харчавання, пакуль яна не была амаль цалкам знішчаная савецкай мадэрнізацыяй 1930-х гадоў. Побач жа з працэсамі харчовага выжывання і адаптацыі да новых варункаў жыцця дзейнічалі і тыя працэсы, што паступова прывялі да фармавання савецкай кухні.

*Ля вытокаў феномена*

Савецкая кухня – гэта культуралагічны тэрмін, які вызначае ўласна кулінарныя асаблівасці той кухні, якая склалася ў СССР з сярэдзіны 1930-х і да пачатку 1990-х гадоў. Гэтая кухня мела такую тэхналогію кулінарнай вытворчасці і вызначалася такой своеасаблівасцю кампазіцыі страў, якія адрознівалі яе ад нацыянальных кухань народаў СССР, прычым на ўзроўні смакаў[2].

Савецкая кухня склалася не адразу. За параўнаўча невялікі адрэзак часу яна перажыла некалькі этапаў, адлюстроўваючы сацыяльную, эканамічную і палітычную гісторыю СССР. Ужо Першая Сусветная вайна 1914 - 1918 гг. і рэвалюцыйны раскол 1917 г. замацавалі некаторыя тэндэнцыі ў сферы харчавання, якія былі адчувальныя і надалей. Сотні тысяч чалавек, які стала пражывалі на адным месцы, вымушана перайшлі ў рух.

Найперш на тэрыторыі Беларусі з'явіліся масы людзей з іншых рэгіёнаў і краінаў – вайскоўцаў расейская (больш за 1,5 млн. чал.) і нямецкая (каля 1 млн. чал.) армій[3]. Адначасова дзейнічала іншая тэндэнцыя – каля двух мільёнаў жыхароў Беларусі, часам прымусова, сталі ўцекачамі і апынуліся ў глыбіні Расеі[4]. Адной з праяваў гэтага працэсу стала пранікненне ў Расею, дзякуючы беларусам і ўкраінцам, традыцыі ўжывання свінога салёнага сала, раней зусім не прынятай сярод расейскага насельніцтва паўночней лініі Смаленск – Тула – Пенза – Самара. У сваю чаргу, у эвакуацыі беларусы пазнаёміліся з сібірскімі пельменямі.

Але сярод насельніцтва тэрыторый, падкантрольных Савецкай уладзе, нягледзячы на цяжкае харчовае становішча і рацыяналізацыю прадуктаў, адначасова пашыраліся новыя кулінарныя звычкі. У тыя ж гады нарадзілася звычка, што дажыла да нашых дзён: у шпіталях, санаторыях

[2] Похлебкин В. Национальные кухни наших народов. Москва: Центрполиграф, 2007. С. 46.

[3] Запруднік Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мн.: БФС – ВЦ "Бацькаўшчына", 1996. С. 79; Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі (1795—2002). Мн.: Энцыклапедыкс, 2003. С. 170.

[4] Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі... С. 175.

і грамадскіх ядальнях пачалі варыць вадкую падсалоджаную манную кашу замест густой і падсоленай, што было раней. Як мог узнікнуць такі звычай? Рэч у тым, што па картках выдавалі невялікую колькасць крупы і цукру. Гаспадарнікі ж палічылі больш мэтазгодным не выдаваць кожны прадукт натурай, а злучыць іх у адну страву, ды яшчэ моцна разбавіць яе вадою дзеля павелічэння масы. Старшыня Саўнаркаму Уладзімір Ленін вельмі адмоўна паставіўся да гэтай новай звычкі і спрабаваў перашкодзіць падобнай практыцы, але традыцыя ўсталявалася[5]. Нашая салодкая манная каша, такім чынам, паходзіць з тых галодных часоў.

У 1924 г., калі наступіла стабілізацыя сістэмы харчавання, дзённы рацыён вясковага і гарадскога насельніцтва БССР выглядаў наступным чынам (люты месяц, у грамах)[6]:

| Насельніцтва | Хлеб жытны | Бульба | Цукар і цукровыя рэчывы | Мяса рознае | Рыба | Малако | Гарбата, кава | Калорый на 1 чалавека ў дзень |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Вясковае** | 590,9 | 955,4 | 2,0 | 88,5 | 6,6 | 173,2 | 0,8 (разам з сурагатамі) | 4086 |
| **Гарадское** | | | | | | | | |
| **Менск** | 507,8 | 537,7 | 25,8 | 106,5 | 12,2 (у т.л. селядцоў – 6,1) | 92,5 | 2,0 | 3201 |
| **Віцебск** | 451,7 | 296,1 | 19,7 | 119,2 | 24,2 (у т.л. селядцоў – 4,5) | 164,2 | 2,5 | 2648 |

Лічбы, прыведзеныя ў гэтай табліцы, узятыя з “*Статыстычнага штогодніка*” за 1923 – 1924 гг. Цэнтральнай Статыстычнай Ўправы БССР, і падаюцца вельмі цікавымі. Мы бачым, што беларуская аднаасобная вёска яшчэ магла падтрымліваць высокі ўзровень спажывання, а найлепшая сістэма харчавання была зусім не ў сталіцы Савецкае Беларусі. Па мясу, рыбе, малаку, садавіне, гарбаце і каве найлепшы выбар быў у Віцебску. Зусім не выпадкова ў гэтым горадзе ўзнік такі культурны феномен, як Віцебская мастацкая школа. У горадзе на Дзвіне знаходзіліся правіянцкія склады яшчэ царскай арміі, а сам горад не пераходзіў так актыўна з рук у рукі, як, да прыкладу, Менск. Адпаведна інфраструктура і сістэма забеспячэння ў Віцебску захавалася лепш, і сюды

[5] Похлебкин В. Национальные кухни… С. 48—49.

[6] Статыстычны штогоднік = Статистический ежегодник. 1923—1924. Мн.: Издание ЦСУ БССР, 1925. С. 376—377, 390—391.

пацягнуліся мастакі з галоднага Петраграду. Менск жа набіраў каларыйнасць за кошт сала, якога тут спажывалі ў 3,16 разы больш, чым у Віцебску. Таксама ў Менску заўважна больш елі хлеба ды бульбы.

Кулінарныя змены тады адбываліся на ўзроўні запазычанняў. З Навarасіі ў гарады іншых рэгіёнаў СССР, у тым ліку і ва Ўсходнюю Беларусь, у 1920-я гады быў занесены звычай гатаваць курыны суп з локшынай, які з цягам часу стаў агульнасаюзнаю "сталоўскай" стравою. З адэскіх рэстаранаў быў прыўнесены бефстроганаў, які са стравы вузкага кола аматараў пераўтварыўся ў вельмі пашыраную[7]; пецярбургскія новаміхайлаўскія катлеты з меню рэстарана Купецкага клубу ў часы гетмана Скарападскага ў 1918 г. патрапілі ва Ўкраіну ды праз некалькі гадоў пераўтварыліся ў "катлеты па-кіеўскі", і як "новая страва" патрапілі ў агульнасаюзнае рэстараннае меню. З Украіны прышлі варэнікі і, асабліва, боршч. Нарэшце, большасць яйкавых, малочна-мучных і малочна-раслінных страў, названымі "дыетычнымі", якімі ў 1920 - 1930-х гадах называлі ўсе паравыя, нясмажаныя, працёртыя і адварныя стравы з мяса, рыбы і гародніны, прыйшлі ў грамадскае харчаванне з прыбалтыйска-нямецкай і асабліва габрэйскай кухні, што было звязанае з шырокім пранікненнем на ўсход габрэяў па-за былой "рысы аселасці" (лінія Рыга – Магілёў – Гомель – Кіеў – Херсон).

*Новыя расчараванні*

1920-я гады былі адзначаныя ва Ўсходняй Беларусі (БССР) спробамі глыбокага рэфармавання самой структуры сельскай гаспадаркі, што непазбежна мела паўплываць на рацыён жыхароў краю. Рэч у тым, што ў нашай кліматычнай зоне таварнае раслінаводства па многіх пазіцыях з'яўляецца стратным, што наглядна прадэманстраваў жорсткі аграрны крызіс 1880-х гадоў. Яшчэ тады пачалася балючая перапрафілёўка беларускай аграрнай гаспадаркі – праз пашырэнне жывёлагадоўлі, мясамалочных фермаў, адначасовыя працэсы хутарызацыі ды стварэння добраахвотных каапераатываў. Малочныя арцелі захаваліся ва Ўсходняй Беларусі, пакуль не былі знішчаныя камуністычнай калектывізацыяй. Пад час НЭПу адбываўся нават іх колькасны рост: з 1924 лік такіх арцеляў у БССР павялічыўся з 14 да 65, і яны складалі 8% усіх сельскагаспадарчых каапераатываў – тады яшчэ добраахвотных. У першыя гады Савецкай улады сельская гаспадарка Беларусі ішла шляхам заходнееўрапейскіх краін. У гэты кароткі момант дабрабыт усходнебеларускіх сялянаў крыху абагнаў узровень жыцця іх суайчыннікаў па другі бок мяжы. Гаспадаркі, заснаваныя да гвалтоўнай калектывізацыі, арганізоўваліся на падставе распрацаванай беларускімі эканамістамі - А. Смоліч,

[7] Похлебкин В. Национальные кухни… С. 47.

Я. Кіслякоў, С. Ждановіч - тэорыі арганізацыі беларускай сялянскай гаспадаркі і канцэпцыі развіцця “Беларусь – Данія”. У 1920-я гады сярод эканамістаў БССР сапраўды была папулярнай ідэя развіцця сельскай гаспадаркі паводле ўзору Даніі[8]. Зрэшты, гэтая канцэпцыя мае вытокі ў пачатку 20 ст., калі па выніках паездкі ў Данію член Віленскага Таварыства Сельскіх Гаспадарак С. Ваньковіч выступіў са сваёй справаздачай на агульным сходзе Таварыства. С. Ваньковіч заявіў, што выхадам з аграрнага крызісу ў паўночна-Заходнім краі павінен стаць пераход з зерневай гаспадаркі на жывёлагадоўлю і малочную гаспадарку[9]. Наркам жа земляробства БССР Зміцер Прышчэпаў нават казаў: “*Беларусь у развіцці сельскай гаспадаркі мусіць стаць Даніяй на Ўсходзе Еўропы*”. У верасні 1929 г. Прышчэпаў быў зняты з пасады народнага камісара земляробства па абвінавачанні ў “правым ухіле”, а масавае стварэнне калгасаў паставіла крыж на праекце беларускіх эканамістаў.

Поспехі ж НЭПу на працягу другой паловы 1920 – пачатку 1930-х гадоў выявіліся, у тым ліку, у адкрыцці ў гарадах новых рэстаранаў, што пашырыла асартымент страў і павысіла патрабавальнасць людзей да якасці і смаку ежы. Газета “Звезда” 13 лістапада 1923 г.: паведамляла:

“*Увага! Унівэрмаг Чырвонага Крыжа. З 12-га лістапада паступіла ў продаж вялізная партыя ўсялякіх тавараў найлепшай якасьці й сьвежасьці: ікра паюсная, балык, сёмга, кефаль, керчанскія селядцы, шпроты, салькі, бычкі, лімоны; маскоўскія гарэлачныя вырабы — лікёр, запяканка, рабінаўка, спатыкач, допель-кюмель, замежнае шампанскае і лекавыя віны “Дэпрэ” разьліву мірнага часу; парфумы замежныя “Бракара” ды інш. (навінкі). Якасьць і сьвежасьць тавару гарантуем. Продаж усім. Кошты па-за канкурэнцыяй*”.

Але адначасова дзейнічала і іншая тэндэнцыя – пашырэнне савецкай сістэмы грамадскага харчавання дыктавала звядзенне меню да стабільнага складу з дзесятку “правераных” стравaў. А актыўнае будоўля фабрык-кухань у 1930-х прывяла не толькі да мінімізацыі меню, але і да спрашчэння кампазіцыі ды тэхналогіі страў. Найбуйнейшая ў БССР фабрыка-кухня пачала дзейнічаць у Менску напрыканцы 1934 г., адначасова з суседнім Домам ураду. Фабрыка мела магчымасць накарміць удзень некалькі тысячаў чалавек. Ужо з 1935 г. яна пачала штодзённа развозіць сняданкі па школах Менска – на ўласных аўтамашынах з фірмовай сімволікай[10]. У рэцэптуры фабрык-кухань найперш адсякаліся

[8] Калупаеў, Уладзь. Дацкі ўзор для беларускай сельскай гаспадаркі // Наша Ніва. 2005, № 40.

[9] Бусько В. Гісторыя ўзнікнення і сутнасць канцэпцыі “Беларусь – Данія” (Вытрымкі з навуковых прац) // Сацыяльна-эканамічныя праекты ў працах беларускіх эканамістаў (2-я палова XIX – 1-я трэць XX ст.). Мн.: Беларуская навука, 2007. С. 61.

[10] Мінск незнаёмы: 1920—1940 / Аўтар-укладальнік Ільля Куркоў. Мн.: Ураджай, 2002. С. 16.

прыправы ды іншыя “экзатычныя” элементы. Пераможнай тэхналогіяй аказаўся ўсходнеславянскі прыём варкі. Вараная капуста, грачнёвая каша з маслам з дабаўленнем мяса, кісель ці гарбата з лімонам сталі найбольш пашыраным савецкім меню 1920 - 1930-х гадоў.

Самі працоўныя часам вельмі нізка ацэньвалі якасць гатоўкі ў рабочых сталовых: “*У страўні кормяць агідна: даюць параную бульбу, да таго ж скіслую. Свежую капусту падбельваюць малаком. Солі не кладуць... Калі вараць рыбу, то ўсё мяса абразаюць аж да галавы, пакідаючы адну галаву*” (З таемнай Дакладной запіскі ў Сакратарыят ЦК КП(б)Б, верасень 1934 г.)[11].

Смакавыя ж стэрэатыпы яшчэ захоўваліся ад традыцыйнага грамадства: тлустая ежа = смачная ежа. Пра гэта вельмі яскрава сведчыла прыватнае ліставанне, у якім новыя гараджане менавіта такім чынам характарызавалі харчаванне, якое ім падабалася ў гарадах[12]. Але нават у гарадах, каб пратрымацца зімой, рабочыя забяспечвалі сябе з індывідуальных гародаў[13]. Савецкія ўлады імкнуліся па-свойму, адміністратыўнымі метадамі збалансаваць харчаванне сваіх грамадзянаў, прыкметаю чаго стала ўвядзенне ў другой палове 1930-х, падобна што з ініцыятывы Анастаса Мікаяна, “рыбнага дня” на ўсіх аб’ектах грамадскага харчавання СССР. Пазней, 26 кастрычніка 1976 г. ЦК КПСС замацаваў для ўсёй дзяржавы адзіны “рыбны дзень” – чацвер. Як мяркуецца, у піку хрысціянскім вернікам, для якіх посным днём была пятніца. Усе прадпрыемствы грамадскага харчавання не ўключалі ў “рыбныя дні” ў меню ніякіх мясных страваў, што выклікала незадаволенне рабочых і служачых.

У Заходняй Беларусі, што знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы, аграрная гаспадарка развівалася вельмі супярэчліва. З аднаго боку, там не было прымусовай калектывізацыі, але дзейнічалі прэферэнцыі для асаднікаў ды заахвочванне да камасацыі – хутарызацыі. У цэлым, ў заходнебеларускай вёсцы, што не зведала катаклізмаў БССР 1930-х гадоў, сістэма традыцыйнага харчавання захоўвалася больш поўна. Па-ранейшаму асноўнымі харчовымі прадуктамі былі бульба, капуста і хлеб. Але сельскія гаспадары, як і раней, займаліся гатаванне розных мясных вырабаў – вэнджаных ды вяленых. Соль ужывалася невысокага гатунку, цукар жа быў рэдкасцю ў сялянскай хаце і ўсюды замяняўся сахарынам, які кантрабандысты перапраўлялі ў Польшчу праз літоўскую мяжу[14]. Разнастайвала небагатае сялянскае меню рыба, якая ў вялікай колькасці вадзілася тут у шматлікіх рэчках, азёрах, сажалках. Праз усе 1920-я

[11] Паўсядзённае жыццё Менску ў 1918—1938 гг. Дакумэнтальныя сьведчаньні й успаміны / Падрыхтавалі У. Ляхоўскі і І. Раманава // Спадчына. 2003, № 2—3. С. 108.

[12] Козлова Н. Н. Горизонты повседневности советской эпохи. Голоса из хора. М.: ИФ РАН, 1996. С. 143.

[13] Паўсядзённае жыццё Менску ў 1918—1938 гг. С. 107.

[14] Мірановіч, Яўген. Найноўшая гісторыя Беларусі. Санкт-Пецярбург: “Неўскі прасцяг”, 2003. С. 81.

гады ўраджайнасць была невысокая. Але ў перадваенныя гады эканамічнага ўздыму (1937 - 1939 гг.) Віленскае, Наваградскае і Палескае ваяводствы дасягнулі па ўраджайнасці збожжа і бульбы паказчыкаў Францыі[15].

*Як уратавацца ад голаду?*

У перыяд Другой Сусветнай вайны многія беларусы былі мабілізаваныя ў армію, дзе апынулася і абсалютная бальшыня прафесійных повараў Савецкага Саюзу. Вайскоўцы даволі рэгулярна атрымлівалі гарачую ежу з дзвюх страў. Такім чынам, вайна прызвычаіла масы людзей да грамадскай кухні. Чырвоная армія забяспечвалася значна лепш за савецкі тыл.

На акупаванай жа тэрыторыі нямецкія ўлады, зацікаўленыя ў функцыянаванні мясцовай гаспадаркі дзеля патрэбаў Вермахту і Райху, досыць хутка наладзілі сістэму харчовага забеспячэння ў гарадах, арганізаваную паводле жорсткіх прынцыпаў карткавага рацыянавання. Карткавыя нормы былі вельмі, вельмі сціплымі. Так, узімку 1941 - 1942 гг. мінчукі атрымлівалі 200 г хлеба на дзень. У беларускай жа вёсцы з 1942 г. нямецкія ўлады пачалі паступовы пераход да індывідуальнага гаспадарання на зямлі. Нягледзячы на нямецкія ды партызанскія рэквізіцыі, беларуская вёска ў харчовым забеспячэнні жыла лепш за горад. У гарадах жа квітнеў "чорны рынак". Заходняя Беларусь і тут выглядала лепшым чынам – нешматлікія калгасы распаліся тут яшчэ летам 1941 г., адразу пасля адступлення Чырвонай арміі. Пазней беларускія дзеячы, якія супрацоўнічалі з немцамі, наладзілі вываз выхаванцаў дзіцячых дамоў, каб ўратаваць іх ад голаду, у заходне-беларускія рэгіёны.

Як сведчаць дакументы і ўспаміны жыхароў Беларусі, самым галодным быў не ваенны перыяд, а паваенныя 1946 - 1947 гады. Рэч у тым, што ва Ўсходняй Беларусі ўлады пачалі аднаўляць калгасную сістэмы, а на гэтыя ж гады прыпала засуха – вынік быў кумулятыўны. Усё ж заўважана, што не толькі кліматычныя катаклізмы прычыніліся да голаду, бо ён закрануў толькі ўсходнія рэгіёны краю. Каб дастаць прадукты, жыхары былой "малой" БССР пацягнуліся ў Заходнюю Беларусь[16]. Улады абвінавачвалі ў спекуляцыі тых людзей, што скупалі прадукты ў заходніх абласцях ды перапрадавалі іх ва ўсходніх. Пайкава-карткавая залежнасць гараджан ад дзяржавы, адсутнасць нармiраванага забеспячэння харчаваннем сельскай мясцовасці ўзмацнялі страх людзей перад голадам, штучна ўскладнялі крымінальную абстаноўку[17].

[15] Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі... С. 277.

[16] Гл.: Кашталян І. Эканамічная штодзённасць БССР у 1944—1953 гг. // Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Вып. 3. Мн., 2007. С. 239—245.

[17] Зима В. Ф.Послевоенное общество: голод и преступность (1946—1947 гг.) // Отечественная история. 1995, № 5. С. 45—46.

версітэцкую абсерваторыю і правёў з ім шэраг доследаў. На меркаванне Цэраскага, тэмпература ў фокусе люстэрка магла служыць “зыходнаю кропкаю для меркаванняў пра тэмпературу Сонца”. Люстэрка ўстаўлялася ў простую драўляную раму на шарнірах і ўраўнаважвалася цэглаю. Назіральнік трымаў у фокусе ўзор, які падвяргаўся плаўленню. Падчас доследаў прамяні Сонца, сабраныя люстэркам, расплаўлялі амаль імгненна ўсе металы і мінералы (ад плаціны да карунду), нават вапну. Зыходзячы з гэтага Цэраскі ацаніў тэмпературу ў фокусе люстэрка як ніжнюю мяжу тэмпературы Сонца, у 3500 °С. Потым з дапамогаю люстэрка былі сабраныя промні ад электрычнай дугі з вядомай тэмператураю, роўнай 3500 °С. Электрычную дугу ўсталёўвалі на такой адлегласці ад люстэрка, каб яе малюнак у фокусе атрымліваўся такім самым па памерах, як малюнак Сонца ў папярэднім доследзе. У фокус уносіліся розныя лёгкаплаўкія рэчывы. У гэтым выпадку тэмпература ў ім складала каля 150 °С. Такім чынам, было пацверджана, што тэмпература ў фокусе люстэрка складае толькі малую частку тэмпературы крыніцы. У выніку апрацоўкі вынікаў Цэраскі вызначыў: тэмпература паверхні Сонца – больш за 6000 °С, што адпавядае вынікам сучасных вымярэнняў. У памяць пра гэты не складаны, але выдатны эксперымент, які дазволіў яшчэ 100 гадоў таму ўстанавіць ніжнюю мяжу тэмпературы Сонца, рэфлектар французскае фірмы “Жэтліф і Сымон” ў Політэхнічным музеі носіць памятную назву “Люстэрка Цэраскага”[35].

Стварыў Цэраскі і простую канструкцыю сонечнага тэрмаэлектрагенератара[36]. Тэрмабатарэя гэтага генератара складалася з 25 ідэнтычных элементаў. Батарэя змяшчалася ў драўляную раму, прамежкі паміж сценкамі і элементамі генератара запаўняліся ватаю. Рама ў шкляной скрыні была размешчаная так, каб гарачыя пласты тэрмабатарэі знаходзіліся пад шклом, а халодныя – на адкрытым паветры, што дазваляла дасягнуць у сонечны дзень розніцы тэмпературы паміж імі у 50 °С. Магутнасць генератара была невялікая: яе ставала толькі на прывядзенне ў дзеянне электрычнага званка. В. К. Цэраскі сцвярджаў, што *“тэрмаэлектрычны слуп пры сваёй вельмі простай канструкцыі ўяўляе з сябе самы лепшы сродак утылізаваць сонечнае цяпло”.* Асабліва яго прыцягвала ідэя *“пакрыць пустэльныя схілы гор скалістага берага Крыму, залітыя сонечным святлом, тэрмаэлектрычнымі слупамі, якія будуць паглынаць сонечныя прамяні і дадуць магчымасць выкарыстоўваць іх”.* Аднак вырашыць праблему сонечнай тэрмаэнергетыкі ў той час было не пад сілу з прычыны недастатковага развіцця навукі і тэхнікі. Таму ідэі В. К. Цэраскага пачынаюць увасабляцца ў жыццё толькі ў наш час[37].

---

[35] Воронцов-Вельяминов Б. А. Научная деятельность В. К. Цераского. С. 37.

[36] Воронцов-Вельяминов Б. А. Научная деятельность В. К. Цераского. С. 36.

[37] Остапенко Е.В. Термоэлектрические генераторы: история создания и перспективы применения // Электропанорама. Электротехнический журнал. 2007 г. № 12. [Электронны рэсурс] – Рэжым доступу: http://www.elektropanorama.com.ua/ua/magazine/12_2007/economy?article=338 – Дата доступу: 18. 07. 2009.

У 19 ст. яшчэ не было вырашанае пытанне пра велічыню сціску Сонца і меркавалася часавая змена яго формы. Для вырашэння гэтага пытання Цэраскі прыдумаў і пабудаваў адмысловы геліёметр[38].

Складанай навуковай задачай у той час было вызначэнне яркасці Сонца. Праблема складалася ў велізарнай розніцы ў яркасці Сонца і звычайных зорак. За гэтую цяжкую задачу браліся да Цэраскага толькі нямногія даследнікі. А яго праца выканана найболей старанна. Бляск Сонца быў аслаблены праз адлюстраванне яго прамянёў ад шаравой шкляной паверхні. Гэты бляск параўноўваўся ўдзень пры дапамозе фатометра з бляскам планеты Венеры, а пасля заходу Сонца бляск Венеры параўноўваўся фатометрам з бляскам абраных зорак. У 1903 г. гэтым арыгінальным спосабам астраном вызначыў бачную зорную велічыню Сонца у – 26,5 m. (адрозніваецца ад сучаснай на 0,1 m.)[39].

З канца 19 ст. фірма–вытворца складанай механікі оптыкі “Фірма Трындзіных” цесна супрацоўнічала з Вітольдам Карлавічам Цэраскім. Пад кіраўніцтвам дырэктара абсерваторыі былі распрацаваныя некалькі канструкцый штатываў для тэлескопаў і асвоеная іх вытворчасць. У рэкламным праспекце фірмы адзначалася: *“У апошні час у Расеі зацікавіліся астраноміяй. Таму нашая фірма задалася мэтаю стварыць тып таннага і ў той жа час найбольш зручнага партатыўнага штатыва для астранамічных трубаў. Мы мелі на ўвазе астраномаў-аматараў, якім вельмі важна мець штатыў, лёгкапераносны і ў той жа час зручны”.* Фірма пад кіраўніцтвам Цэраскага асвоіла выпуск штатываў для астранамічных трубаў з адтулінамі аб’ектыва 61–108 мм і 110–130 мм. Дапамог астраном і з абсталяваннем прыватнай абсерваторыі Трындзіных у Маскве па апошнім слове тагачаснай тэхнікі. Вучоны спрыяльна паставіўся да справы будаўніцтва і адкрыцця новай маскоўскай агульнадаступнай абсерваторыі Трындзіных, бо падчас працы ў абсерваторыі Маскоўскага універсітэту яму даводзілася нярэдка адмаўляцца ад правядзення заняткаў з вучнямі сярэдніх навучальных установаў з прычыны нястачы часу і месца[40].

Навуковая дзейнасць Цэраскага атрымала ўсеагульнае прызнанне. У 1914 г. ён быў абраны членам-карэспандэнтам Пецярбургскай Акадэміі Навук. Быў сябрам Маскоўскага матэматычнага таварыства і ганаровым сябрам Маскоўскага таварыства выпрабавальнікаў прыроды. Даследчык актыўна удзельнічаў у жыцці навуковых таварыстваў.

Польскі даследчык Пшэмыслаў Рыбка са здзіўленнем зазначыў, што Цэраскі яшчэ ў 1901 г. адмовіўся ад прапановы Ягелонскага універсітэта

[38] Воронцов-Вельяминов Б.А. Научная деятельность В. К. Цераского. С. 36.

[39] Блажко С.Н. Витольд Карлович Цераский. Жизнеописание. С. 24.

[40] Морозова С.Г., Трындин Е.Н. Фирма Трындиных в истории Российской астрономии. // Историко-астрономические исследования. Выпуск XXXII. Москва, 2007. С. 57–72.

ўзначаліць кафедру астраноміі. Між іншым гэты факт сведчыць пра тое, што ўжо на пачатку 20 ст. Цэраскага ведалі ў Еўропе і ён меў сталыя кантакты з польскімі астраномамі[41].

Цэраскі цікавіўся і гісторыяй астраноміі 16 і 17 ст. Ён наведаў месцы, дзе працавалі Капернік і Ціха Браге, і напісаў артыкул пра сваіх папярэднікаў. У згаданым артыкуле дарэчы, адзначаў, што *"перавароту ў навуцы, роўнага па значэнні перавароту, зробленаму Капернікам у гісторыі навукі, ужо быць не можа. Калі падобнае ўвогуле магчыма, дык толькі ў галіне так званых псіхічных з'яваў"*[42].

У 1887 г. Маскоўскае матэматычнае таварыства сумесна з Таварыствам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі ўрачыста адзначыла 200–годдзе з дня выхаду працы І. Ньютана "Матэматычныя пачаткі натуральнай філасофіі". 20 снежня 1887 г. з дакладам "Ньютан як творца нябеснай механікі" выступіў астраном В.К. Цэраскі. Яго даклад па структуры і манеры выкладу стаў яскравым прыкладам прамоўніцкага мастацтва, узорам публічных выступаў.

Пра публічныя лекцыі Цэраскага, як гэта ні дзіўна, не захавалася звестак да 1887 г., хоць падаецца неверагодным, каб бліскучы лектар не чытаў іх. Найчасцей ён выступаў у Таварыстве аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. Яно падзялялася на некалькі аддзяленняў. Адно з іх, фізічнае, на сваіх пасяджэннях збірала масквічоў, якія цікавіліся фізікай. Паведамленні па фізіцы вельмі часта суправаджаліся дэманстрацыямі, таксама рабіліся паведамленні па механіцы і па астраноміі, дакладчыкам на астранамічныя тэмы быў Цэраскі[43]. Актыўна выступаў ён з публічнымі лекцыямі ў Політэхнічным і Гістарычным музеях перад навучэнцамі гімназій і школ. Мноства яго артыкулаў, прысвечаных папулярызацыі астранамічных ведаў, былі апублікаваныя ў часопісах "Свет Божий", "Русская мысль", "Научное слово", "Русский астрономический календарь". Вітольд Карлавіч усяляк дапамагаў першаму ў Расеі аб'яднанню аматараў астраноміі – Ніжагародскаму гуртку аматараў фізікі і астраноміі. Пачынаючы з 1901 г. ён сам стаў супрацоўнікам Рускага астранамічнага календара апублікаваў у ім шэраг артыкулаў. У сваіх матэрыялах для аматараў астраноміі ён не толькі засяроджваўся на спецыфічных астранамічных тэмах, але і шукаў адказы на вечныя пытанні: *"Зорнае неба, біялагічныя з'явы ў цесных межах Зямлі і духоўная дзейнасць у нас саміх, разам узятыя, спараджаюць паняцце пра Сусвет, хоць і смутнае і ў найвышэйшай ступені няпоўнае... Але бясконцасць даступная сузіранню чалавека толькі на зорным небе, прытым бясконцасць сапраўды тут прысутнічае, і не як гіпотэза ці здагадка, а адгэтуль ужо паняцце пра яе, законным і неабходным чынам распаўсюдж-*

[41] Rybka E., Rybka P. Historia astronomii w Polsce. S. 239.

[42] Цераский В.К. Коперник и Тихо Браге // Научное слово. Москва, 1903. Кн. 1.

[43] Блажко С.Н. Витольд Карлович Цераский. Жизнеописание С. 16.

*ваецца на сукупнасць жыццёвых і іншых працэсаў у прыродзе”*[44]. Цэраскі лічыў, што *“астраном... павінен ведаць усе тонкасці сучаснай астранамічнай... практыкі... Але ніколі, ні на хвіліну ён не павінен забываць, што ён павінен быць навукоўцам, мысляром, прыродазнаўцам-філосафам, наколькі гэта дазваляюць яго сілы і здольнасці...”*[45].

* * *

Вітольд Цэраскі наладзіў нядзельныя зборы ўсіх супрацоўнікаў абсерваторыі для навуковых дакладаў і вольнага абмеркавання ўсялякіх пытанняў, звязаных з навуковай працай абсерваторыі. Ён хацеў чуць меркаванні іншых, здараліся гарачыя спрэчкі, якія перапыняліся дасціпнымі і лагоднымі заўвагамі Вітольда Карлавіча, часам даходзіла да галасавання. Быў выпадак, калі Вітольд Карлавіч выканаў жаданне грамады, хоць сам галасаваў супраць. Стаўленне Цэраскага да супрацоўнікаў было самае добразычлівае, і нават патрабаванні выказваліся ў мяккай, пераканальнай, а не загаднай форме. Гэта стварала ў абсерваторыі незвычайна добрую атмасферу ўзаемнага разумення і даверу. Каб згуртаваць астраномаў у адну сям’ю, Цэраскі прыдумаў “свята абсерваторыі”. Свята адбывалася штогод увечары 25 снежня. Да 9–й гадзіны ў кватэры Вітольда Карлавіча збіраліся астраномы і “сябры абсерваторыі”. У сярэдзіне вячэры гаспадар уставаў і, адзначыўшы заслугі ранейшых дырэктараў, партрэты якіх віселі на сцяне, даваў своеасаблівую справаздачу аб навуковай дзейнасці абсерваторыі ў мінулым годзе і выказваў пажаданні для кожнага на будучы год. Майстар слова ўмеў у прыгожай, дасціпнай форме нешматлікімі словамі вызначыць задачы для ўсіх – ад сябе, дырэктара, да самага малодшага супрацоўніка, якім нярэдка бываў студэнт. Пасля хто-небудзь з прысутных астраномаў прамаўляў тост у гонар Вітольда Карлавіча, і своеасаблівая “афіцыйная” частка свята заканчвалася, пачыналася нязмушаная гутарка, якая доўжылася да нявызначанага часу[46].

Цэраскі ўважліва кіраваў працай іншых супрацоўнікаў, даючы ім значную свабоду ў выбары тэмы працы, але ж заўсёды клапаціўся пра тое, каб праграмныя тэмы абсерваторыі выконваліся дакладна.

Сучаснікі адзначалі яго асабістую культуру, высокі інтэлект, спагадлівасць да людзей. Цэраскі цёпла ставіўся да маладых навукоўцаў, простых супрацоўнікаў абсерваторыі, падтрымліваў сувязь са студэнтамі–беларусамі і адгукаўся на іх патрэбы. Сярод ягоных вучняў два сусветна

[44] Цераский В.К. Астрофотографические работы Московской обсерватории // Русский астрономический календарь на 1902 г.

[45] Цераский В. К. Записка о Московской обсерватории // Историко-астрономические исследования. Москва, 1958. Вып. IV. С. 577.

[46] Блажко С.Н. Витольд Карлович Цераский. Жизнеописание. С. 23.

вядомыя астраномы, якія нарадзіліся ў Беларусі Ціхаў Г.А. (са Смалявічаў пад Менскам) і Блажко С. Н. (г. Хоцімск на Магілёўшчыне). Дапамагаў і зусім невядомым маладым людзям, якія мелі жаданне атрымаць адукацыю і шукалі ў яго падтрымкі. Захаваліся ўспаміны Ф. Я. Зотава: *"У 1911 г. я, просты хлапчук з "глухой вёскі", бацька якога ўмеў толькі чытаць "па складах" (не "по слогам" а "па складах" – менавіта так у рускім тэксце, - Л. Л.), працуючы ў карчме, прачытаў папулярны артыкул Цэраскага і напісаў яму ліст з просьбаю пасадзейнічаць у атрыманні адукацыі".* Праз нейкі час да Зотава зайшоў сын прафесара са сваім сябрам і запрасіў яго да сябе дахаты. Цэраскі, пагаварыўшы з маладым чалавекам, даў яму праграму самападрыхтоўкі і падручнікі. Праз некалькі месяцаў на просьбу прафесара маладога чалавека праэкзаменаваў С. Н. Блажко. Прафесар пасадзейнічаў паступленню на двухгадовыя 1-я Маскоўскія электратэхнічныя курсы[47]. Зотаў так апісаў вядомага астранома: *"І вось упершыню я ўбачыў Вітольда Карлавіча. Ён запрасіў сесці насупраць яго. Я ўбачыў перад сабою чалавека з сіваватымі хвалістымі валасамі, з адкрытым светлым тварам і вачыма, якія нібы выпраменьвалі святло. Усё аблічча Вітольда Карлавіча было адухоўленым. Словам, я бачыў перад сабою чалавека, якім у маім тагачасным уяўленні і павінен быў быць усякі вялікі вучоны"*[48].

Кола зносінаў Цэраскага не абмяжоўвалася навукоўцамі. Ён не быў вузкім адмыслоўцам: яго жывы розум цікавілі літаратура, мастацтва, гісторыя. Паступова вучоны стаў сваім у навукова-літаратурным гуртку моладзі, прыцягваючы да сябе сваім таварыскім характарам, разнастайнасцю інтарэсаў і досціпам гутарак. Вось як сведчыў пра гэта акадэмік А.А. Белапольскі: *"Я быў і яго [Цэраскага] вучнем, і яго таварышам. Незабыўныя гады нашага сумеснага знаходжання ў Маскоўскай абсерваторыі, калі ў нас утварыўся гурток моладзі, аб'яднанай агульнымі інтарэсамі навукі, мастацтва і жыцця, глыбока хвалявалі мяне ў часы майго наступнага жыцця. Лідэрам гэтага гуртка заўсёды быў Вітольд Карлавіч. Ён… задаваў тэмы нашым навуковым і жыццёвым спрэчкам, уносіў ажыўленне ў іх разумнымі заўвагамі, выклікаў крытыку да прачытанага, ён быў душою нашага гуртка; часта прыцягваў ён да нас і маладых людзей звонку: да яго заўсёды імкнуліся знаёмыя, бо ведалі, што вечар, праведзены ў Вітольда Карлавіча, пакіне ў душы ўцешнае ўражанне... Каля яго збіраліся самыя выбітныя людзі ў Маскве... усе яны былі тады маладымі людзьмі, бліскалі сілаю і талентамі. Сапраўды, я лічу адмысловым шчасцем, што першыя крокі майго жыцця працяклі ў гэтым бліскучым асяроддзі, у цэнтры якой быў Вітольд Карлавіч. Гэтую здольнасць прыцягваць да сябе людзей Вітольд Карлавіч заха-*

[47] Зотов Ф.Я. Воспоминания о В.К. Цераском // Историко-астрономические исследования. Москва, 1955. Вып. I. С. 335 – 336.

[48] Зотов Ф.Я. Воспоминания о В.К. Цераском. С. 337.

*ваў на ўсё сваё жыццё"*[49]. Белапольскі пісаў, што ўжо ў 1880-х г. вакол Цэраскага ўтварыўся шматлікі гурток навукоўцаў, артыстаў, мастакоў, пералічыў толькі некаторых удзельнікаў гуртка з ліку навукоўцаў і філосафаў: К.А. Андрэеў[50], М.Я. Жукоўскі[51], Н.І. Карееў[52], М.С. Карэлін[53], Л.М. Лапацін[54], Б.К. Младзееўскі[55], В.С. Салаўёў[56]. Але і па гэтых імёнах відаць, што ў коле сяброў былі інтэлектуальныя лідэры грамадства. Многія з гэтых дзеячаў потым увайшлі ў склад Маскоўскага псіхалагічнага таварыства і бралі ўдзел у выданні часопіса "Пытанні філасофіі і псіхалогіі"[57].

Вялікае сяброўства злучала Цэраскага з вядомым паэтам Максіміліянам Валошыным. Яны пазнаёміліся ў 1907 г. пад час адпачынку ў Крыме[58]. Гэта відаць з пісьма паэта ад 1907 г.: *"...паміж імі [гасцямі] жонка дырэктара Маскоўскай абсерваторыі Цэраскага. Гэтым знаёмствам я вельмі ўсцешаны, бо яно дае мне магчымасць быць у абсерваторыі ўвосень, пра што я вельмі марыў. Я ўжо атрымаў запрашэнне"*. Астраномія заўсёды цікавіла Валошына, ён даўно ўпадабаў *"прагулкі па небу"*. Гэтае захапленне нярэдка ўзбуджала яго натхненне, дазваляла знаходзіць ёмістыя паэтычныя метафары, пісаць надзіва ёмістыя і выразныя вершы. Як сведчыла жонка паэта, гэта, асабліва цаніў Вітольд

[49] Блажко С.Н. Витольд Карлович Цераский. Жизнеописание. С. 14–15.

[50] К. А. Андрэеў (1848 – 1921), вядомы матэматык, універсітэцкі таварыш В. К. Цераскага, быў прафесарам у Харкаўскім, потым у Маскоўскім універсітэце.

[51] М.Я. Жукоўскі (1847 – 1921), прафесар, матэматык і механік, падтрымліваў цесную навуковую сувязь з маскоўскімі астраномамі В.К. Цераскім, Ф.А. Брадзіхіным, А.А. Белапольскім.

[52] Н.І. Карееў (1850 – 1931), вядомы гісторык, аўтар капітальных прац па гісторыі Заходняй Еўропы. Выхаванец Маскоўскага універсітэта, потым прафесар Варшаўскага і Пецярбургскага універсітэтаў.

[53] М.С. Карэлін (1855 – 1899), гісторык, прафесар Маскоўскага універсітэта. Аўтар капітальнай працы "Ранні італьянскі гуманізм і яго гістарыяграфія" і прац па гісторыі папства.

[54] Л.М. Лапацін (1855 – 1920), прафесар філасофіі ў Маскоўскім універсітэце, старшыня псіхалагічнага таварыства і рэдактар часопіса "Пытанні філасофіі і псіхалогіі", спірытуаліст і метафізік.

[55] Б.К. Младзееўскі (1858 – 1923) – выбітны матэматык, прафесар Маскоўскага ўніверсітэта.

[56] В.С. Салаўёў (1853 – 1900), сын вядомага гісторыка С.М. Салаўёва, геніяльны філосаф і рэлігійны мысляр, містык і ідэолаг тэакратыі.

[57] "Пытанні філасофіі і псіхалогіі" – шырока вядомы часопіс, які выходзіў у Маскве пры Псіхалагічным таварыстве з лістапада 1890 г., 4 – 6 разоў у год. Часопіс займаўся не толькі распрацоўкай адмысловых навуковых пытанняў, але і псіхалагічнай крытыкай адметных з'яваў літаратуры і жыцця.

[58] Цветков В.И. Максимилиан Волошин и естественные науки // На рубежах познания Вселенной. Историко-астрономические исследования. вып. XXII. Москва, 1990. С. 381 – 394.

Карлавіч: *“Недакладнасці ў вершы не дараваў бы і Пушкіну, а пра Вашы вершы, Максіміліян Аляксандравіч, магу сказаць, што ведаю, у якім часе, пра якую частку небасхілу напісаны кожны радок”*. Валошын пабудаваў свой дом у 1903 г. на пустынным у той час беразе Кактэбельскай затокі (Крым)[59]. Шматлікія  госці, якія бывалі ў паэта ў Кактэбеле, па вечарах падымаліся на адмыслова зробленую над хатай назіральную пляцоўку – абсерваторыю, каб паглядзець на Месяц, зоркі, планеты, паслухаць у выкананні ветлівага гаспадара вершы пра Сусвет. Акрамя Цэраскіх, у М.Валошына ў розны час гасцявалі выбітныя дзеячы культуры: І.А. Бунін, Ф.І. Шаляпін, А.М. Талстой, М.А. Булгакаў, А.М. Скрабін, В.Я. Брусаў[60].

У архіўным фондзе В. К. Цэраскага, які захоўваецца ў Пецярбургскім архіве АН РФ (фонд № 716), захаваліся два рукапісныя сшыткі, што змяшчаюць нататкі Цэраскага па грамадска-палітычных пытаннях. Першы з сшыткаў мае 37 старонак, нататкі ў гэтым сшытку адносяцца пераважна да падзей 1886 г. ці да больш ранніх. На вокладцы сшытка значыцца: “De rebus omnibus”[61]. Другі сшытак ў 16 старонак з нататкамі пра падзеі канца 1890 – пачатку  1900–х г. Усе запісы ў сшытках зробленыя для сябе і адкрываць унутраны свет нашага земляка. Цэраскі быў далёкі ад палітыкі. Ён лічыў, пісаў пра гэта ў сшытках, што справа прафесара – аддаваць усе сілы сваёй кафедры, няўхільна выконваць абавязкі навукоўца і настаўніка. Але Цэраскі нарадзіўся ў Беларусі. Ён быў пляменнікам паўстанца  1863 г. і навучэнцам Слуцкай гімназіі і сведкам рэпрэсій царскага ўрада. Ужо будучы навукоўцам і прафесарам, стаў сведкам палітыкі русіфікацыі народаў Расеі. Нядзіўна, што нацыянальна-патрыятычныя разважанні складаюць галоўную частку запісаў у сшытках Цэраскага[62].

У першым сшытку чытаем: *“Патрыятызм можна падтрымліваць гістарычнымі ўспамінамі. Ён, уласна кажучы, нічога матэрыяльнага не патрабуе. Але страта незалежнасці, увогуле, забівае народ, таму што сціскае сферу дзеяння, таму што пазбаўляе магчымасці задавацца гістарычнымі задачамі і перспектывамі. Толькі Радзіма, перад велічэзнымі цяжкасцямі, натхняе чалавека і грамадства”.* І: *“Патрыятызм, да яго я дайшоў досведам і назіраннем, ёсць сіла і запатрабаванне такое ж несумнеўнае і натуральнае, як запатрабаванне дыхаць. Патрыятызм выяўляецца і ў хвіліну страты, і ў хвіліну роздумаў пра страту незалежнасці”.* Цэраскі пісаў гэтыя радкі ў той час, калі руская

[59] Цветков В. И. В. К. Цераский в Коктебеле // Земля и вселенная. 1974. № 6. С. 52–53.

[60] Луцкий В.К.. История астрономических общественных организаций в СССР. Москва, 1982. С. 136.

[61] “Пра загадку амнібуса”, літаральна – “Пра ўсеагульную загадку” (лац).

[62] Перель Ю. Г. Витольд Карлович Цераский. К вопросу о мировоззрении В. К. Цераского. // Историко-астрономические исследования. Москва: Гостехиздат, 1955. Вып. I. С. 323–324.

публіцыстыка, у тым ліку “Маскоўскія ведамасці” М. Н. Каткова абвяшчала *“палякаў”* лютымі ворагамі рускай дзяржаўнасці. Зразумела, што Каткоў быў законным і натуральным аб’ектам непрыязнасці Цэраскага, які пісаў у тым жа сшытку, відавочна, пад жывым уражаннем чытання “Маскоўскіх ведамасцяў”: *“Каткоў усё расце, ён і багаслоў, і філосаф, і юрыст, і фінансіст, і палітык, і філолаг з філолагаў, і патрыёт. Думаюць, што ён святы і прарок. Перад усімі прарокамі ў Каткова вялікая перавага – тых гналі, а яго берагуць. Добра быць паліцэйскім святым і жандарскім прарокам”; “Рускіх няма, ёсць антыпалякі. Калі нацыя дойдзе да самасвядомасці, калі будуць рускія, дык паладзіць з імі будзе не цяжка”*[63].

Як вучоны і прафесар Цэраскі асабліва востра рэагаваў на падзеі жыцця, яго хвалявала палітыка ўраду ў асвеце: *“Ордэны, чыны і месцы даюцца прафесарам за так званыя адміністрацыйныя здольнасці. Гэта дрэнна, бо яны [такія прафесары] з’яўляюцца прадстаўнікамі універсітэта, не быўшы носьбітамі яго ідэі... універсітэт і інспекцыя зваротна прапарцыйныя”.* Ён з абурэннем прыводзіў выняткі з водгукаў гімназічнага начальства пра абітурыентаў, выхаванцаў гімназій, паступіўшых ва універсітэт: *“NN ніякіх кніг не чытае, увогуле вучань узорны... NN – вальнадумец, чытае Спенсара* [64]*”*[65].

Запісы 1880–х г. адлюстроўваюць цікавасць Цэраскага да міжнародных спраў і трывогу з нагоды ўзмацнення германскага мілітарызму. Цэраскі занатаваў: *“У Турцыі – прускія інструктары ў войску, у Кітаі – прусакі, усюды прусакі”. “У імя чаго,* – пытаецца Цэраскі, – *будзяць яны спячую сілу ўсходніх народаў, што даюць ім, чаму вучаць?”* У сувязі з выступам на юбілеі Гейдэльбергскага універсітэта германскага кронпрынца, які гаварыў пра значэнне універсітэтаў для выпрацоўкі разумовай дысцыпліны, Цэраскі зазначыў: *“Што мае на ўвазе пад разумоваю дысцыплінаю спадар прускі салдат?”*[66].

У пазнейшых нататках Цэраскага мы знаходзім і водгук на замах на жыццё міністра народнай асветы Багалепава ў 1901 г. Непасрэднай нагодаю да замаху былі высілкі Багалепава па аддачы ў салдаты студэнтаў за ўдзел ва універсітэцкіх хваляваннях. Запісы Цэраскага зроблены пад непасрэдным уражаннем артыкула ў “Маскоўскіх ведамасцях”, у якім давалася апалагетычная характарыстыка Багалепава і, у прыватнасці,

[63] Перель Ю. Г. Витольд Карлович Цераский. К вопросу о мировоззрении В. К. Цераского. С. 325–326.

[64] Герберт Спенсар (1820 – 1903) (Herbert Spencer) — англійскі філосаф і сацыёлаг, адзін з родапачынальнікаў пазітывізму, яго ідэі карысталіся вялікаю папулярнасцю напрыканцы 19 ст.

[65] Перель Ю. Г. Витольд Карлович Цераский. К вопросу о мировоззрении В. К. Цераского. С. 328.

[66] Перель Ю. Г. Витольд Карлович Цераский. К вопросу о мировоззрении В. К. Цераского. С. 327.

сцвярджалася, што ён заўсёды дзейнічаў, *“падпарадкоўваючыся сумленню”*. З гэтай нагоды Цэраскі зазначыў: *“Сумленне таго ці іншага чалавека не ёсць крытэр справядлівасці і праўды. Выключна толькі сумленню падпарадкоўваліся фанатыкі, прыгнятальнікі, найвялікшыя злачынцы і вылюдкі... Падобным чынам Рачынскі*[67]*, цалкам шаноўны чалавек, хваліў Мураўёва за тое, што той расстраляў графа Плятэра ўжо пасля царскага памілавання. І для яго, зусім сумленнага рускага чалавека і прытым дбайнага супрацоўніка “Пытанняў філасофіі і псіхалогіі”, мяжы паміж дабром і злом не існуе”*. Наступны за гэтым запіс “Вянок на магілу Багалепава” (памёр ад атрыманага ранення), у якім Цэраскі па пунктах фармулюе вынікі дзейнасці Багалепава і шкоду, якую ён зрабіў справе развіцця навукі і асветы і, у прыватнасці, Маскоўскаму універсітэту. Асабліва адзначае *“дзікі і тупы пераслед палякаў, армянаў і г. д.”.* Цэраскі ўспамінаў, што ў 1898 г., пры прызначэнні В.І. Вярнадскага прафесарам, Багалепаў, тады папячыцель Маскоўскай навучальнай акругі, выклікаў Вярнадскага да сябе і заявіў, што яго прызначаюць не за навуку (навука – справа Акадэміі навук) і што прафесар павінен узгадняць свае дзеянні з поглядамі ўрада і выхоўваць студэнтаў *“у вядомым кірунку”*. *“Скажам ад сябе, што падобны погляд на універсітэты ёсць найвялікшае няшчасце і згуба універсітэтаў. Ганенне навукі – сапраўднай, вольнай, глыбокай – зробіць універсітэт найгоршай са школаў, бо ён пазбаўлены рамеснай, тэхнічнай асновы”*[68]*.*

Цэраскі ў перыяд 1889–1911 г. быў сябрам Рады Маскоўскага універсітэта і яго ўдзел ва універсітэцкіх справах быў актыўны. У 1901 г. Цэраскі ўваходзіў у склад камісіі, абранай Радай Маскоўскага універсітэта для разгляду пытанняў пра неабходныя пераўтварэнні ва універсітэтах. У 1904–1905 г. у вельмі складаным становішчы Цэраскі ўзначальваў камісію Рады па справах студэнцкіх установаў[69]. У 1905 г., пасля ўзброенага паўстання ў снежні 1905 г., ён зрабіў аб’ектыўны даклад на радзе універсітэта пра гэтыя падзеі. Вітольд Карлавіч востра рэагаваў на разгром Маскоўскага універсітэта ў 1911 г., і далучыўся да прафесараў, якія выступілі з пратэстам супраць гэтага разгрому. Ён спыніў чытанне лекцый ва універсітэце і захаваў за сабою толькі абсерваторыю[70].

[67] Г.А. Рачынскі (1859 – 1939), пісьменнік, пісаў на рэлігійна-філасофскія тэмы, перакладчык заходнееўрапейскай літаратуры, друкаваўся ў “Маскоўскіх ведамасцях”.

[68] Перель Ю. Г. Витольд Карлович Цераский. К вопросу о мировозрении В. К. Цераского. С. 329.

[69] Перель Ю. Г. Витольд Карлович Цераский. К вопросу о мировозрении В. К. Цераского. С. 332.

[70] Куликовский П.Г. Витольд Карлович Цераский ( к 125-летию со дня рождения). // Земля и вселенная. 1974. № 6. С. 48–51.

* * *

Здароўе Вітольда Карлавіча заўсёды было слабое і патрабавала сталай увагі. Прыкладна каля 1910 г. у яго з’явілася хвароба, якую лекары так і не змаглі дыягназаваць дакладна. Хвароба выяўлялася паступова, павольна павялічвалася агульная фізічная слабасць, але розум захоўваў працаздольнасць. Цэраскі адчуваў, што сілы сыходзяць, і спяшаўся дапісаць свае працы (яны склалі VI том 2–й серыі “Прац Маскоўскай астранамічнай абсерваторыі”). У 1916 г., па патрабаванні лекараў, ён вырашыў скласці з сябе кіраванне абсерваторыяй і пераехаць з жонкай у Феадосію, дзе, як усе спадзяваліся, паўднёвае сонца ўмацуе яго здароўе. Тут і заспела яго рэвалюцыя і грамадзянская вайна.

Ф.Я. Зотаў успамінаў: *“Пасля дэмабілізацыі я выправіўся на Поўдзень… у той час немцы займалі Украіну, і я, хаваючыся ад іх, апынуўся ў Феадосіі. Цэраскія прынялі мяне як роднага сына. Матэрыяльнае становішча сям’і Цэраскіх тады было няважным. Вітольд Карлавіч па стану здароўя не мог працаваць. Увесь цяжар клопатаў пра здабыванне сродкаў ляжаў на Лідзіі Пятроўне. Яна выкладала ў настаўніцкім інстытуце і давала шмат прыватных урокаў па розных прадметах… У сям’і Цэраскіх я тады пражыў каля 6 месяцаў. Нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча сям’і Цэраскіх у той час у Феадосіі, як і раней у Маскве, была прыцягальным цэнтрам усіх разумных людзей. У суботу ўвечары ці ў нядзелю ў Цэраскіх збіралася невялікая грамада… бываў мастак Багаеўскі, паэт Валошын, члены сям’і мастака Айвазоўскага… каля двух месяцаў сталым госцем была жанчына–астраном Пулкаўскай абсерваторыі, прозвішча якой я не памятаю… Увечары Вітольд Карлавіч любіў праводзіць у невялікім садку на двары…*

*Неяк у Феадосіі я зайшоў у яго пакой і заспеў яго за сталом з тварам, залітым слязьмі. Мне было нязручна спытаць яго, што з ім. Ён сам пачаў: “Вось Зотаў, шкада што вы добра не валодаеце польскай мовай, каб у поўнай меры адчуць усю шчырасць і прыгажосць Міцкевіча”. Тут я заўважыў, што перад ім ляжыць раскрытая кніга…”*[71].

На працягу нейкага часу Цэраскія жылі ў паэта Максіміліяна Валошына ў Кактэбелі. І перажылі яны неверагодныя цяжкасці рэвалюцыі менавіта дзякуючы апецы паэта. Валошын здабываў пайкі праз Камісію асветы, клапаціўся пра неабходныя жыццёвыя дробязі. Лідзія Пятроўна Цэраская потым пісала Валошыну: *“Наша знаходжанне ў Крыме непарыўна звязана з Вамі, не было цяжкай хвіліны, каб Вы не прыйшлі на дапамогу, клапаціліся пра муку, цукар, газу і г. д. без канца. І гэта Вы рабілі не толькі для нас, да Вас ішлі гурбы людзей з сваімі просьбамі”*[72].

[71] Зотов Ф. Я. Воспоминания о В.К. Цераском. С. 340–341.

[72] Цветков В.И. В. К. Цераский в Коктебеле. С. 52–53.

У вялікую кватэру прафесара на Прэсні, Вялікі Мікольскі завулак, 5[73], Цэраскія ўжо не вярнуліся. Увосень 1922 г. яны пераехалі пад Маскву, у горад Троіцкае Падольскага павету Маскоўскай губерні, дзе сын Канстанцін Вітольдавіч працаваў лекарам. Ф.Я. Зотаў наведаў іх: *"Пасля пераезду Цэраскіх у Троіцкае я паехаў наведаць іх… Здароўе Вітольда Карлавіча было значна горшым за тое, якім яно было падчас майго знаходжання ў Феадосіі. Ён цяпер увесь час ляжаў ў ложку. Але выразнасць думкі і жывая цікавасць да ўсяго ў яго заставалася ранейшай. Ён некалькі гадзінаў не адпускаў мяне ад сябе, распытваючы пра тое, што робіцца ў Маскве…"*[74].

У 1924 г. астранамічныя ўстановы і арганізацыі ўрачыста адзначылі 75–гадовы юбілей вучонага. Вітольд Карлавіч Цэраскі памёр у Троіцкім, пахаваны ў Маскве на Ваганькаўскіх могілках недалёка ад уваходу. Ягоны сябар Максіміліян Валошын прысвяціў яму кранальны верш.

Імем Цэраскага названы кратэр на зваротным боку Месяца і астэроід[75].Але самым значным помнікам выдатнаму вучонаму служыць Маскоўская астранамічная абсерваторыя.

---

[73] Вся Москва: Адресная и справочная книга на 1917 год. Москва: Суворин «Новое время», 1917. С. 526.

[74] Зотов Ф.Я. Воспоминания о В.К. Цераском. С. 341.

[75] Lutz D. Schmadel. Dictionary of minor planet names. International Astronomical Union. 2003. S. 75.



*Сяргей Астанковіч,*
*Ірына Будзько (Менск)*

# ЯЗЭП ЦІХІНСКІ (1843 – 1922?) І АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

Імя Язэпа Ціхінскага звязана са стварэннем найвялікшага беларускага слоўніка ў другой палове 19 – сярэдзіне 20 ст. Аднак, звестак пра гэтага выдатнага навукоўца захавалася вельмі мала. Інфармацыя, якая падаецца ў энцыклапедычных даведніках, фрагментарная і няпоўная, часам проста не карэктная[1]. Пра асобу Ціхінскага дагэтуль пісалі амаль толькі лінгвісты, якіх збольшага збольшага цікавіла лексікаграфічная дзейнасць Ціхінскага, а не падрабязнасці яго лёсу.

Гісторыкі звярталі яшчэ менш ўвагі на яго постаць. У якасці выключэння можна назваць эмігранцкага навукоўца Аўгена Калубовіча, які змясціў кароткую інфармацыю пра Я. Ціхінскага ў сваім артыкуле "Акт 25-га Сакавіка й адраджэньне нацыянальнай беларускай культуры". Некаторыя звесткі пра яго маюцца ў кнізе С. Александровіча "Гісторыя і сучаснасць"[2]. Такім чынам, цікавейшая постаць Язэпа Ціхінскага дагэтуль, фактычна, заставалася незаўважанай і неацэненай нашымі даследчыкамі.

Упершыню слоўнік Ціхінскага быў апісаны Міколам Байковым яшчэ ў 1922 г. Выдатны беларускі лексікограф вельмі высока ацэньваў працу свайго папярэдніка, прылічыўшы яе да галоўнай каштоўнасці Інбелкульта. У 30-я гады слоўнік пачалі рыхтаваць да друку. Але прыгатаваная копія разам з рукапісам загінула падчас вайны. Аказалася, аднак, што існаваў яшчэ адзін варыянт працы беларускага даследчыка. З крыніц становіцца зразумелым тое, што Ціхінскі стварыў два экземпляры слоўніка - "мінскі" і "віленскі" спісы.

У канцы 1957 г. у рукапісным аддзеле бібліятэкі АН Літвы частку "ві-

[1] Ціхінскі Язэп // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. У 12 Т.Т. 11. Мн.: БелСЭ, 1974. С. 120; Суднік М. Р. Ціхінскі Язэп // Беларуская энцыклапедыя. У 18 Т. Т. 17. Мн.: БелЭН, 2003. С. 130; Гуліцкі М.Ф. Ціхінскі Язэп // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭН, 1994. С. 604. У гэтым артыкуле сцвярджаецца, што Ціхінскі жыў у маёнтку Прусін, які знаходзіцца ў сучасным Касцюковіцкім раёне. Насамрэч, у гэтым рэгіёне зараз ёсць 2 вёскі з назвай Прусін – у Касцюковіцкім раёне (колішні Клімавіцкі павет Магілёўскай губерні) і ў Крычаўскім раёне (адпаведна – былы Чэрыкаўскі павет). Навуковец пражываў ў Чэрыкаўскім павеце.

[2] Калубовіч А. Акт 25-га Сакавіка й адраджэньне нацыянальнай беларускай культуры // Спадчына, 1992, № 1. С. 70. Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн.: Беларусь, 1968. С. 197, 238.

ленскага” рукапісу знайшоў беларускі навуковец Аляксандр Вяржбоўскі. Ён жа напісаў тры артыкулы па тэме, імкнучыся прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы[3]. Пазней з’явіліся і іншыя работы – Эльжбеты Смулковай і Мікалая Гуліцкага[4], аднак дагэтуль 7 308 старонак “віленскага спіса” застаюцца маладаследаванымі.

Якое ж значэнне мела дзейнасць Я. Ціхінскага для беларускага Адраджэння?

Нарадзіўся Язэп Ціхінскі ў 1843 г. у шляхецкай сям’і на Рагачоўшчыне (у той час – Магілёўская губерня). Яго бацькамі былі Фларыян і Антаніна (у дзявоцтве Ціхінская) Ціхінскія, парафіяне невялікага Антушаўскага касцёла[5]. Маці будучага навукоўца была ўладальніцай спадчыннага маёнтка Мазалаў[6].

Гэты род, вядомы з 16 ст., з’яўляўся адгалінаваннем сям’і Зянкевічаў (Зянковічаў) гербу “Сякера (Siekierz)”[7]. Ціхінскія мелі ўласны варыянт гэтага герба, які так і называўся – “Ціхінскі (Cichiński)”, і былі ўнесены ў другую частку родавых дваранскіх кніг Магілёўская губерні[8]. Шляхту з такімі прозвішчамі можна было сустрэць у самых розных месцах Вялікага Княства Літоўскага. Так, Павел Зяньковіч Ціхінскі ў крыніцы, датаванай 1622 г., пазначаны як шляхціц Наварадскага павета.




Герб “Ціхінскі” [9]

[3] Verțbovskis A. Gyvosios baltarusiř kalbos aiđkinamasis țodynas // Tiesa, 1958, № 58; Wierzbowski A. Słownik języków słowiańskich // Czerwony sztandar, 1959, 26 maj; Вяржбоўскі А. Пошукі трэба працягваць // Літаратура і мастацтва, 1961, 18 жніўня.

[4] Smułkowa E. Informacja o białorusko-polsko-rosyjskim thesaurusie z przełomu XIX i XX wieku // Slavia Orientalis. Rocznik XI. Nr. 1. W-wa, 1962. S. 109 – 114; Гуліцкі М.Ф. З лексікаграфічных здабыткаў // Беларуская мова. Ч. 8. Мн.: Выд. БДУ, 1980. С. 111 – 119.

[5] Нацыянальны Гістарычны Архіў Рэспублікі Беларусь (НГАБ). Ф. 2379, воп. 2, ад.з. 9, арк. 10 адв; Музей дзярж. гіст.-культ. уст. “Гомельскі палацава-паркавы ансамль”. Адз. зах. 20 967 / 52.

[6] НГАБ. Ф. 2001, воп. 1, ад.з. 955, арк. 46 адв.

[7] Cichiński // Polska Encyklopedia szlachecka. XII T. T. V. W-wa, 1936. S. 8.; Zienkowicz // Ciechanowicz J. Rody rycerskie WKL. W 5 t. T. 5 (S – Ż). Rzeszów: Fosze, 2001. S. 460 – 461.

[8] Алфавитный список дворянских родов, внесённых в родословные дворянские книги Могилёвской губернии. Составлен в 1909 г. Могилёв-на-Днепре, 1909, с. 8.

[9] Выява ўзята з: Gail T. Polskie rody szlacheckie i ich herby. Ponad 20 000 nazwisk, 1 275 barwnych herbów czarno-białych. Białystok, Dom wydawniczy Benkowski, 2003. S. 46, 244.

Звесткі пра маладыя гады Язэпа Фларыянавіча, на жаль, сціплыя. Вядома толькі, што ён скончыў нейкую навучальную ўстанову, атрымаўшы атэстат за № 11 670[10]. У 1862 – 1864 гг. служыў у магілёўскай Палаце дзяржаўных маёмасцей памочнікам у гаспадарчым аддзеле, маючы чын калежскага рэгістратара[11]. Згодна з тагачаснымі правіламі, каб атрымаць чын (губернскага сакратара), трэба было выслужыць тры гады, пры бездакорнай службе – паўтары. Ціхінскі яго атрымаў, але хутка пайшоў у адстаўку, магчыма звязаную з яго “польскім” паходжаннем.

25 студзеня 1867 г. Магілёўская кантрольная палата даслала прашэнне магілёўскаму губернатару “допустить к занятиям по найму” адстаўнога губернскага сакратара Ціхінскага. Згода магілёўскага губернатара, а потым і Міністэрства ўнутраных спраў была атрыманая[12]. Але ніякіх звестак пра яго далейшую чыноўніцкую кар’еру пакуль не выяўлена[13].

У наступным годзе 25-гадовы Ціхінскі ўзяў шлюб з нашмат маладзейшай за яго Людмілай Яноўскай з маёнтка Прусін Камаровіцкай воласці Чэрыкаўскага павета. Нарачоныя належалі да Магілёўскага фарнага касцёла, але шлюб бралі ў маленькім драўляным Вародзькаўскім храме Чавуска-Чэрыкаўскага каталіцкага дэканата, які абслугоўваў і згаданы маёнтак.

Дзявочае прозвішча маці Людмілы – Шэміот, у пэўнай ступені дае адказ на пытанне чаму так адбылося. Вікенці Лявонцевіч Шэміот (памёр ў 1841 г.) з 1820 г. быў кацярынаслаўскім губернатарам, яго сын віцэ-прэзідэнтам Польскага банка, а іх нашчадкі – памешчыкамі Адэскай і Магілёўскай губерняў. Усе крыніцы вызначаюць менавіта Шэміотаў як уладальнікаў маёнтка Прусін. Ціхінскі быў там, напэўна, толькі арандатарам ці ўпраўляючым[14]. Згодна з матэрыяламі Усерасійскага сельскагаспадарчага перапісу 1917 г. ён з’яўляўся ў згаданым маёнтку “домаўладальнікам”[15]. Больш дакладнай інфармацыі крыніцы, на жаль, не падаюць.

У 1869 г. у Ціхінскіх нарадзілася дачка Ядвіга, а ў 1871 г. – сын Казімір. Абодва атрымалі добрую адукацыю. Ядвіга скончыла Бястужаўскія

[10] НГАБ. Ф. 2001, воп. 1, ад.з. 1048, арк. 6.

[11] Памятная книжка Могилёвской губернии на 1863 год. Могилёв, 1862. С. 88; Памятная книжка Могилёвской губернии на 1864 год. Могилёв:, 1864. С. 44, 367.

[12] НГАБ. Ф. 2001, воп. 1, ад.з. 1048. арк. 6–7 адв.

[13] Памятная книжка Могилёвской губернии на 1867 год. Могилёв, 1867.

[14] НГАБ. Ф. 2001, воп. 1, ад.з. 955, арк. 26 адв. – уладальнік Аляксандр Шэміот (1864 – 1867); Опыт описания Могилёвской губернии / Сост. по программе и под редакцией А. С. Дембовецкого В 3 кн. Кн. 3. Могилёв. 1884. С. 256 – 257. – уладальнік Вінцэнт Шэміот, а справы маёнтка вядзе арандатар; Список населённых мест Могилёвской губернии. / под ред. Г. П. Полякова. Могилёв, 1910 – гаспадар – В. С. Шэміот.

[15] НГАБ. Ф. 2084, воп. 1, ад.з. 843, арк. 4.

курсы ў Пецярбургу, Казімір – Пецярбургскі Аляксандраўскі кадэцкі корпус і Імператарскае Маскоўскае тэхнічнае вучылішча[16].

Цікава, што на шлюбе ў Ціхінскага прысутнічаў Феліцыян Сурын (1842 ці 1843-1921), літаратуразнавец, этнограф, ўдзельнік паўстання 1863 г. на Магілёўшчыне. У 70-я гг. ён напісаў шэраг твораў на беларускую тэматыку у выданнях кшталту “Tygodnika Ilustowanego”[17]. На думку беларускага даследчыка А. Літвіновіча, менавіта ён з’яўляўся аўтарам змястоўнага артыкула “Беларусь” для “Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства”[18]. Відавочна, што знаёмы Ціхінскага добра арыентаваўся у гісторыі Беларусі, асаблівасцях беларускай мовы, літаратуры па беларускай тэматыцы, чытаў і нарыс В. Турчыновіча, і творы Э. Ажэшкі.

Вядома, што яго цікавіла беларуская мова, але ацэньваў яе ўзровень даволі крытычна. У адным з артыкулаў ён пісаў: “*Гэта таксама мова славяна-крывічан, якая дагэтуль жыве ў вуснах люду, так доўга ўжываная ў судах, мова, на якой складзены першы Статут, і на якой напісаў свой палемічны твор Мялецій Сматрыцкі, яна не мае слядоў ніякай апрацоўкі і зусім невядома, каб яна была органам і адлюстраваннем думкі адукаваных людзей. Найбольш ёй не хапае абстрактных паняццяў, назваў для элегантных, вытанчаных рэчаў, і, як Сматрыцкі, так і ўкладальнікі статутаў усе гэтыя назвы і паняцці перадавалі польскімі выразамі і цэлымі фразамі*”[19]. Даследчык адзначаў, што ўсе адукаваныя беларусы пераходзяць на больш дасканалыя рускую ці польскую мовы, і ў адрозненні ад Ціхінскага наўрад ці збіраўся нешта рабіць, каб змяніць гэткі стан рэчаў.

У Прусіне Язэп Ціхінскі распачаў стварэнне слоўніка беларускай мовы. Гэты выдатны прадстаўнік шляхецкага саслоўя адносіўся да той яго часткі, якая ніколі не губляла сувязі з беларускасцю і адчувала блізкасць да мясцовых сялян, у якіх бачыла малодшых братоў, што чакаюць дапамогі. Важная роля пры гэтым адводзілася падтрымцы беларускай

[16] Cichińska-Lewicka Jadwiga // Słownik biograficzny działaczy Polskiego Ruchu Robotniczego. W 3 T. T. 1. W-wa: Książka i Wedza, 1978. S. 327.; Список лиц, окончивших курс в Московском техническом училище и бывшем Ремесленном учебном заведении. (1845-1912). Изд. 10-е. М., 1912, С. 146. Алфавитный список студентов Московского технического училища на 1903/1904 академический год. М., 1903. С. 157.

[17] Kukuć D. Suryn Felicjan // Polski słownik Biograficzny. T. XLVI/1. Zeszyt 188. W-wa-Kraków, 2009. S. 25 –26. Літвіновіч А. Феліцыян Сурын як даследчык традыцыйнай культуры і быту беларусаў // Кніга, бібліятэчная справа і бібліяграфія Беларусі: Зб. навук. арт. / Рэдкал.: Н. Ю. Бярозкіна і інш. Мн., 1993. С. 119 – 127.

[18] F. S. [Suryn Felicjan?]. Bialoruś // Słownik geograficzny królewstwa polskiego i innych krajów słowiańskich. W 15 T. T. I. Warszawa, 1880. S. 193 – 194. Аляксандр Ельскі, адзін з аўтараў гэтай энцыклапедыі, пісаў, што артыкул створаны Філіпам Сулімерскім. Гл.: Ельскі А. Выбранае. / Уклад. Н. Мазоўка, У. Казьберука. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2004. С. 350.

[19] Suryn F. Listy z podróży po kraju. List II.Białoruś naddźwińska. – Inflanty // Tygodnik ilustrowany, 1874. T. 13, Seria 2, № 329, S. 243.

мовы. Некаторыя прадстаўнікі шляхецкага саслоўя (асабліва з дробнай шляхты) ўдзельнічалі ў нацыянальнай дзейнасці “плябейскіх” супольнасцей. Гэта актыўнасць праяўлялася перш за ўсё ў асвеце, збіральніцка-этнаграфічнай дзейнасці, часам ініцыявалася пісьмовая творчасць на мове люду[20]. Аднак, як адзначае ў сваіх успамінах абшарнік з суседняй Клімаўшчыны К. Барысовіч, людзей, якія б мэтанакіравана працавалі над усведамленнем беларускага люду, было не шмат[21]. Улічваючы вялізны аб’ём працы лексікографа, можна гаварыць пра пэўную загадку дзейнасці Я. Ціхінскага.

Аналіз матэрыялаў слоўніка паказаў, што Я.Ціхінскі не меў грунтоўнай філалагічнай адукацыі. Разам з тым цікавасць яго да няпростай лексікаграфічнай працы не згасала на працягу ўсяго жыцця. Фактычна, для аматара ён зрабіў непараўнальна многа. Недахоп ведаў у значнай ступені кампенсаваўся актыўнай працай з разнастайнай літаратурай, у тым ліку слоўнікамі і энцклапедыямі.

Трэба адзначыць, што ў гэты час даследчыкі, усведамляючы важнасць укладання слоўнікаў, актыўна працуюць на гэтай ніве. Асобныя навукоўцы, спадзеючыся ўбачыць свае працы надрукаванымі, па ўласнай ініцыятыве дасылаюць свае даведнікі ў Акадэмію навук. Хтосьці, убачыўшы працы, накшталт слоўніка Насовіча, прапаноўваў свае дадаткі. У асноўным гэта былі даведнікі невялікага памеру, у якіх адлюстроўвалася гаворка пэўнага беларускага рэгіёна[22]. Толькі чатыры лексікографы – Я. Ціхінскі, І. Насовіч, У. Дабравольскі і А. Ярушэвіч стварылі работы, у якіх было больш за 10 000 слоўнікавых артыкулаў. Два даведнікі – Насовіча і Дабравольскага – былі надрукаваны, астатнія засталіся ў рукапісах.

Паколькі слоўнік Я.Ціхінскага ствараўся ў складаны для беларускай мовы час, калі амаль не існавала шырока вядомых літаратурных твораў на беларускай мове, то лексікограф ставіў перад сабой, фактычна, невырашальную задачу: стварыць слоўнік літаратурнай мовы, якой няма. Яму давялося адначасова весці лексікаграфічную працу, рабіць спробу ўнармавання, кадыфікацыі і ўзвышэння народнай мовы да стану літаратурнай. Гэта ж адзначыла і прафесар Эльжбета Смулкова: “*З трохмоўнага ўкладу артыкулаў вынікае, што гэта павінен быў быць слоўнік*

[20] Radzik R. Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Srodkowo-Wschodniej XIX stulecia. Lublin: Wyd. Un-tu Marii Curie-Skłodowskiej, 2000. S. 264.

[21] Biblioteka zakładu narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu. Dział rękopisów. Rkps. 15 413. Borysowicz K. Pamiętniki. Część I. Białoruś jaką pamiętam. S. 41.

[22] Гуліцкі М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX – пачатак XX ст.). Мн.: Вышэйшая школа, 1978; Ён жа. “Смаленскі абласны слоўнік” У. Дабравольскага // Народнае слова / Пад рэд. А. Я. Баханькова. Мн : Навука і тэхніка, 1976, С. 277. Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі. Бібліяграфія. / Склад. Вітаўт Кіпель і Зьміцер Саўка. Нью-Ёрк – Менск.: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 2002. С. 443 – 466. Камінскі М. Цікавы рукапіс // ЛіМ, 1961, 22 снежня.

*агульнабеларускай мовы, узвышанай да рангу літаратурнай*”[23].

Колькі цягнулася праца над слоўнікам, зараз немагчыма сказаць. Беларускія савецкія даследчыкі А. Вяржбоўскі і М. Гуліцкі ўслед за аўтарамі “Курса сучаснай літаратурнай мовы” (Мн.,1961) сцвярджалі, што гэта адбывалася на працягу прынамсі 40 гадоў[24]. Такую ж дату падае і гісторык А. Калубовіч[25]. Аўтар допіса ў СНК ССРБ (1921 г.) пісаў, што “Цехинский всю свою жизнь употребил на составление Белорусского словаря”[26]. Работа ішла і падчас Першай сусветнай вайны, так і заставўшыся няскончанай, пры гэтым “антыцарскія прыклады з тому “А” указваюць на тое, што аўтар пачаў збіраць матэрыял перад паўстаннем 1863 г.”[27] Можна сцвярджаць, што стварэнне як мага больш поўнага слоўніка беларускай мовы стала справай усяго жыцця беларускага вучонага.

***

Беларуска-польска-рускі слоўнік Я.Ціхінскага ўяўляе сабой арыгінальную лексікаграфічную працу, якая яшчэ чакае і выдаўцаў і даследчыкаў. Слоўнік складаецца з трох частак, у якіх паралельным чынам прадстаўлены беларускія (на першым месцы) лексемы, іх польскія (другая калонка) і рускія (трэцяя калонка) адпаведнікі. Галоўнай для аўтара была беларуская частка, гэта відавочна не толькі з таго, што беларуская лексема займае першае месца. Усе беларускія намінацыі пазначаны знакам ×. У якасці графічнай сістэмы для беларускай часткі аўтар выбраў лацінку польскага ўзору, але пад польскім графічным запісам падаецца ў дужках кірылічны адпаведнік. Выбар польскага варыянта графікі абумоўлены тым, што аўтар, відавочна, быў білінгвам, які ўжываў аднолькава актыўна і польскую, і беларускую мовы.

Слоўнікавыя артыкулы складаюцца па наступным прынцыпе: намінацыя (у беларускай лексемы пазначаны націск), сінонімы і лексічныя варыянты (калі яны ёсць), тлумачэнне, тэкставая ілюстрацыя:

| **Abargéjan (Абардеянъ)** | **Aberdejan** | **Абердинъ** |
|---|---|---|
| Stalica w hrawstwi Abarden w sredniaj Szkocyi. Port. Tut jość najbolszaja u swieci fabryka hrabiancoй | Stolica w hrawstwie Aberden w srodkowej Szkocyi. Port. Tu największa w swiecie fabryka grzebieni | Столица въ графствѣ Абердинъ въ средней Шотландии. Портъ. Тамъ самая большая въ свѣтѣ фабрика гребенцевъ |

[23] Smułkowa E. Informacja o białorusko-polsko-rosyjskim thesaurusie... // Slavia Orientalis. Rocznik XI. Nr. 1. W-wa, 1962. S. 112.

[24] Вяржбоўскі А. Пошукі… // ЛіМ, 1961, 18 жніўня; Гуліцкі М.Ф. З лексікаграфічных здабыткаў // Беларуская мова. Ч. 8. Мн., 1980. С. 112.

[25] Калубовіч А. Акт 25-га Сакавіка … // Спадчына, 1992, № 1. С. 70.

[26] Карлюкевіч А. М. Сцежкамі Ігуменшчыны. Мн.: Беларусь, 2008. С. 136

[27] Wierzbowski A. Słownik… // Czerwony sztandar, 1959, 26 maj.

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, да кожнай лексемы даецца тлумачэнне на адпаведнай мове, чаго не назіраецца ў іншых беларускіх слоўніках таго часу (напрыклад слоўніку І.Насовіча, у якім беларускія лексемы растлумачаны па-руску).

Відавочна, каб захаваць падобны ўклад, спачатку аўтарам слоўніка была створана картатэка, якая пакуль яшчэ не знойдзена. Калі верыць М.Байкову, які працаваў з рукапісам слоўніка Ціхінскага і налічыў каля 200 тысяч пададзеных лексем, то картатэка павінна была б складацца мінімум з такой жа колькасці картак, а гэта прыкладна сто шчыльна ўпакаваных стандартных скрынак.

Граматычных памет аўтар амаль не выкарыстоўвае, і шэраг даследчыкаў адзначае гэтую ўласцівасць слоўніка як яго недахоп. Аднак прыгадаем у гэтай сувязі вядомую лексікаграфічную працу І.І. Сразнеўскага "Материалы для словаря древне-русскаго языка", якая ствaралася амаль палову стагоддзя (тры тамы выйшлі ў Санкт-Пецярбургу ў 1893, 1902 і 1912 гг.), у якой ужыванне граматычных памет таксама не з'яўляецца аднастайным (больш дакладна сказаць, яны, фактычна, адсутнічаюць). Сінонімы, фанетычныя і словаўтваральныя варыянты падаюцца па алфавіту пад загаловачным словам, у дужках побач змяшчаецца кірылічны запіс. Ні ў польскай, ні ў рускай частках слоўнікаў сінонімы і варыянты не ўзгадваюцца. Напрыклад:

| **Palésia (Палiеся)** | **Polesie** | **Полѣсье** |
|---|---|---|
| Palesica (Палѣсица) kraj szto lażyć pad wialikimi lasami, lasisty. Biarahi, koncy lasoŭ. Szmaty daŭnych wajawodztw: Bresko-Litoŭskoho, Wałyńskaho i Kijaŭskoho, szto najbolaj usiaho majuć lasoŭ. | Kraj pod wielkomo lasami leżący, lesisty. Brzegi, krańce lasów. Cześć dawnych województw: Bresko-Litewskiego, Wołyńskiego i Kijowskiego najwięcej obfitujących w lasy. | Край около большихъ лѣсовъ лежащий, лѣсной. Берега, концы лѣсовъ. Часть бывшихъ воеводствъ: Бреско-Литовского, Волынского и Киевского, болѣе всего изобильныхъ въ лѣса |

Адзначаныя варыянты змяшчаюцца далей па алфавіту з адсылкай да асноўнай лексемы.

У невялікай прадмове да слоўніка Ціхінскі пералічыў шэраг фанетычных асаблівасцей беларускай мовы: аканне, дысімілятыўнае аканне паўночна-ўсходняй часткі Беларусі, яканне, звужэнне е да і на паўднёва-заходніх беларускіх землях, дыфтонг ой на тэрыторыі вакол Ваўкавыска, вымаўленне ў зваротных дзеясловах –цца, прычым чым далей на захад, тым гэтае вымаўленне мадыфікуецца і выглядае як –цся, -цця, пакуль не даходзіць да –цса. Ніжэй падаецца пералік графіка-арфаграфічных прыёмаў, якія выкарыстоўваў аўтар слоўніка пры перадачы беларускага вымаўлення:

**Аканне**: *paradkam, pa paradku, ażanicca, z rozumam, litar, wokam, razhladać, jakoha, padaszwa, astarożna, stalica*.

**Яканне**: *jadomy, biareznikach, pryniasli, lanicca, hladzieć, ziamli, niapraŭda, apiakunstwa, piata, lażyć, ciakawaści, hladzieć, ahladna*.

**Дзеканне** адлюстравана паслядоўна пры дапамозе спалучэнняў dz і дз адпаведна: *zwadzić (звяздиць), wadzić, zdziełacca, pachodzić, ludziej, bazhluzdzić*.

**Цеканне**. Адлюстравана паслядоўна незалежна ад месца ў слове: abahreć, akarać, prymieć, ciomny, ciażkaha, iscinna.

**У нескладовае**. Гэтая фанетычная з'ява беларускай мовы адлюстроўваецца ў графіка-арфаграфічнай сістэме слоўніка пры дапамозе графемы ŭ у большасці выпадкаў у пазіцыі сярэдзіны ці канца слова пасля галоснага: *ababkaŭ, ażaniŭszysia, paczaŭ, doŭha, nasiŭszy, daŭsia, kroŭju, Prusakaŭ, Palakaŭ, abazachociŭsia*. У пазіцыі пачатку слова нават пасля папярэдняга галоснага аўтар ставіць звычайнае u: *i udow, zapaczkany u krowi, mnie u znaki, na usiakam dzieli, nia uczynić*.

**Гук і**. Як ужо было відаць з вышэйпрыведзеных прыкладаў, Ціхінскі пры кірылічным запісе беларускіх лексем ужываў графему и: *абабицца, абацадляникъ, абачиць, абачиваць, абдзирацца, злыдникъ, абакулиць*. Гэтая ж графема ўжывалася і для абазначэння гука [ы]: адуриць (параўн. запіс лацінкай aduryć).

**Фрыкатыўны г**. Перадаецца дастаткова паслядоўна пры дапамозе знака h: *hety, abahrawać, hreć, jaho, hetyja, darohi, uhniatania, (w) hrawstwi, zhnusnieć*.

**Палаталізацыя**. У слоўніку не аднастайна вытрымліваецца адлюстраванне мяккасці зычных. Пераважна Ціхінскі прытрымліваецца правіла польскай арфаграфіі і для абазначэння мяккасці ўжывае спалучэнне і з галоснымі непярэдняй зоны ўтварэння: *abiazhłuzdzić, abiezhłuzdzić, napiatak, zadniaja, stawiać, pamież, pryniaŭ* і г.д. Аднак гэтае правіла вытрымліваецца непаслядоўна: *abarłożycca – abiarłożycca, abiazachoczany – абазахочаны*. Ціхінскі не сцісла прытрымліваецца адлюстравання асімілятыўнай мяккасці свісцячых (што дзіўна, паколькі польская арфаграфічная сістэма добра пасуе да гэтай з'явы беларускага вымаўлення): *rascieć, biareznikach, pryniasli, razbirać, pawidź, budź, sciobać, wolnaściach*.

Цяжка пакуль што рабіць нейкія грунтоўныя высновы наконт лексічнага складу слоўніка Я. Ціхінскага, наконт прынцыпу адбору слоў. Як адзначыў адзін з першых даследчыкаў гэтай дексікаграфічнай працы М.Ф. Гуліцкі: "*Ціхінскі добра ведаў лексічныя запасы беларускай народнай мовы, бачыў перспектывы яе развіцця і ў слоўнік уключаў найбольш вартае і каштоўнае*"[28].

[28] Гуліцкі М. Ф. З лексікаграфічных здабыткаў // Беларуская мова. Ч. 8. Мн. 1980. С. 113.

Аснову слоўніка складае агульнаўжывальная лексіка беларускай мовы. Разам з тым у ім адзначана шмат рэгіянальных слоў пераважна з тэрыторыі ўсходняй Беларусі: *pożnia, pachać, piańka, але не толькі: milta, paranasznik, pajedzie*. Адначасова ў слоўніку адзначаецца шмат лексем, якія маглі існаваць толькі ва ўжытку адукаванай, інтэлігентнай часткі беларускамоўнага грамадства: *abacadła, lamantar, abacadlanik, abanament, abanawać, abaraniać* і інш.

Слоўнік Ціхінскага змяшчае і шмат анамастычных намінацый: тапонімы (*Albania, Abchazja, Hawana, Dancyh*, назвы міфалагічных істот (*Minerwa, Jason*), прозвішчы вядомых гістарычных асоб, уласныя імёны (*Albin, Aksiuta*). Тлумачэнне такога роду намінацый набліжана да энцыклапедычных артыкулаў:

| **Abargéjan (Абардеянъ)** | **Aberdejan** | **Абердинъ** |
|---|---|---|
| Stalica w hrawstwi Abarden w sredniaj Szkocyi. Port. Tut jość najbolszaja u swieci fabryka hrabiancoŭ | Stolica w hrawstwie Aberden w srodkowej Szkocyi. Port. Tu największa w swiecie fabryka grzebieni | Столица въ графствѣ Абердинъ въ средней Шотландии. Портъ. Тамъ самая большая въ свѣтѣ фабрика гребенцевъ |

Асаблівую каштоўнасць і матэрыял для вывучэння складаюць анамастыяныя назвы, якія маюць дачыненне да гісторыі, культуры і этнаграфіі Беларусі:

| **Palésia (Палiеся)** | **Polesie** | **Полѣсье** |
|---|---|---|
| Palesica (Палѣсица) kraj szto ležyć pad wialikimi lasami, lasisty. Biarahi, koncy lasoŭ. Szmaty daŭnych wajawodztw: Bresko-Litoŭskoho, Wałyńskaho i Kijaŭskoho, szto najbolaj usiaho majuć lasoŭ. | Kraj pod wielkomo lasami leżący, lesisty. Brzegi, krańce lasów. Cześć dawnych województw: Bresko-Litewskiego, Wołyńskiego i Kijowskiego najwięcej obfitujących w lasy. | Край около большихъ лѣсовъ лежащий, лѣсной. Берега, концы лѣсовъ. Часть бывшихъ воеводствъ: Бреско-Литовского, Волынского и Киевского, болѣе всего изобильныхъ въ лѣса |

У якасці хібаў слоўніка варта адзначыць нейкую долю калькавання лексем з польскай мовы, асабліва гэта тычыцца аддзеяслоўных назоўнікаў: *abaczania* (варыянты *abaczenia*, *abaczanie, zabaczenia, spatkania*). Уплывам польскай графіка-арфаграфічнай сістэмы тлумачыцца і адсутнасць у падобных лексемах падваення зычных – спецыфічнай рысы беларускай мовы. Усе аддзеяслоўныя назоўнікі вынесены ў асобныя слоўнікавыя артыкулы ў якасці самастойных лексем, маюць шэраг сінонімаў і варыянтаў, гэты прынцып падачы лексічнага матэрыялу адрознівае слоўнік Ціхінскага ад вядомай лексікаграфічнай працы – слоўніка Ліндэ, у якім аддзеяслоўныя формаўтварэнні пападзены ў адным артыкуле з дзеясловам.

Як асобныя слоўнікавыя артыкулы аформлены і дзеепрыметнікі тыпу *adbity*, *adłamany*, *listawany*. Не вельмі выразна аўтар слоўніка размяжоўвае амонімы і мнагазначныя словы. Напрыклад, *asiołak* у значэннях ‘*малы асёл’ і ‘брусок*’ падаюцца ў розных артыкулах як амонімы, а *palić* ‘*нішчыць агнём*’, ‘*абагравaць, атаплiваць*’, ‘*страляць з агнястрэльнай зброі*’ як мнагазначная лексема.

Вышэй ужо адзначалася, што шмат прыкладаў створана самім аўтарам, аднак Ціхінскі ў якасці ілюстрацый падае і фразеалагізмы і ўстойлівыя звароты, якія былі вельмі распаўсюджанымі ў вусным народным маўленні. Некаторыя фразеалагізмы вынесеныя ў якасці самастойных слоўнікавых артыкулаў: *hady u rady, holma hoły, duby smalanyja*. Як асобныя артыкулы афармляюцца і прыметнікі вышэйшай ступені параўнання: *prudszy*, *prychilszy*, *mażniejszy*. Асобна падаецца і дымінутыўная лексіка: *acupaczak, lepszańki*.

Прынцыпы тлумачэння лексем звыклыя для лексікаграфічных работ таго часу: сінанімічным радам (*abacz ‘abacz, wokam kiń, pawidź, prymieć’*), складаназалежным сказам (*abaczny ‘toj szto dobra na usio hladzić, razważaić, szto abały na usiakam dzieli’*), энцыклапедычным артыкулам (abcas ‘*taja miesta na abuwi hdzie stawiać na piatu, wyszej nabitaja zadniaja, kusok padaszwy u czarawika albo bota*’).

Пры параўнанні тлумачэння некаторых лексем з адпаведнымі са слоўніка Ліндэ становіцца відавочна, што Я.Ціхінскі правёў абсалютна самастойную працу. Так, лексема abzas/abcas/obcas у Ліндэ тлумачыцца наступным чынам: ‘*podkładka, napiętek, knaflak u trzewików, butów*’. Слоўнік Ціхінскага адрозніваецца ад слоўніка Ліндэ і спосабам падачы дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: Ціхінскі афармляе іх у розныя слоўнікавыя артыкулы, Ліндэ – у адзін.

Некалькі слоў аб польскай частцы слоўніка напісала Э. Смулкова ва ўжо ўзгаданым артыкуле. Польская даследчыца адзначыла, што матэрыял слоўніка можа зацікавіць і польскіх лінгвістаў у плане адлюстравання рыс польскага дыялекту (так званай *polszczyzny kresowej*): адсутнасць асіміляцыйнай мяккасці свісцячых (аб чым ужо была гаворка вышэй) таксама адзначаецца і ў польскай частцы слоўніка, аканне, рашчапленне носавых галосных і адлюстраванне гэтай з’явы на пісьме, а таксама вялікая колькасць лексічных і сінтаксічных запазычанняў з беларускай мовы.

Цікавасць для даследавання ўяўляе і руская частка слоўніка Я. Ціхінскага. Як вынікае з вышэйпрыведзеных прыкладаў, Ціхінскі дастаткова добра арыентаваўся ў рускай арфаграфіі таго часу (і гэта не дзіўна, калі прыняць пад увагу яго службу ў рознага роду адміністрацыйных установах). Ціхінскі паслядоўна ўжывае графему ѣ: *всѣхъ*, *примѣть, замѣчать, усмотрѣніе, встрѣча, дѣлать* і інш., графему і: *смотреніе,*

*употребленіе, мечтаніе, с оружіемъ*; графему ъ: *обонементъ, Прусаковъ, тамъ, лѣсъ*, *притупляетъ* і г.д. Але што тычыцца лексічнага складу рускай часткі слоўніка, сінтаксічных адметнасцей ілюстрацыйнага матэрыялу і тлумачэнняў, то нават пры першым азнаямленні добра відаць, што руская мова не толькі не была роднай для Ціхінскага, але і ступень знаёмства з ёю аўтара слоўніка пакідае жадаць лепшага: *накладываніе кому на спину тяжара, пригнятаніе, окружить себя берлогомъ, кормленный боровъ, отохоченный къ городской жизни* і г.д.

Такім чынам, Ціхінскі мусіў правесці каласальную працу – не толькі максімальна поўна чэрпаць словы з “народнай мовы”, але і прыдумаць і запазычыць ладную частку тэрміналагічных адзінак – нават такіх, якія нам зараз падаюцца простымі, але беларускім сялянам таго часу невядомыя.

***

Мовазнавец Мікола Байкоў лічыў, што Язэп Фларыянавіч працягваў працу над слоўнікам яшчэ ў 1890-1900-х гг.[29] На жаль, уся спадчына Ціхінскага (слоўнік і пэўная частка перапіскі), якой карыстаўся Байкоў, загінула ў гады вайны, таму мы не можам даведацца, якія ж людзі перапісваліся з Язэпам Фларыянавічам у гэты час. Вядомыя толькі больш позенія дакументы пачатку 20 ст.

3 чэрвеня 1905 г. дачка навукоўца Ядвіга Ціхінская дасылае з Прусіна ліст Аляксандру Ельскаму:

“*Шаноўны пане! Пара было б сёння ўзяцца за складанне беларускага лемантара, калі б вы падумалі аб гэтым. З той пары, калі можна стала адчыняць прыватныя школы (мы ўжо таксама пачынаем будаваць і збіраць на гэта грошы), трэба даць падручнікі, лемантары і беларускія кніжкі. Ведаю, што вы пішаце па-беларуску. Мой бацька таксама складае беларуска-польска-рускі слоўнік і гэта даказвае, што ён беларускі патрыёт.*

*Я пішу па-польску*[30], *маю толькі некалькі беларускіх казак. Яшчэ маю просьбу да Вас. Прашу даслаць мне каталог альбо спіс беларускіх кніжак і падаць адрас, дзе можна замовіць для сялян сёння хоць некалькі экземпляраў. Бацька мае некалькі Вашых твораў, але рукапісных, не друкаваных*”[31].

Ельскі адаслаў ёй некалькі кніжак, і 7 жніўня 1905 г. атрымаў яшчэ адзін ліст:

“*Я надзвычай удзячная Вам за прысланыя мне кніжкі, якія чытала з*

[29] Байкоў М. Слоўнікавая праца… // Адраджэнне. Сш. 1. Мн., 1922. С. 245.

[30] Хутчэй за ўсё, гаворка тут ідзе пра напісаныя кнігі. Паводле бібліяграфіі Эстрайхера ў 1899 г. у Лодзі выйшла “*Księga dla wszystkich*” Ядвігі Ціхінскай. Estreicher K. Bibliografia polska XIX stulecia. Lata 1881 – 1900. T. 1. (A – F). Kraków, 1906. S. 251 – 252.

[31] Archiwum Główne Akt Dawnych. zesp. Prozorów i Jelskich, 1401, k. 152.

*маімі хлапчукамі, каб яны маглі пазней прачытаць на вёсцы сваім старым. Я беларуска з нараджэння, бо з паходжання я полька і дзеля гэтага чую сябе абавязанай падтрымліваць іх родную мову, таму што ў іх мала сумленных апекуноў, асабліва – у нашай губерні. Узімку, дзякуючы маім намаганням, тут паўстае школа, бо лічу першым абавязкам грамадства пашырэнне асветы, якая ўказвае шлях да дабрабыту і чалавечай годнасці.*

*Беларусь у мінулым была нашай малодшай сястрой, можа, будзе роўная з намі ў інтэлекце і самаадчуванні – сёння, хоць і адарваная ад нас, яшчэ чакае нашай дапамогі*"[32].

У лісце дачкі Ціхінскага ёсць сведчанне аб тым, што праца над слоўнікам ідзе. Пачынаючы з 1904 г. даследчык пачаў перапісваць падрыхтаваны матэрыял у спецыяльныя сшыткі. Так, том А на кожным з 11 аркушоў па 16 старонак мае такія даты: 1, 7, 9 , 12, 16, 18, 20, 25 верасня, 8, 9, 19 кастрычніка 1906 г., 37 аркушаў тома К напісаны з 1 лістапада 1906 г. па 26 мая 1907 г.: 96 аркушаў тома К напісаны за год і г. д[33]. Мікола Байкоў, які працаваў з іншым варыянтам слоўніка пазначае, што "Рукапіс мае такія надпісы: над літарай В (I арк.) і на апошнім аркушы (27) гэтай літары "3 grudnia 1905", над літарай С "14 lipca 1905; іншых хронолёгічных дат у рукапісе няма…"[34]

Напэўна для работы патрабаваўся аўтарытэтны рэцэнзент[35]. У гэты час Ціхінская дасылае ліст вядомаму польскаму даследчыку, аўтару "Люду беларускага" Міхалу Федароўскаму разам з часткай слоўніка. У 1906 г. яна атрымоўвае адказ:

"*Няхай жа шаноўная Пані будзе ласкава прабачыць мне скандальную валакіту, за якую, як мага мацней прашу прабачэння, паведамляю, што нарэшце рукапіс бацькі шаноўнай пані сумленна ад пачатку і да канца прагледзеў, праца гэта зрабіла на мяне  самае найлепшае ўражанне. Поўны пашаны і павагі М. Федароўскі*"[36].

Дачка навукоўца была вельмі занепакоена адсутнасцю ў беларусаў базавых дапаможнікаў, без якіх немагчыма распачаць адукацыю на

[32] Ibidem. k. 147.

[33] Вяржбоўскі А. Пошукі… // ЛіМ, 1961, 18 жніўня

[34] Байкоў М. Слоўнікавая праца… // Адраджэнне. Сш. 1. Мн., 1922. С. 245.

[35] Федароўскі, акрамя этнаграфічнай працы, займаўся і лексікаграфічнымі даследваннямі, збіраў матэрылы да беларуска-польскага слоўніка, своеасаблівага дадатка да вядомай работы Насовіча 1870 г. (Czurak M. Nieopublikowane materiały językowe z archiwum Michała Federowskiego // Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami. Studia poświęcone Antoninie Obręskiej-Jabłońskiej w stulecie urodzin. urodzin / Red.: E.Smulkowa, A.Engelking. W – wa: Wydz. Polonistyki Uniw. Warszawskiego, 2001. S. 58 – 61).

[36] Аддзел рукапісаў бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літоўскай Рэспублікі (АР БАНЛР). Ф. 21, ад.з. 929. (мікрафільм тома, якім карысталіся аўтары пры падрыхтоўцы артыкула, захоўваецца ў Інстытуце моваазнаўства АН Беларусі).

роднай мове. Трэба адзначыць, што наяўнасць падобных праблем разумелі многія актывісты, спрабавалі пераадолець іх. Той жа Еўдакім Раманавіч Раманаў, яшчэ ў 70-я гг. 19 ст. распачаў стварэнне кароткай беларускай граматыкі. У 1875 г. рукапіс беларускай граматыкі падрыхтаваў праваслаўны святар з палескага мястэчка Лунін Платон Максімавіч Ціхановіч[37]. Пытаннямі правапісу беларускай мовы займаўся ў пачатку 20 ст. і Апанас Вінцэнтавіч Ярушэвіч. На жаль, гэтыя праекты так і не ўвасобіліся ў жыццё.

У 1906 г. пачынаецца "Нашаніўскі"новы этап беларускага нацыянальнага руху. Беларускі навуковец становіцца "пранумаратарам" (падпісчыкам) газеты і карэспандэнтам – адзіным на ўвесь Чэрыкаўскі павет[38]. Усяго ў 1909 – 1912 гг. "НН" былі надрукаваныя тры яго допісы[39].

Аўтара, "селяніна" Язэпа Бурачка[40], клапоцяць адвечныя для земляроба праблемы неспрыяльнага надвор'я ("У нас весна ў гэтым гаду была доўгая, мокрая і халодная") і неўраджаю ("хлеба па вёсках у гаспадароў ужо нема"), беспрабуднага п'янства аднавяскоўцаў ("ў нас такі звычай, што бацькі ды й дзядзькі зацягваюць дзяцей у шынкі"). Відавочна Бурачку ў жыцці давялося сустрэцца з несправядлівасцю, бо шмат ўвагі удзяляецца гэтай тэме ("з магазыну даюць крыху і то багацейшым і спрытнейшым, хто ведае каму і як пакланіцца; па якімсь там інтрыгам, памелі ахвоту памсціцца і нагадзіць яму") і г. д.

Аднак часам селянін саступаў месца ліберальнаму абшарніку, які важную ролю ў жыцці краіны адводзіць развіццю асветы, парламенцкай дэмакратыі і земскаму самакіраванню, што прыносяць вялікую карысць для супольнага дабра, рэзка выступае супраць чарнасоценцаў і ўрадавага гвалту.

У сваёй рабоце "Гісторыя і сучаснасць" Сцяпан Александровіч цытуе частку ліста ў "Нашу Ніву" селяніна з Прусіна Паўлюка Жучка, які пісаў так: "*Прачытаўшы адзін № Вашай газеткі, мне вельмі захацелася, як беларусу, чытаць пісьмо гэтае ў сваёй роднай мове. Пасылаю мазалём*

---

37 Кахановўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. Гісторыка-літаратурныя нарысы. Мн.: Мастацкая літаратура, 1984. С. 51 – 54.

38 Унучак А. "Наша ніва" і беларускі нацыянальны рух (1906 – 1915). Мн.: Беларуская навука, 2008. С. 35.

39 Бурачок. З в. Прусін, Чэрыкаўскага павета, Магілёўскай губерніі // Наша Ніва. – 1909, № 28-29 (Факс. выд. Вып. 2. – Мн.: Тэхналогія, 1996. С. 425; Язэп Бурачок. З в. Прусін, Чэрыкаўскага павета, Магілёўскай губерні // Наша Ніва. – 1910, № 10 (Факс. выд. Вып. 3. – Мн.: Тэхналогія, 1998. С. 164 – 165; Бурачок. З Чэрыкоўскага павета Магілёўскай губерні // Наша Ніва. – 1912, № 42, 18 (31) кастрычніка.

40 Расшыфравана паводле: Саламевіч Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.). Мн.: Мастацкая літаратура, 1983. С. 29, 140. Больш падобных супадзенняў з псеўданімам Ф. Багушэвіча ў слоўніку не выяўлена.

*дабытыя грошы і прашу высылаць з 1 ліпца 1909 г. гэту Вашу “Нашу Ніву*”.

Архіўныя пошукі дазволілі выявіць гэты ліст. Ён заканчваецца так: “*друкаваную літарамі рускімі вэдлуг такога адресу: на станцію Крычаў, Магілёў. губ, у маёнтак Прусін Ціхінскаму для Паўлюка Жучка.*” Адправіў жа ліст настаўнік Яўхім Варанцоў, герой нашаніўскай карэспандэнцыі 1910 г. з Прусіна. Цалкам магчыма, што пад гэтым псеўданімам хаваецца якраз Варанцоў, бо настаўнікам было забаронена выпісваць першую беларускую газету[41].

Ліст Ціхінскага ад 31 снежня 1909 г., утрымлівае зветкі аб каляндарях “рускімі буквамі і польскімі” літарамі, высланых рэдакцыяй даследчыку. Арыгінал допіса Ціхінскага у “НН” 1912 г. утрымлівае просьбу “*выслаць […] 10 календароў, як будуць надрукаваны*”[42]. Відавочна, што Ціхінскі імкнуўся не толькі сабраць багацці беларускай гаворкі, але і распаўсюдзіць друкаванае народнае слова.

Нашы ўяўленні аб светапоглядзе Язэпа Ціхінскага ўдакладняюцца звесткамі з яго слоўніка. Галоўнай адметнасцю слоўніка Я.Ціхінскага, і яго несумненнай вартасцю з’яўляецца ілюстрацыйны матэрыял. І.І.Насовіч, як вядома, у сваім слоўніку ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу прыводзіць або вытрымкі з некаторых помнікаў беларускага пісьменства, або цытуе народныя выразы. Я.Ціхінскі дзейнічаў інакш. Несумненна, ён меў нейкія запісы і нататкі жывога народнага маўлення, частка ілюстрацыйнага матэрыялу сведчыць пра тое, што гэтыя выразы запісаныя з вуснаў носьбітаў беларускіх дыялектаў (у асноўным, гаворка ідзе пра нейкія ўстойлівыя звароты, фразеалагізмы, прымаўкі і прыказкі): *ababicca nie lanicca, dy treba z rozumam, daŭsia u znaki* і інш. Аднак большасць цытат аўтар ствараў сам. Многія ілюстрацыі сведчаць аб выразнай грамадзянскай пазіцыі Ціхінскага.

Асаблівую цікавасць для сучаснага даследчыка уяўляюць ілюстрацыі з палітычным падтэкстам:

| **Akrutnik** [43] (акрутникъ) tyran (тыранъ) | **Okrutnik** | **тиранъ** |
|---|---|---|
| Czaławiek akrutny, tyran, toj szto muczyć, drenczyć | Czlowiek okrutny, tyran, ten co męczy, dręczy. | Человекъ жестокий, тиранъ, мучитель, варваръ. |
| Muraujou szto żyū u Wilni akrutnik Białarusi i Litwy byū. | Murawjow wileński okrutnik Białorusi i Litwy był. | Муравьев віленскій былъ мучитель Бѣлой Руси и Литвы. |

[41] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 73, арк. 8 – 8 адв.

[42] Тамсама. Ад.з. 91, арк. 5 адв.

[43] АР БАНЛР. Ф. 21, ад.з. 929 (мікрафільм).

Іх аўтар, відавочна, выступаў супраць радыкальных палітычных пераўтварэнняў, бо лічыў што: "*Ahitacja pamież ciomnaha narodu heta abudżenia ciomnych instynktaŭ*" (**Ahitacja – agitacja – агитація**), "*Anarchija u roku 1905 była u nas*" (**Anarchija – anarchia – анархія**). Вялікая ўвага надавалася падзеям парламенцкага жыцця. Напрыклад, пасля разгона II Дзяржаўнай Думы  з'явіўся такі запіс: "*Amnestji nia była dana Carom daputatam druhoj Dumy za Wybarh*" (**Amnestja – amnestja – амнистія"**).

Некаторыя нейтральныя агульнаўжывальныя словы маюць у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выказыванні, якія прымушаюць прынамсі задумацца аб матывах, што падштурхнулі стваральніка слоўніка да такіх нязвыклых рэмінісцэнцый:

**Abcas – obcas – каблукъ: *Abcas kulaju zbity*** (*Obcas zbity kulą, каблукъ сбитый пулей*);

**Abakroŭlany – okrwawiony – окровавленный: *abakroŭlany żupan*** (*Okrwawiony żupan, Окровавленный зипунъ*);

**Abacz – zobacz – посмотри: *abacz jakuju ranu maju*** (*Zobacz jaką ranę mam, Посмотри какую маю рану*). Відавочна, што яны навеяны нейкімі ваеннымі падзеямі, сведкам якіх і быў аўтар слоўніка, хутчэй за ўсё, паўстаннем 1863 г.

Частка цытат сведчыць аб гуманістычных ідэалах Я.Ціхінскага і аб тым, што слоўнік павінен быў выконваць і выхаваўчую ролю сярод моладзі: *abałżenia bliżniaha heta podła* (*obełganie bliżniego jest podle, Оболганіе ближняго есть подлость*); *abaraniać treba słabych, sirot i udow* (*obraniać należy słabych, sierot i wdów, Слѣдуетъ оборонять слабыхъ, сиротъ и вдовъ*).

Ціхінскі актыўна крытыкаваў хібы сучаснага яму грамадства – "*Akupicca, sztob palicja jak smała nie wiazałasia*" (**Akupicca – okupywać się – окупиться**), "*Adyliż widziŭ szto naczały habary biaruć i niapraŭdaj żywuć*" (**Adyliż – rzeczywiście – дѣйствительно**), "*Adwakacki zwyczaj brać hroszy i niczaho nie rabić*" (**adwakacki – adwokacki – адвокатский**), "*Akropnaść naszaha mużyka, ich biednaść i ciemnata*"(**akropnaść – okropność – ужасъ**).

Каментары ўтрымліваюць і адносіны аўтара да прадстаўнікоў некаторых народаў: "*Żydu, choćby achszczonamu niamożna wieryć*" (**Akszczony – ochrzczony – окрещённый**), "*Ajarmiać dobra Niemcy umiejuć*" (**Ajarmiać – ojarzmiać – поработить**), "*Trudna Maskala ad harełki aduczyć*" (**Harełka – gorzała – водка**[44]) і г.д.

Крыніцы паказваюць, што Язэп Фларыянавіч марыў пра выданне плёну працы ўсяго свайго жыцця. У пачатку 1909 г. у "Нашай Ніве" з'явілася рэкламная абвестка выдавецкай суполкі "Наша хата". Узрадаваны Ціхінскі становіцца членам таварыства, спадзеючыся на

[44] Тамсама. Ад.з. 930 (мікрафільм).

дапамогу ў друку. Гэта пытанне абяцалі разгледзець на паседжанні “паўнапраўных сябрукоў” выдавецтва[45]. Але станоўчага адказу не магло быць. Беларускія выдавецтвы пачатку 20 ст. былі занадта слабыя, каб надрукаваць працу такога маштабу. Напрыклад, “Наша хата” за час свайго існавання (1908 – 1911) выдала ўсяго восем кніг, з іх тры – для дзяцей[46].

У 1914 – 1918 гг. Ціхінскі дапісваў і ўдакладняў Слоўнік. Пасля пачатку вайны да бацькі пасля доўгай адсутнасці вярнулася Ядвіга, зноў узяўшыся за працу ў мясцовых школках. У сваіх успамінах яна прыгадвае і такую цікавую акалічнасць: “…*Я стварыла беларускую бібліятэчку, закупіўшы ўсе кніжкі, якія толькі магла купіць у Магілёве*”[47].

Глабальныя сацыяльныя перамены сталі ў жыцці навукоўца рашаючымі. Як адзначаў М.Байкоў: “*Ён згубіў… свой зрок, а пасля рэвалюцыі 1917 г. застаўся беспрытульным і ў дадатак, сьляпым старым чалавекам*”[48]. Апошнія старонкі каласальнага рукапісу ў 10 000 старонак (200 000(!) слоўнікавых артыкулаў) былі забяспечаныя злабадзённымі палітычнымі прыкладамі. Аўтар папракаў бальшавікоў і асабіста Леніна за роспуск арміі і дазвол немцам акупаваць Беларусь. Як напісаў беларускі мовазнавец А. Вяржбоўскі: “*З некаторых заўваг аўтара ясна, што ён не зразумеў рэвалюцыі, хоць і чакаў знішчэння царызма, засілля чыноўнікаў: гэта быў прадстаўнік ліберальна настроенай патрыятычнай часткі інтэлігенцыі, якая … не згаджалася таргаваць радзімай*”[49].

Язэп Ціхінскі спадзяваўся на дапамогу дзяцей у выданні справы свайго жыцця. Так, у яго лісце ў “Нашу Ніву” ад 29 студзеня 1909 г. знаходзім згадку пра яго сына, які хутка стане інжынерам у Маскве і зможа даць пэўную суму грошай на друк слоўніка[50]. Магчыма, спадзеючыся на гэта, Язэп Фларыянавіч перадаў сыну (той атрымаў кваліфікацыю інжынера-механіка ў 1910 г.) чыставы варыянт рукапісу.

Падчас рэвалюцыйнай завірухі Язэп Ціхінскі пераехаў да сына ў Маскву. Аднак той трагічна загінуў падчас голаду ў расійскай сталіцы. Ядвіга Ціхінская забрала бацьку да сябе[51].

У 1921 г. нехта з сваякоў Ціхінскага ў Маскве прадаў велізарны рукапіс

[45] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 41, арк. 4.

[46] Ліс А. “Наша хата” // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 Т. Т. 5. Мн.: БелЭН, 1999. С. 316 – 317; Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX ст. Мн.: Выд. БДУ, 1971. С. 164.

[47] AAN. Zesp. tecz. osob. Sygn. 959. Teczka osobowa Jadwigi Cichińskiej. S. 8.

[48] Байкоў М. Слоўнікавая праца… // Адраджэнне. Сш. 1. Мн., 1922. С. 241.

[49] БДАМЛіМ. Ф. 12, воп. 1, ад.з. 622. Арк. 26 (аўтарскі машынапіс артыкула А. Вяржбоўскага “Пошукі трэба працягваць”. Прыведзеныя радкі поўнасцю закрэслены, у канчатковы газетны варыянт не ўвайшлі).

[50] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 40, арк. 48.

[51] AAN. Zesp. tecz. osob. Sygn. 959. Teczka osobowa Jadwigi Cichińskiej. S. 16.

прадстаўнікам Народнага камісарыята асветы БССР. Пры заснаванні Інбелкульта слоўнік передалі ў бібліятэку Інстытута[52]. Як ужо адзначалася, Ціхінскім былі створаны два асобніка рукапіса. Чарнавы варыянт трапіў у Вільню ў калекцыю Івана Луцкевіча[53].

Ядвіга Ціхінская, змучаная смерцю родных і рвалюцыйнай неразбярыхай, выехала ў Польшчу. Бацька ж яе застаўся ў свайго брата на чыгуначнай станцыі Талька пад Мінскам (зараз – Пухавіцкі раён Мінскай вобласці – А. С.)[54].

7 снежня 1921 г. у СНК БССР быў накіраваны даклад Акадэмічнага цэнтра Наркамата асветы, у якім адзначаліся заслугі перад беларускім народам двух навукоўцаў з Магілёўшчыны Еўдакіма Раманава і Язэпа Ціхінскага, якія прысвяцілі ўсё сваё жыццё культурнаму адраджэнню свайго народа і напрыканцы жыцця апынуліся ў складанай сітуацыі: “*Выбитые из колеи жизни, эти маститые старцы обречены буквально на голодную смерть*…”

Пра Я.Ціхінскага ў дакладзе адзначалася: “*Он в результате своей 30-летней работы […] создал колоссальный […] классический словарь в 50 тысяч слов* (гэта лічба не пацвярджаецца пазнейшымі даследчыкамі слоўніка – *А. С.*), *одна рукопись которого весит 1 пуд. Работая над ним, Цехинский лишился зрения и доживает остатки своих дней на станции Талька в крайней нужде и беспомощности. Рукопись этого словаря передана его родственниками в Академический центр*”. Аўтар прапанаваў: “*Было бы преступлением оставить погибать от голода лучших сынов Белоруссии. Помощь должна быть оказана немедленно […] Цехинскому – 3 миллиона рублей*” [55].

21 студзеня 1922 г. Саўнаркам ССРБ прымае рашэнне аказаць дапамогу Я. Ціхінскаму і Е. Раманаву. Змест пастановы сведчыць, што беларускі лексікограф апынуўся ў гэты час у Менску, а памер дапамогі быў скарочаны ў тры разы[56].

Невядома, аднак, ці атрымаў навуковец гэтыя грошы. Як паведамляла яго дачка, памёр ён на Рагачоўшчыне, зямлі сваіх продкаў[57]. На вялікі жаль, мы не ведаем, калі гэта адбылося.

---

[52] Байкоў М. Слоўнікавая праца… // Адраджэнне. Сш. 1. Мн., 1922. С. 241

[53] Wierzbowski A. Słownik… // Czerwony sztandar, 1959, 26 maj.

[54] AAN. Zesp. tecz. osob. Sygn. 959. Teczka osobowa Jadwigi Cichińskiej. S. 18.

[55] Карлюкевіч А. М. Сцежкамі Ігуменшчыны. Мн., 2008. С. 136 – 137. Аўтар кнігі памылкова датаваў дакумент 1927 годам. Справа ў тым, што Акадэмічны цэнтр Наркамата асветы як структура існаваў толькі ў 1921 – 1923 гг. Акрамя таго сума грашовай дапамогі, прапанаваная як дапамога Ціхінскаму – 3 млн. рублеў – указвае на пачатак 20-х гг., калі ў краіне Саветаў бушавала інфляцыя, утаймаваная з дапамогай дзвюх дэнамінацый 1922 – 1923 гг., у выніку якіх 1 000 000 старымі грашовымі знакамі стаў роўным 1 новаму рублю.

[56] НГАБ. Ф. 42, воп. 1, ад.з. 512, арк. 39.

[57] AAN. Zesp. tecz. osob. Sygn. 959. Teczka osobowa Jadwigi Cichińskiej. S. 18.

***

У другой палове 19 – пачатку 20 ст. беларусы не мелі ўстаноў, у якіх бы вялася работа па вывучэнні іх мовы і культуры. Аднак знаходзіліся людзі, якія выконвалі абавязкі дзясяткаў супрацоўнікаў сучасных акадэмічных інстытутаў. Імя аднаго з іх аказалася незаслужана забытым.

Слоўнік Я.Ціхінскага – гэта прыклад грамадзянскага подзвіга беларускага патрыёта. Шмат у чым ён наватарскі, бо ўпершыню ў гісторыі айчыннай лексікаграфіі беларуская мова выступае ў якасці раўнапраўнай да двух вялікіх моваў – рускай і польскай. Уражвае аб'ём зробленага. Слоўнік Язэпа Ціхінскага нашмат большы за ўсё тое, што зрабілі айчынныя лексікографы гэтага часу разам узятыя.

Напрацоўкі выдатнага навукоўца з Магілёўшчыны былі выкарыстаны пры стварэнні фундаментальных слоўнікаў падчас беларусізацыі. Паўплывалі яны і на стварэнне першай беларускай навуковай тэрміналогіі, прынамсі, тэрміналогіі логікі і псіхалогіі[58].

Трэба спадзявацца, што будучыя архіўныя пошукі дадуць магчымасць больш даведацца пра акалічнасці жыцця і дзейнасці Язэпа Ціхінскага. Даследаванне постаці беларускага лексікографа, а таксама людзей, якія мелі дачыненне да яго дзейнасці, дазволіць значна ўдакладніць нашы ўяўленні аб беларускім культурным назапашванні другой паловы 19 – пачатку 20 ст., ролі ў ім прадстаўнікоў Усходняй Беларусі.

Сёння актуальнай навуковай задачай з'яўляецца друк яго слоўніка – найбольш поўнай крыніцы беларускай мовы таго часу.

***Дадзеная публікацыя з'явілася дзякуючы дапамозе шматлікіх дабрадзеяў і асабліва Kasy im. Józefa Mianowskiego.***

[58] Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Вып. 4. Тэрмінолёгія лёгікі і псіхолёгіі / Навукова-тэрмінолёгічная камісія пры НКА, Ін-т беларускай культуры. Мн.: Выдавецтва Ін-та Беларускай культуры, 1923, С. 4.

# Дыскусія

*Уладзімір Роўда (Менск)*



## Рэцэнзія або апалагетыка сучаснай сістэмы ўлады ў Беларусі?[1]

На старонках "Беларускага гістарычнага агляду" (рэд. Г.Сагановіч) была апублікаваная рэцэнзія доктара гістарычных навук, прафесара Уладзіміра Бажанава на мой навучальны дапаможнік *Сравнительная политология* в 3-х частях. Часть 3. *Политическая система Республики Беларусь* (Вильнюс: ЕГУ, 2009). Карыстаючыся з магчымасці, якую прадставіла рэдакцыя часопіса "Гістарычны альманах", хацеў бы адказаць шаноўнаму рэцэнзенту.

У рэцэнзіі адзначаецца, што "кніга чытаецца з цікавасцю, захопліваюць логіка выкладу, насычанасць навуковымі тэорыямі, адсутнасць звыклых штампаў і катэгарычнасці меркаванняў"[1]. Разам з тым рэцэнзент лічыць, што ў навучальным дапаможніку "*шмат недакладных, кепска аргументаваных альбо нават памылковых палажэнняў*". Большая частка заўвагаў тычыцца гістарычнага агляду тэмы "Асяроддзе палітычнай сістэмы". Так, паводле У. Бажанава, "супярэчлівым" з'яўляецца меркаванне, што "*ва ўмовах расейскага панавання не спынялася барацьба за свабоду Беларусі*", бо ў самым дапаможніку сцвярджаецца, што да паўстання 1863 г. і падчас яго барацьба ішла за адраджэнне Рэчы Паспалітай. "*Гісторыя не зафіксавала агульнанацыянальнага паўстання беларусаў супраць царызму*"[2].

Лічу, што нягледзячы на дамінаванне "прапольскіх ілюзій" у вызвольнай барацьбе беларускай шляхты ў перыяд з 1794 па 1863 г., гэты этап з'яўляецца выключна важным для далейшага развіцця беларускага вызвольнага руху. Сумесная барацьба польскага, літоўскага і беларускага народаў істотна аслабіла царызм. Пасля 70-ці гадоў

[1] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр'еры // Беларускі гістарычны агляд. 2010. Том.17.
[2] Тамсама. С.256.
[3] Тамсама. С.258.

паўстанняў за “шляхецкую вольнасць” склаліся перадумовы для пераходу лепшых прадстаўнікоў эліты з пазіцый шляхецкага “дамадэрнага нацыяналізму” да прызнання неабходнасці барацьбы за дзяржаўны суверэнітэт Беларусі і рашэнне іншых (у асноўным, культурных) задач “мадэрнага нацыяналізму”. Пра значэнне дадзенага этапу выдатна напісаў сучасны амерыканскі гісторык Тымаці Снайдэр[3].

“Недапушчальную нядбайнасць” рэцэнзент заўважыў у абзацы, прысвечаным палітычным падзеям 1917 г. і абвяшчэнню БНР. У.Бажанаў палічыў неабходным адзначыць, што ў 1917 г. у Расеі адбыліся дзве рэвалюцыі – “*буржуазна-дэмакратычная і сацыялістычная*”. Менавіта першая знішчыла царскую імперыю. Не менш важным, паводле рэцэнзента, з’яўляецца характарыстыка беларускіх земляў у перыяд “*Кастрычніцкага ўзброенага перавароту (па тэрміналогіі У. Леніна)*” і падрабязны пералік палітычных сілаў, якія мелі дачыненне да абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Адсутнасць гэтай інфармацыі можа нарадзіць думку, што да абвяшчэння БНР прычыніліся акупацыйныя нямецкія ўлады. “*У любым падручніку для ВНУ, -* сцвярджаецца ў рэцэнзіі*, - гэтыя падзеі распісаны амаль па днях і хроніцы падзей, і У. Роўду трэба было гэта выкарыстаць, каб не ўтварыць абрыву ў гістарычных падзеях*”[4].

Аднак логіка паліталагічнага тэксту істотна адрозніваецца ад храналогіі падзей, якой звычайна трымаюцца гісторыкі. Для палітолага, які вывучае Беларусь у першай палове 20 ст., ключавым момантам з’яўляецца абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. у “Трэцяй устаўнай грамаце для народаў Беларусі”. Ніякія расейскія рэвалюцыі не могуць стаяць у адным шэрагу з гэтай падзеяй. Да таго ж ім прысвечаная велізарная колькасць самай living рознай літаратуры ад ухваляючых панегірыкаў да выкрывальных трактатаў. У дапаможніку я таксама звяртаюся да тэмы абвяшчэння БНР, калі, напрыклад, крытыкую негатыўнае стаўленне Лукашэнкі да першай у 20 ст. незалежнай беларускай дзяржавы, калі распавядаю пра дзейнасць Народнай Рады БНР у Коўне падчас польскай і савецкай акупацый, калі разглядаю сталінскія рэпрэсіі 30-х гг. Сцвярджэнне, што мой тэкст нібыта падводзіць да высновы, што БНР стварылі акупацыйныя нямецкія ўлады, не мае пад сабой аніякіх падстаў.

Доктар гістарычных навук У.Бажанаў заўважыў памылку ў сцвярджэнні, што ў Смаленску 1 студзеня 1918 г. была абвешчана “Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка” (БССР). Ён лічыць, што на самой справе абвяшчалася “Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь”

[4] Гл.: Снайдэр Т., Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь 1569-1999. Мінск: Медысонт, 2010.

[5] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С. 258-259.

(ССРБ), а назва “БССР” з’явілася толькі ў 1920 г.[5] У доказ уласнай рацыі хачу спаслацца на інфармацыю з падручнікаў і зборнікаў дакументаў па гісторыі Беларусі. Вядома, што 23 снежня 1918 г. бальшавіцкі Усерасейскі ЦВК прыняў рашэнне аб захаванні для беларусаў толькі Заходняй камуны (у складзе Расеі), аднак ужо 25 снежня яно было перагледжана. У Смаленск, дзе знаходзілася кіраўніцтва Заходняй Камуны, прыйшла тэлеграма з ЦК РКП(б) з дазволам на фарміраванне беларускага савецкага ўрада будучай беларускай дзяржавы. Кардынальная змена пазіцыі Масквы тлумачылася тым, што “*па меры прасоўвання на Захад бальшавікі сутыкаліся з усё большай папулярнасцю ідэі беларускай дзяржаўнасці, якую пакінула пасля сябе БНР. Рэзкі разварот у бальшавіцкай палітыкі быў звязаны і з адраджэннем Польшчы… У ноч з 1 на 2 студзеня 1919 г. Часовы рабоча-сялянскі ўрад, які ўзначаліў З. Жылуновіч, прыняў Маніфест аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР)*…” Грамадзянская вайна пераканала У. Леніна ў тым, што без падтрымкі прасавецкіх нацыянальных сіл бальшавіцкую Расею не ўратаваць. Адпаведна 31 ліпеня 1920 г. была апублікавана Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі (ССРБ)[6].

Менавіта папулярнасць ідэі дзяржаўнай незалежнасці сярод беларусаў, якая была ўпершыню рэалізаваная заснавальнікамі БНР, прымусіла Савецкую Расею пайсці на стварэнне БССР і ССРБ. Яны існавалі пад патранажам РСФСР і забяспечвалі дасягненне пэўных мэтаў яе палітыкі. Аднак у дапаможніку не адмаўляецца іх значэнне. У тых умовах, што склаліся, гэта было лепш, чым знікнуць ў бязмежным расейскім моры.

Рэцэнзент таксама не пагадзіўся з тэзісам, што “*эканамічны і сацыяльны прагрэс не суправаджаўся развіццём нацыянальнай ідэнтычнасці і культуры*”, і абвінаваціў мяне ў страце “*пачуцця навуковай праўдзівасці і элементарнага такту ў дачыненні да свайго народу*”[7]. Падаецца, што У. Бажанаў пабаяўся адкрыта акрэсліць тую галоўную праблему, якая мяне хвалюе. Працытую ўласны дапаможнік: “*У пасляваенны перыяд аж да гарбачоўскай перабудовы ў Беларусі ўжо не назіралася значных выступаў за нацыянальнае адраджэнне. Ішла імклівая русіфікацыя культуры насельніцтва, якая была звязана з хуткай індустрыялізацы-*

[6] Тамсама. С. 259.

[7] Гл.: Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветных цывілізацый. Вучэбны дапаможнік 3-е выданне. Пад рэдацыяй праф. В.І. Галубовіча і доктара гістарычных навук Ю.М. Бохана. Мн.: “Экаперспектыва”, 2007; Постановление Президиума ВЦИК о признании независимости Белорусской Советской социалистической республики ад 31 студзеня 1919 г. (публікацыі ў выданні: История Беларуси в документах и материалах/ авторы-составители И. Кузнецов, В. Мазец. Мн.: Амалфея, 2000. С. 346). Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветных цывілізацый. Мн.:”Экаперспектыва”, 2007. С.258-259; С. 266-267.

[8] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С.259-260.

*яй і ўрбанізацыяй 60-70-х гг. Прыехаўшы ў гарады, былыя жыхары беларускіх вёсак траплялі ў рускамоўнае асяроддзе, да якога хутка адаптаваліся. Упершыню ў гісторыі беларускамоўная частка грамадства апынулася ў меншасці ў сваёй уласнай краіне*"[8].

Сапраўды, толькі ў 1986 г. 287 прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі, у тым ліку Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін ды іншыя напісалі адкрыты ліст Міхаілу Гарбачову з прапановамі па паляпшэнні становішча беларускай мовы. У чэрвені 1987 г. на імя Генеральнага сакратара ЦК КПСС быў адпраўлены яшчэ адзін зварот, пад якім падпісаліся 134 чалавекі. Сярод іх былі пісьменнікі, кампазітары, акцёры, мастакі, настаўнікі, лекары, інжынеры, рабочыя ды інш. У гэтым лісце ўпершыню нацыянальная палітыка савецкай улады ў Беларусі была названая яе сапраўдным імем - "русіфікацыя". Праблемы, з якімі сутыкнулася беларуская мова ў Беларусі ў часы позняга СССР, відавочныя. Без іх вырашэння немагчыма было забяспечыць духоўнае развіццё народа.

У рэцэнзіі асуджаецца ігнараванне аўтарам іншых апроч савецкай канцэпцый беларускай дзяржаўнасці. Між тым у дапаможніку (с. 10) раскрываецца "нацыянальна-адраджэнская канцэпцыя" дзяржавы. Пры гэтым згадваюцца імёны палітыкаў і гісторыкаў, якія спрыялі яе развіццю, а менавіта Вацлава Ластоўскага, Усевалада Ігнатоўскага, Мітрафана Доўнар-Запольскага. Савецкая канцэпцыя паходжання дзяржаўнасці даецца паводле інтэрпрэтацыі прэзідэнта А.Лукашэнкі, што дазваляе жанр вучэбнага дапаможніка па паліталогіі. Акрамя таго ў раздзеле пра савецкую ідэнтычнасць падрабязна аналізуюцца погляды тых людзей, якія аказалі ўплыў на пазіцыю А.Лукашэнкі[9]. Не магу пагадзіцца са сцвярджэннем рэцэнзента, што пазіцыя прэзідэнта па гэтаму пытанню нібыта "не цягне на статус афіцыйнай дактрыны". Насамрэч я карыстаўся тэкстам прэзідэнцкага выступу "Аб стане ідэалагічнай працы і мерах па яе ўдасканаленню" (2003) - асноўнай крыніцы дзяржаўнай ідэалогіі.

На думку У.Бажанава, у тэксце дапаможніка дапускаецца занадта адвольнае стаўленне да тэрміналогіі ідэалагічнага даклада. Яна нібыта шматгранная і глыбокая, бо там ёсць такія паняцці як "ідэалогія незалежнай дзяржаўнасці", "беларуская ідэалогія", "ідэалогія беларускай дзяржаўнасці". А аўтар дапаможніка чамусьці выбірае толькі адзін тэрмін – "ідэалогія беларускай дзяржаўнасці" і абвяшчае яго тоесным таму, што А. Шміт (?!) называе дзяржаўным нацыяналізмам: "Трэба высветліць, дзе пазіцыі А. Лукашэнкі супадаюць з паняццем "дзяржаўнага нацыяналізму" А. Шміта. І, калі гэта адно і тое ж, то ў чым сэнс параўнання? У тым, што А. Лукашэнка на практыцы развіў тое, наконт чаго тэарэтычна

---

9 Ровдо В. Сравнительная политология в 3-х частях. Часть 3. Политическая система Республики Беларусь. Вильнюс: ЕГУ, 2009. С.28.

10 Тамсама. С. 174-181.

выказаў здагадку А. Шміт? Рэбус-загадка”[10].

Варта ўдакладніць, што У. Бажанаў называе “А. Шмітам” вядомага брытанскага спецыяліста ў галіне тэорый нацый і нацыяналізму Энтані Сміта (Anthony Smith). Дарэчы, я цалкам згодны, што А. Лукашэнка ў тэорыі і на практыцы “пераўзышоў” брытанскага навукоўца. Загадкай для мяне застаецца іншы феномен, а менавіта, чаму некаторыя прадстаўнікі афіцыйнай паліталогіі і гісторыі ў нашай краіне, як чорт ладану, баяцца нацыяналізму? І гэта праз 20 гадоў пасля абвяшчэння незалежнасці! Для літоўцаў, палякаў, казахаў, украінцаў, рускіх ды іншых гэта цалкам прымальная ідэалогія (урэшце існуюць розныя тыпы нацыяналізму, у т.л. памяркоўныя і спалучальныя з дэмакратыяй).

У.Бажанаў бярэ пад абарону А.Лукашэнку і тэзісы ягонага дакладу, сцвярджаючы, што прэзідэнт адмаўляе ролю БНР не ў цэлым, а толькі ў тым, што яна “*не змагла пакінуць нам у спадчыну ідэалогію беларускай дзяржаўнасці*”[11]. Але варта яшчэ раз зазірнуць на старонкі дакладу “Аб стане ідэалагічнай працы і мерах па яе ўдасканальванню”.

Вось што на самой справе заявіў А.Лукашэнка: “*Беларуская Народная Рэспубліка, аб якой зусім нядаўна зноў пракрычалі апазіцыянеры […] заснавана пад наглядам акупацыйных нямецкіх уладаў і была, фактычна, створана гэтымі ўладамі (Так, у Іраку сёння плануюць амерыканцы, атрымаўшы перамогу, стварыць новую дзяржаву і выдумляюць камбінацыю, каб вызначыць, хто будзе кіраваць гэтай дзяржавай. Гэта звычайная схема. У гісторыі яна вядомая). Дык вось, БНР праіснавала толькі лічаныя месяцы і ў сілу гэтага не магла пакінуць нам у спадчыну ідэалогію беларускай дзяржаўнасці або хаця б элементы гэтай ідэалогіі, каб мы на іх маглі абапірацца*”[12].

Паводле рэцэнзента, таксама не варта было аспрэчваць тэзіс А. Лукашэнкі “*пра савецкі час як пра найлепшы перыяд у гісторыі беларускага насельніцтва… Аўтар спяшаецца абсалютызаваць сваю ацэнку савецкага перыяду ў жыцці Беларусі, не заўважаючы яе аднабаковасці, а значыць і навуковай неабгрунтаванасці*”[13]. Між тым добра вядома, што саюзны цэнтр рабіў усё дзеля ўласнай выгоды.. Імкліва развіваліся толькі тыя галіны эканомікі, якія абслугоўвалі ВПК. Адукацыя стала агульнадаступнай, але не беларускай. Эканамічны рост суседнічаў з культурным застоем і паступовым ператварэннем БССР у звычайны рэгіён Расеі, які нічым не адрозніваўся ад краёў і абласцей РСФСР. Пра гэта пішуць не толькі палітолагі. Між іншым гэта пункт

[11] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С.261-262.

[12] Тамсама.

[13] Лукашенко А. О состоянии идеологической работы и мерах по ее совершенствованию. Мн.: Академия управления при Президенте РБ, 2003. С.12-13.

[14] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С. 263.

гледжання таксама Васіля Быкава, выказаны ў яго публіцыстыцы апошніх гадоў[14].

У рэцэнзіі сцвярджаецца, што гістарычны блок дапаможніка заснаваны выключна на антысавецкай пазіцыі і ацэнках гісторыка Захара Шыбекі, якія нібыта падмянілі сабой скрупулёзны навуковы аналіз няпростага працэсу фарміравання беларускай дзяржаўнасці. Між тым “*дзеля ісціны неабходна бачыць усё поле, а не тое, што падабаецца*”[15]. Трэба сказаць, што апроч тэкстаў З.В.Шыбекі мною выкарыстоўваліся матэрыялы шматтомнай гісторыі Беларусі, навучальнага дапаможніка *Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветных цывілізацый* пад рэд. Галубовіча і Бохана, працы М.Доўнар-Запольскага, Я.Запрудніка, Я.Мірановіча, Г. Сагановіча, Ю.Туронка ды іншых. Усе яны прыведзеныя ў спісе літаратуры.

Мы выразна разыходзімся з рэцэнзентам у ацэнцы сітуацыі з палітычнымі правамі і свабодамі ў Беларусі. У.Бажанаў лічыць, што нельга катэгарычна адмаўляць прысутнасць у Беларусі такіх рысаў ліберальнай дэмакратыі, як, напрыклад, “*індывіды таксама валодаюць фундаментальнымі свабодамі веравызнання, выяўлення меркаванняў, абмеркаванняў, слова, друку, сходаў, дэманстрацый і падачы петыцый (правы і свабоды)*”; “*грамадзяне з’яўляюцца палітычна роўнымі перад законам, нягледзячы на іх няроўнасць у валоданні палітычнымі рэсурсамі (прававая роўнасць)*”. Таксама рэцэнзента здзівіла, што характарыстыка ліберальнай дэмакратыі грунтуецца на падыходзе да праблемы такіх даследчыкаў, як Даль, Шмітэр, О’Донэл і Лейпхарт, і не выкарыстоўваюцца працы іншых вядомых спецыялістаў.

На працы названых аўтараў я абапіраўся па той прычыне, што менавіта імі падчас дыскусіі на старонках *Journal of Democracy* у 90-я гг. быў вызначаны набор асноўных рысаў і інстытутаў ліберальнай дэмакратыі. Прапанаваныя рысы сталі элементамі эмпірычнай тэорыі, карыснай для параўнальных палітычных даследаванняў. Іншыя канцэпцыі “грашаць” каштоўнасным падыходам.

Палітычныя правы і свабоды дэклараваныя ў Канстытуцыі Беларусі, але не выконваюцца на практыцы. Выказвай сваю думку, але не крытыкуй вышэйшае кіраўніцтва краіны. Калі ты ўсе ж такі крытыкуеш, то рабі гэта так, каб шырокія колы грамадства не даведаліся. Друкуйся ў апазіцыйных СМІ з невялікімі накладамі, але не выступай па дзяржаўнаму радыё і тэлебачанню. Пра свабоду мітынгаў і сходаў лепш спытаць у тых маладых людзей, якія рызыкуюць у іх удзельнічаць, нягледзячы на затрыманні органамі міліцыі, арышты, выключэнні з універсітэтаў альбо звальненні з працы.

[15] Быкаў В. Сцяна. Мн., 1997.

[16] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С. 263.

Не магу прыняць тэзіс пра наяўнасць прававой роўнасці ў нашай краіне. Без незалежнага суда і яна ператвараецца ў пустую дэкларацыю. Паколькі рэцэнзент пагадзіўся з маім сцвярджэннем, што прэзідэнт кантралюе не толькі выканаўчую і заканадаўчую, але і судовую галіну ўлады, то аб якой прававой роўнасці можна весці размову?[16] Мае высновы наконт адсутнасці нават слабых элементаў ліберальнай дэмакратыі грунтуюцца на выніках шматгадовых даследаванняў стану грамадзянскіх правоў і палітычных свабодаў, якія праводзіць аўтарытэтная міжнародная арганізацыя *Freedom House*. Пачынаючы з 1996 г., Беларусь атрымлівае невысокія балы ў гэтай сферы, што робіць яе падобнай на самыя адыёзныя палітычныя рэжымы планеты.

Рэцэнзент не заўважыў у дапаможніку тэорыі гібрыдных рэжымаў (с. 67) і не здолеў зразумець, як у нашай краіне адбывалася ператварэнне папулісцкага рэжыму ў аўтакратыю. Пра асаблівасці беларускага папулізму ў кнізе гаворыцца яшчэ двойчы (с. 116-117, 186-188), а аналізу спецыфічных рысаў аўтарытарнага рэжыму прысвечаны цэлы падраздзел тэмы *Рысы палітычнага рэжыму Лукашэнкі* (с. 95-108). Але ўсё гэта па нейкіх прычынах засталося па за ўвагай шаноўнага рэцэнзента.

У рэцэнзіі выказваецца здзіўленне, што "*дэлегатыўная дэмакратыя ў нашай краіне памерла ў момант свайго нараджэння*". У ёй утрымліваецца крытыка прапанаваных у дапаможніку варыянтаў вызначэння палітычнага рэжыму ў Беларусі (спаборніцка-аўтарытарны, гегеманісцка-электаральны, радыкальная версія індустрыяльнага аўтарытарызму, кланава-манапалістычны, султанісцкі і г.д.) і папрок у эклектычным падборы рысаў выключна недэмакратычных рэжымаў. У рэцэнзіі з пэўным пафасам сцвярджаецца, што задачай тэарэтыка з'яўляецца выяўленне своеасаблівасці палітычнага рэжыму ў Беларусі, а не дэманстрацыі яе ў якасці "монстра-касмапаліта" і "увасаблення зла"[17].

"Монстр-касмапаліт" і "ўвасабленне зла" – гэта не мае словы. Здзіўляе перадусім прынцыповае нежаданне рэцэнзента бачыць логіку ў супастаўленні ўсіх вышэйузгаданых канцэпцый, якія шырока выкарыстоўваюцца ў палітычнай навуцы, што вывучае працэсы ў посткамуністычным свеце. Напрыклад, "дэлегатыўная дэмакратыя" – гэта разнавіднасць гібрыдных тэорый, якая бярэ пачатак у працах Шумпэтэра. Апісваць сітуацыю ў нашай краіне з дапамогай гэтай тэорыі можна было з 1994 па 1996 г. Такі палітычны рэжым прадугледжвае правядзенне свабодных выбараў і абмежаванне зверху палітычнай канкурэнцыі (спаборніцтва пэўных элітных груповак у розных інстытутах палітычнай сістэмы, напр., у парламенце, судзе, мясцовых органах кіравання). Тут можна правесці паралель паміж Беларуссю і Венесуэлай.

[17] Тамсама С.269.

[18] Тамсама. С. 266-267.

Прэзідэнт Уга Чавес дамінуе ў структурах выканаўчай улады сваёй краіны, але лічыцца з апазіцыяй у парламенце і рэгіёнах, хаця рэгулярна парушае яе правы. Менавіта таму гэтая лацінаамерыканская краіна ўсё яшчэ можа называцца дэлегатыўнай дэмакратыяй. Аляксандр Лукашэнка, абраны на адносна дэмакратычных выбарах ў 1994 г., у лістападзе 1996 г. знішчыў парламентарызм як з'яву, падпарадкаваў свайму кантролю Канстытуцыйны суд, а яшчэ раней мясцовыя органы ўлады, апазіцыю пачаў трактаваць як "ворагаў народа". З лістапада 1996 г. катэгорыя "дэлегатыўнай дэмакратыі" не прымянімая да Беларусі.

Не лічу, што ў нашай краіне прадстаўлены ў той альбо іншай ступені ўсе вышэйузгаданыя формы аўтарытарызму. Такі падыход вядзе да эклектычнага запазычвання розных па свайму паходжанню тэорый. Многія з названых канцэпцый паступова гублялі сваю эўрыстычную сілу па меры кансалідацыі недэмакратычнага рэжыму ў Беларусі. Таму ў кнізе абгрунтоўваецца выбар толькі адной тэорыі для дэталёвага аналізу палітычнага рэжыму краіны. Гэта тэорыя Хуана Лінца і Альфрэда Стэпана (с. 95). Чамусьці рэцэнзент ізноў не звярнуў увагу на гэта.

Мне цяжка прыняць прапанову называць палітычны рэжым нашай краіны "беларускім". У рэцэнзіі выказваецца сумненне адносна ўжывання ў дапаможніку тэрміну "палітычны рэжым А.Лукашэнкі". "*Няма палітычнага рэжыму А. Лукашэнкі*", - адзначыў рэцэнзент. І працягнуў думку: "*Гэтая тэрміналогія характэрна для публіцыстыкі, а не для навукі. Палітычны рэжым складаецца з аб'ектыўных дадзеных. Сярод фактараў уплыву, несумненна ёсць і суб'ектыўны. Аднак прысвойваць імя асобнага, хай нават і вельмі ўплывовага палітычна-дзяржаўнага персанажа цэлай краіне або яе палітычнаму рэжыму – гэта не больш як журналісцкая моцная алегорыя. Таму "рэжым Лукашэнкі" для характарыстыкі формы дзяржаўнага кіравання, на мой погляд, прынцыпова непрымальны для навучальнага дапаможніка. У тэксце ж атрымалася, што і "палітычны рэжым" і "рэжым Лукашэнкі" сталі сінонімамі, адным і тым жа. Тады ўжо і жыхароў краіны можна называць "лукашэнкаўцамі*"[18]?

Працуючы над тэкстам дапаможніка, я менавіта зыходзіў з "аб'ектыўных дадзеных" (с. 98). Напрыклад, адносна тыпу кіраўніцтва, палітычны рэжым Беларусі мае яскравыя рысы султанізму"[19]. Дарэчы, аўтар рэцэнзіі пагаджаецца з прыведзенай у дапаможніку характарыстыкай палітычнага рэжыму і ацэньвае яе як "*самую прымітыўную у Еўропе палітычную сістэму, заснаваную на персаналісцкай дыктатуры*"[20]. Але пры гэтым катэгарычна адмаўляецца называць яе "рэжымам Лукашэнкі".

[19] Тамсама. С.267.

[20] Ровдо В. Сравнительная политология в 3-х частях. Часть 3. С.98.

[21] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр'еры. С.272.

Добра вядома, што менавіта палітолагі (не журналісты!) пішуць пра “рэжым Мусаліні”, а не “італьянскі рэжым”, пра “рэжым Пінačэта”, а не “чылійскі рэжым”, пра “рэжым Чаўшэску”, а не “румынскі”, пра “рэжым Ніязава”, а не “туркменскі” і г.д.

У рэцэнзіі падкрэсліваецца неабходнасць быць “дакументальна дакладным” пры характарыстыцы ролі А.Лукашэнкі як прэзідэнта. І пры гэтым звяртаецца ўвага, што многія дзеянні прэзідэнта выцякаюць з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь[21]. Тут відавочная праява моднай у афіцыйнай паліталогіі тэндэнцыі, а менавіта бачыць пэўныя праявы канстытуцыяналізму ў кіраванні беларускага дыктатара. Але нават прыхільнікі існуючага рэжыму вымушаны прызнаць, што Канстытуцыя 1996 г. пісалася пад канкрэтную асобу, адвольна гэтай жа асобай змянялася ў 2004 г. і не ўтрымлівае ніякіх нормаў, якія б стрымлівалі прэзідэнта. Я цалкам згодзен з рэцэнзентам, калі ён адзначае, што “*дыяпазон яго* [прэзідэнта – рэд.] *канстытуцыйных паўнамоцтваў настолькі шырокі, што практычна не паддаецца ніякаму кантролю*”[22].

Прызнаючы наяўнасць “суперцарскіх паўнамоцтваў” у Лукашэнкі, рэцэнзент тым не менш папракае аўтара дапаможніка за тое, што той не быў дакладным, калі пісаў пра “*ўзурпацыю беларускім прэзідэнтам ролі кіраўніка урада*”. З гэтым папрокам можна было б пагадзіцца, калі б не “прызнанне” У.Бажанава, што, практычна, нідзе ў свеце ўрад не з’яўляецца самастойным органам улады, што ён усюды знаходзіцца пад патранажам або парламента, або кіраўніка дзяржавы, або абодвух інстытутаў адначасова[23].

На самой справе ў парламенцкіх манархіях і рэспубліках, дзе прэм’ер абапіраецца на трывалую большасць дэпутатаў у заканадаўчым органе улады, часта ўзнікае дамінаванне ўрада над парламентам (напр., Вялікабрытанія да апошніх выбараў). Нават пры мяшанай форме кіравання ва ўмовах дэмакратыі магчымым з’яўляецца прэм’ерскае лідэрства, калі прэм’ер і прэзідэнт прадстаўляюць розныя партыі. У Францыі ў часы Пятай рэспублікі тройчы ўзнікала сітуацыя, якая атрымала назву рэжыму “суіснавання”. Дадзены інстытут стаў важнай складовай часткай сістэмы стрымлівання і садзейнічаў збліжэнню асноўных палітычных сілаў краіны, стабілізацыі сітуацыі[24]. Праўда, для яго ўзнікнення палітычнаму кіраўніцтву трэба было навучыцца паважаць правы апазіцыі, гарантаваць свабоду СМІ і рэгулярна праводзіць канкурэнтныя, свабодныя і сумленныя выбары.

[22] Тамсама. С.267.

[23] Тамсама. С. 268.

[24] Тамсама. С.269-270.

[25] Lijphart A., Patterns of Democracy. Government Forms and Performance in Thirty Six Countries. New Haven and London: Yale University Press, 1999; Elgie R., Political Leadership in Liberal Democracies. L.: Macmillan Press, 1995.

Рэдакцыя Канстытуцыі 1996 г. істотна змяніла форму кіравання. Рэспубліка Беларусь фармальна стала “мяшанай” рэспублікай, адным з асноўных інстытутаў якой з’яўляецца г.зв. “двухгаловы выканаўчы орган улады”. У выпадку, калі сапраўдныя ўладныя паўнамоцтвы канцэнтруюцца толькі ў адным цэнтры, а другі атрафіруецца, пачынаецца дэградацыя ўсіх інстытутаў дзяржаўнага кіравання. Нават пасля прыняцця на рэферэндуме ў лістападзе 1996 г. паправак да Канстытуцыі 1994 г. перад Рэспублікай Беларусь яшчэ захоўвалася магчымасць рухацца па французскаму шляху, але Лукашэнка і яго атачэнне абралі “цэнтральна-азіяцкі” і пабудавалі адзіную ў Еўропе “суперпрэзідэнцкую рэспубліку”, аб чым гаворыцца ў дапаможніку (гл. тэму “Інстытуцыйная структура палітычнай сістэмы Рэспублікі Беларусь”).

Вельмі коратка хачу спыніцца яшчэ на некаторых недахопах кнігі, якія заўважыла пільнае вока рэцэнзента. Ён не згодны з выкарыстаннем паняцця “прэм’ерская дыктатура” як абразы ў дачыненні да перыяду, калі прэм’ер-міністрам быў Вячаслаў Кебіч[25]. Але хачу адзначыць, што “прэм’ерская дыктатура” – гэта паліталагічнае паняцце! Прывяду ўласнае абгрунтаванне яго выкарыстання: “*Непрафесійны склад першага беларускага дэпутацкага корпуса, вялікая частка якога яшчэ працавала на кіруючых пасадах у структурах урада або на прадпрыемствах народнай гаспадаркі, рабіў яго залежным ад прэм’ер-міністра, які часта ўмешваўся ў кампетэнцыю парламента. Гэта стварала шматлікія калізіі ў адносінах паміж спікерам і прэм’ерам. Можна смела сцвярджаць, што да 1994 г. у Беларусі склалася прэм’ерская дыктатура, якая шматлікімі сваімі рысамі нагадвала аналагічны палітычны рэжым у Славакіі, усталяваны ў часы кіравання У. Меч’яра (1994-1998 гг.)*”[26].

У рэцэнзіі падкрэсліваецца нязгода з прыведзенай у дапаможніку характарыстыкай Канстытуцыі 1994 г. як “амаль” класічнай для прэзідэнцкай рэспублікі. У.Бажанаў патрабуе растлумачыць слова “амаль” і пры гэтым заяўляе, што “Канстытуцыя 1994 г. сабой уяўляла сабой эклектычны набор юрыдычных нормаў, спісаных з канстытуцый вядучых краінаў свету, але мала ўзгодненых з традыцыямі, гістарычнымі асаблівасцямі дзяржаўнасці Беларусі[27]. З кантэксту рэзкай крытыкі Канстытуцыі 1994 г. У.Бажанавым напрошваецца выснова, што у рэцэнзаваным дапаможніку яна напэўна ўхваляецца. Аднак гэта не так. У адпаведнай тэме прыводзяцца аргументы юрыстаў і палітолагаў, якія выказваюцца як “за”, так і “супраць” гэтага нарматыўнага дакумента. Слова “амаль” было ўжытае ў сувязі з адсутнасцю ў тэксце Канстытуцыі 1994 г. права прэзідэнта на роспуск парламенту і права парламента на

[26] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С. 274.

[27] Ровдо В. Сравнительная политология в 3-х частях. Часть 3. С.128.

[28] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С. 274-275.

вынясенне вотуму недаверу Кабінету міністраў і прэм’еру” (с. 129).

Нарэшце, рэцэнзент палічыў, што “аўтар дазваляе сабе залішнюю размашыстасць, ставячы на адзін узровень рэжымы ўлады Гітлера і Лукашэнкі”[28]. На самой справе на старонках дапаможніка (с. 131-135) разглядаюцца, як агульныя, так і адметныя рысы двух рэжымаў; робіцца выснова, што нельга атаясамліваць гэтыя палітычныя персанажы [29].

Рэцэнзія, апублікаваная ў *Беларускім гістарычным аглядзе*, не з’яўляецца навуковай. У крытычнай частцы рэцэнзент не спыняецца перад навешваннем ярлыкоў. Часцяком ён абмяжоўваецца разглядам вырваных з кантэксту цытатаў, а не аналізам аўтарскага пункту гледжання. Пры гэтым іншым разам ігнаруецца тэкст дапаможніка. Змест рэцэнзіі дазваляе зрабіць выснову аб адсутнасці ў яе аўтара глыбокіх ведаў паліталагічнага матэрыялу, які ён бярэцца аналізаваць (палітычны рэжым, нацыі і нацыяналізм, формы дзяржаўнага кіравання). Рэцэнзія больш нагадвае апалагетыку недэмакратычнай сістэмы улады, якая склалася ў нашай краіне пры Лукашэнку. Адзіная заўвага шаноўнага рэцэнзента, з якой я згодны, тычыцца метадалогіі працы, а менавіта сцвярджэння састарэласці вэбэраўскага тэзісу “свабоды ад ацэньвання” як крытэру навуковасці.

У рэцэнзіі прысутнічаюць цалкам супрацьлеглыя ацэнкі навучальнага дапаможніка. Так, рэцэнзент адзначыў, што “*выкарыстана каля 200 найменняў крыніц і літаратуры, у тым ліку больш як 120 беларускіх аўтараў… і гэтым дасягнутая высокая рэпрэзентатыўнасць навучальнага дапаможніка, які ўдала злучыў у сябе высокі ўзровень навуковага даследавання і дакладнасць навучальна-метадычнага выкладу матэрыялу*”[30]. Але адначасна тамсама сцвярджаецца, што “*дзеля ісціны неабходна бачыць усё поле, а не тое, што падабаецца. А для гэтага трэба было пашырыць бібліяграфію праблемы, асабліва яе беларускую частку*”[31]. Аўтар кнігі характарызуецца, то як “*творчая асоба, нестандартна падрыхтаваная*”, “*якая прымушае сачыць за сваёй думкай, патрабуе удумлівага чытання*”[32]; то як суб’ект, “*які захапіўся выкрывальным тонам і страціў пачуццё навуковай праўдзівасці і… пачуццё элементарнага такту ў дачыненні да свайго народу*”, суб’ект, які сфарміраваў свае пазіцыі галоўным чынам на безумоўным прыняцці антысавецкіх пазіцый і адзнак Шыбекі, “*які гародзіць супярэчнасць на супярэчнасці*”[33]. І ўсё гэта ў адной рэцэнзіі. Атрымаўся нейкі “рэбус” замест рэцэнзіі...

[29] Тамсама. С. 276.

[30] Ровдо В. Сравнительная политология в 3-х частях. Часть 3. С.131-135.

[31] Бажанаў У. Палітыка ў навучальным інтэр’еры. С. 256.

[32] Тамсама. С.263.

[33] Тамсама. С.256.

[34] Тамсама. С.259, 263.

# Рэцэнзія

***Іван Сінчук (Менск)***



## АСКОЛКІ МІНУЎШЧЫНЫ, ЛІЧБАВЫ ФОТААПАРАТ І КАЛЯРОВАЯ ПАЛІГРАФІЯ

**Археологическое наследие Беларуси = Archaeological Heritage of Belarus. Мн., 2012 – 192 с.**

Альбом “Археалагічная спадчына Беларусі” надрукаваны ў колеры ў вялікім фармаце на мелаванай паперы ў цвёрдай вокладцы накладам у 1500 асобнікаў. Кніга зроблена па ўзору падобных выданняў суседніх дзяржаў і адносіцца да сучаснага заходняга стылю мінімізацыі графічнай фіксацыі і рэканструкцыі, арыентацыі на выкарыстанне выключна фотаздымкаў. Выкарыстаныя зборы больш дзесятка беларускіх музейных установаў (Менск, Віцебск, Гародня, Гомель, Полацк, Шклоў, Ветка, Орша) і аўтарскія матэрыялы звыш 20 беларускіх археолагаў. Складальнік і адначасова адзін з навуковых рэдактараў выдання – доктар гістарычных навук Ляўко В.М. Выданне складаецца з чатырох раздзелаў, у якіх прадстаўлены каменны век, ранні жалезны век, перыяд старажытнай Русі і 14-18 ст. на землях Беларусі. Двухмоўныя руска-беларускія подпісы да фотаздымкаў падаюць назву рэчы, матэрыял, датыроўку, месца знаходкі, год знаходкі, аўтара раскопак, месца захоўвання (часам з нумарам кнігі паступленняў). Памеры ў тэксце пры ілюстрацыях альбо графічны маштаб не прыводзяцца. Надрукавана больш за 1000 фотаздымкаў, але выразнай структуры іх размяшчэння не прасочваецца, фотаздымкі не маюць нават нумарацыі, і, адпаведна, агульнага паказальніка па катэгорыях рэчаў. Калі параўнаць, то аматарскія сайты, напрыклад, domongol.su, значна пераўзыходзяць па дысцыплінаванасці, дакладнасці, якасці апісанняў і празрыстасці структуры альбом з грыфам Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Нават прагляд выдання “па дыяганалі” дазваляе заўважыць некаторыя істотныя хібы атрыбуцыі. Калі згрупаваць заўвагі, то атрымліваецца наступнае.

**Кафля**

Печ на фотаздымку 2004 г. да рэстаўрацыі ў палацы ў Нясвіжы падаецца як печ 17 ст., але мае выразныя рысы апошняй трэці 19 – пачатку 20 ст. (полка паміж ярусамі, відавочная дымаабаротнасць, топка з металічнымі дзверцамі ў корпусе, адкрыты арачны праём другой топкі, канелюры, доўгія каронкі). Па сутнасці, гэта і не печ, а печ-камін.

Зялёнапаліваная сцянная кафля першай пал. 17 ст. з трыма зоркамі ў шчыце з Мсціслава (знаходкі 1981 г.) падаецца як кафля з гербам Мсціслава. Добра вядома, што герб гэтага горада – узброеная мечам рука ў воблацы. Рука з мечам ёсць над гербавай каронай, але яна тут – дадатковы элемент, кляйнот. Сярод прыватных гербаў такі кляйнот ёсць у гербах Прус, Помян, Посвіст, Пагоня, Котвіч і іншых. Гэтая кафля друкавалася супрацоўнікам Музея старажытнабеларускай культуры НАНБ М.М. Яніцкай як кафля з характэрнымі трыма зоркамі ордэна кармелітаў у круглым шчыце, у кляштары у якім яна і была знойдзеная, а літары ОС абазначаюць “Ordo Carmelitarum” (ордэн кармелітаў).

Герб, які прадстаўляе сабой залаты паўмесяц і залатую зорку над ім у белым ці блакітным полі на кафлі з музея ў Оршы апісаны як герб Оршы. Але герб Оршы - залаты паўмесяц і срэбраны крыж над ім у блакітным полі, што няцяжка праверыць па класічнаму корпусу гарадскіх пячатак Э.Рымшы (падобны на герб Ружыцкі, адрозніваецца ад герба Кіселёўскі крыжом, на апошнім ён залаты ў чырвоным полі). Залатыя паўмесяц з зоркаю ў блакітным полі – гэта добра вядомы герб Леліва ці Годушэўскі, Ельце, Месяц, Пілецкі, Водзіцкі (яны адрозніваюцца кляйнотамі). Герб Леліва можна пабачыць на непаліўной заслаўскай кафлі з раскопак Ю.А.Зайца ў Заслаўі ў 1980 г., якая змешчана ў альбоме.

Ну і, напэўна, ніякага дачынення да герба “Леў”, якім карысталіся князі Заслаўскія, не маюць львы на непаліваных паясковых кафлях 17 ст., што былі адкрытыя Ю.А.Зайцам у Заслаўлі ў 1980 г. – калі прыняць тлумачэнне гэтых львоў як геральдычных, то ўся Беларусь будзе належаць Заслаўскім, бо нават ў альбоме можна знайсці ільвоў прыблізна такога ж выгляду на кафлях з Крычава і Быхава. Леў герба “Леў” стаіць на двух лапах, а не паўзе па зямлі, як на кафлях з Заслаўля.

Паліхромная кафля 17 ст. з раскопак 2009 г. І.А.Марзалюка ў Магілёве можа быць датавана больш дакладна 1660-мі гадамі, бо на гэтым фрагменце са шчытатрымальнікам-львом захавалася частка даты “166…”

Сцянная кафля другой пал. 17 ст. з раскопак І.А.Марзалюка 2008 г. ў Баркалабаве на самой справе з’яўляецца фрагментам верхняй часткі гзымсавай кафлі з надпісам кірылічнымі літарамі пад ільвамі-шчытатрымальнікамі (сустракаюцца і з лацінскімі літарамі). Не зразумелы

прынцып адбору ілюстрацый: навошта было друкаваць фрагмент, калі цэлыя экземпляры ўласна такіх кафляў з раскопак І.І.Сінчука 1988 і 1989 г. каля касцёла св. Станіслава ў Магілёве захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

Непаліваная сцянная геральдычная кафля 17-18 ст. з раскопак 2006 г. В.М.Ляўко ў Шклоўскім замку па фармальных прыкметах не можа быць датаваная 18 ст. Між іншым, тут ёсць агульная праблема: кафля не можа быць датаваная стратыграфіяй, бо печ можа служыць і 50, і 200 гадоў. Можна датаваць кафлю толькі часам вырабу. Для гэтага трэба было б сабраць усе кафлі з датамі (такія сустракаюцца) і распрацаваць тыпалагічную схему з інтэрвальнымі датыроўкамі на падставе датаваных у яўным выглядзе кафляў. На жаль, такога даследавання па беларускім знаходкам кафлі не зроблена.

**Манеты**

На адной з ілюстрацый залатыя манеты алтуны і дукат выглядаюць зялёнымі. Срэбраныя грыўны Вішчынскага скарбу з раскопак Э.М.Загарульскага 1979 г. выглядаюць залатымі, хоць у яго манаграфіі 2004 г. “Вішчынскі замак XII-XIII стст.” той самы слайд дае нармальны колер металу. Матэрыял зліткаў не паданы, год знаходкі пазначаны чамусьці як 1976-1985 г., грыўны называюцца па-руску без істотнага ўдакладнення “плацёжныя”, ангельскі пераклад “Ingot or monetary grivnas” не супадае з рускім тэкстам, тым больш, носьбіты мовы называюць іх “Ingot of silver” (Spafford P., 1991). На іншых ілюстрацыях срэбраныя манеты надрукаваныя карычневымі (пры апісанні манет амаль ніколі не падаецца дзяржаўная прыналежнасць). Срэбраныя манеты 11 ст. з Ізбішча раскопак 1987 г. таксама маюць на ілюстрацыі карычневы колер.

Да слова, манеты з Ізбішча датуюцца не 11 ст., а 10 ст. У падвесцы ўжыты два куфіцкіх дырхемы (Саманіды, Ахмад б. Ісма‘іл, 907-914 г., з іменем халіфа ал-Муктадзіра, вобласць аш-Шаш, 296/908-09 г.; Аббасіды, халіф ал-Муктадзір, 908-932 г., з імем спадчынніка Абу-л-‘Аббаса, г. Мадзінат ас-Салам, 298/910-11 г.), два візантыйскія міліярысія (Іаан І Цымісхій, 969-976 г.; Васіль ІІ з Канстанцінам VIII, манета з 977-989 г.) і два саксонскіх пфеніга (Атон ІІ-ІІІ, 973-1002 г.). Паколькі для саксонскіх пфенігаў не маецца мажлівасці дакладна вызначыць манарха (Атон ІІ – 973-983 г., Атон ІІІ – 983-1002 г.), то варта дапусціць, што малодшаю манетаю з’яўляецца міліярысій Васіля ІІ з яго братам Канстанцінам VIII, які адносіцца да 970-980 г. Адпаведна, ўвесь комплекс датуецца 10 ст.

Скарб манет з пач. 18 ст. з Нясвіжа 2002 г., пазначаны як аўтарскія раскопкі А.В.Іова, на самой справе – выпадковая знаходка рабочых пры пракладанні траншэі. У той жа час, скарб 1974 г. з в. Лышчыцы Берасцейскай вобл. не лічыцца “аўтарскім” скарбам археолага

Л.Д.Побаля, які перадаў яго ў музей у 2001 г. Дарэчы, пра апошні скарб чамусьці не напісана, што пададзена толькі 10 манет з амаль сотні. Размешчаны яны дзіўна: побач гарызантальна, ў адзін радок два аверсы, потым два рэверсы ад двух манет, што рабіць, рэч ясная, было не варта. Уласна, так нетрадыцыйна яны былі надрукаваныя ў альбоме "Музей старажытнабеларускай культуры" 2004 г., адкуль амаль ўсе фотаздымкі з раздзелаў "Археалогія" і "Кераміка" перакачавалі ў новую кнігу ІГ НАНБ.

Нейкім чынам у выданне трапіла манета, якая вызначана як польскі глогаўскі грош Казіміра 1505-1506 г. Яна паходзіць з прыватнай калекцыі і прадстаўленая толькі адным бокам з Пагоняй. Атрымліваецца, што ў прыватнай калекцыі была археалагічнага паходжання манета. Да таго ж, прыведзены толькі бок з легендаю KAZIMIRI R POLONIE NATVS (Казіміра караля польскага сын), на ім няма даты пад Пагоняй. Не прыведзены больш істотны бок з іменем і тытулам эмітэнта SIGIZMVNDVS DVX GLOGOWIE (Сігізмунд князь глогаўскі) і з выяваю дзяржаўнага герба Польшы Белага арла. У Глогаве ў 1498-1506 г. сапраўды біліся грошы. Грош ў 1505 і 1506 г. быў біты з датай пад Пагоняй. Паколькі даты пад Пагоняй на манеце з фотаздымка няма, то гэта грош без даты, які быў біты ў 1498-1504 г. Не дрэнна было б назваць манарха і патлумачыць, што глогаўскі і апольскі князь Жыгімонт (1467-1548) стаў у 1506 г. вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам I (Старым).

Нібыта літоўскі паўгрош варыянта d 1492-1506 г. Аляксандра з раскопак 2005 г. В.М.Ляўко ў Шклоўскім замку з ніжняй часткі пабудовы 16 ст., на жаль, ніякага дачынення да вялікага князя Аляксандра не мае, што бачна нават па фотаздымку. На самой справе гэта драйпёлькер 1633 г. Густава Адольфа (1621-1632) прыбалтыйскіх уладанняў Швецыі, менавіта Эльблёнга з анахранічнай датай (па Э.Капіцкаму 1995 № 9613). Магчыма, што гэта сучаўскі фальсіфікат, таму што вядомыя эльблёнгскія драйпёлькеры Густава Адольфа нават 1635 г. На фота адзін край манеты падрэзаны пры вёрстцы і зараз два фотаздымкі выглядаюць як здымкі двух розных манет.

Рэч невызначанага металу з лацінскаю легендаю і выяваю ружы з раскопак В.Н.Ляўко 2008 г. у Віцебску, якая названая падстаўкай 18-19 ст., вельмі падобная на невялікую (адносна падстаўкі) тэкстыльную пломбу 17 ст.

Каталіцкі медальён 17 ст. з раскопак 2002 г. В.М.Ляўко са Шклова з выразнымі подпісамі святых (Алаізій, Ігнацій і Францыск) не атрыбутаваны, а ў іншых месцах кнігі каталіцкія медальёны ў горшым стане добра вызначаныя і падпісаныя.

**Шкло**

Шкляное начынне др. пал. 17 ст. з моцна адагнутым шырокім венчыкам без жгутавага паддона з раскопак А.В.Іова 2008 г., якое вызначана як шкляніца, хучэй за ўсё, рэзервуар лампадкі, што масава трапляюцца каля культавых помнікаў 17-18 ст.

Бутыль 17 ст. з раскопак 2008 г. В.М.Ляўко ў Оршы вельмі нагадвае шарападобныя сплошчаныя ў ніжняй частцы бутэлькі другой пал. 18 ст., вядомыя з добра датаванага слоя з раскопак Калінінграда 2006 г. Я. А.Калашнікава.

**Рознае**

Выпадковая знаходка 2000 г. з в.Брылі Барысаўскага раёна, паводле тэксту подпісу, паходзіць з раскопак А.В.Іова і І.Н.Рабцэвіча (так замест В.Н.Рабцэвіча). Зразумела, што першае выключае другое, і наадварот: альбо выпадковае, альбо з раскопак.

Агульны подпіс ”гліна”, напэўна, павінен быць іншым, кшталту абпаленая гліна, тэракота ці каменны тавар. Аднойчы мільгануў подпіс пры сякерах 17-18 ст. “метал“, ён павінен быць больш дакладным, напрыклад – “жалеза”.

Бронзавыя рэчы з ювелірнай майстэрні 17 ст. з Полацка з раскопак Дз.У.Дука 2005 г. больш нагадваюць рэчы кравецкай майстэрні – гэта гаплычкі, іголкі, гузікі, мацавальныя прымерачныя булаўкі, напарстак.

Аднакручковая блясна 16 ст. з раскопак 1991 г. В.М.Ляўко ў Гарадзішчы выклікае здзіўленне, бо блясна ў сучаснага чытача асацыіруецца са спінінгам, які з’явіўся ў др. пал. 19 ст. у Англіі. Варта было напісаць, што блясна ўжывалася для зімовай рыбалкі спосабам адвеснага вужэння ў лунцы ці з лодкі альбо для праводкі “дарожкай”. Тут прыдалася б у легендзе даўжыня і вага прылады. Можна толькі здагадвацца, што гэта доўгая (да 20 см) блясна для праводкі ў дарожцы тыпу І па класіфікацыі А.В. Кузы.

Двухбаковы састаўны грэбень з раскопак 1999 г. В.М.Ляўко з Друцка ўпэўнена датуецца аўтарам сціісла 11 ст. Тут становіцца зразумелым, што не пашкодзіла б па ўсяму альбому ўдакладненне падстаў датыроўкі рэчаў – ці то стратыграфічная, ці то па стратыграфічна датаваных аналагах, ці то тыпалагічная датыроўка. На думку Б.А.Колчына ў Ноўгарадзе двухбаковыя састаўныя грэбні з’яўляюцца ў сярэдзіне 12 ст. і паступова выходзяць з масавага ўжытку ў канцы 13 ст.

Гарадзенскі туясок 12-13 ст. з раскопак Старога замка ў Гародні Трусава А.А. 1985-1989 г. падаецца як рэч з графіці. Зразумела, што маленькі туясок пяць гадоў не выкопвалі, ды і тэрмін “графіці” больш прыдатны да прадрапаных надпісаў на помніках дойлідства, прынамсі, у адносінах да берасцяных грамат ён не ўжываецца. Удакладніць звесткі

самастойна па названай рэчы цяжка, паколькі месцы публікацый прадметаў не падаюцца, у адрозненне, напрыклад, ад альбому “Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII-XVIII стагоддзяў” Н. Ф.Высоцкай, дзе гэта зроблена метадычна і сэнсоўна.

Керамічная плітка з выявай ганчара 17-18 ст. наогул акрамя датыроўкі нічога больш не мае ў сваёй метрыцы, нават не вядома, ці яна з Беларусі.

Фрагмент паліхромнай талеркі з архітэктурным пейзажам у стылі рамантызму з градацыямі колеру з раскопак В.М.Ляўко 1993 г. у Оршы датуецца даследчыцай 17 ст., але гэта напэўна 19 ст.

**Рэчы культу**

Абразок-змеявік без датыроўкі з раскопак П.Ф.Лысенка ў Берасці не варта было так вызначаць (нават следам за аўтарам), бо змеявікі не называюцца абразкамі.

Фёдар Страцілат ніколі не быў архангелам, як памылкова падана ў легендзе да медальёна 15 ст., што выпадкова быў знойдзены ў Юравічах Калінкавіцкага р-на (подпіс без даты знаходкі і месца захоўвання). Ён быў вялікапакутнікам. Медальён паўтарае двустворчаты змеявік 13 ст. “Св. Фёдар Страцілат”, аглавіе мадыфікавана, ён мог паўстаць не толькі ў 15 ст. але і пазней.

Побач паданы амулет-змеявік 14 ст. з выяваю Хведара-воіна з раскопак 1995 г. С.В.Тарасава ў Полацку. Паколькі захавалася адна створка з гладкім абаротам, то варта было напісаць, што ўдакладненне “змеявік” было зроблена па аналагам. Засмучае той факт, што подпісы не уніфікаваныя  Хведар Страцілат (Ваеначальнік) і Хведар-воін гэта адзін і той жа святы.

Падвеска манетавідная з княскім знакам 12-13 ст. з раскопак Т.С.Бубенькі 1983 г. у Віцебску на самой справе - круглы медальён з выявай дэградаваўшага працветшага крыжа візантыйскага выгляду. Паўстае міжволі пытанне, ці варта было называць падвеску манетавіднай з-за таго што яна круглая, тым больш у адносінах да падвескі, датыроўка якой супадае з безманетным перыядам. Выява медальёна можа быць апісаная як працветшы якар альбо падобная да яго грэцкая літара “гамма”, што ўжывалася як эўфімістычны хрысціянскі сімвал Crux dissimulata. Форма для адліўкі падобнага медальёну знойдзеная ў Цверы ў яме датаванай манетамі канца 15 – 16 ст.

Варта было ўдакладніць, што створка літога абразка-складня з эмаллю з выяваю Маці Божай з прадстаячымі 18 ст. з раскопак Г.М.Сагановіча 1986 г. на тэрыторыі Багаяўленскага манастыра ў Полацку з’яўляецца стараабрадніцкім абразком расейскай вытворчасці. Больш таго, паколькі ўжыта эмаль і аглавіе імітацыённае, то яго можна датаваць другой пал. 19 ст. Дарэчы, у адносінах да складняў традыцыйна ўжываецца вызна-

чэнне меднае ліццё, а не бронза, як падана ў тэксце альбому.

Нацельны крыж з раскопак В.М.Ляўко 2003 г. у Копысі, які датаваны 14-18 ст., стылістычна па доўгім "хвалістым" рукам Хрыста і выцягнутаму тулаву датуецца канцом 16 – 17 ст., аб чым нескладана даведацца са стаўраграфічных даследаванняў.

Нацельны крыж з раскопак А.В.Іова 1997 г. Снядзінскага магільніка ў Петрыкаўскім раёне, які датаваны 16 ст., тыпалагічна датуецца другой пал. 17 – пач. 20 ст.

Некаторыя энкалпіёны нібыта спалучаюць тэхніку ліцця і разьбы, а на самой справе яны не рэзаліся, а былі прачаканены альбо падпраўлены разцом.

Энкалпіён з раскопак П.Ф.Лысенкі ў Берасці апісваецца як напрастольны, што не можа быць – энкалпіёны бываюць толькі наперснымі.

Энкалпіён 12 ст. з Берасця з раскопак П.Ф.Лысенка 1969 г., калі мяркаваць па інкрустацыі, хутчэй адносіцца да 13 ст. Гэты машчавік паходзіць са слоя 14 ст., у корпусе энкалпіёнаў датаваны на 12-13 ст., і год раскопак паданы іншы – 1968 г. (Корзухина Г.Ф., Пескова А.А. Древнерусские энколпионы: Нагрудные кресты-реликварии XI-XIII вв. Санкт-Петербург, 2003. IV.3.3/2).

Шчырую зацікаўленасць чытачоў-мастацтвазнаўцаў выклікаў энкалпіён 12 ст. з Полацка з раскопак Дз.У.Дука 2007 г., на якім раставая постаць апісваецца як выява князя Глеба з Сафійскім саборам у руцэ. Справа ў тым, што даследчыкі энкалпіёнаў дагэтуль не высвятлілі, які сабор трымае князь і прынцыпова апісваюць ўсе барысаглебскія энкалпіёны проста як "крыжы з выявай князя з саборам у руцэ" (Корзухина Г.Ф., Пескова А.А. Древнерусские энколпионы: Нагрудные кресты-реликварии XI-XIII вв. Санкт-Петербург, 2003). Але, калі гаршок 13 ст. з выразным кляймом на донцы ў выглядзе сучаснай кірылічнай літары Ф з раскопак І.А.Марзалюка 2005 г. на Замчышчы ў Магілёве апісваецца ў альбоме як гаршок з кляймом у выглядзе знака Рурыкавічаў, то гэта падважвае давер і да іншых подпісаў альбома.

* * *

І напрыканцы. Незразумела, чаму на кожным развароце альбому злева зверху на палях паўтараецца на двух мовах загаловак "Летопись белорусской археологии / The Annals of the Belarusian Archaeology", а кніга называецца інакш – "Археологическое наследие Беларуси = Archaeological Heritage of Belarus".

*Іван Сінчук (Менск)*



## АНАТАЦЫІ

**Wczesna słowiańszczyzna: Przewodnik po dziejach i literaturze przedmiotu. T.1. A-Z. Warszawa, 2008 – 787 s.; Wczesna słowiańszczyzna: Przewodnik po dziejach i literaturze przedmiotu. T.2. Bibliografia. Warszawa, 2008 – 289 s.**

Калісьці даўно (у 1961-1996 г.) быў выданы Інстытутам славістыкі Польскай акадэміі навук Слоўнік славянскіх старажытнасцяў, які на свой час з'яўляўся кампендыумам веды пра старажытных славян; зараз ён ўжо патрабуе дапаўненняў з-за значных поспехаў у вывучэнні прадмету. Двухтамовае выданне "Гіда па гісторыі і гістарыяграфіі ранніх славянаў" спрабуе ў эканамічны спосаб паслужыць такім даведнікам. Артыкулы падаюцца ў алфавітным парадку, яны аўтарскія падпісныя. Том забяспечаны амаль трыма сотнямі прытэкставых нумараваных графічных ілюстрацый з выявамі архітэктурных аб'ектаў, рэканструкцый паселішчаў і будынкаў, рэчаў побыту і прылад працы, схемаў лакалізацыі аб'ектаў, акрамя таго ўтрымлівае амаль паўтара дзесятка генеалагічных табліц. Можа толькі уніфікаваныя па памерах выявы манет розных дыяметраў пры артыкуле "Грошы" трэба прызнаць няўдалымі. Кожны артыкул забяспечаны адсылкамі да літаратуры. У пераліку артыкулаў можна знайсці непасрэдна датычныя Беларусі: Беларусь, Гародня, Браслаў, Берасце, Клецк, Копысь, Лагойск, Менск, Мсціслаў, Полацк, Слонім, Тураў, Віцебск, Ваўкавыск. Асобныя артыкулы вызываюць пэўныя алюзіі: польскі Дывін, славацкія Дэвін, Дэвінскае возера, балгарская Дэўна рака і беларускія Дывін/Дзівін, рака Дзвіна, чешскі Коужім/Коурім і беларускі Кобрынь/Кобрін, польскае Магільна і беларускі і украінскі Магілёў, польскі Плоцк і беларускі Палацак/Полацк, шпрэвянскае палабскае Копнік/Копенік (Берлін) і беларускі Копысь, рускае Смоленск і палабскаславянскае племя смоліньцы, лужіцкаславянскі Волін, польскі Волынь і ўсходнеславянская тэрыторыя Валынь. На жаль, этымалагічная тэма ў гэтым міждысцыплінарным слоўніку не вельмі распрацаваная. Часам без адсылачнага артыкула цяжка здагадацца дзе шукаць патрэбную рэч, напрыклад, што грэбні трэба шукаць у гігіене і рагаўніцтве. Цікава і добра напісаныя артыкулы пра тэхналагічныя рэчы (напрыклад, выраб шкла),

гаспадарчыя навыкі (напрыклад, пра канструкцыі зерневых ям у артыкуле “Пажывенне”).

У другі том трапіла больш за 5,5 тыс. рознамоўных прац да 2005 г. уключна. На жаль, згодна з польскай традыцыяй, кірылічныя выданні ў апісаннях транслітараваныя, таму пры іх пошуку могуць быць складанасці, асабліва ў неносьбітаў мовы.

**Torbus T. Zamki krzyżackie = Deutschordensburgen. Wrocław etc, 2010 – 270 s.**

Навукова-папулярная, багата ілюстраваная ў цвёрдай вокладцы на якаснай паперы кніга тычыцца крыжацкіх замкаў паўночна-усходняй Польшы. Тэкст да кожнага аб’екту двухмоўны, польска-нямецкі, невялікі, займае кніжны разварот. Замкі падаюцца у алфавітным парадку, пачынаецца кніга з нарыса гісторыі і архітэктуры крыжацкіх замкаў (гэты раздзел упрыгожваюць чорна-белыя гравюры 17 ст. з выявамі замкаў). У выданні прадстаўлена 40 ацалелых поўнасцю альбо часткова замкаў, якія захаваліся да сённяшняга часу на тэрыторыі Польшчы са 125 замкаў на землях ордэна (спіс усіх ордэнскіх замкаў пададзены ў канцы кнігі). Выданне ўтрымлівае 325 не нумараваных у тэксце ілюстрацый, але ў канцы прыводзіцца іх поўны нумараваны спіс. У кожным артыкуле ўтрымліваюцца звесткі пра пачатак будаўніцтва замка ці першым пісьмовым упамінанні аб ім, некалькі слоў пра яго памеры і пабудовы, змяненні функцый з цягам часу і гістарычны лёс. Артыкулы утрымліваюць па 3-5 якасных фотаздымкаў і абавязковы план замка. Кожны новы артыкул пачынаецца з вольнай старонкі з назваю замка амаль нечытаемай готыкай. На жаль ніякіх звестак пра будаўнічыя матэрыялы, сістэму ацяплення (нават пра мальбаркскі гіпакаўст не сказана ні слова), залогі замкаў і г.д. выданне не ўтрымлівае. На фотаздымках двойчы мільганулі краты герсаў (Кентшын і Кішэўскі замак), але спецыяльнай увагі ім не нададзена, як і іншым элементам баявой фартыфікацыі. Амаль не падаюцца інтэр’еры, але прыцягнуў увагу сціплы арыгінальны роспіс столяў Маронга 16 ст., які выразна кантрастуе з пампезнымі кесонамі нядаўна безгустоўна рэстаўраванага беларускага Мірскага замка.

**Marciniak-Kajzer A. Średniowieczny dwór rycerski w Polsce: Wizerunek archeologiczny. Łódź, 2011- 511 s.**

Грунтоўная праца супрацоўніцы Лодзьскага універсітэта прысвечана сярэднявечным рыцарскім асяродкам у Польшчы. Каля дзесятка каляровых фотаздымкаў з’яўляюцца прыгожым дадаткам да амаль паўсотні чорна-белых графічных малюнкаў (нумарацыя нязвыклая: пры скразным

нумараванні малюнкаў напачатку падаецца рымскай лічбай парадкавы нумар главы). Аўтар пазначае храналагічныя (з другой паловы 13 ст. да пачатку 16 ст.) і тэрытарыяльныя рамкі даследавання (без ордэнскіх тэрыторый), падае гісторыю вывучэння двароў у гістарыяграфічным аглядзе, вызначае акрэсленне рыцарскага двара, звыклую лакалізацыю на мясцовасці (часта забалочаныя даліны рэк), тыповыя формы забудовы двароў на падставе крыніц і палявых даследаванняў, а ў самай вялікай частцы апісваюцца ўласна рэчы, якія сведчаць аб дваравым побыце: сталярка і яе фурнітура, элементы інтэр'ераў і сістэм абагрэву (як тыпу гіпакаўст так і кафляных), кухонны і сталовы інвентар, рэчы штодзённага ўжытку (малаткі, цвікі, нажы, сярпы, сякеры, лемяхі, долаты, асялкі і г.д.), вайсковая зброя (наканечнікі стрэлаў, рыштунак вершніка і каня, баявыя нажы і тапары), рэчы асабістага ўжытку (абутак, адзенне, грэбні, забаўкі, манеты і г.д.). Пры падвядзенні вынікаў і спробе апісаць агульны выгляд рыцарскага польскага двара шырока прыцягваюцца пісьмовыя крыніцы (перш за ўсё найбольш даступныя з 15 ст.) , якія ў просты спосаб сведчаць пра існаванне агароджы, пра адсутнасць у пабудовах шкляных шыбак да позняга сярэднявечча, тут жа аўтар вяртаецца і да праблемаў пячнога агравання і разважае пра магчымасць ужывання ў адной печы гаршковых і звыклых для нас суцэльных плоскіх кафляў, звяртае ўвагу на функцыю каміна як крыніцы святла. Тут жа аўтар гаворыць і пра надзвычай цікавую з'яву позняга сярэднявечча – пашырэнне асартыменту посуду, з'яўленне індывідуальнага карыстання начынняў і, як вынік ці непасрэдна звязаную справу, пра змяненне культуры ўжывання страў. Да двароў належалі таксама гаспадарчыя пабудовы – саладоўні, бровары, лазні. Інвентары выразна сведчаць пра сельскагаспадарчую дзейнасць двароў, як і пра абробку драўніны. Рыцарскі двор паводле дакументаў яшчэ і вайсковы арсенал для сабранага ў выпадку навалы войска, якое забяспечвала зброяй у час выправы.

У канцы кнігі падаецца падрабязны пералік-каталог вывучаных археалагічна помнікаў са 190 пазіцый. Апісанне уніфікавана і зводзіцца да 7 пазіцый: 1) размяшчэнне двара, 2) аўтары археалагічных раскопак, 3) вынікі палявога вывучэння, 4) час існавання, 5) фундатары і ўласнікі, 6) заўвагі, 7) пералік літаратуры.

Бібліяграфічны спіс займае больш каля 40 старонак і складаецца з прыблізна сямі соцен пазіцый. Як даніна сучаснасці агульнай Еўропы – ангельскае самары.

Шкада, што наклад манаграфіі вельмі невялікі і будзе яна даступная хутчэй спецыялістам чым шырокаму колу чытачоў.

**Buko A. Archeologia Polski wczesnośredniowiecznej: Odkrycia – hipotezy – interpretacje. Warszawa, 2011 – 494+24 s.**

Трэцім польскім пашыраным выданнем выйшла кніга Анджэя Буко, дырэктара Інстытута археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук. Другое выданне ў 2006 г. атрымала ўзнагароду КЛІО ў аўтарскай катэгорыі ад выдаўцоў гістарычнай кнігі. У 2008 г. было яшчэ адно ангельскамоўнае выданне працы, якая стала сапраўдным бестсэлерам. Пры безлічы польскіх археалагічных манаграфій гэтая кніга стала, здаецца, самай запатрабаванай таму, што яна па назве і зместу адносіцца да археалагічных прац, але па мове і спосабу падачы матэрыялу можа быць зразумелай звычайнаму гісторыку і проста зацікаўленаму чытачу.

Кніга забяспечана 189 чорна-белымі ілюстрацыямі ў тэкстах кожнага з 15 раздзелаў з асобнай нумарацыяй у кожнай частцы і блокам з 48 каляровых фотаздымкаў, які не мае пагінацыі, адна ілюстрацыя прыходзіцца на дзве старонкі манаграфіі.

Пачынаецца кніга апавяданнем пра гісторыю развіцця польскай археалогіі, потым падаюцца асноўныя веды, неабходныя для археалагічнага даследавання – крыніцы і метады навукі. Далей аўтар апавядае пра з’яўленне славян на тэрыторыі Польшчы, пра дапястаўскі час, пра пляменные помнікі паганскіх часоў, пра паганскія могілкі, пра вялікія курганы, пра загадкавыя сляды старажытнага пісьма на таблічках з Падэблоця, пра паўстанне пястаўскай Польшчы, пра з’яўленне гарадоў, пра нетыповыя паселішчы, пра сельскія паселішчы і вясковыя двары, пра вывучэнне старажытных кляштараў, пра з’яўленне ў славян ганчарных клеймаў, пра суадносіны ў матэрыяльнай культуры і звычаях аўтахтоннага і прышлага насельніцтва, язычнікаў і хрысціян. Кніга забяспечана грунтоўным бібліяграфічным спісам па раздзелам, паказчыкам геаграфічных назваў і вялікім (30 старонак) пераказам на ангельскай мове.

Сярэдні памер асобнага тэкставога раздзела – 30 старонак, ёсць часткі як па 8 (паганскія могілкі ці сляды старажытнага пісьма), так і па 70 старонак (гарады), але такі падзел зразумелы і тлумачыцца складанасцю пытання і даступным археалагічным матэрыялам. Цікава, што значная частка фотаздымкаў зроблена асабіста аўтарам. Вельмі зручна, што на многіх фотаздымках тлумачальныя надпісы зробленыя сучаснымі сродкамі апрацоўкі графікі непасрэдна на фота. У тэксце дастаткова картаў, схемаў, планаў, графічных прамалёвак і рэканструкцый (большай часткай выкананых у графічных пакетах) – таго, што часта не хапае сучасным выданням, у якіх прасочваецца тэндэнцыя выцяснення ўсіх іншых формаў фіксацыі лічбавымі фотаздымкамі. Аблягчаюць карыстанне выданнем калантытулы з назвай раздзелаў і главак.